# Ад аўтара

Цягам больш чым двух гадоў у аўтарскіх нарысах я дзяліўся з чытачамі газеты „Ніва” і слухачамі Беларускага Радыё Рацыя сваімі ўражаннямі пра падарожжы, расказваў пра беларускія матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці, што складаюць культурна-гістарычную нацыянальную скарбонку: помнікі архітэктуры і артэфакты, памятныя мясціны і прыродныя з’явы, краязнаўчыя адзнакі і мастацкія творы, рэгіянальныя асаблівасці. Гэтая кніжка падсумаванне зробленага, аповед пра тое, што такое наша неадʼемнае багацце і дзе шукаць гэтае золата.

**Беларускае золата** — гэта зямля дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і яцьвягаў. Гэта пушчанскія скарбы і рэкі ад Нёмана да Дняпра. Гэта тысячы блакітных азёраў і безліч бруістых жыватворных крыніцаў. Гэта старажытныя крэйдавыя шахты і калійныя солі. Гэта даўнія гарадзішчы і капішчы. Гэта культавыя камяні і падмуркі першых хрысціянскіх храмаў.

**Беларускае золата** — гэта Крыж Ефрасінні Полацкай і Тураўскае Евангелле, гэта Барысаглебская царква ў Гародні і Сафійскі сабор у Полацку.

**Беларускае золата** — гэта Біблія Скарыны і Статут ВКЛ Сапегі з Валовічам, гэта друкарні Мамонічаў у Вільні і Сымона Буднага ў Нясьвіжы. Гэта перамогі пад Грунвальдам і Воршай, на Сініх водах і пад Клецкам. Беларускае золата — гэта „Песня пра зубра” Гусоўскага і „Хроніка Быхаўца”. Гэта старажытныя праваслаўныя манастыры і каталіцкія кляштары. Беларуска золата — гэта кальвінскія храмы часу Мікалая Радзівіла Чорнага і татарскія кітабы, пісаныя на тагачаснай нашай мове.

**Беларускае золата** — гэта сярэднявечныя замкі і магнацкія рэзідэнцыі. Гэта магдэбургскае права і шляхецкія вольнасці. Беларускае золата гэта пабудовы на нашай зямлі Яна-Марыі Бернардоні і Джузэпэ Сака. Гэта полацкі езуіцкі калегіум і віленскі ўніверсітэт. Беларускае золата — гэта Свіслацкая і Радашковіцкая гімназіі. Гэта малюнкі Напалеона Орды і нацюрморты Івана Хруцкага. Гэта жырандоля Паўлюка Багрыма ў Крашыне і падвойны дыван Ларысы Геніюш у Гудзевічах.

**Беларускае золата** — гэта „Мужыцкая праўда” Каліноўскага і „Дудка Беларуская” Багушэвіча. Гэта газеты Наша ніва і музей Луцкевіча, гэта тэатр Буйніцкага і оперы Манюшкі. Беларускае золата — гэта „Вянок” Максіма Багдановіча і Ладдзя роспачы Уладзіміра Караткевіча. Гэта сцежкі Ажэшкі і асяродкі Цёткі. Гэта

Жалейка Купалы і Новая зямля Коласа. Гэта таямніцы Бераставіцы і Гальшанскія легенды. Беларускае золата гэта настальгія Вільні і загадкі Нясьвіжа. Гэта паланэз Агінскага і раманс Зорка Венера. Гэта гімн Магутны Божа Арсенневай і калыханка Бураўкіна.

**Беларускае золата** — гэта сляды дзейнасці нашых людзей па ўсім свеце — ад Андаў, дзе шчыраваў Ігнат Дамейка, да Забайкалля, дзе працаваў Іван Чэрскі. Гэта помнік Касьцюшку ў Вашынгтане і гара названая ў гонар яго ж у Аўстраліі. Гэта памяць у надмагіллях на Росах у Вільні і Альшанскіх могілках у Празе. Гэта крыжы ў Курапатах і Якушоўцы.

**Беларускае золата** — гэта адвечныя духовыя скарбы, падораныя нам Богам і лёсам. Гэта бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Гэта наша мова, як найвышэйшая каштоўнасць. Не пакідайце ж яе паводле запавету класіка. Шануйце і беражыце сваё. Адкрывайце для сябе і іншых сапраўдныя старонкі нашай гісторыі і культуры!

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Крыж Ефрасінні Полацкай — гэта той артэфакт, які бадай адкрывае залаты фонд і скарбонку беларускай нацыянальнай культуры. Хто быў яго стваральнікам? Гістарычныя крыніцы даводзяць, што майстар Богша-Лазар. Магчыма рукой яго вадзіў сам Госпад, прынамсі корань прозвішча залатара досыць яскравы. Паводле даследнікаў крыж-шэдэўр быў зроблены ў 1161 годзе для захавання хрысціянскіх рэліквій, якія былі прысланыя Ефрасінні з старажытных Канстанцінопаля і Ерусаліма.

Шасціканцовы крыж сімвалізаваў пераход ад паганства да хрысціянства, добра ведама, што знак такой формы азначаў бога Сонца Ярылу. Наколькі такая трансфармацыя была арганічнай? Па тым, што нават у сённяшнім нашым беларускім народным хрысціянстве так шмат язычніцкіх абрадаў і традыцый, можна думаць, што гэта было досыць натуральна. Да ўсяго шасціканцовым быў і так званы патрыяршы крыж.

Крыж які зрабіў па замове Ефрасінні Богша, ад пачатку стаў цудатворным: свяціўся ў непрагляднай цямрэчы, лекаваў хворых, зняверанным і знясіленым вяртаў надзею і сэнс быцця. Каб убачыць гэты цуд у горад над Заходняй Дзвіной пацягнуліся шматлікія паломнікі. Сакрэт крыжа раскрываўся досыць проста — у ім знаходзілася часцінка хрыстовай крыві з той папярэчыны, на якой быў укрыжаваны Збаўца. А надзвычай цікавая інкрустацыя і багатая аздоба зрабіла яго сапраўдным шэдэўрам ювелірнай справы. У даўжыню крыж меў 51 сантыметр. Да драўлянай асновы на пярэднім і адваротным баках былі прымацаваныя залатыя пласцінкі, каштоўныя камяні, намаляваныя на шкельцах-эмалях выявы святых. А яшчэ рэлківію аздаблялі пазалочаныя срэбныя пласцінкі з напісамі. Адзін з іх змяшчаў праклён таму, хто наважыцца ўкрасці святыню. Ніхто не ведае, ці дзейсны ён дагэтуль. Па логіцы рэчаў, такія з’явы не маюць абмежавання ў часе і прасторы.

Неаднаразова ўнікальны крыж пакідаў сваю радзіму, сабор у Спаса-Еўфрасінеўскім манастыры, дзе ён захоўваўся, але вяртаўся ў старажытны Полацк. Крыж трапляў у розныя рукі: смаленскіх князёў, маскоўскага валадара Васіля III, праваслаўных, уніятаў, езуітаў, напалеонаўскіх ваякаў. У 1928 годзе Вацлаў

Ластоўскі, адшукаўшы крыж у Полацку, перавёз яго ў Менск. У другую сусветную вайну рэліквія некаторы час знаходзілася ў магілёўскім будынку зямельнага банку, адкуль загадкава прапала. Версій яе знікнення было некалькі, але ніводная пакуль не пацверджана. Дзе знаходзіцца зараз гэтая беларуская святыня — дагэтуль невядома. Адзін знаёмы мастак неяк паказваў мне ілюстраваны каталог аднога з расійскіх музеяў. На адной з старонак гэтага выдання была змешчана фота футарала аналагічнай формы.

Крыж Ефрасінні Полацкай — гэта наша Чаша Грааля. Ніякай, нават дасканалай знешне, копіяй яго не заменіш. Пакуль арыгінал не вернецца на Беларусь, ні даравання, ні любові, ні вольнасці нам не дачакацца. Ёсць падсведамае перакананне, што гэты хрысціянскі артэфакт менавіта там на ўсходзе — дзе ў нетрах расійскіх (бяскрайніх і бяздонных) сталічных і правінцыйных сховішчаў, у глыбокіх сутарэннях, вялізнымі гурбамі і стосамі складзены нясвіжскія габелены, любчанскія кнігі, слуцкія паясы, карэліцкія шпалеры і многія іншыя скарбы нашага Вялікага Княства. Калі крыж вернецца на радзіму, беларуская гісторыя пойдзе зусім іншым шляхам.



У 1988-ым будучы ў студэнцкім археалагічным атрадзе, я зайшоў у крэўскую краму і на паліцы з кніжкамі ўбачыў том сур'ёзнай вагі. Гэта было факсімільнае выданне Статуту ВКЛ 1588 году ў цвёрдай вокладцы, выдадзенае адмыслова да 400-ых угодкаў з часу, калі ён быў адціснуты ў нашай старажытнай крывіцкай сталіцы. Статут ВКЛ стаўся першым беларускім фаліянтам у маёй бібліятэцы і таму асабістае маё стаўленне да яго досыць сентыментальнае. Не скажу, што яго часта гартаў і ўдумваўся ў змест асобных старонак, рэч тут зусім у іншым. Статут ВКЛ трывала ўвайшоў у свядамасць „васьмідзесятнікаў" разам з прозай Уладзіміра Караткевіча, першымі кніжкамі Кастуся Тарасава і Міколы Ермаловіча. Ён неяк адразу займаў пачэснае месца ў шэрагу культавых знакаў і фактаў нашай гістарычнай мінуўшчыны, цешыў нацыянальны гонар і грэў душу. Гэта ж трэба, наш сярэднявечны збор законаў яшчэ ў шаснаццатым стагоддзі вытрымаў ажно тры выданні (1529, 1566 і 1588 гады), а аналагічны друкаваны звод у суседняй усходняй Масковіі (так званае „Саборнае ўкладанне цара Аляксея Міхайлавіча") з'явіўся на свет толькі ў 1649-ым! Адзін гэты факт, цвёрды як уласна само лацінскае слова „статут", ламаў „абэцэдарскія" стэрэатыпы, расійскацэнтрычныя міфалагемы і мацаваў беларускую собіну.

Статут ВКЛ у апошняй рэдакцыі дзеіў на тэрыторыі Беларусі ажно два з паловай стагоддзі — з 1589 і па 1840 год, пакуль не быў забаронены цемрашальскім мікалаеўскім рэжымам. Звод законаў, напісаны старабеларускай моваю, быў надрукаваны летам 1588 года ў славутай віленскай друкарні братоў Мамонічаў. Да слова друкарня тая была ў тым сама будынку, дзе раней месцілася і друкарня Скарыны. Пазней былі зробленыя пераклады Статута на лаціну, польскую і рускую мовы. А на золку суверэнітэту Рэспублікі Беларусь статут заставаўся актуальным пры распрацоўцы першай уласна нашай Канстытуцыі, яго палажэнні дэталёва вывучалі юрысты і дапасоўвалі іх да сучаснасці. З сярэднявечнай даўніны і да сённяшніх дзён адукаваныя людзі захапляюцца мудрымі старонкамі гэтай кнігі.

Навукоўцы дагэтуль спрачаюцца, хто больш спрычыніўся да стварэння Статуту — Леў Сапега ці Астафей Валовіч. Але не гэта галоўнае. Бо важна, што абодва яны — сыны беларускай зямлі. Уражвае як

людзі ў шаснаццатым стагоддзі ўмелі мысліць катэгорыямі справядлівасці, суадносінаў дабра і зла, імкнуліся да грамадскай упарадкаванасці і сацыяльнага ладу.

Леў Сапега на сродкі якога ажыццяўлялася выданне, цвёрда верыў у тое, што краіна тады будзе па-сапраўднаму заможнай і магутнай, калі яе грамадзяне пачнуць жыць па разумных законах. У прадмове ён піша: „Мы такі маем скарб у руках, які за аніякія грошы не купіш. Кожны прыстойны чалавек павінен яго ведаць, каб сам сябе стрымліваў, нікога не крыўдзіў, дзеіў згодна пісанага права. А калі хтосці яго пакрыўдзіць, дык ведаў, дзе шукаць абарону і лекі ад крыўды...”

Статут вялікага княства Літоўскага 1588 года складаецца з 14 разделаў, куды увайшлі 488 артыкулаў. Дакумент забараняў чужынцам займаць важныя пасады, набываць ва ўласнасць на Беларусі маёнткі. Меліся і асобныя артыкулы пра ахову лясоў, лугоў, дзікай жывёлы. Ёсць у Статуце 1588 года і асобны запіс пра нашу беларускую мову, якая тады называлася рускай ці простай: „А пісар земскі павінен па-руску літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпіскі і позвы пісаць, а не іншай мовай і словамі”.

Як усё гэта актуальна і сёння...

# Раманс „Зорка Венера”

у скарбонцы беларускай музычна-паэтычнай спадчыны займае асаблівае месца. Гэта не проста верш, раманс, музычны твор ці песня. „Зорка Венера” — гэта сувязь кахання з Космасам, сувязь беларуса з той прасторай, дзе „усе мы ляцім да зор”. „Зорка Венера” — гэта сама патаемная праява душы чалавека, гэта светаглядная загадка, гэта адвечная, нябачная, але непарушная, повязь нашых перажыванняў і сусвету.

Знакаміты верш быў напісаны Максімам Багдановічам пад уплывам французскага папярэдніка сімвалізму Сюлі-Прудома, радкі з якога наш паэт якраз узяў за эпіграф. Літаратурныя крытыкі адзначаюць, што гэта адзіны твор лірыкі інтымных перажыванняў Багдановіча ў зборніку „Вянок”, які не меў канкрэтнага адрасата. Вялікі Максім сапраўды на падсведамасці адкрыў нейкі ўніверсальны код перажывання і той пачуццёвасці, якія, гледзячы ў неба, наканавана прапусціць праз сябе не аднаму чалавеку і ў сама розныя часы. „Зорка Венера” ні ў якім разе не верш пра няшчаснае каханне, бо часам расстанне — найбольш верны спосаб захаваць гэта самае каханне. „Зорка Венера” — гэта непазбежны зямны фатум („пэўна, ўжо доля такая ў нас”), таму і не называюцца прычыны расстання. „Зорка Венера” — гэта нябесная вера ў вышэйшае („там з ёй зліём мы пагляды свае...”), таму ў ёй няма лішніх словаў і эмоцый.

Пад час сяброўскіх вогнішчаў на Браслаўскіх азёрах у 1994-ым годзе, размоваў пра гістарычны лёс Бацькаўшчыны і песень пад гітару, адзін з удзельнікаў нашай археалагічнай экспедыцыі, ведамы гісторык Алег Латышонак падарыў мне на ўспамін спеўнічак беларускіх песень бельскага выдання. Сціплы, як на сённяшні дзень і ўнікальна-каштоўны, як на пачатак дзевяностых гадоў, зборнік „БАСаўскага” укладання змяшчаў між іншых твораў і „Зорку Венеру”. Прычым з напісанымі зверху над тэкстам акордамі, якія самастойна ўдала падабраць мне ніяк не ўдавалася. Выявілася, што пачынаць найлепш з фа-мажор, а далей ідзе чаргаванне яшчэ пары камбінацый з прыцісканнем струнаў. Вось калі становіцца зразумела, што ўсё геніяльнае проста! Кампазітар Юрый Семяняка здолеў злавіць той момант, калі творца адчувае вышэйшае натхненне. А знешняя простасць, як сказаў пісьменнік Міхаил

Анчароў, рэч не прымітыўная, а глыбока таямнічая. Пасля выхаду з нотнага стану багдановічаўскі раманс стаў фактам нашай музычнай гісторыі. „Зорка Венера" яшчэ раз узышла над беларускай зямлёй. Зрэшты, некаторыя даследнікі сцвярджаюць, што геніяльную мелодыю прыдумаў намнога раней таленавіты ў розных праявах Сымон Рак-Міхайлоўскі, а Семяняка толькі выкарыстаў яе ў сваёй аднайменнай оперы. Гэта таксама вельмі імаверна. А многія крыніцы пры назве раманса падаюць, што музыка ў творы народная. Так сапраўды бывае з „нябеснымі" песнямі. Прыгадаем хоць бы славутую „Колькі ў небе зор", у якой быў канкрэтны аўтар мелодыі Аляксандар Шыдлоўскі, але якая для бальшыні стала безыіменнай.

„Зорка Венера" — не той твор, які спяваецца часта ці пасля вялікай колькасці спажытага алкаголю, ці ў вельмі шумнай і не зусім сяброўскай кампаніі. Гэты раманс настолькі мужчынскі твор, што хоць і адрасаваны ён прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва, найлепш спяваецца для жанчын у іх адсутнасць. І ў гэтым няма ніякага парадоксу. Такая ўжо наша асаблівая беларуская інтымнасць. Такая ўжо яна, наша Зорка Венера.

„Глянь іншы раз на яе..."



У кожнага з беларусаў свой шлях спазнання вялікага Францішка Скарыны. Адны старанна вывучаюць ягоную кніжную выдавецкую культуру, іншыя біяграфічныя звесткі, трэція бяруць на веру ягоную святасць як асветніка. У апошнім амаль няма сумневу, хоць мы абсалютна не ведаем, якім быў наш першадрукар у побыце, у дачыненні з людзьмі, блізкімі сябрамі, жанчынамі. Мы можам толькі меркаваць, што гэта быў глыбокі вернік, асоба, у якой было шмат хрысціянскай любові. Бо толькі ў такога чалавека магла быць такая замілаванасць найвялікшай Кнігай у гісторыі гэтага свету. Нездарма наш сучаснік і руплівец беларушчыны Алесь Белакоз „кананізаваў" Францішка — у Гудзеўскім літаратурна-этнаграфічным музеі Скарына выяўлены і экспануецца ў вобразе святога. І хто ведае, магчыма гэта вельмі блізка, а можа і абсалютна адпавядае ісціне. Бо і царкоўныя каноны, як высвятляецца з часам, няпоўныя, а бывае, што і памылковыя.

Тое што здзейсніў Скарына, нельга ацаніць і вымераць матэрыяльнымі катэгорыямі. Па сутнасці ён здзейсніў сапраўдны подзвіг у царкоўнаславянскім значанні гэтага слова. Ён даў свайму народу найгалоўнейшы скарб — друкаваную Біблію. Нашы продкі атрымалі кніжнае Божае слова на роднай мове трэцімі ў Еўропе — пасля немцаў і чэхаў, якім яго падарылі вялікія адпаведна Марцін Лютэр і Ян Гус. Асабісты лёс Скарыны напэўна не быў сама шчаслівым, хоць каму дадзена вызначыць ступень прыватнага шчасця іншага чалавека, тым больш аддаленага на паўтысячагоддзя ў часе і прасторы?! Скарына скончыў свой жыццяпіс у чэскай Празе на пасадзе сціплага каралеўскага садоўніка прыблізна ў веку шасцідзесяці гадоў. Ні дакладны час яго смерці, ні месца пахавання на Градчанах (гістарычная частка старажытнай чэскай сталіцы) невядомыя. Вядома, што ён пакінуў нейкую спадчыну свайму сыну Сямёну, а значыць усё ж меў сям'ю.

Асабіста мне было заўсёды цікава прайсці вандроўным шляхам Скарыны, пабываць у мясцінах, дзе жыў і працаваў вялікі друкар, пахадзіць па той зямлі, дзе вельмі-вельмі даўно крочыў ён. Задума пачалася рэалізоўвацца ў Вільні, а канчаткова здзейснілася ў 2000-ым годзе ў італійскай Падуі. Паміж імі былі падарожжы ў Полацк і Кракаў, Пазнань і Прагу. На ўсялякі выпадак з'ездзіў і ў Ленінград, ранейшы і цяперашні Санкт-Пецярбург, хоць тады мы і не здагад-

валіся, што паводле „правадыра" сённяшніх дзён „Скарына жыл і работал в Піцерэ". Цяперашні ўладар над беларускаю зямлёй ненавідзіць нават сярэднявечных нашых продкаў, нездарма ж змяніў назву цэнтральнага праспекту беларускай сталіцы. Але хто яго згадае хоць адным добрым словам праз час...

У Падуі якую насамрэч апенінцы называюць Падова, разам з калегам мы шукалі памятную дошку на будынку мясцовага ўніверсітэту. Цікава, што з чатырох чалавек, якіх мы спаткалі і запыталіся па дарозе на страшнай моўнай трасянцы пра аб'ект нашага інтарэсу, двох ведалі пра нашага асветніка. Ці нам так пашэнціла, ці то сапраўды падаванцы так шануюць сярэднявечнага доктара медыцыны, але гэтая акалічнасць дазволіла перажыць нам у далёкай Італіі асаблівую радасць.

А ў 1996-ым годзе пашчасціла адчуць сапраўдны гонар за сваю краіну, калі на нацыянальнай чэскай бібліятэцы Клеменцінум, што зусім побач са знакамітым Карлавым мостам, была адчынена дошка ў гонар Скарыны, а на Градчанах яму ўрачыста быў адкрыты поўнавартасны помнік з тлумачальнай таблічай на камені.

І адзін чалавек можа прынесці славу цэлай нацыі...



# Востраў Чайчын

На востраў Чайчын мне пашэнціла патрапіць у 2010 годзе. Не скажу, каб я шмат чуў пра гэтую мясціну раней, перакананы, што і бальшыня беларусаў не ведае, дзе знаходзіцца гэтая загадкавая выспа нашай краіны. А між тым, востраў Чайчын — гэта асобная прыродная перліна ў блакітным „золаце" фантастычных і непаўторных Браслаўскіх азёраў.

Востраў амаль з кітайскай па гучанні назвай быў адным з абавязковых пунктаў нашага імпрвізаванага воднага падарожжа. А семантыка назвы напэўна досыць простая — выспа на вялізным возеры Струста называецца так найверагодней таму, што тут былі вялікія калоніі птушак, найперш чаек. На пяшчанай касе вострава і зараз гняздуецца значная колькасць розных відаў пёрыстых, для арнітолагаў і біёлагаў тут сапраўднае раздолле. Чайчын ёсць другой па велічыні выспай Беларусі. Яго плошча складае 1,6 квадратных кіламетры. Пасярод гэтага кавалка сушы ёсць сваё невялічкае вазярцо.

Нашай высадцы на востраў Чайчын пwапярэднічаў амаль цэлы дзень бесперапыннага веславання. Перш чым адчуць цвёрдасць зямлі пад нагамі, збіўшыся з правільнай акваторыі, мы паўтары гадзіны прабіваліся праз зараснік трыснягу. У канцы гэтага выпрабавання метраў сто давялося цягнуць лодку волакам па пояс у чорнай вадзе і глеі, колячы голыя ногі. Вырваўшыся на гладкі водны прастор, яшчэ з кіламетар на вёслах і вось ён прыемны лагодны жвірок чаканага вострава Чайчын!

Цікава што яшчэ на пачатку дваццатага стагоддзя гэты акрайчык зямлі пасярод вады быў заселены. Можна меркаваць, што апошнія людзі зышлі адсюль пад час першай сусветнай вайны, хоць дакладна гэта сцвярджаць не вазьмуся.

Трапіўшы на востраў, мы запланавалі тут начлег і адразу выправіліся даследаваць „няведамую зямлю" па перыметры. Прабіраючыся праз зараснікі хмызоў, паваленыя дрэвы і густое павуціне з вялізнымі „арахнамі", у нейкай ступені адчуваеш сябе Беарам Грылзам з папулярнай праграмы „Выжыць кожнай цаной". І хоць у нашых шыротах не водзяцца кракадзілы і скарпіёны, але рэальная небяспека можа падпільноўваць зусім нечакана. І не ў выглядзе якой-не-

будзь гадзюкі, а найперш ад маленькіх, але вельмі страшных апошнія гады кляшчоў, якія сур'ёзна пагражаюць не толькі здароўю, але і жыццю чалавека. Балазе горшае абмінула нас і, паблукаўшы па востраве і належна ацаніўшы багацце мясцовай флоры, мы вярнуліся на месца высадкі і запланаванай стаянкі. Што датычыць расліннасці, то на Чайчыне можна сустрэць рэдкую ў нас карэльскую бярозу, вялікі ядловец. Асабіста я, не надта абазнаны ў відах зялёнага покрыва, адкрыў для сябе цікавую расліну пад назвай „вароніна вока", якой на востраве досыць багата.

Начлег пад акрытым небам дапоўніў дзённыя ўражанні тымі гукамі, якія не часта даводзіцца пачуць у нашым спрэс урбанізаваным жыцці. Чайчын, аднак, неўзабаве страціць сваю прыродную „дзікасць" і магчыма непаўторнасць. Да таго кастрышча і адзінай альтанкі, якія там былі пад час нашага „асваення", неўзабаве дададуцца новыя „акультураныя" пляцоўкі адпачынку. Пра гэта сведчаць працы, што ўжо ідуць на востраве.

Непадалёк Чайчына на беразе „мацерыка" ёсць гара Маяк вышынёй 40 метраў над роўнем вады. З гэтага агляднага пункту вока зачароўваюць далягляды, у якіх увабраны трысняговыя паплавы, бяскрайнія азёрныя люстэркі, сярод якіх добра відаць унікальныя ляндшафты — вынік дзейнасці старажытнага ледавіка, які стварыў усё гэтае прыроднае хараство.

Востраў Чайчын застаецца ў памяці як сон, як ранішні туман...



Чароўны свет Янкі Маўра адкрываў нам з дзяцінства іншыя краіны і дзівосныя землі. У эпоху „жалезнай заслоны" гэта было сапраўднае акно ў іншыя шыроты і далягляды, у адрозныя культуру і цывілізацыю, у прастору нашай планеты. І хоць з разумення сённяшняга дня ў некаторых творах Янкі Маўра можна знайсці штучна прыцягнутыя ідэалагічныя падтэксты (магчыма, такім быў светагляд пісьменніка, а можа ён уводзіў гэтыя матывы для залагоджвання пільных цэнзараў), гэта ніколькі не змяншае іх вартасці. Тым больш, што савецкая вульгарна-сацыялагічная крытыка не раз папракала аўтара ў невыразнасці класавай пазіцыі, браку „рэвалюцыйнага духу". А яшчэ тым больш, што біяграфія Івана Фёдарава, узяўшага экзатычны на той час псеўданім Маўр, пацвярджае яго жыццёвы нонканфармізм. Яшчэ ў юнацтве ён быў выключаны з Панявежскай настаўніцкай семінарыі за вальнадумства, пазней за ўдзел у нелегальным з'ездзе беларускіх настаўнікаў звольнены з працы і ўзяты пад пільны нагляд расійскай паліцыі. Як сведчаць дакументальныя матэрыялы, Іван Фёдараў быў не проста ўдзельнікам з'езду, але і адным з яго ініцыятараў.

Іван Фёдараў сын простага сталяра, які нарадзіўся ў Лібаве, а „жыў" на Цэйлоне і Яве. Дыяпазон яго літаратурнай геаграфіі ўражвае, а апісанні экзатычнай прыроды, іншаземных традыцый правакуюць думаць пра тое, што чалавек здольны „хадзіць" у іншыя вымярэнні. Аднаго скрупулёзнага вывучэння матэрыялу тут было мала...

Лепшыя і сама папулярныя свае творы Маўр напісаў у канцы дваццатых-пачатку трыццатых гадоў XX стагоддзя. А вось у перыяд сама змрочнай сталіншчыны, другой сусветнай вайны яму не тварылася. Напэўна таму, што Маўр не быў савецкім пісьменнікам, ён быў найперш беларускім творцам, якому карцела вырвацца з клішэ абсурднай герoікі і ўслаўлення пачварна-таталітарнай сістэмы, ад якой ён уцякаў на іншыя кантыненты ў сваіх аповесцях. Цікава, што ў адрозненне ад пераважнай бальшыні як сучаснікаў, так і наступнікаў, Маўр пачаў друкавацца досыць позна, а скончыў досыць рана.

Што ж датычыць ідэалогіі, то ў кожным разе ў гэтым свеце сапраўды было і ёсць так шмат сацыяльнай несп-

равядлівасці, нацыянальнага прыгнёту, хлусні і крывадушнасці, здрады і хцівасці, парушэння і разбурэння гармоніі чалавека і прыроды! Так што нам, падлеткам-школьнікам, чытаючы маўраўскія старонкі, абсалютна шчыра хацелася суперажываць ягоным літаратурным героям: распальваць першае вогнішча з першабытным чалавекам, плакаць разам з хлопчыкам Тубі, спачуваць італійскім лацароні, змагацца за вызваленне ад імперскіх каланізатараў у краіне райскай птушкі, у настальгічных трызненнях веславаць да роднага берага разам з Сынам вады.

Асобным радком у творчасці Янкі Маўра стаіць ягоны твор на беларускай глебе, дакладней балоце — славутыя „Палескія рабінзоны". Да гэтага часу ў жанры дзіцячых прыгодаў у нашай літаратуры не з'явілася больш цікавай аповесці. Той, хто рос і гадаваўся на вёсцы, на прыволлі і прыродзе, прапускаў ягоных „рабінзонаў" праз сябе, мадэляваў іх прыгоды і пераадольваў перашкоды.

Чалавеку Івану Фёдараву лёс адвёў дастаткова доўгі зямны век — амаль дзевяноста гадоў, пісьменнік Янка Маўр перажыў яго намнога. Але сучасныя дзеці ўжо не гуляюць у палескіх рабінзонаў. У антынацыянальнай дзяржаўнай сістэме, іх хочуць пераўтварыць у нейкіх чужых „расійскіх іванушак" ці дэзарыентаваных „гары потараў", калі надыходзіць той амок, пра які якраз і пісаў класік беларускай дзіцячай літаратуры.





Здаецца першым ў віленскую Вострую Браму ці да яе, мяне зацягнуў мой аднакурснік і сябра па гістарычным факультэце Гарадзенскага ўніверсітэту Уладзя Канановіч. Ён раней іншых з нашай студэнцкай кампаніі прасякнуўся духам велічы старадаўняй крывіцкай сталіцы і проста трызніў Вільняй, у рознай ступені запаляючы сваім непадробным і вечна юнацкім імпэтам іншых. З канца 80-ых гадоў мінулага стагоддзя перыядычныя вандроўкі ў Вільню сталі асабіста для мяне абсалютнай патрэбай, а наведванне Вострай Брамы абавязковым рытуалам. Зазвычай у адзін прыезд гэта адбываецца двойчы — спярша ад вакзалу па дарозе ў горад, пасля ў зваротным кірунку. Не заўсёды стае часу падняцца ў капліцу каб укленчыць перад іконай Вострабрамскай Божай Маці — апякункі ажно дзвюх краінаў. Мы заўсёды некуды спяшаемся ў мітусні дзён. На жаль, не так даўно, у час няўдалай рэстаўрацыі, ранейшыя прыступкі, па якіх пілігрымы ішлі сто гадоў, былі замененыя на новыя сходы з імітацыі граніту. Таксама былі дэмантаваныя старажытныя дзверы, на керамічную плітку пакладзеная новая падлога, замененыя парэнчы.

Бадай аніводнае архітэктурнае збудаванне на беларускай зямлі не атрымала столькі паэтычных і музычных прысвячэнняў. Першым у шэрагу творцаў канешне Максім Багдановіч з сваім славутым „успомню Вострую Браму святую”. Герб „Пагоня” дагэтуль упрыгожвае гэты шэдэўр дойлідаў, які ў старажытнасці называўся таксама Медніцкай Брамай. Назва Медніцкая тлумачыцца зусім проста — гэты выезд і дарога вялі ў кірунку Меднікаў (цяперашні Мядзінінкай). Ёсць версіі, што назва „Вострая” паходзіць ад стромых гатычных шпіляў на колішняй вежы, ці ад назвы квартала Вільні — Востры канец, ці ад формаў вуліцы, якая звужаецца каля брамы, ці ўрэшце ад родавага імені Канстанціна Астрожскага. Летувіская ж назва „Aušros Vartai” („Брама Світанку”) з’явілася ў жмудзінскіх газетах толькі ў XX стагоддзі і не ёсць слушнай, бо брама пастаўленая зусім не на ўсход.

У XVIII стагоддзі „з сярэдзіны” да Медніцкай Брамы была дабудаваная мураваная капліца, дзе дагэтуль змяшчаецца цудатворны абраз Маці Міласэрнасці. Напэўна Багародзіца і зберагла архітэктурны шэдэўр для нашчадкаў. Вострая Брама — гэта толькі рэшткі абрысу даўняй мураванай сцяны XVI ста-

годдзя, якой быў абкружаны стары горад. Але ўражанне такое, што і сёння ўвайсці ў яго магчыма толькі праз яе. Растлумачыць, што такое Медніцкая брама ў архітэктурным плане могуць толькі адмыслоўцы-прафесіяналы. Па-першае, яна зусім не „вострая", па-другое, напэўна не мае аналагаў, па-трэцяе, не раз перабудоўвалася. Але для шырокага кола наведнікаў гэта не істотна. Важна, што адразу за Вострай Брамай адкрываецца цэлы „россып" адметных помнікаў архітэктуры і беларускіх адрасоў Вільні: Базыльянскія муры, праваслаўны Сьвята-духаўскі сабор з манастыром, каталіцкі касцёл Святой Тарэзы, будынкі колішняй Беларускай гімназіі і былога Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, месца, дзе стаяла кнігарня Станіслава Станкевіча, дом, дзе жыў Сымон Рак-Міхайлоўскі...

Вострая Брама — гэта не звычайныя вароты ў горад ці з яго, гэта не проста дарожны шляхавод, гэта не толькі аб'ект рэлігійнага паломніцтва. Гэтая брама — асаблівы сымбаль для кожнага беларуса, гэта Брама неўміручасці нацыі. Вострая брама — адзіная з дзевяці старажытных віленскіх брамаў, якая ацалела. Яна вядзе да Меднікаў і далей ужо ў сучасную Беларусь у кірунку цяперашняй сталіцы — Мінску. Яшчэ адзін знак і гарантыя таго, што пакуль яна ёсць, жыве і наша гістарычная памяць.



# Возера Свіцязь

Унікальнае прыроднае возера з'явілася на Наваградскай зямлі ў глыбокай старажытнасці — каля дзесяці тысяч гадоў таму. Можна сказаць, што гэты вадаём невялічкі — ягоная плошча не перавышае 2,2 квадратныя кіламетры, а сярэдняя глыбіня сягае тры з паловай метры. Свяцязь славутае ў нашым эпасе сваёй легендай, надзвычай таленавіта ўвасобленай у творчасці найперш Адама Міцкевіча. Нездарма гэтае возера называюць сэрцам Наваградчыны. У старажытным паданні пра горад, які пайшоў разам з жыхарамі на дно, каб не дастацца ворагам-заваёўнікам, верагодна пераплецены сапраўдныя гістарычныя падзеі з багатай народнай фантазіяй, рэальнае змаганне з даўнімі ўяўленнямі пра годнасць і гонар. Ці існаваў нібыта міфічны горад Свіцязь? Прынамсі, мясцовыя краязнаўцы раней ведалі таямнічую каменную дарогу, якая вяла па дне возера. Пра гэта, прыкладам, пісаў ведамы прыродазнавец дзявятнаццатага стагоддзя Бенядыкт Дыбоўскі, які прыкладаў нават адмысловую мапу. Ужо сучасная адмысловая экспедыцыя не так даўно таксама выявіла рэшткі гэтай загадкавай брукаванкі. Адна з гіпотэзаў даводзіць, што некалі пасярод возера было паганскае, магчыма яшчэ дахрысціянскае, капішча. У кожным разе дзівоснае возера Свіцязь пакуль захоўвае свае таямніцы.

Мала дзе ў Беларусі можна знайсці ваду такой празрыстасці, у якой выразна відаць кожны каменьчык і такога жаўтаватага адцення, такога адбітку, які дае лагодны, неверагодна мяккі пад нагамі жвірок. Нідзе напэўна не ўбачыш і такіх схіленых да азёрнага люстэрка дрэваў, ужо амаль карчоў і зусім яшчэ жывых, якія нібы самы імкнуцца да чароўнай вады, такога атачэння і „аховы" асілкаў-дубоў. Таму фотаздымкі, зробленыя ў гэтай мясціне, лёгка пазнаюцца тымі, хто хоць раз тут пабываў. На Свіцязі кожны шукае і адкрывае для сябе нешта сваё — хто вабныя краявіды, хто сакральнае Месца сілы, хто міфічную свіцязянку, а хто і сучасных наваградскіх німфаў.

Пра каштоўнасць Свіцязі сведчыць той факт, што тут растуць такія рэлікты як „чырвонакніжныя" Лабелія Дортмана (дарэчы, моцны алкалоід), палушнік азёрны. Тут можна выявіць Тэтрадыніум Яванікум. Апошняя назва яскрава паказвае, што паходзіць гэтая расліна зусім з іншых шыротаў

— з вострава Ява. Як яна трапіла сюды ў нетры наваградскай зямлі і вады з далёкай Інданезіі — таксама вялікая загадка.

Бясспрэчна што Свіцязь робіць чалавека хоць крыху лепшым, гэтае таямнічае возера міжволі і неўпрыкмет змушае задумацца пра сэнс нашага існавання, пра хараство створанай Богам прыроды, пра тое, што ўсё некалі сыходзіць на дно і адраджаецца ўжо ў іншым аблічччы. Свіцязь — гэта не проста вадаём, Свіцязь — гэта рэінкарнацыя, гэта сувязь з іншым светам, гэта найвышэйшая прыродная эстэтыка і пошук душэўнай гармоніі.

Апошнім часам улетку да возера не прабіцца, каб пабыць у самоце, трэба ўвогуле прыязджаць у іншую пару году. Навукоўцы пачынаюць біць сапраўдную трывогу, бо людская неахайнасць, хамства і няўдзячнасць пагражаюць дзівоснаму прыроднаму стварэнню сур'ёзнай экалагічнай катастрофай. Свіцязянскі ляндшафтны заказнік пад пагрозай занядбання і патрэбнае ўжо дзяржаўнае ўмяшанне, каб захаваць яго для нашчадкаў. Каб зноў, прыехаўшы сюды дзвесце гадоў пасля вялікага паэта, кожнаму з новага пакалення „між дрэў, бы ў вяночку, адкрылася воку там возера Свіцязь, як дзіва...".



# Крэўскі замак

Часам шчасціць дакрануцца рукамі да даўняй гісторыі непасрэдна. Мне такая мажлівасць выпала ў канцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, калі наш студэнцкі атрад выправіўся на археалагічныя працы ў старадаўняе і славутае мястэчка Крэва, што на Смургоншчыне. У першы сезон нам выпаў гонар капаць і метар за метарам разбіраць завалы галоўнай, так званай Княскай вежы. Работа гэта была не з лёгкіх. Нехта сярдзіта, але моўчкі, дзёўб ломам старадаўні друз, нехта адкрыта абураўся такога роду працай і ў перапынках ціха стагнаў у цяні грушкі, што вырасла проста на вале колішняй сцяны. А некаторыя, што не служылі ў савецкім войску і не спазналі сапраўдных „тягот и лишений", па надуманых прычынах спрабавалі нават пакінуць нашу „катаржную" каменяломню. Але з кожным днём і пластам заглыблення ў „нетры стагоддзяў" бальшыню з нас агортвала нейкае асаблівае пачуццё далучэння да слаўнай і трагічнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Менавіта ў сутарэннях гэтай вежы сядзеў стары князь Кейстут, урэшце забіты сваім пляменнікам Ягайлам. Менавіта адсюль тады ж удалося ўратавацца Вялікаму Вітаўту, які паводле легенды пераапрануўся ў адзенне служанкі і, падмануўшы варту, здолеў выйсці непазнаным па замкавай сцяне, уцячы з жахлівага каменнага мяшку. Чым больш мы заглыбляліся, тым больш агортвала трымценне: а што калі менавіта да гэтай цэглы прытуляліся шчакой тагачасныя вязні, калі менавіта гэтыя камені мацалі іх ваярскія рукі!? Калі менавіта ў гэты пясок была пралітая кроў князя Кейстута!? А яшчэ нас ахінаў крылом традыцыйны сімвал Беларусі — бусел, які зладзіў сабе гняздо на самай вяршыні стромых рэштак Княскай вежы (пазней мясцовыя людзі перанеслі буслянку ў іншае месца, паставіўшы ў Крэве адмысловы слуп). Пад пільным вокам гэтага бусла ў перапынках паміж раскопкамі прыемна было спаласнуць і ахаладзіць галаву, нагнуўшыся з кладачкі ў плыткую рачулку Крыўлянку...

Сутнасць сярэднявечнага ліцвінскага праклёну „Каб цябе ў Крэва забралі камені цягаць" стала мне зразумела праз год, калі мы прыехалі на другі сезон археалагічных даследаванняў. На гэты раз, акрамя традыцыйных раскопаў на дзядзінцы, мы білі глыбокія шурфы, у тым ліку і непасрэдна пад сценамі замку. Уразілі магутныя і заглыбленыя падмуркі цвердзі. Яны настолькі трывалыя, што гэтае сярэднявечнае збудаванне, у адрозненне ад таго ж Гальшанска-

га замку, абсалютна падлягае адбудове на старой аснове. Можа і добра, што за рэстаўрацыю не ўзялася цяперашняя, не беларуская па сваёй прыродзе і сутнасці, улада. Крэўскі замак мае і свайго „роднага брата" — адначасна з ім па абарончай лініі забудоўваўся і замак у Медніках, шмат у чым падобны і адноўлены яшчэ ў савецкі час сучаснымі літоўцамі.

Сцены Крэўскага замку перажылі і пабачылі нямала: сямейную здраду, падпісанне дзяржаўнай уніі, якую адны расцэньваюць як непазбежны палітычны кампраміс, а іншыя — як пачатак заняпаду Вялікага княства, шматлікія нашэсці знішчальнікаў: ад рабавальнага набегу Свідрыгайлы — да крымскіх татараў, ад маскоўцаў — да гарматнага абстрэлу кайзераўцаў у першую сусветную. Сюды ўцякаў ад дэспата Івана Жахлівага князь Андрэй Курбскі, сюды прыязджалі кароль Жыгімонт Стары і прэзідэнт даваеннай Польшчы Ігнацы Масціцкі, сюды прыйшлі саветы, якія ніяк не могуць зысці. Крэўскі замак захоўвае ў сваёй памяці нямала таямніцаў, легендаў, слёз і радасцяў. І чакае, чакае, калі нарэшце прыйдзе яго Адраджэнне.



# Клуб „Паходня”

Гісторыка-культурны клуб „Паходня” нядаўна адзначыў чвэрць стагоддзя з часу свайго заснавання. Гэтая асветніцкая арганізацыя стала легендай беларускай найноўшай гісторыі. Менавіта найперш дзякуючы яе дзейнасці пачалі гаварыць пра горад над Нёманам як пра „беларускі Львоў” — памкненне і жаданне, якія, на жаль, не сталі рэальнасцю, якія не ўдалося ўвасобіць, бо надышлі зусім іншыя часіны. Паўстаўшы ў асяродку Інстытуту біяхіміі клуб „Паходня”, які арганічна рыфмаваўся з старой назвай гораду „Гародня” развіваўся імкліва. Мікола Таранда і Міхась Ткачоў, Зміцер Кісель і Васіль Бязмен, Данута Бічэль і Аркадзь Жукоўскі — кожны з іх зрабіў свой важкі ўнёсак у станаўленне клуба. Можна называць яшчэ іншыя імёны, але пералічаць усіх лідараў і актывістаў зараз не будзем. Тым больш, што многіх ужо няма сярод жывых, а іншыя — далёка. Перафразуючы класіка літаратуры, можна сказаць, што ўсе мы выйшлі з „паходнеўскага шыняля”. Для мяне асабіста, дваццацігадовага тады хлопца, што вярнуўся з савецкага войска ў цывільнае жыццё, кожны прыход на паседжанне „Паходні” здаваўся сапраўдным святам. А якія цікавыя людзі прыязджалі на сустрэчы з гарадзенцамі — Генадзь Каханоўскі і Мікола Ермаловіч, Кастусь Тарасаў і Валянцін Грыцкевіч, Міхась Чарняўскі і Аляксей Каўка... На паседжаннях можна было пачуць тое, пра што не гаварылі з універсітэцкіх кафедраў, даведацца гістарычныя факты, якіх яшчэ не было ў кнігах. З дзейнасці пахаднянцаў пачыналіся многія традыцыйныя нацыянальна-асветніцкія акцыі, узніклі палітычныя партыі і іншыя грамадскія суполкі і згуртаванні.

Праз гады разумею, чаму тагачасная „Паходня” успрымаецца і зараз надзвычай рамантычна і нават ідэалістычна. Безумоўна, што і тады былі „стукачы” і „наглядальнікі”, але колькасць наіўных летуценнікаў з чыстымі і некарыслівымі памкненнямі ў гэтым клубе дамінавала настолькі, што думаецца, нават тыя, хто прыходзіў па заданні гаркама КПБ ці „трэцяга аддзялення” паслухаць і прасачыць „крамолу”, прасякаліся гэтай асаблівай атмасферай шчырасці і рабіліся беларускімі патрыётамі. Наўрад ці зараз можна было б згуртаваць такую колькасць энтузіястаў на беларускую талаку па чыстцы рачулкі Гараднічанкі, ці старых гарадскіх могілак, ці на абыход кватэраў і збор подпісаў сярод бацькоў за белару-

скамоўнае школьніцтва. У складзе „Паходні" былі прадстаўнікі старой гарадзенскай інтэлігенцыі, шмат творчых асоб, амбітных людзей. Нехта пасля стаў досыць знакамітым, нехта заможным, нехта згубіўся праз час, хтосьці застаўся нязменным, а хтосьці здрадзіў ідэалам сваёй маладосці.

Канешне тады мы не разумелі, што перажывалі найлепшы час у гісторыі Беларусі за апошнія трыста гадоў. Мы былі максімалістамі і проста прагнулі рэформаў, зменаў, адраджэння беларускасці ва ўсіх яе праявах. Дыскусійны гісторыка-культурны клуб „Паходня" быў той пляцоўкай, якая дазваляла кшталтаваць сапраўдны патрыятызм, уласную тоеснасць. І спакваля прыходзіла ўсведамленне, што „Мы — Беларусы". Вельмі важна, што „Паходня" не замыкалася ў рамках гарадзенскай прасторы, менавіта яна закладала лучнасць з беларусамі суседніх рэгіёнаў — Беласточчыны і Віленшчыны. „Паходня" ладзіла краязнаўчыя вандроўкі, экалагічныя рэйды, змагалася за вываз ядзерных ракет, выхоўвала беларускамоўных дзетак, праводзіла Купалле, рок-фэсты і навуковыя канферэнцыі...

Клуб „Паходня" зараз фактычна не існуе. Але старая Гародня памятае яе дзейнасць.



# Бацька Нёман

Бадай няма ў нашай літаратуры ракі апяянай больш чым Нёман. Рака ўслаўленая класікамі пісьменства адразу ў некалькіх мовах — ад Элізы Ажэшкі да Якуба Коласа. Рака, што ўвайшла ў гісторыю ад старажытнага плытагоннага шляху да славутай дывізіі з назвай „Нармандыя-Нёман" часу другой сусветнай вайны. Рака, якая злучае адразу некалькі частак былога Вялікага Княства Літоўскага. Рака, якую пераходзіў Напалеон і ў якую не раз уваходзілі немцы. Рака, якая дала жыццё тысячам адных людзей, і забрала ў тысячаў іншых. Рака, па адной з версій названая ў гонар магутнага бога Кронаса, паглынальніка часу. Як Кронан згадваў яе яшчэ старажытнагрэцкі энцыклапедыст Клаўдзій Пталамей. Іншыя навукоўцы даводзяць, што гэты гідронім тлумачыцца як „хатняя рака". Менавіта на карысць гэтай трактоўкі і радкі з верша Адама Міцкевіча, які да ўсяго называў раку „радаводнай".

Нёман адна з нямногіх вялікіх рэк, якая бярэ пачатак на тэрыторыі Беларусі. Нездарма яго называюць сама беларускай ракой. Нёманскі шлях працягласцю звыш 900 кіламетраў пачынаецца у балоцістай лясістай мясцовасці Уздзеншчыны на вышыні 200 метраў над роўнем мора. Яго вытокамі ёсць дзве рачулкі — Нёманец і Лоша. Паводле даўняй легенды Нёманец і Лоша былі братам і сястрой. Аднойчы непаслухмяная Лоша ўцякла. Доўга шукаў яе брат, даганяў і ўрэшце знайшоў. У рэальнасці сапраўды два водныя ланцужкі спачатку разыходзяцца ў розныя бакі, каб потым зноў спаткацца і ўтварыць магутную паўнаводную раку. На гэтым месцы нават усталяваная адмысловая ганаровая табліца.

З дзяцінства запала мне ў памяць адна гісторыя ад бабулі пра тое, як помнік Сталіну ў ваколіцах Зблянаў быў затоплены менавіта ў Нёмане. Пазней давялося пачуць яшчэ некалькі падобных аповядаў пра іншыя месцы — „бацька народаў" знаходзіў сабе прыстанак у падводным чэраве іншага бацькі. Нёман і шматдзетны бацька ў сваім асноўным прызначэнні збірання водаў — да яго плывуць такія featureзнахарактарныя Уша, Бярэзіна, Котра, Гаўя, Вілія, Дзітва, Шчара, Рось, іншыя рэкі, кожная з якіх вартая асобнага апісання. Злучаны ён і з сваімі знакамітымі сваякамі: з Дняпром — Агінскім каналам, з Віслай — Аўгустоўскім.

У апошнія гады на Нёмане пабудавалі гідраэлектрастанцыю. Як звычайна ў нас

да канца ўсе наступствы гэтага мегапраекту не пралічаныя. Людзі пагражаюць рацэ — рака пагражае людзям. Згодна з разлікамі шэраг мясцовасцяў апынуліся затопленымі. „Нёман пад вачыма сонца", па якім некалі плылі караблі „з варагаў у грэкі", які быў крамянёвым і бурштынавым шляхам, які тысячагоддзі карміў людзей рыбай, мог па шчодрасці сваёй „прырэзаць" ім кавалак зямлі, зараз у новую эпоху мусіць даваць электраэнергію. Цяжка сказаць, як гэта адаб'ецца на непрадказальным нораве ракі, якая зараз атрымала афіцыйны статус паўгорнай. Гісторыя памятае, як Нёман абрынаў Каложскую царкву, як залiваў розныя паселішчы, памятае ягоныя вірлівасць і крыгалом...

Чужынцы здаўна нявечылі і калечаць дагэтуль сведамасць беларусаў, змяняючы не толькі традыцыйныя парадкі, але і ўласныя імёны, назвы. Так што нават для многіх карэнных жыхароў Нёман страціў літару „ё" у сваім корані і пайшоў у іншым „рэчышчы", стаў немым „Неманом". Прыкра, што гэтая заганная памылка як вынік русіфікацыі ўкараняецца і праз аднайменныя назвы спартовых клубаў, гарадскіх прадпрыемстваў.

І ўсё ж, як сказаў іншы паэт-класік, праз гады „нам маячыцца вёсачка, Нёман..."



# Храм у Сынковічах

Тое, што збудавана ў ваколіцы вёскі Сынковічы, называюць па-рознаму — царква, храм, цвердзь, крэпасць. Бясспрэчна, што гэта сапраўды шэдэўр культава-абарончага дойлідства, роўных і аналагічных якому няма ва ўсёй Еўропе. Да тыпу такіх храмаў знаўцы залічаюць яшчэ дзве цэрквы — у Супраслі, што на Беласточыне і Мураванцы пад Шчучынам. Аднак, гэтыя святыні шмат пацярпелі ад разбурэнняў. Сынковіцкая ж цвердзь ацалела амаль нязменнай ад пачатку забудовы.

Гісторыя сынковіцкага храма ахутана суцэльнаю таямніцай. Навукоўцы выказваюць меркаванне, што паўстаў ён у канцы XV — пачатку XVI стагоддзя. Існуе легенда, што да гэтага прычыніўся сам вялікі князь Вітаўт. Уцёкшы з Крэўскага замку ад Ягайлы, ён скіраваўся ў цэнтр старажытнай Літвы — пад Навагрудак. А па дарозе знайшоў сабе прыстанішча ў невялікай вёсачцы Сынковічы, дзе перачакаў небяспеку. Многа пазней, стаўшы ўладаром магутнай дзяржавы, Вітаўт загадаў пабудаваць у тым месцы храм на знак удзячнасці Богу і простым людзям. Невядомыя дойліды пастараліся на славу — у далечыні ад гарадоў і цэнтраў культуры паўстаў сапраўдны шэдэўр готыкі.

Сынковіцкую царкву грунтоўна даследаваў святар Яўстах Міхайлоўскі, які служыў тут з 1871-га па 1898-ы год. Высілкамі гэтага руплівіца былі зробленыя царкоўная агароджа, званіца, адрамантаваны дах. Ягоныя даследзіны ставяць пад сумнеў прыгожае паданне і дазваляюць меркаваць, што храм быў пабудаваны задоўга да эпохі Вітаўта. Так адзін з напісаў на сцяне датаваны ажно дванаццатым стагоддзем. Ёсць і пазнейшыя храналагічныя адзнакі, выкладзеныя з цэглы. Іх толькі трэба ўмець прачытаць. На адной сцяне славутасці можна ўбачыць літару „Т", кропку і дзве вертыкальныя рысы — гэта лічба 302. Першай лічбы — тысячнай — няма, таму што яе цяжка было выкласці тэхнічна.

Саветы не прыдумалі нічога лепшага, як збудаваць непадалёк святыні жывёлагадоўчы комплекс. Калгасны кароўнік стаіць да гэтай пары, напэўна здзіўляючы замежнага турыста такім дзікім суседствам. Зрэшты, гэта абражае пачуцці кожнага нармальнага чалавека. Але дзякуй Богу, што хоць не разбурылі ў гады ваяўнага атэізму ўнікальную

царкву. Самы Сынковічы раней былі падзеленыя на некалькі прыватных частак-фальваркаў і належалі родам Есьманаў, Пуслоўскіх, Чапскіх. Іх прадстаўнікі перад прыходам бальшавікоў у 1939-ым паспелі эміграваць. А крыху раней тут дзеіў Антон Неманцэвіч, беларускі ўніяцкі святар, царкоўны дзеяч.

Царква ў Сынковічах уражвае найперш сваімі абарончымі вежамі і байніцамі, яны прадуманы і зроблены з неверагодным майстэрствам, нават вокны ў будынку з мэтай перасцярогі ўзнятыя высока над зямлёй. Таўшчыня сценаў дасягае паўтары метры, а на роўні абарончага пасу і таго болей, што выразна сведчыць пра функцыянальнасць цвердзі.

Сынковічы ляжаць на сумежжы сённяшніх Зельвенскага і Слонімскага раёнаў. Царкву можна не заўважыць здалёк, але збочыць з дарогі, каб убачыць сапраўдную архітэктурную перліну, варта. З нядаўняга часу з'явіўся і адмысловы ўказальнік, які дапаможа не прапусціць адметную кропку. Абавязкова прыхапіце фотаапарат — гатычная царква ўзбагаціць вас удалымі здымкамі ў кожную пару году. Асабіста мне найбольш падабаецца яе выгляд з поля праз дарогу.

У наш час Міхайлаўская царква атрымала другое жыццё, яна рамантуецца, даводзіцца да ладу і адпаведнага выгляду. А ў 2007-ым годзе ў Сынковічах быў праведзены першы Дзень хрысціянскай паэзіі. Лепшага месца для гэтага і не падабраць...

Фота Адама Паўлоўскага



# Трагедыя Шчорсаў

Як усё ж трэба не любіць сваё, каб давесці ўласную гістарычную і архітэктурную спадчыну да такога гаротнага стану, як у нас у Беларусі. Але нават сярод нашых разбураных замкаў і фальваркаў у асобны шэраг можна паставіць Шчорсаўскую сядзібу на Наваградчыне. Яна ляжыць у баку ад асноўных турыстычных шляхоў і нікому сёння няма справы да яе адбудовы. А між тым раней тут быў сапраўдны еўрапейскі цэнтр культуры.

У Беларусі больш-менш ведаюць пра Сапегаў і Радзівілаў, род жа Храптовічаў для шырокага кола зусім нязнаны. Адукаваныя людзі нашага краю ў васямнаццатым-дзявятнаццатым стагоддзях імкнуліся ў Шчорсы, каб патрапіць у знакамітую тамтэйшую бібліятэку. Так праз гэтае мястэчка прайшлі шляхі многіх ведамых віленскіх і варшаўскіх навукоўцаў, філаматаў, а адзін з іх — Ян Чачот атрымаў тут сталы прытулак і працу ў цяжкі перыяд свайго жыцця. Менавіта ў той час Чачот выдаў два зборнікі беларускіх народных песень. Наведваў Шчорсаўскую сядзібу і апошні манарх Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Да шчорсаўскай архітэктуры прыклалі рукі італійскія дойліды Джузэпэ Сака і Карла Спампані, а таксама французскі Якуб Габрыэль. Іх высілкамі паўсталі сядзіба ў стылі позняга барока і царква. Была тут і „шчорсаўская восень" Адама Міцкевіча, які ўшанаваў мясцовасць у сваёй паэзіі.

Пачынаў ствараць знакамітую бібліятэку Яўхім Літавор Храптовіч — чалавек шырокіх інтарэсаў, ведамы дзяржаўны дзеяч, які паездзіў па Еўропе, дзе спазнаў ідэі асветніцтва, а таксама прагрэсіўныя метады развіцця сельскай гаспадаркі. Спярша збор захоўваўся ў Варшаве, а ў Шчорсы ён быў перавезены, калі там паўстала шыкоўная сядзіба. Міцкевіч, выбіраючы імя герою сваёй паэмы „Гражына", ідавочна наўмысна назваў літаратурнага князя Літаворам. Яўхім Храптовіч правёў у сваіх маёнтках Шчорсы і Вішнева сапраўдныя рэформы, фактычна скасаваў прыгоннае права, уводзіў дзейсныя аграрныя навінкі. Ягоны сын, „Шчорсаў гаспадар руплівы" — граф Адам Храптовіч, удзельнік паўстання Касьцюшкі — прадоўжыў справу бацькі. Бібліятэчны збор рос і павялічваўся. Калекцыя ўражвала сучаснікаў сваёй разнастайнасцю і велічынёй збору. На 1880-ы год у ёй было каля 26 тысяч тамоў. Арыгінальныя і капіяваныя архіўныя крыніцы налічвалі

агулам больш 150 асобнікаў. Асобную частку бібліятэкі складалі гравюры, якіх было каля 7 тысяч. Адам Храптовіч, як і бацька англаман, таксама пабудаваў для Шчорсаў шпіталь і лянкастарскую школу.

Апошні ўладаннік фальварку Канстанцін Храптовіч-Буцянёў перад першай сусветнай вайной перадаў вялікую частку кніг Кіеўскаму ўніверсітэту. Праўда, у тастаманце было сказана, што яны мусяць вярнуцца на радзіму, калі ў нас паўстане свой універсітэт. У час другой сусветнай кнігі з Кіева былі эвакуяваныя ў Уфу. Палова з іх у час перавозак па афіцыйнай версіі прапала. Рэшта так і не вярнулася ў Беларусь. А тая частка, якая заставалася ў Шчорсах, калі ў 1939-ым годзе прыйшлі бальшавікі, была спаленая гэтымі дзікунамі-варварамі.

Саветам не прыйшло да галавы нічога іншага, як паставіць у мястэчку помнік Мікалаю Шчорсу, чырвонаму камандзіру пад час грамадзянскай вайны ў Расіі, беларусу з паходжання, які, аднак, да нашых Шчорсаў не мае дачынення. Храптовічы дагэтуль не ўшанаваныя ніяк. А колішняе іх гняздо застаецца занядбаным і разбураецца надалей. Летам тут сапраўдныя зараснікі раслiннасці, у якой буяюць вялікія кветкі. І, відаць, не хутка „з-за Шчорсаў выплыве світанне".



# Паланэз Агінскага

Напэўна няма ў музычнай культуры іншага такога твору, які настолькі кранаў бы адразу дзве нацыі. „Развітанне з радзімай" Міхала Клеафаса Агінскага — агульная спадчына беларусаў і палякаў, найбольш выразная форма гістарычнай сентыментальнасці, выяўленая кранальнай мелодыяй, якую пазнаеш па першых акордах і якую не зблытаеш ні з якой іншай. Бо шчыміць сэрца па страчанай культурна-гістарычнай велічы, бо „адзіны вобраз ажывае растрывожанаю ранай".

У масавай сведамасці назва танца полька атаясамляецца з Польшчай. А між тым „полька" азначае „палова" і паходзіць зусім з іншай краіны — Чэхіі. А вось паланэз як танец урачыстага характару прыйшоў на нашы землі менавіта з Польшчы. Што ж датычыць музычнай формы „паланэз", то гэта жанр фартэпіяннай п'есы, якому прынеслі ведамасць многія знакамітыя кампазітары — Шапэн, Бах, Моцарт, Глінка, ну і канешне Агінскі, які быў аўтарам больш 20 паланэзаў. Некаторыя сталі ведамы даследнікам зусім нядаўна. Ну а сама знакаміты з іх атрымаў назву „Развітанне з радзімай" не ў звязку з паразай нацыянальна-вызвольнага паўстання Касцюшкі, чынным удзельнікам якога быў і трыццацігадовы Міхал-Клеафас, а многа пазней — пасля падаўлення паўстання 1830-31 гадоў. Агінскі тады ўжо дажываў свой век у Фларэнцыі.

Ля-мінорны паланэз Агінскага непарушна знітаваны з ягоным фальваркам Залессе, што на сучаснай Смаргоншчыне. Толькі ў такім дзівосным куточку мог нарадзіцца на свет такі музычны шэдэўр на ўсе часы. Залессе і сёння, праз два стагоддзі, нягледзячы на ўсе страты і разбурэнні, зачаруе наведніка хараством свайго наваколля і духам даўно мінулай эпохі рамантызму. Неяк у беларуска-польскай кампаніі давялося там заначаваць пад зорным небам ля вогнішча. З намі быў з сваёй гітарай і Сяргей Верамейчык, які ведае пра Агінскага і Залессе хіба ўсё. Бо пакінуў сталічнае жыццё і перабраўся сюды, дзе некалі жыў вялікі прадстаўнік магнацкага роду, настала. Для нас тады насамрэч „сонца праменне стужкай вузкай ператкала помны вечар", хараша праведзены ў сяброўскай бяседзе і спевах...

Ад сучаснікаў Залессе пачатку дзевятнаццатага стагоддзя атрымала назву „Паўночныя Афіны". Гэта быў сапраўдны асяро-

дак еўрапейскай культуры. З Пецярбургу прыязджаў музычны педагог Юзаф Казлоўскі, які быў настаўнікам Агінскага, сядзібу наведвалі былыя паплечнікі, баявыя сябры Агінскага па паўстанні 1794 году, гасцяваў філамат і пісьменнік Ян Ходзька, маёнтак якога Крывічы быў непадалёк. Сын апошняга Аляксандар пазней стварыў рамантычную паэму з натхнёнымі словамі „Я праўнукам хацеў бы паслаць Залессе!". Зрэшты, верагодна, што аўтарства паэмы належыць іншаму Ходзьку — Леанарду, які быў сакратаром Агінскага і пакінуў нашчадкам гравюру сядзібы, паводле якой сучасныя рэстаўратары стварылі план адбудовы.

Ад былой велічы ранейшай сядзібы засталося няшмат. Але па-ранейшаму наведнікаў сустрэнуць муры дома, капліца, старыя прысады і альтанка, даўняя сажалка з астраўкамі, а таксама два каменя, усталяваныя некалі самым гаспадаром. На адным з іх выбіты надпіс „Ценям Касцюшкі", іншы быў пастаўлены ў гонар настаўніка Агінскага французскага асветніка Жана Ралея.

У найноўшы час, калі паланэз Агінскага знайшоў увасабленне ў беларускім тэксце, ён стаў нам яшчэ бліжэйшым і даражэйшым. Наведаўшы Залессе, можна перажыць розныя пачуцці, замілавацца чароўным куточкам зямлі, дзе „гучаць нябёсныя арганы, і жывуць у сэрцы, і зліваюцца ў гуках паланэзу".



# Каложская царква

Найбольш адметнай візітоўкай старажытнай Гародні была і застаецца Каложская царква. „З небам, з Нёмнам, з зямлёю злітая, з сэрцам нашым — Каложа ўзрасла", як пісаў пра яе Уладзімір Караткевіч. З гісторыі забудовы Барысаглебскай царквы, з яе хрысціянскай дзейнасці, што датычыць першых трохсот гадоў існавання, ведама зусім няшмат. Храм быў закладзены на тэрыторыі аднаго з гарадзенскіх пасадаў на пачатку 80-ых гадоў дванаццатага стагоддзя. Ён адзіны з культавых пабудоў гарадзенскай архітэктурнай школы, што збольшага ацалеў і застаўся радаваць нашчадкаў. Фундатарам забудовы выступіў мясцовы князь Мсціслаў Усеваладавіч, які прысвяціў царкву святым заступнікам — братам Барысу і Глебу. Што датычыць звыклай назвы Каложская, то яна пазнейшая і тлумачыцца наступным чынам. Вялікі князь Вітаўт у 1405 годзе захапіў у палон жыхароў прыгараду Пскова „Каложэ" і пасяліў іх непадалёк ужо існай гарадзенскай царквы. Адзінай крыніцай інфармацыі пра Барысаглебскую царкву да 1738 году ёсць „Хроніка", якую склаў архімандрыт даўняга базыльянскага Каложскага манастыра Ігнат Кульчынскі. Гэтая праца яшчэ належна не ацэнена. Далейшая гісторыя храма больш ведамая.

Найбольшую адметнасць царкве надаюць яе архітэктурныя асаблівасці: выкарыстанне ў муроўцы шліфаваных камянёў рознай велічыні, круглыя слупы ў сярэдзіне, так званыя галаснікі ў сценах, падлога, выкладзеная з маёлікавых плітак. Слова „маёліка" паходзіць, дарэчы, ад назвы гішпанскага гораду Мальёрка, а тэхніка вырабу адмысловых каляровых плітак прыйшла да нас праз Італію. Адрознівалася Барысаглебская царква ад папярэдніх гарадзенскіх храмаў і сваімі апсідамі. Але не будзем заглыбляцца ў нюансы дойлідства. Для нас важна, што гэтая царква перажыла некалькі эпохаў, яна бачыла нашэсці галіцка-валынскіх князёў і крыжакоў, змены канфесійнай і нацыянальнай палітыкі, жахлівыя войны і іншыя катаклізмы. Дух займае, калі уявіць, колькі людзей (соткі тысяч, тысячы тысяч — ?) складалі тут свае малітвы да усявышняга, колькі атрымалі хрост, узялі шлюб...
А разам з тым царква стаіць у адзіноце. Як пісаў краязнавец Апанас Цыхун:

*„На кручы — Каложа ў задуме адна*
*Маячыць, бы прывід, смугою спавіты".*

Найбольшыя праблемы зрабілі царкве не людзі, а стыхійныя паводкі ў 1853 і 1889 гадах. У выніку першай з іх паўднёвая сцяна з часткай заходняй абваліліся ў Нёман. Страчаныя часткі бажніцы былі заменены лёгкімі драўлянымі канструкцыямі і звычайным дахам. У такім выглядзе царква застаецца дагэтуль. Апошнія гады вакол рэканструкцыі Каложы зламана нямала дзідаў. На гэтую праблему існуе некалькі поглядаў. Ведаючы прыклады варварскай „рэстаўрацыі" у розных гарадах сённяшняй Беларусі, лепш бы ўнікальны храм не чапалі ўвогуле. Прынамсі, да лепшых часоў.

З Каложскай царквой звязаныя фрагменты і сучаснага беларускага адраджэння. Менавіта каля яе ўсталяваныя помнікі „Пагоня на Грунвальд" і камень у гонар Давыда Гарадзенскага. Менавіта ля падножжа царквы адбываліся ўрачыстыя святкаванні бітваў пад Воршай і Грунвальдам, канцэрты бардаў і першыя ў новай Беларусі рыцарскія паядынкі, тут складалі прысягу на вернасць краіне маладыя беларускія патрыёты. Не было сярод адраджэнцаў васьмідзесятых-дзевяностых таго, хто не прыйшоў бы з саёй дзяўчынай да сценаў Каложы на нёманскае ўзбярэжжа. Не ведаю, як цяпер...

Старая Гародня — гэта найперш Каложа. Царква „уся — як край наш, як сон, як вясна".



# Свіслацкая гімназія

— гэта прыклад адукацыйнай установы, якая кшталтавала не толькі веды сваіх навучэнцаў, але і самастойнасць мыслення, незалежнасць поглядаў і перакананняў. Не выпадкова з сценаў гэтай alma mater выйшла столькі вальнадумцаў, змагароў за сацыяльную і нацыянальную справядлівасць.

Сама вучэльня перажыла некалькі этапаў. Уласна гімназія дзеіла з з 1805-га па 1851 год. Пасля яна была пераўтворана ў пяцікласную дваранскую вучэльню. А ў 1876 годзе ў будынку паўстала настаўніцкая семінарыя, якая праіснавала да 1921 году. Падобна славутаму віленскаму ўніверсітэту, у Свіслачы у пачатку 1820-га году стварылася свая патаемная суполка філаматаў, у якую уваходзіла 15 чалавек. У розны час Свіслацкую гімназію закончылі Напалеон Орда, Віктар Гельтман, Лявон Зянковіч, абодва браты Каліноўскія, ажно тры браты Крашэўскія, Рамуальд Траўгут, Мікола Дзямідаў, Макар Краўцоў, Аляксандар Грыкоўскі — што ні імя, то легенда, яркі след у гісторыі. Застаецца здзіўляцца як цемрашальскі рэжым расейскага цара Мікалая І зусім не зачыніў установу пасля задушэння паўстання 1830 году. Прайшло яшчэ трыццаць гадоў і вучэльня ўзгадавала новую плеяду няўрымслівых паўстанцаў. Але і тут усё скончылася фатальнай паразай. Многія лепшыя хлопцы Краю пасклалі галовы ў няроўным змаганні з усходняй акупацыяй — шматвяковая наканаванасць, якую не ўдаецца пераадолець да цяперашняга дня.

Выкладнікі і выпускнікі гэтай установы заслугоўваюць напэўна асобнай кніжкі — шкада, што ніхто яе пакуль не напісаў. Сярод іх былі проста ўнікальныя асобы. Прыкладам нямецкі вучоны-славіст Рудольф Абіхт, які ў 1917-18 гадах выкладаў у Свіслацкай настаўніцкай семінарыі беларускую мову. Уявіце сабе германца, які дасканала вывучыў беларускую мову ды яшчэ навучае ёй мясцовы люд! З сённяшняга часу з падобных асоб магу прыгадаць хіба даўняга сябра Гарадзеншчыны амерыканца Курта Вулхайзера, які стварыў у далёкай Мінесоце цэлую кафедру славянскіх моваў.

Сучасны раённы цэнтр Свіслач мала нагадвае мястэчка часоў Тышкевіча ці Каліноўскіх. Адзінае, што засталося нязменным — гэта дух вальнадумства і незалежнасці, які характарызуе мясцовых актывістаў нацыя-

Свіслацкая гімназія

нальнага руху. Раз у год у Дзень памяці паўстанцаў 1863 году сюды прыязджаюць і грамадска-палітычныя дзеячы з розных мясцовасцяў усёй Беларусі. Хто прыязджае часцей — аўтаматычна становіцца „ганаровым сябрам" мясцовай супольнасці з усімі пачэснымі і пачастункавымі наступствамі, ад якіх адмовіцца сілаў не стала яшчэ ні ў каго.

Ад будынку самой гімназіі ацалела толькі трэцяя частка — левы флігель. „Былі калісьці тут палацы, былой гімназіі муры, ды час прыйшоў і людзі працы іх разабралі на хлявы" — напісаў у сваёй паэме мясцовы паэт, мой добры сябра Анатоль Валюк. На месцы былога гмаху пабудаваная дзіцячая паліклініка, ацалелая частка гімназіі таксама прыстасавана да лякарных патрэбаў.

Да гімназіі з цэнтральнай часткі Свіслачы вядзе дарога, якая пралягае праз так званую „Алею герояў". На ёй дзіўным чынам, нават абсурдальным, перапляліся помнікі розных эпох — Леніну, Траўгуту, Сталіну, Каліноўскаму, загінуўшым вайскоўцам у афганскай вайне... Гімназія нібыта сарамліва ў баку, а на ёй старая, яшчэ савецкая шыльда, дзе пералічаны некаторыя з знакамітых навучэнцаў. Бальшыня ж імён, як і сама гімназія дагэтуль належна не ацэнены...



# Лябёдка Іваноўскіх

Кожнага нармальнага беларуса раздражняе, калі ў розных дзяржаўных установах ён натыкаецца на ўзор запаўнення якіх-кольвек дакументаў, дзе зазвычай прапісана „Іваноў-„Пятроў". Як быццам цяжка напісаць „Іваноўскі-Пятроўскі". Ведамых Іваноўскіх у Беларусі нямала. Але найбольшае месца ў жыццёвым летапісе займае ўнікальная сям'я, родавая сядзіба якой была ў маёнтку Лябёдка цяперашняга Шчучынскага раёну. Шырокаму колу пра яе стала ведама на пачатку перабудовы, калі адкрывалася сапраўдная гісторыя. Радзіна праславілася тым, што дала выбітных дзеячаў адразу чатыром розным народам. Заснавальнікам мясцовай лініі роду быў Станіслаў Іваноўскі, росквіт фальварак атрымаў пры яго сыну Леанарду. Яго сям'я, у якой было пяцёра дзяцей, перыядычна жыла ў Варшаве і Пецярбургу. Але гадаваліся нашчадкі менавіта ў Лябёдцы. Гаспадар сядзібы Леанард Іваноўскі стварыў перадавую на той час гаспадарку, не шкадаваў сродкаў і актыўна ўкараняў аграрныя навінкі, дзяліўся імі з суседзямі. Агульная плошча гароду і саду дасягала 20 гактараў, рэгулярна наладжваліся мясцовыя выставы збожжа, гародніны, пладоў.

Калі расеец Мендзялееў вынайшаў табліцу перыядычных хімічных элементаў, Леанард Іваноўскі суправаджаў яго на туманны Альбіён і перакладаў яму выступ у Брытанскім геаграфічным каралеўстве, бо вынаходнік табліцы не ведаў ангельскай мовы. Іваноўскі-бацька быў вернападданы яго імператарскай вялікасці. Да ўсяго знішчыў першую беларускую газету, якую ціснуў ягоны сын Вацак у родавым маёнтку Лябёдка. Дзеці нашай Лябёдкі, дарэчы, цягнулі кожны ў свой бок — нібы тыя лебедзь, рак і шчупак. Хоць ты казку складай: было у бацькі-расейца тры сыны — беларус, паляк і жмудзін. Так Вацлаў, Ежы і Тадас належаць да нацыянальных дзеячаў трох суседніх народаў.

Вацлаў таксама быў добрым перакладнікам, толькі з нямецкай, ратаваў людзей ад саветаў і гітлераўцаў адначасна. За што і злажыў галаву. На Вацлаву Іваноўскім закончыўся наш кальвінізм, які пачынаўся з Мікалая Радзівіла Чорнага. Забітага бургамістра Менску святары „старых традыцый" нават адпяваць не хацелі, бо ён быў „няправільнай" канфесіі. Але Вацлаў Іваноўскі хоць мае магілу на мінскіх Кальварыйскіх могілках. А вось родавы склеп у Лябёдцы, дзе былі пахаваныя бацькі, быў разрабаваны адразу пасля прыходу бальшавікоў у 1939-ым. Старажылы прыгадвалі як дзеці мясцовага інтэрнату футболілі няшчасныя чарапы.

Апошні прыезд у Лябёдку мне з сябрам ледзь удалося трапіць на тэрыторыю сядзібы. Замест таго, каб адкрыць яе шырэй для турыстаў, краязнаўцаў і розных наведнікаў, стварыць у шыкоўным гістарычным доме музейна-культурны асяродак, мясцовая раённая адміністрацыя трымае там ўстанову ледзь не закрытага рэжыму.

Мадэрноваму дому ў Лябёдцы, збудаванаму з цэглы ў неагатычным стылі, ўжо сто гадоў. У архітэктурным плане ён досыць адметны, прынамсі на Гарадзеншчыне вы аналагаў не знойдзеце. Захаваліся рэшткі старога парку, сярод якіх і досыць рэдкія экзоты, а ў мясцовай Галавічпольскай школе ў адным з пакойчыкаў настаўнікамі-энтузіястамі створана музейная экспазіцыя, прысвечаная роду Іваноўскіх. Але гэтага вельмі мала. Лябёдка чакае, калі яе выхаванец, стваральнік знакамітай суполкі „Загляне сонца і ў наша ваконца" Вацлаў Іваноўскі будзе ўшанаваны належна, а сядзібны дом атрымае іншае прызначэнне.



# Базыльянскія муры ў Вільні

У Вільні багата беларускіх адрасоў і знакаў. Каб толькі абысці іх усе, спатрэбіцца некалькі дзён. У кожнага з беларусаў, якія закаханыя ў нашу старадаўнюю сталіцу, ёсць свае ўлюбёныя куточкі — багацейшая культурна-помнікавая спадчына дае такі выбар. Асабіста я заўсёды іду ў Базыльянскія муры — цэлы архітэктурны ансамбль, які ўлучае старадаўні храм і комплекс дзіўным чынам звязаных паміж сабой будынкаў. Там асаблівая атмасфера і незвычайная аўра. Апошні раз я прастаяў там паўгадзіны амаль у поўнай цішыні, якую не парушыў аніводны чалавек ці аўтамабіль — і гэта фактычна ў самым цэнтры старога гораду.

У комплексе царквы і манастыра Святой Тройцы пераплялася, здаецца, гісторыя ўсёй Вільні як сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. Пра пачаткі гораду сведчыць невыразны тэкст на сцяне велізарнай царквы ў двары, які можна зразумець наступным чынам: „На месцы гэтага храма, у быўшай тут калісьці дуброве, у палове XIV ст. прынялі пакутніцкую смерць за Праваслаўную Хрысціянскую веру святыя пакутнікі Літоўскія, Віленскія Цудатворцы — Антон, Іаан і Яўстафій”. Гэты напіс быў выбіты не раней дзевятнаццатага стагоддзя. Над табліцай у нішы змешчана і моцна пашкоджаная фрэска з выяваю трох святых. Падобная бляклая фрэска і ў нішы з іншага боку. На той жа сцяне, дзе ўваходныя дзверы — мемарыяльная табліца ў памяць пакутніка іншай канфесіі — уніяцкага святога Язафата Кунцэвіча.

Гісторыя святыні пачалася ў XIV стагоддзі, калі на месцы гібелі трох мучанікаў другая жонка князя Альгерда Юльяна пабудавала драўляныя царкву і манастыр. А ў пачатку XVI стагоддзя высілкамі князя Канстанціна Астрожскага паўстаў ужо мураваны шэдэўр дойлідства. Паводле падання, якое дайшло да нас дзякуючы этнографу Адаму Кіркору, тут захоўваўся каштоўнейшы абраз Маці Божай Праведніцы, які стварыў сам евангеліст Лука. Пазней храм стаў уласнасцю ўніятаў, тады ж комплекс прыдбаў назву Базыльянскія муры. Калі ж прыйшлі расейцы, яны прыстасавалі будынкі манастыра пад астрог. Тут сядзелі зняволеныя філаматы і філарэты. Тут Адам Міцкевіч напісаў сваю знакамітую паэму „Дзяды”, пра што сведчыць адмысловая шыльда на сцяне кляштара.

У наш час у храма не засталося гаспадара, яго перадалі... украінскай грэка-каталіцкай суполцы.

Відаць, гэты абсурд (украінцаў як арганізаванай супольнасці ніколі не было ў Вільні!) стаўся магчымым толькі таму, што на царкву ніхто іншы не заявіў прэтэнзій. Ці праходзяць зараз тут набажэнствы — сказаць цяжка, прынамсі расклад літургій не вісіць. Сам храм знаходзіцца не ў найлепшым стане. Праўда, за апошнія гады тэрыторыю вакол яго ўпарадкавалі і выклалі пліткай, на адной з сценаў з'явіліся рыштаванні — магчыма гэта азначае пачатак рэстаўрацыі. Найбольш пашкоджанай ёсць вялікая званіца (аналагаў ёй няма напэўна), якая стаіць асобна.

Каб увайсці ў двор базыльянскіх муроў трэба прайсці дзве „глыбокія" барочныя брамы. Ужо на самым уваходзе злева вісіць шыльда ў гонар Ігната Дамейкі, нацыянальнага героя Чылі, нараджэнца Гарадзеншчыны, якім ганарацца і беларусы і палякі. У будынку былога кляштару доўгі час былі розныя беларускія навучальныя ўстановы. У наш час пашчасціла быць на адкрыцці мемарыяльных дошак у гонар Наталлі Арсеневай, якая тут вучылася і Максіма Гарэцкага, які тут выкладаў. А зусім нядаўна аналагічным чынам быў ушанаваны вялікі хрысціянін і беларус Адам Станкевіч. Аднак, час існавання тут беларускай гімназіі і іншых беларускіх установаў — асобная гісторыя.



# Феномен Касьцюшкі

Калі задацца пытаннем — хто з нараджэнцаў беларускай зямлі найбольш ведамы ў свеце, то адказ будзе адназначны. Так, гэта Андрэй Тадэвуш Банавентура Касьцюшка, чалавек з доўгім імем, унікальнай біяграфіяй і геаграфіяй, арэолам славы і самоты. Такія асобы нараджаюцца раз у сто гадоў і з місіяй прынесці ў гэты свет нешта такое, чаго раней не было. Такія постаці складаюць гонар усяму чалавечаму роду. Невыпадкова, што яму пастаўлены помнікі ў Польшчы, ЗША, Швайцарыі, ён абвешчаны ганаровым грамадзянінам Францыі, найбольш высокая гара Аўстраліі называецца ў гонар Касцюшкі, яго імем названы горад у амерыканскім штаце Місісіпі, а таксама астравы на Алясцы.

У 1998-ым годзе мне пашчасціла наведаць сталіцу Злучаных Штатаў Амерыкі — Вашынгтан. Адно з сама дарагіх фота з той паездкі — здымак на фоне коннага помніку нашаму славутаму земляку. Гэты помнік стаіць ужо сто гадоў! Асобаў, якія заслужылі такі помнік на тым цэнтральным пляцы толькі чатыры. Касьцюшка яшчэ пры жыцці заслужыў і амерыканскае грамадзянства і пажыццёвую пенсію. Ён быў асабіста знаёмы з Джорджам Вашынгтанам, ад якога атрымаў у падарунак пару пісталетаў, сябраваў з Томасам Джэферсанам, аўтарам славутай Дэкларацыі незалежнасці, пазней прэзідэнтам ЗША. Але няўрымслівасць натуры не дала спакойна чакаць старасці. Ён вярнуўся на радзіму, каб працягваць сваю місію змагара за незалежнасць народаў. Паўстанне 1794 году пацярпела паразу, а цяжка паранены Касьцюшка трапіў у расейскі палон. Сядзець яму ў Петрапаўлаўскай крэпасці і іншых турмах доўга, а мо і пажыццёва, каб не змена ўлады ў Расеі. Але ягоная моц духу была ацэнена нават цемрашалкай Кацярынай II, а заступіўшы яе Павал I, арыентаваны на еўрапейскія каштоўнасці, даў Касцюшку вольнасць.

Можна бясконца спрачацца наконт нацыянальнай прыналежнасці Касцюшкі, хоць гэта не мае ніякага сэнсу. Зрэшты ён сам выразна акрэсліў самавызначальны прыярытэт: „Кім жа я з'яўляюся? Хіба я не ліцвін, Ваш зямляк, Вамі абраны?...” — пісаў ён у 1790 годзе ў рэзкім лісце да генерала Несялоўскага, патрабуючы пераводу з польскага войска ў шыхты Вялікага Княства Літоўскага.

Удзячныя амерыканцы выдаткавалі сродкі на адбудову сямейнай сядзібы Касьцюш-

каў, што ў Марачоўшчыне пад Косавам (цяпер Івацэвіцкі раён). Зараз там месціцца выдатны музей, ўпарадкавана і наваколле, што стварае цэлы экскурсійны комплекс. Адроджаны палацава-паркавы ансамбль, у які уваходзяць сядзіба з мемарыяльнай шыльдай, памятны камень, студня з жураўлём, кавярня „У Тадэвуша", буслянка, возера Круглае з выспай, палац Пуслоўскіх 19-га стагоддзя, яшчэ адно безіменнае возера, аўтамабільныя стаянкі, адміністрацыйны будынак, гаспадарчы падворак, адмысловыя драўляныя платы. У лютым 2010 году давялося патрапіць туды на святкаванне ўгодкаў славутага ваяра і мысляра. Быў прыгожы дзень, снег іскрыўся на сонцы, а краявіды зачароўвалі вока някідкім хараством і прыроднай гармоніяй. Але беларусы былі падзеленыя і на гэтым святкаванні. Амерыканскія дыпламаты прыехалі і былі разам з афіцыйнымі асобамі (яшчэ раз стала прыкра, што апошнія выбары выйгралі не рэспубліканцы!). „Нефармалы" святкавалі асобна. З беларускіх дэмакратычных палітыкаў быў Андрэй Саннікаў. Цікава, што ён мае блізкіх сваякоў па прозвішчы Касьцюшка. Неўзабаве пасля гэтага Саннікаў надоўга апынецца ў турме — ён разам з іншымі патрыётамі выступаў за вольнасць у сваёй краіне. Потым яго выпусцілі і фактычна выпхнулі з краіны. А значыць мара нашага вялікага продка з урочышча Марачоўшчына дагэтуль не рэалізаваная.



# Музей у Гудзевічах

У маім гардэробе ёсць толькі адна каштоўная рэч. Гэта тканы ў нацыянальных колерах імянны гальштук, атрыманы некалі ў Гудзевічах пад адзін з дзён нараджэння. Атрыманы з рук Алеся Мікалаевіча Белакоза і тым дарагі асабліва. Мяркую тыя, хто маюць такі гальштук, адчуваюць нешта падобнае. Майстэрства ткацтва, дарэчы, адрадзіла пры мясцовым музеі жонка Белакоза — спадарыня Вера.

Гудзевічы зрабіў знакамітымі адзін чалавек — Алесь Белакоз. Хоць гэтая вёска ў сучасным Мастоўскім раёне мае ў сваёй гісторыі цэлы шэраг іншых цікавых людзей. Музей літаратурнага краязнаўства заснаваны Белакозам быў у 1965-ым годзе. Менавіта тут паўстаў першы стэнд прысвечаны вялікай паэтцы Ларысе Геніюш. Яна вучылася ў Гудзевічах у пачатковай школе ў 1919-20 гадах. Пра тое, як збіраліся экспанаты ходзяць цэлыя легенды. Гэтыя легенды — абсалютная праўда і яе даведацца можна ад самога Белакоза. На якія дыпламатычныя хітрыкі і дасціпныя камбінацыі ён толькі не ішоў, каб здабыць тую ці іншую рэч, якая пазней займала належнае месца ў экспазіцыі і ашчадна зберагалася. Тут можна ўбачыць старажытны човен, знойдзены і адкапаны на Нёмане, багатую калекцыю мінералаў, лісты і кнігі падпісаныя класікамі беларускай літаратуры, унікальную калекцыю падвойных дываноў, адзіны ў свеце глобус па-беларуску, вырабы мясцовых кавалёў, збор народнага адзення, іншыя каштоўнасці. Гудзеўскі (на варыянце Гудзеўскі, а не Гудзевіцкі, настойвае менавіта сам Белакоз) музей — сапраўдны асяродак беларускай тоеснасці, адлюстравання нашага мінулага. Белакоз, які пачынаў у юнацтве як радыкальны маладзён, пазней абраў іншы кірунак дзейнасці і праз сваю далейшую музейную справу зрабіў уплыў на тысячы беларусаў, знайшоў культурны ключ, дзейсны шлях адбітку на сведамасці тых, хто ад вякоў імкнуўся „людзьмі звацца", але так і не даспеў да належнай грамадска-нацыянальнай супольнасці. Музей рос, шырыўся і прырастаў новымі экспанатамі. Створаны на грамадскіх пачатках пры школе, ён у 1990-ым годзе на золку суверэнітэту атрымаў статус дзяржаўнага. І атрымаў гэты знак якасці абсалютна заслужана за сваю адметнасць і зборы — агульная плошча экспазіцыі складае больш 700 квадратных метраў, а зберагаецца ў гэтым асяродку больш 12 тысяч экспанатаў.

Музей які стварыў Белакоз, не пакідаў абыякавым нікога, як і сам яго дырэктар. Калі хто пры-

язджаў у Гудзевічы і казаў, што мае толькі паўгадзіны, Белакоз адразу наўпрост мовіў „да пабачэння!", звычайныя яго экскурсіі доўжыліся тры-чатыры гадзіны — і гэты час пралятаў незаўважна для шматлікіх наведнікаў.

Музей і яго стваральнік зазналі нямала перашкодаў і выпрабаванняў. Людзі ў плашчах „кофейного цвета", як іх называе сам спадар Алесь, праводзілі ўсялякія „прафілактычныя" гутаркі, сачылі за тэматыкай экспазіцыі і за самым дырэктарам. Але нават у савецкі час ніхто не дадумаўся спыняць аўтобусы, якія выехалі на экскурсію ў Гудзевічы. У найноўшы час такое здарылася, што яшчэ раз падкрэслівае значнасць музея і яго стваральніка для нацыянальнага адраджэння. Урэшце пенсіянера Белакоза цынічна „спіхнулі" з пасады дырэктара, але ён дагэтуль працягвае свае незабыўныя экскурсіі. Музей у Гудзевічах і Белакоз даўно сталі сінонімамі, альфай і амегай звычайнай па-сутнасці вёскі, якая прыдбала ведамасць у агульнабеларускім маштабе. І не хочацца верыць, што калі-небудзь будзе па-іншаму.



# Мірскі замак

Калі правесці апытанне наконт архітэктурных сымбаляў Беларусі, то Мірскі замак напэўна зойме ў ім адно з першых месцаў. Прычынай таму яго шырокая ведамасць як у краіне, так і за яе межамі. Замак сапраўды адметны сваім стылем, але яго жыццё як помніка трэба разглядаць у кантэксце развіцця ўсяго мястэчка. Яно некалі адначасна было цыганскай сталіцай, габрэйскім асяродкам, татарскім пасяленнем, ліцвінскім цэнтрам...

Мірскі замак забудоўваўся як родавая рэзідэнцыя Ільінічаў, а шырокую ведамасць набыў, калі па спадчыне перайшоў да магнатаў Радзівілаў. Сярэднявечныя войны ўжо завяршыліся, а цвердзь атрымала свецкае прызначэнне, пераўтварыўшыся ў рэзідэнцыю італійскага тыпу. Далей праз стагоддзі замак спазнаў нашэсці акупантаў усіх масцяў. Ён моцна пацярпеў пад час „патопу", чарговы раз быў разбураны ў Паўночную вайну, але адраджаўся і галоўнае захоўваў аблічча. Два стагоддзі ён быў у заняпадзе і толькі ў наш час перажывае адраджэнне.

Першы раз у Мірскі замак мне давялося патрапіць у канцы васьмідзесятых гадоў, калі там сабралася моладзевая студэнцкая талака з усяе Беларусі. Вёў рэй тады Сяржук Вітушка, малады і ўпэўнены, які ў сваёй канфедэратцы нагадваў чалавека хутчэй з гістарычнай літаратуры, чым сучаснага беларуса. Дзяржаве па вялікім рахунку яшчэ не было справы да гістарычных помнікаў, так што мы, нефармалы, шчыравалі на замку як гаспадары. Сярод іншых запомніўся і Андрэй Мельнікаў, з якім давялося сустрэцца ўпершыню. Тады ён знаходзіўся ў светаглядным пошуку і толькі пачынаў беларускамоўную творчасць, але ўжо прыцягваў увагу сваёй незвычайнасцю. Усе мы былі маладыя і здаровыя, так што энтузіязм літаральна перапаўняў, а расчыстка друзу здавалася вясёлай забавай.
„А дзень быў замкавай вежай, дзе таямніца не чэзне, ад возернага сумежжа з цагляным агнём велічэзным".

Потым было многа іншых прыездаў у славутае гістарычнае мястэчка — і з экскурсійнымі групамі і ў вандроўках з сябрамі. Згадваецца таксама занядбаная капліца Святаполк-Мірскіх непадалёк замку, якая стаяла без вокнаў і дзвярэй. Можна было залезці ў сярэдзіну і пабачыць у сутарэннях надмагільныя пліты, а ўзняўшыся вышэй сярод усялякага смецця — старадаўнюю разную шыкоўную шафу. Хочацца

спадзявацца, што яна з часам не спарахнела зусім, ці яе не скралі. Мірская капліца ўражвала найперш незвычайнай вялікай мазаічнай выявай Хрыста. Сёння ў адрамантаванай капліцы размешчана мастацкая экспазіцыя. Ціснула на ўражанне і паданне пра возера пад замкам, на месцы якога некалі быў цудоўны сад і дзе зараз штогод топіцца як мінімум адзін чалавек.

Справа рэстаўрацыі замку ішла так доўга і павольна, што асноўнай легендай пра Мірскі замак сталі чуткі пра вялізную колькасць расцягнутых і раскрадзеных сродкаў. Урэшце ў 2000-ым годзе Мірскі замак папоўніў спіс каштоўнасцяў сусветнага значэння ЮНЕСКА. Зараз справа адбудовы фактычна завершана. Можна цешыцца з таго, што пры рэстаўрацыі архітэктурная праўдзівасць захаваная. Аўтэнтычныя часткі сценаў адзначаны адмысловай паласой якой адрознівае старое ад новага. Замак ужо служыць і як музейная экспазіцыя. Аднак, па апошніх звестках, кошты ўваходу для наведнікаў істотна ўзраслі — ажно да еўрапейскіх расцэнкаў. У Мірскім замку зараз ладзяцца так званыя музычныя вечары, пампезныя дзяржаўныя шоў. І замак неяк зноў стаў больш аддаленым ад людзей. Магчыма, так было і пры Радзівілах...



# Полацкая Сафія

У кожнай еўрапейскай краіне ёсць свае знакавыя храмы. У беларускай гісторыі іх досыць шмат. Але нават у ганаровым пераліку найбольш значных культавых пабудоў „зямлі пад белымі крыламі” асабліва пачэснае месца займае Полацкі Сафійскі сабор. Ён — адвечны сімвал нашага хрысціянства, сцверджанне вялікай беларускай культуры, помнік, які часта называюць храмам-феніксам.

Можна сцвярджаць, што той, хто ніколі не быў у старажытным Полацку, не бачыў Беларусі. Бо тут калыска нашай дзяржаўнасці, пачаткі айчыннага праваслаўя, школа старажытнабеларускай архітэктуры. Менавіта Сафійскім саборам у горадзе над Дзвіной пачалося наша манументальнае мураванае дойлідства паводле візантыйскай традыцыі. Варта дадаць, што гэта быў трэці храм такога тыпу на ўсходнеславянскіх землях пасля Ноўгарадскай і Кіеўскай Сафій, што найбольш яскрава сведчыць пра значнасць і магутнасць старажытнага Полацку.

Першая летапісная згадка пра Полацкую Сафію датычыць падзей XII стагоддзя і знаходзіцца ў „Жыціі Ефрасінні Полацкай”. Забудоўваўся сабор князем Усяславам Брачыслававічам, які пазней здабыў сабе мянушку Чарадзей, у другой палове XI стагоддзя. У галоўнай святыні Полацкай зямлі ішлі не толькі набажэнствы, тут прымалі паслоў, абвяшчаліся мір і вайна, праводзіліся цывільныя рытуалы, перапісваліся кнігі, збіраліся летапісы.

Наступныя пяць стагоддзяў існавання храма адзначаны надзвычай скупымі звесткамі. Ведама толькі, што сабор істотна змяніў сваё аблічча ў звязку з пастаяннымі войнамі з Масковіяй. Паводле даследніка Міхася Ткачова ён стаў абарончым збудаваннем з чатырма нарожнымі вежамі — полацкая Сафія стала пачынальнікам новага тыпу храмаў.

У канцы 16 стагоддзя храм перайшоў да ўніятаў. Далей ён двойчы гарэў. А ў 1705-ым годзе ў час Паўночнай вайны, якая была для нас грамадзянскай, калі чужынцы з усіх бакоў дратавалі беларускую зямлю, адбылася трагічная падзея. Расейскі цар Пётр I, якога ў гісторыі суседзяў называюць Вялікім, уласнаручна забіў у сценах сабору шасцярых уніяцкіх святароў і манахаў. Які бандыцкі ўчынак фанатычнага манарха з дзікунскай краіны! Захопнікі пераўтварылі

святыню ў стайню і склад парахавых запасаў. Яшчэ праз пяць гадоў расейцы ўзарвалі і сам храм. Да сярэдзіны васямнаццатага стагоддзя сабор быў адбудаваны ў стылі віленскага барока знакамітым архітэктарам Ёганам Глаўбіцам. Гэта было ўжо трэцяе адраджэнне святыні. Ну а потым прыходзіць чарговая, на гэты раз надзвычай працяглая, расейская акупацыя. У канцы дзевятнаццатага стагоддзя храм занепадае. І толькі у сямідзесятых гадах наступнага стагоддзя ён пачаў аднаўляцца высілкамі беларускіх архітэктараў-рэстаўратараў, якімі кіраваў энтузіяст сваёй справы Валеры Сьлюнчанка — чалавек, які адраджаў беларускае дойлідства. Першы раз пра ўнікальны храм давялося прачытаць дваццаць гадоў таму якраз з ягонай кніжкі. Сафійскі сабор стаў музеем і канцэртнай залай. У 1985-ым тут быў усталяваны новы арган працы чэшскіх майстроў. Падмуркі ж першаасновы служаць адметнай экспазіцыяй.

Калі зрэдку даводзіцца прыязджаць у Полацак (менавіта так дагэтуль называюць старажытны горад карэнныя жыхары) да студэнцкіх сяброў, мы канешне ідзем у тое месца, „дзе Сафія плыве над Дзвіною, нібы карабель...”. Дзе на стромым беразе стаіць гэты велічны храм у гармоніі з наваколлем, а каля яго пастаўлены зараз вялізны камень з выбітым крыжам і загадкавымі для сучасніка знакамі.





# Любчанская старонка

Сама назва мястэчка Любча выклікае асацыяцыі з замілаванасцю і цеплынёй, тапонім відавочна славянскага паходжання. Месца любае на старажытнай Навагрadчыне ведама з трынаццатага стагоддзя, калі было аддадзена князем Міндоўгам баярыну Андрэю Кіяну. Так што магло атрымаць назву і кшталту Кіеву. Тут на беразе Нёмана была даўняя гандлёвая прыстань. А галоўнае, Любча была рэзідэнцыяй першага каталіцкага біскупа на беларускіх землях Віта, менавіта ён хрысціў Міндоўга. Пазней вялікія князі не абыходзілі Любчу ўвагай, перадаючы яе з рук у рукі мноства разоў. Так што па колькасці ўладаннікаў у розныя часы мястэчка ў ліку рэкардсменаў.

У час рэфармацыі сюды прыходзяць арыяне, якія забудоўваюць свой храм. Крыху пазней гэты збор пераходзіць да кальвіністаў, але да нашых дзён ён не ацалеў. Ян Кішка пабудаваў тут палац-замак, спакваля сфармаваўся сядзібны комплекс. Энергічны Кішка дамогся ад караля Жыгімонта Вазы і магдэбургскага права. Найбольшы ўздым мясцовасць перажыла ў канцы шаснаццатага-першай палове сямнаццатага стагоддзя. У гэты час у Любчы працавала друкарня Пятра Кміты, яе перавезлі з Вільні ў 1612 годзе, абсталяванне куплялася таксама ў Радзівілаў з Нясвіжу, была заснавана паперня. Друкаваліся працы Самуіла Доўгірда, паэта, які паходзіў з Ашмяншчыны, іншыя творы. Друкарня дзеіла больш за 60 гадоў, у ёй было адціснута каля 70 розных кніг. У час вайны 1654-67 гэты асяродак культуры быў моцна разбураны маскоўскімі захопнікамі.

Хвалю адраджэння Любча перажыла ў дзевятнаццатым стагоддзі, калі істотна ажывіўся тутэйшы порт, імкліва развіваўся разнастайны гандаль. Мясцовы кірмаш прыдбаў у рэгіёне вельмі шырокую папулярнасць. Падрабязнае апісанне любчанскага кірмашу дае ў сваіх „Лістах з дарогі" беларускі пісьменнік Ядвігін Ш. Сядзіба-палац забудовы 19-га стагоддзя была часткова разбурана ў першую сусветную вайну, у 1947-49 на аснове падмурку і сценаў палацу пабудавана школа. Цікава, што апошняй уладанніцай замку была Лідзія Пфальцфейн-Набокава, цётка знакамітага пісьменніка Уладзіміра Набокава і ведамага кампазітара Мікалая Набокава. У міжваенны час 90 адсоткаў мясцовага насельніцтва складалі габрэі, у Любчы зберагліся да сёння будынкі колішніх сінагогі і ешыботу. Адзіны дзейсны храм мястэчка — праваслаўная царква. Увагу наведнікаў прывабіць і дастаткова багаты школьны краязнаўчы музей.

А яшчэ Любчу можна лічыць сталіцай айчынных буслоў — гнёзды гэтай вялікай птушкі тут паўсюдна — ад мясцовых могілкаў да стрэхаў прыватных дамоў. Прычынай таму нёманскае ўзбярэжжа, поўнае рознай пажывы для буслоў.

Любча — гэта да ўсяго брама ў Налібоцкую пушчу, цудоўны куточак амаль некранутай прыроды, дзе жыве досыць вялікі статак волатаў-зуброў. Шлях да пушчы вядзе праз мост на Нёмане. Пару гадоў таму разам з сябрамі-краязнаўцамі, сярод якіх быў і Валерый Петрыкевіч, знаўца мясцовай даўніны, які нарадзіўся менавіта ў Любчы, мы заначавалі непадалёк сценаў замку на стромым, так званым „жалезным беразе" слаўнай ракі. Раней Нёман тут падзяляў не толькі прыродныя зоны, але і моўную прастору — гутарка насельнікаў „лясных" вёсак істотна рознілася ад гаворкі занямонцаў-любчанцаў. З часам гэтая розніца ўсё больш сціраецца. А што датычыць галоўнай візіткі Любчы — замку, то яму пашанцавала куды больш чым, скажам яго сабратам — Гальшанскаму ці Геранёнскаму. Любчанкі замак, які мае сваю архітэктурную непаўторнасць, у наш час трапіў пад прыватную апеку і хоць марудна, але адбудоўваецца, а значыць ажывае і непазбежна стане яшчэ больш прывабным для падарожнікаў.



# Гальшанскія легенды

Чытаючы ў дарозе нядаўна выданы ў „Беларускім кнігазборы" том Вінцука Адважнага, яшчэ раз падумалася, што найгалоўнейшы наш скарб — гэта мова. Прычым, не столькі акадэмічна літаратурная, уніфікаваная, але найперш мясцовая, рэгіянальная, жывая гутарка. Такой мовы, якой пісаў Адважны — Язэп Германовіч, нараджэнец Гальшанаў, у гэтым славутым мястэчку ўжо няма. З'ява характэрная для ўсёй краіны. Спачатку беларуска-польска-габрэйскія мястэчкі пераўтварыліся ў савецкія вёскі, а зараз у абсалютна незразумелыя і недарэчныя аграгарадкі. Але ў Гальшанах, а пра іх пойдзе гаворка, дух старых легендаў яшчэ жыве. Невыпадкова, менавіта тут атрымаў прапіску агульнанацыянальны фестываль прывідаў, традыцыя якога ўжо фармуецца.

Дзівосны від на Гальшаны ўзнікае, калі едзеш з боку Трабаў — мястэчка пры набліжэнні нібыта вырастае з зямлі. Здалёк відаць барокавы касцёл і кляштар. Гальшаны, вуліцы якіх размешчаны крыж на крыж, багатыя разнастайнымі адзнакамі гісторыі, якія размясціліся ў розных кутках і ускраінах мястэчка: рэшткі старога млына, праваслаўная Георгіеўская царква і каплічка пры дарозе (якая вядзе да Багданава), гарадзішча на летапіснай рэчцы Карабель (на выездзе ў бок Барунаў і Крэва), нядаўна пастаўлены помнік Соф'і Гальшанскай (у цэнтры праз дарогу ад касцёлу), дамы колішняй габрэйскай забудовы, ужо згаданы архітэктурны комплекс францішканцаў. Ёсць яшчэ гара, на якой паводле некаторых звестак вешалі паўстанцаў (гэта ўжо па гасцінцы ў кірунку Ашмяны) і дзе мой сябра Віктар Сазонаў, які нарадзіўся і вырас у мястэчку, марыць паставіць памятны крыж.

Славуты гальшанскі замак, услаўлены класікам нашай літаратуры Уладзімірам Караткевічам, стаіць неяк асобна. Па праўдзе, ад былога цудоўнага палацу Сапегаў да нашых дзён дайшлі толькі руіны, але нават яны могуць даць уяўленне пра хараство даўняга свецкага замку. Асноўныя разбурэнні ён зазнаў пасля другой сусветнай вайны, калі дамінаваў ваёўны атэізм і адмова ад усяго „аджыўшага". З замку расцягвалі цэглу, а пазней пад сценамі колішняга палацу зрабілі кароўнік. Дагэтуль у вачах стаяць кадры з дакументальнага фільма, што быў зняты па ініцыятыве Міхася Ткачова, які адзін з першых стаў біць у званы. Урэшце ферму для жывёлы ліквідавалі, больш-менш упарадкавалі пад'езд да помніка архітэктуры.

Да рэстаўрацыі яшчэ далёка, але павага да замку вярнулася.

Гальшаны не менш цікавыя і сваімі людзьмі. У мясцовых жыхароў здавён была слава панчошнікаў і канаводаў. І калі промысел рукавіц і шкарпэтак местачкоўцам асаблівага гонару не прынёс, дык у справе продажу коней яны дасягнулі надзвычай высокага майстэрства, а разам і сумнеўнай рэпутацыі. Нават цыганы, прызнаныя майстры ашуканства, не маглі скласці ім канкурэнцыі і абыходзілі Гальшаны бокам. З мястэчка выйшла нямала і выдатных людзей, прыкладам некалькі дзеячаў беларускага хрысціянскага руху.

Калі вы наведаеце Гальшаны, вам раскажуць пра дзівоснае гарадзішча, дзе ўбітая у зямлю рыдлёўка правальваецца на ўсю даўжыню, а вяртаецца акрываўленай, пра замураваную ў сцяну кляштара маладую жанчыну, прывід якой час ад часу паказваецца людзям, пра здані, якія дагэтуль жывуць у старым паўразбураным замку, пра многае іншае. Гісторыі гэтыя штораз абрастаюць новымі падрабязнасцямі, пікантнымі дэталямі і цікавінкамі — гальшанцы насамрэч умеюць расказваць. І ў аповедах іх шмат праўдзівага. Месца па праве прэтэндуе на сталіцу анамальнага турызму.



# Птушка бусел

Навукоўцы-арнітолагі сцвярджаюць, што Беларусь на чацвёртым месцы ў свеце па колькасці буслоў, пасля Польшчы, Украіны і Гішпаніі. Аднак, калі вылічыць на адзін квадратны кіламетр тэрыторыі, то, напэўна мы першынствуем. Гэтая вялікая птушка ўжо даўно стала ўстойлівым сымбалем Беларусі. У гэтым сэнсе з прадстаўнікоў фаўны з ёй можа параўняцца хіба толькі цар пушчы — зубр. Брэнд „бусел", аднак, выкарыстоўваецца не так шырока ў рэкламе. Адзін час у сталіцы выпускалася добрая гарэлка „Два буслы", але страціўшы смакавую якасць, яна згубіла і папулярнасць. У іншых харчовых і прамысловых таварах найменне гэтай птушкі нешта і не прыгадваецца. Можа таму, што самы буслы не церпяць прамысловасці і ўвогуле гораду, іхняя прастора — гэта вёскі з наваколлямі, дзе яны паважна ходзяць па балотах у чырвоных ботах. А як грацыёзна пры сваёй вялікай вазе буслы ўзлятаюць і без махання крыламі лунаюць у блакітным небе. Варта дзівіцца і іх моцы — кожны год трэба выпраўляцца у вырай — у далёкую Афрыку, дзе жывуць іх сваякі — марабу, а пасля вяртацца на свой кантынент у родныя гнёзды.

На бальшыні тэрыторыі Беларусі гэтую вялікую птушку называюць бусел, у некаторых рэгіёнах таксама бацян. І нават татальная русіфікацыя не ў змозе прышчапіць чужамоўнае „аист". Акрамя шырока распаўсюджанага белага бусла, у Беларусі вядуцца і чорныя буслы, якія гняздуюцца пераважна на Палессі, дзе для іх сапраўдны рай, радзей на Віцебшчыне і зусім рэдка ў астатніх рэгіёнах нашай краіны. Колькасць іх папуляцыі складае толькі тысячу з хвосцікам і таму чорны бусел упісаны ў Чырвоную кнігу.

За апошнія дваццаць гадоў пагалоўе буслоў у Беларусі прыкметна вырасла. Відаць паменшала „хіміі" на палях і лугах, развялося болей жабаў і іншай дробнай жыўнасці. Гадоў дзесяць таму на раллі пад Шчучынам давялося ўбачыць чараду у якой было каля паўсотні прадстаўнікоў слаўнага сямейства галянастых. Стракатае відовішча белага на чорным было незабыўным! А нядаўна невялікай кампаніяй мы падзівіліся вялікай колькасці гэтых прыгажуноў у вёсках Васілевічы і Парэчча на Слонімшчыне. Усё часцей жыхары нашых вёсак і мястэчак самы складаюць буслянкі, а птушкі ахвотна займаюць і асвойваюць прыгатаванае жытло. А ў агратурыстычнай гаспадарцы маіх добрых сяброў Святланы

і Юрыя Агаркаў з Дакудава, што на Лідчыне, бусел жыве проста на падворку і ў хляве, разам з курамі. Яшчэ буслянём птушка вывалілася з гнязда і непапраўна пашкодзіла крыло. Дбайныя гаспадары завезлі яе да ветэрынара і вылечылі, а бусел пачаў гадавацца і асэнсоўваць сябе ў іншай прасторы.

Пагалоўе буслоў на вёсках істотна вырасла, а вось дзяцей у сельскіх паселішчах нараджаецца ўсё менш. Не іначай людзі ўгнявілі нечым гэтую вялікую птушку, бо ўсім ведама, што менавіта яна прыносіць дзяцей. Расказваюць таксама, што бусел — надзвычай помслівая птушка. Калі чалавек яго ўкрыўдзіць, бусел абавязкова адпомсціць: ці прынясе і кіне ў двор ядавітую змяю, ці тлеючую галінку скіне на хату, каб падпаліць яе. Такі ўжо ў іх, буслоў, прынцыповы характар. А яшчэ гэтая прыродная істота нібы носьбіт нашай спадчыны, пра якую пясняр напісаў „аб ёй мне будзіць успамін на ліпе бусел клёкатам". Пры ўсім сказаным, мы ведаем пра гэтых дзіўных вялікіх птушак не так шмат. І часам здаецца, што яны з сваёй вышыні ведаюць пра нас намнога больш.



# Гонар Грунвальду

У гісторыі трагедыя і слава пераплятаюцца так часта, што ўрэшце прыходзіць час асэнсавання гэтай з'явы і роздум над нашым існаваннем на грэшнай зямлі. Мяркуючы спачатку назваць гэты нарыс „Слава Грунвальду", міжволі падумалася, што славу сваёй нацыі людзі прыносіць культурнымі, стваральнымі здабыткамі. А якая слава ў выйгранай шматгадовай вайне, у кровапралітнай бітве, якія прыносяць тысячы, дзесяткі тысяч смерцяў, сямейных трагедый, незваротных ахвяраў, што аддалі жыццё заўчасна ў пашчу ненажэрнага паганскага бога Марса?! І разам з тым стэрэатыпнасць гістарычнага прасторавага мыслення ўкараняе ў сведамасці менавіта такія вызначэнні. Аднак, усе войны падзяляюцца на заваёўныя і вызваленчыя. Тая страшная вайна была для нашага княства найперш абарончай. І хоць вырашальная баталія адбывалася ўжо на чужой зямлі, яна была для нас вынікам змагання за незалежнасць.

Лёсавая бітва так званай Вялікай вайны 1409-11 гадоў паміж Вялікім княствам Літоўскім і Польшчай з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з іншага, якая адбылася паблізу мясцовасці Грунвальд 15 ліпеня 1410 году, прынесла супернікам незлічоныя страты. Можна сказаць, што аб'яднанае ўсходнееўрапейскае войска з часткай татарскіх атрадаў разбіла заходнееўрапейскі рыцарскі легіён у якім былі сабраныя прадстаўнікі многіх краінаў. Адна з буйнейшых сярэднявечных бітваў прывяла да таго, што войска Тэўтонскага ордэну пацярпела жорсткую паразу. Гэта настолькі засела ў генетычнай памяці германцаў, што нага ўзброенага немца больш паўтысячы гадоў не ступала на беларускую зямлю. Аднак, нашай гісторыі так і не ўдаецца збіцца з наканаванай спіралі развіцця. Як неяк заўважыў Зянон Пазняк: „Што б не адбывалася ў гісторыі, немцы і расейцы заўсёды супраць нашага Вялікага Княства".

Бітва пад Грунвальдам ці Дуброўнам (сучасныя літоўцы называюць яго таксама „Жальгірыс") была і часам выяўлення найбольшага вайсковага таленту Вялікага князя Вітаўта. Яму прыпісваюць такую фразу датычна крыжакоў, звернутую да сваіх ваяроў: „Ну і што, што яны ў латах? Я дам кожнаму з вас па вядры!". Пішуць таксама, што пакуль Вітаўт выяўляў сваю кемлівасць і адвагу, Ягайла, якога ў нас не любяць (і ёсць за што), доўга маліўся ў сваім шатры, карыстаючыся ахвярнас-

цю саюзнікаў. Як бы там не было, маем разам з палякамі пасля гэтай страшнай бітвы агульны гонар.

У найноўшы час, калі пасля развалу Савецкага саюзу адкрыліся граніцы, гарадзенскія „харугвы" пабывалі на Грунвальдскім полі прынамсі тры разы. У 1990-ым у час урачыстага „круглага" святкавання яе ўзначальваў гісторык і адзін з лідараў „Паходні" Міхась Ткачоў. Польшча і Летува тады былі прадстаўлены на роўні прэзідэнтаў. У 1997-ым мы прыехалі аўтобусам пад час звычайнага штогадовага адзначэння, а арганізатары гасцінна адвялі нам, нашым сцягам і харугвам, пачэснае месца ў цэнтры. Але найбольшыя ўражанні засталіся, канешне ад святкавання юбілейных 600-ых угодкаў у 2010-ым годзе. Страшная спёка, мноства рыцараў стракатых адценняў, мора разнастайнай сімволікі і гістарычных касцюмаў, сярэднявечная музыка, шматлікія баі, урэшце рэканструкцыя самой бітвы.

Грунвальдскае поле, палітае крывёй дзесяткаў тысяч чалавек, уражвае сваёй прасторай. Дух захоплівае, калі ўявіць, што больш сямі гадзін тагачасныя ваяры малацілі адзін аднаго страшным і вострым жалезам, які бразгат, крык і стогн стаялі пад чыстым небам. Зараз на Грунвальдскім полі багата вялікіх і маленькіх помнікаў. Але, хіба, бракуе хрысціянскага храма.



# Стадыён „Дынама"

Шаноўнага чытача магчыма здзівіць, што ў пералік выдатных аб'ектаў беларускай гісторыі, нацыянальных каштоўнасцяў я залічаю зараз мінскі стадыён „Дынама". Асабліва вытанчанымі архітэктурнымі формамі сталічны „калізей" не вылучаецца і наўрад ці можа моцна ўразіць пры наведванні. Прыкладам, дэкаратыўная скульптура „Бег" — класічная праява мастацтва эпохі сацрэалізму. І разам з тым, хоць бы колькасцю людзей, якія наведалі за апошнія паўстагоддзя гэтую арэну, аб'ект увойдзе у лік найбольш папулярных у нашай краіне месцаў.

Першасны стадыён „Дынама" быў збудаваны ў страшныя сталінскія часы: адчынены ў 1934-ым, рэканструяваны ў 1939-ым. Як ведама пасля другой сусветнай вайны Мінск амаль увесь ляжаў у руінах, не ацалела і спартовае збудаванне. Новы стадыён быў пабудаваны ў 1947-54 гадах (асноўныя архітэктары Мікалай Колі і Міхаіл Парусьнікаў). Чарговую сур'ёзную рэканструкцыю арэна перажыла, калі яе рыхтавалі да алімпійскага футбольнага турніру 1980-га году. Асноўныя гульні праходзілі ў Маскве, але частка пяцікальцовага „пірагу" перапала і некаторым саюзным рэспублікам. Так эстонскі Талін атрымаў права на рэгату, а ўкраінскі Кіеў і беларускі Мінск на папярэднюю стадыю футбольнага спабору. Такім чынам „Дынама" прымаў алімпійскія зборныя Алжыру, Сірыі, Гішпаніі, Югаславіі, Фінляндыі, Коста Рыкі, Іраку.

У 1982-ым годзе першае і адзінае золата футбольнага першынства краіны саветаў мінская каманда кавала цягам сезону на розных палях, вырашальныя пераможныя бітвы адбыліся на маскоўскай сінтэтыцы (здаецца з часоў Альгерда беларусы не мелі ў Маскве такога трыумфу!), але бальшыня ачкоў была набраная якраз на „Дынама", дзе кшталтаваўся беларускі патрыятызм і гонар. А 14 верасня 1983-га году мне, тады яшчэ школьніку з вёскі, давялося стаць сведкам еўракубкавага дэбюту нашага флагману. Відовішча было незабыўнае — больш пяцідзесяці тысяч гледачоў у адзіным парыве віталі першы гол і першую вікторыю любімай каманды. Гол са штрафнога Юрыя Курненіна (светлай памяці!) дагэтуль стаіць у вачах.

У 1985-ым Мінск зноў атрымаў права на груповы турнір — на гэты раз стадыён прымаў юніёрскі чэмпіянат свету. Адзіны свой „увал" (хто не ве-

дае — гэта выходны дзень пад час службы ў войску) з вучэбнай часткі сувязі за паўгады муштры аўтар гэтых радкоў патраціў менавіта на наведванне гульні першынства. Потым была процьма іншых матчаў, сярод якіх пад канец існавання СССР памятны фарс мінскага „Дынама" з душанбінскім „Памірам". Гэта быў канец савецкага футболу ва ўсіх сэнсах. Сімвалам пераменаў у канцы васьмідзесятых стаў канцэрт на „Дынама" рок-гурту ДДТ, на яго мы ездзілі ўжо студэнцкай кампаніяй. Да слова, лідар ДДТ Юрый Шаўчук і зараз актыўна выступае за дэмакратычныя перамены як у Расіі, так і ў Беларусі.

Суверэнны час прынёс заўзятарам новыя жарсці. Найбольш памятная (і пераможная!) гульня зборнай краіны — 7 чэрвеня 1995-га з Нідэрляндамі. Ужо прайшоў ганебны рэферэндум па змене нацыянальнай сімволікі, але людзі прыйшлі на матч менавіта з бел-чырвона-белымі сцягамі. Іх налічвалася некалькі соцень і магу сцвярджаць, што аніводны мітынг апазіцыі ў найноўшай гісторыі, не збіраў столькі нашых штандараў. Пазней сцягі сталі забіраць „праваахоўнікі", на гульні ўжо не пускалі нават у кашульках адпаведных колераў і многія кінулі хадзіць і прыязджаць на міжнародныя матчы. Мы не перасталі любіць футбол, мы проста чакаем, калі сталічны стадыён „Дынама" зноў стане нашым.



# Святло Жыровічаў

Сярод беларускіх рэлігійных святыняў жыровіцкі асяродак займае асаблівае месца. За многія стагоддзі тысячы людзей звярталіся па заступніцтва да Маці Божай Жыровіцкай. І напэўна яго знаходзілі. Справа гэта глыбока духоўная, таму не кожны захоча падзяліцца сваім досведам у такой інтымна-асабістай сферы. Калі ўсё добра, людзі рэдка задумваюцца пра вечнае. Калі ж здараецца бяда, ці агортвае самотнасць, роспач, безнадзейнасць у нейкай жыццёвай сітуацыі, шукаюць найбліжэйшы шлях да Бога. А потым, калі ўсё спакваля наладжваецца, зноў забываемся пра галоўнае.

У пятнаццатым стагоддзі пастушкі мясцовага магната Аляксандра Солтана знайшлі ў лесе маленькі абразок на грушцы-дзічцы, які ззяў у прыцемку. Далей гісторыя распавядае, як Солтан паклаў дзівосную выяву на камені-яшме ў куфар, а калі хацеў паказаць гасцям, абраз знік. Праз некаторы час пастухі знайшлі іконку на тым жа самым месцы ў лесе. Солтан успрыняў такую праяву як знак звыш і пастанавіў заснаваць тут храм. Першасная драўляная царква згарэла ў 1520-ым годзе, спярша меркавалася, што загінуў і цудоўны абраз. Аднак неўзабаве яго знайшлі дзеці на камяні, з гэтага часу сюды пачынаюцца паломніцтвы. На месцы другога з'яўлення іконы была пабудавана царква — з адпаведнай назвай — Яўленская. Да слова, той легендарны камень дагэтуль ляжыць у ёй і служыць прастолам. Крыху пазней паўстае мужчынскі Жыровіцкі манастыр. Яго развіццю спрыяў сам канцлер Вялікага Княства Леў Сапега, які некаторы час быў уладальнікам Жыровічаў. Слава пра санктуарый і цудатворную ікону хутка разышлася па ўсёй дзяржаве. Штогод мясціну наведвалі каля 10 тысяч паломнікаў розных веравызнанняў. Абраз Маці Божай Жыровіцкай дагэтуль шануецца асноўнымі хрысціянскімі канфесіямі Беларусі. У сярэднявеччы і пазней сюды прыязджалі манархі і магнаты, якія рабілі шчодрыя ахвяраванні. „Бяграфія" асяродку была складанай, як і ўся наша гісторыя. Сёння ж няма сэнсу спрачацца, хто зрабіў большы ўнёсак у развіццё Жыровіцкага кляштару — праваслаўныя ці ўніяты. Галоўнае — што гэта наша агульная спадчына, супольны духовы здабытак.

У савецкі час жыровіцкая святыня, як і многія іншыя рэлігійныя асяродкі, была занядбаная. Памятаю, калі першы раз патрапіў сюды, то з жыватвор-

най крыніцы тырчэла звычайная труба, а наўкола была гразь і валялася смецце. Зараз крыніца ўпарадкавана і дагледжана, побач з ёй пастаўлена каплічка, створана купальня, у якую можна патрапіць у кожную пару году. Манастыр і храмы таксама адроджаны. На тэрыторыі комплексу ажно некалькі культавых будынкаў розных памераў і прызначэння. Асабліва хораша глядзіцца Крыжаўзвіжанская царква-кальварыя на некаторым узвышшы. Дрэвы, якія растуць наўкола, усе схіліліся да яе. Такое можна пабачыць яшчэ хіба толькі ў Грабарцы на Беласточчыне. А яшчэ Жыровічы сёння для многіх — гэта сустрэчы з інакам Мікалаем. Беларускі паэт і філосаф Алег Бембель ужо даўно пакінуў сталіцу і знайшоў свой прытулак у абіцелі. Асабіста для мяне кожная, нават зусім кароткая, гутарка з ім вельмі дарагая.

Нашы людзі часцяком выбіраюцца ў далёкія падарожжы, замежныя вандроўкі і нават рэлігійныя пілігрымкі. Аднак, многія з іх ніколі не былі ў Міры, Навагрудку, Нясвіжы. А багатая гісторыя, дзівосныя здабыткі культуры зусім побач. Так і з святлом Жыровічаў, якое можа адкрыцца кожнаму, хто шчыра гэтага захоча.



# „Магутны Божа"

Адзін мой брат па веравызнанні неяк прызнаўся, што ходзіць на набажэнствы найперш для таго, каб у канцы імшы супольна заспяваць з іншымі прыхаджанамі ўрачысты гімн „Магутны Божа". Ён канешне ўтрыраваў, але я таксама неяк злавіў сябе на думцы, што без гэтага выканання не было б паўнаты наведвання царквы. Гімн „Магутны Божа" настолькі арганічны, што падаецца ўжо амаль кананічным.

На золку нашага суверэнітэту ў беларускіх асяродках ішла надзвычай жывая, часам зацятая, дыскусія на тэму, якому з гістарычных гімнаў быць дзяржаўным. Апроч твору „Магутна Божа" фігуравалі, зразумела, „Мы выйдзем шчыльнымі радамі" аўтарства Макара Краўцова і знакамітая „Пагоня" Максіма Багдановіча. Пры ўсёй павазе да двух апошніх, усё ж яны толькі яскравы зрэз часу і хоць актуальныя сэнсава (на жаль!) і сёння, але ўсё ж абмежаваныя ў гістарычнай прасторы. „Магутны Божа" — гімн вечны, на ўсе часы, пакуль зямля круціцца пад сонцам, пакуль жыве Беларусь. І што важна, гэтая малітва не прывязаная да нейкай адной канфесіі, па вялікім рахунку яна адпавядае нават не толькі хрысціянам, але і прадстаўнікам іншых рэлігій. Да ўсяго „Магутны Божа" — не проста рэлігійная, але і духоўная песня. Адзін з вядомых палітолагаў нядаўна публічна выславіўся, што беларусы — зусім не рэлігійная, а хутчэй атэістычная нацыя. Можа яно і так. Але тым больш нам патрэбны такі гімн як „Магутны Божа" з яго глыбокай пранікнёнасцю. Для таго, каб хоць у якой ступені пазбыцца абыякавасці і баязлівасці, зайздрасці і сквапнасці, паўсюднага брыдкаслоўя і татальнага п'янства, многа чаго іншага заганнага, а прыдбаць тыя рысы, якія ўзвышаюць чалавека, лучаць яго з Усявышнім, арганічна змушаюць думаць пра вечнае. А што датычыць нібыта „несвецкасці", то не баяцца ж, прыкладам, амерыканцы дзяржаўнага дэвізу „Нацыяй кіруе Бог". То і мы не мусім цурацца нашага выдатнага гімну і сумнявацца зрабіць яго агульнанацыянальным. Пакуль, аднак, гэта толькі мары, у краіне пануюць зусім іншыя ідэалы і парадкі. Калі б нашым дзяржаўным гімнам быў „Магутны Божа", а не бесхрыбетнае і аморфнае, не падмацаванае нацыянальнай традыцыяй „мы беларусы, мірныя людзі", то дакладна ў Беларусі не было б культу савецкага, не было б знікнення людзей, не было б смяротнага пакарання, не было б пераследу за перакананні і ўдзел у грамадска-палітычным жыцці.

З 1993-га году ў слаўным некалі Магілёве пачаў праводзіцца аднайменны міжнародны фестываль духоўнай музыкі. Ён набіраў папулярнасць і быў узорам высокага харавога і вакальнага майстэрства. Лаўрэатамі фестывалю, на які прыязджалі як прафесійныя, так і аматарскія калектывы, былі розныя выканаўцы. На жаль, у сённяшніх умовах гэтае свята культуры сталася незапатрабаваным, так як і ўсё сапраўднае наша, беларускае. Але сам гімн „Магутны Божа" спяваецца на многіх беларускіх імпрэзах і акцыях, ён прыдатны і пры ўшанаванні палеглых і перад пачаткам кожнай справы.

Уласна верш „Малітва" быў напісаны паэткай Натальляй Арсенневай у страшным 1942-ім годзе, калі таталітарныя гітлераўскі і сталінскі рэжымы змагаліся паміж сабой і нішчылі беларускую зямлю. Цікава, што айчынныя царкоўныя дзеячы адразу яе не прынялі. Але кампазітар Мікола Равенскі стварыў на верш Арсенневай кампазіцыю такой адметнасці і гарманічнасці, што гімн намнога пераважыў сваіх аўтараў. Перажыве „Магутны Божа" і ўсіх нас. Бо, як ведама, рукапісы не гараць, а музыка вечная.



# Зэльва Геніюшаў

Зэльва была ведамым мястэчкам задоўга да дваццатага стагоддзя, калі ў ёй пражывала сям’я Геніюшаў. Славілася яна ў мінулым сваімі кірмашамі Але бальшыня беларусаў, якія наведвалі гэтую мясціну на Гарадзеншчыне ў найноўшы час, прыязджалі найперш да Ларысы Геніюш. Прычым як пры жыцці, так і пасля смерці паэткі. Неяк крыху недарэчна з аднаго боку залічаць да нацыянальных скарбаў магілу чалавека. А з іншага, месца апошняга спачыну Ларысы і Янкі Геніюшаў стала кропкай штогадовага паломніцтва як да святыні. І апошнія пятнаццаць гадоў заўсёды над гэтай магілай лунае наша сімволіка. Згодна з запаветам паэткі: „Хай зашуміць хоць на магіле мне бел-чырвона-белы сцяг...”.

„Людзі ў цывільным” пільнавалі кожны крок Ларысы Антонаўны пры жыцці, цяпер яны баяцца, што беларусы прыходзяць на яе магілу. Але як ні пераследавалі Ларысу Геніюш, як ні здзекаваліся, як ні цкавалі яе ўсялякія гестапаўцы і „товарищи-майоры”, як нікуды ні выпускалі, як ні забаранялі вершы пры жыцці і ўжо ў апошняе дзесяцігоддзе, а яе імя застаецца сымбалем Беларусі, светлым сцягам велічы духу і свабоды, прыкладам ахвярнасці і нязломнасці, хрысціянскага служэння сваёй Айчыне і народу.

Дзяржава якая носіць назву Рэспубліка Беларусь, гэтае імя старанна замоўчвае і рэтушуе. Паслядоўныя нашчадкі камуністычна-савецкай ідэалогіі ненавідзяць Геніюш. За што? За тое, што Ларыса Геніюш была Беларускай і да канца свайго жыцця так і не прыняла савецкага грамадзянства. За тое, што пісала беларускія вершы і не была такой як усе, вытрымала здзекі сталінскага ГУЛАГу і засталася вернай беларускай ідэі.

А нарадзілася Ларыса Міклашэвіч у маёнтку Жлобаўцы Ваўкавыскага павету. Ад колішняга радавога гнязда, што каля вёскі Палаўкі, амаль не засталося следу (летась грамадскія актывісты ўпарадкавалі месца былой сядзібы). Лёс быў надзвычай жорсткі да паэткі і яе блізкіх. Бацька згінуў у Гарадзенскай турме пасля 1939-га году, маці памерла ад голаду ў Казахстане ў 1945-ым, адзін з братоў — Аркадзь зложыў галаву пад Монтэ-Касінам у баі з фашыстамі. У лютым 1949-га паэтку засудзілі да 25 гадоў савецкага канцлагеру. Як гэта ўсё вытрывала Ларыса — ведае

адзін Бог. Выйшаўшы на волю, Геніюш пасялілася на радзіме мужа ў Зэльве. У зборніку „Каб вы ведалі", які ўклаў Міхась Скобла, сабраная эпісталярная спадчына паэткі. Кніжка дазволіла яшчэ паўней асэнсаваць глыбіннасць яе светагляду.

Родная ж Гарадзеншчына пакуль няўдзячная Ларысе Антонаўне. У ваўкавыскай і зэльвенскай хатах, дзе жыла вялікая паэтка, па-ранейшаму месцяцца чужыя людзі, у дзяржавы няма ніякага жадання знайсці пару тысяч даляраў, каб купіць гэтыя дамкі і зрабіць мемарыяльныя музеі. Будзем спадзявацца, што гэтыя будыніны захаваюцца і новая беларуская ўлада дасць ім належнае прызначэнне. А пакуль штогод людзі прыязджаюць у Зэльву, каб пакланіцца магілам Янкі і Ларысы Геніюшаў і разгарнуць бел-чырвона-белы сцяг, памаліцца ў мясцовай царкве, ускласці кветкі да невялічкага помніку, што стаіць на тэрыторыі паблізу праваслаўнага храма, пастаяць каля хаты, якая пры жыцці Геніюш летам патанала ў бэзе і кветках. І гэтае імя будзе гонарам і сумленнем Беларусі, пакуль будзе жыць наша краіна, існаваць наша зямля. Бо такіх асобаў у кожнай нацыі — адзінкі, тым больш дарагая для кожнага патрыёта Беларусі постаць Ларысы Геніюш. Творы вялікай беларускай паэткі выкінутыя цяперашнім рэжымам з школьных падручнікаў, але постаць Ларысы Геніюш і надалей лучыць нацыю.



Ёсць архітэктурныя збудаванні, якія пры наведванні выклікаюць асаблівую сентыментальнасць. Кляштар у Барунах менавіта з такіх. Не памятаю ўжо, калі ўпершыню трапіў у гэтую мясціну, але яна неяк адразу запала ў душу.

Калі ехаць з Мінску, то да Барунаў можна даехаць праз Крэва, а калі з Гародні — то праз Гальшаны. І той і другі шлях надзвычай цікавы. У Барунах падарожніка заўсёды чакае Божая Маці. Перад яе абразам здавён складалі і складаюць просьбы, падзякі і малітвы. Можна набраць вады з мясцовай крыніцы. Наконт паходжання назвы Баруны ёсць некалькі версіяў. Сама простая, што некалі ў наваколлях быў густы лес — бор. Да яе блізкая гіпотэза, якая выводзіць тапонім ад слова „барно" — тарфяное месца, зарослае хваёвым лесам. „Бурунамі" некалі называлі і завалы дрэваў у лесе.

Гісторыя барунскага кляштара непарушна звязана з мясцовым цудатворным абразам. Знакаміты кляштар базыльянаў быў пабудаваны ў другой палове 18 стагоддзя. Ён складаецца з царквы манастырскага корпусу з мураванай агароджай і вежай-званіцы. У 1692 па фундацыі Мікалая Песьляка была пабудавана ўніяцкая драўляная царква, сюды на стала прыехалі сямёра манахаў-базыльянаў. У 1700-07 гг. паўстала мураваная царква, якая пазней знішчана пажарам. У 1715 храм быў адбудаваны Львом Кішкам. Новая царква пабудавана ў 1747-57 паводле праекту А. Асікевіча, дабудавана ў 1760-70 гг. Манастырскі корпус створаны ў 1778-93 гадах. У другой палове 18-га стагоддзя перад царквой пабудавана капліца. У пачатку 19-га стагоддзя працавала 6-клясная школа базыльянаў. Школа сталася сапраўдным адукацыйным цэнтрам, адным з найбуйнейшых. У школе вучылася ажно да 200 вучняў, пераважна з Ашмянскага павету, яе скончылі такія ведамыя пазней дзеячы як Антон Адынец, Ігнат Ходзька, Юлій Корсак...

Школа мела сваю эмблему: вышытая на белым атласе патронка-Багародзіца, а з адваротнага боку каласісты сноп збожжа — сімвал навукі, які выхаванцы жартоўна тлумачылі па-свойму: „вучыся асёл добра — будзеш мець свой корм". У 1831-ым годзе базыльянская школка была скасаваная, не стала каму глядзець і за кляштарам. А само мястэчка спакваля стала пераўтварацца ў звычайную вёску. Але касцёл не зачыняўся ніколі, нават у савецкія часы — відаць на тое была асаблівая ласка з Неба. Пацверджаннем таму цудат-

ворны абраз Маці Божай, які аздаравіў многіх. Пра гэты абраз у двух сваіх творах згадвае і Адам Міцкевіч.

Звязаная з Барунамі і паўстанцкая старонка — 1 верасня 1863 году каля іх адбыўся бой паміж інсургентамі і расейскім войскам. У Барунах вучыліся, працавалі і жылі многія ведамыя дзеячы культуры і беларускага руху. Асобнай згадкі вартая постаць Сымона Рак-Міхайлоўскага, які быў адным з заснавальнікаў тут і дырэктарам у 1920-22 гадах беларускай настаўніцкай семінарыі. У наш час ажно 10 гадоў тут жыў і працаваў светлай памяці Ян Матусевіч, святар і дэкан Беларускай Грэцка-каталіцкай царквы. А яшчэ ў Барунах нарадзіўся Сяргей Гарлуковіч, адзіны ў гісторыі беларус — чэмпіён алімпійскіх гульняў па футболе.

Сёння прыгожы барокавы Петрапаўлаўскі касцёл цалком адбудаваны і радуе наведнікаў. Што датычыць корпусу кляштару, то яго мураваны будынак занядбаны: шыбы павыбіваныя, дзвярэй няма, у сутарэннях і некалі шыкоўных памяшканнях, дзе яшчэ нядаўна жылі людзі, шмат друзу. А таму агульнае ўражанне досыць сумнае. Унікальны будынак дагэтуль не мае гаспадара і разбураецца.



Фальварак Кушляны на Смургоншчыне — гэта тое месца, дзе міжволі задумваешся пра суіснаванне чалавека і прыроды, пра ўплыў навакольля на светагляд і пра многае іншае, шчымлівае і глыбока асабістае. Мясцовыя краявіды заварожваюць сваёй непаўторнасцю, узнікае адчуванне, што нібыта гэта асобны свет і нічога больш не існуе. У такой мясціне гадаваўся і жыў наш вялікі патрыёт, паэт і „сялянскі адвакат" Францішак Багушэвіч, чалавек у беларускай гісторыі, якім скончылася адна эпоха і пачалася іншая.

У Кушлянах Багушэвіч правёў апошнія свае гады — з 1898 да смерці ў 1900-ым. Аднак, валодаў фальваркам род беларускага песняра здаўна — яго купіў яшчэ прапрадзед Антон у 1749-ым годзе. Гадаваўся будучы паэт у іншай хаце, якая не захавалася, а той дом, які існуе, быў пабудаваны напрыканцы жыцця Багушэвіча.

Адраджацца Кушляны пачалі ў сярэдзіне васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, калі пачалі паўставаць новыя беларускія суполкі. Менавіта яны прыязджалі сюды на талаку, каб парадкаваць сядзібу, пазней эстафету падхапілі ўжо дзяржаўныя структуры і ўрэшце паўстаў мемарыяльны музейны асяродак. Доўгія гады яго захавальнікам і вартаўніком быў надзвычай цікавы чалавек — Міхал Ляпеха. Сюды ж у Кушляны настала пераехаў паэт Алесь Жамойцін, які стаў дырэктарам створанага Літаратурнага музею. Цяпер на тэрыторыі сядзібы дом, парк з пладовым садам, драўляная альтанка з назвай „Распятая воля", зробленая некалі Багушэвічам у памяць ахвяраў паўстання 1863 году (яе маляваў яшчэ Язэп Драздовіч да рамонту). Непадалёк ад сядзібы камень „Памяці Мацея Бурачка". Багушэвіч любіў пасядзець на ім, папісаць вершы, лісткі потым клаў пад валун у адмысловую схованку. А пасля яго смерці блізкія выбілі на гэтым камяні адпаведны напіс. Асаблівая адметнасць фальварку — аўтэнтычны свіран дзевятнаццатага стагоддзя. Гэтая абора захавалася таму, што была мураванай, Багушэвіч надзвычай любіў лес і заклікаў іншых берагчы дрэвы. Цешаць вока старыя прысады з клёнаў, вязаў, каштанаў, ліпаў. Некалі было тут і шмат дубоў, ведама гісторыя пра тое, як пад імі Багушэвічу ўдалося „пасеяць" баравікі, а больш ніхто падобны дослед паспяхова паўтарыць не змог. У блізкіх ваколіцах рэшткі яшчэ двух старых паркаў — удзельнікаў даўняга паўстання Ясевіча і Маркоўскага. Уласна экспазіцыя

музея складаецца з дзвюх частак: мемарыяльнай, дзе змешчаны асабістыя рэчы і мэбля паэта і гісторыка-літаратурнай, якая адлюстроўвае біяграфію і творчасць Багушэвіча. Асаблівы экспанат — чатырохпалосны сцяг паўстанцаў.

Францішак Багушэвіч пражыў шчаслівае жыццё: змагаўся са зброяй за вольнасць, навучаў іншых, бараніў людзей, меў сваё гняздо, садзіў дрэвы, працаваў на зямлі і жыў у свеце паэзіі. Цяжка сказаць, што адчуваў ён сам, але, здаецца, што найбольшай яго радасцю былі якраз Кушляны. Сёння заснавальнік беларускай літаратуры на дзіва ўшанаваны ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі героямі: дагледжаная магіла і помнічак у Жупранах, адроджаная светлай памяці Юрыем Гілём родавая сядзіба ў Свіранах, што цяпер на тэрыторыі Летувы, нядаўна пастаўлены да дня беларускага пісьменства прыгожы помнік у Смургонях. Але, найбольшай памяццю пра Багушэвіча канешне ёсць Кушляны, якімі можна зацікавіцца праз кніжкі краязнаўца Уладзіміра Содаля, а закахацца ў іх, прыехаўшы і пахадзіўшы па гэтай мясціне. Мясціне, дзе так хораша дыхаецца і марыцца.



# Калыханка ад Бураўкіна

Знаходзячыся ў старадаўняй нашай сталіцы Вільні, чарговы нарыс „беларускіх скарбаў" меркаваў прысвяціць чарговай віленскай архітэктурнай каштоўнасці, але на канферэнцыі беларусаў Балтыі якраз віншавалі з 75-ымі ўгодкамі нашага знакамітага паэта Генадзя Бураўкіна. Адзін з выступоўцаў у час прамовы сказаў, што толькі сваёй „Калыханкай" Генадзь Мікалаевіч зрабіў больш для адраджэння роднай мовы, чым многія цэлыя арганізацыі і ўстановы. Бураўкін напісаў мноства адметных твораў, якія ляглі ў скарбонку беларускай паэзіі. Многія з вершаў сталі папулярнымі песнямі: „Я не ганю зямлі чужыя" і „Незнаёмка", „Малітва" і „Белы снег", „Матылі" і „Зачараваная" ужо класікай нашай песеннай культуры. Але найбольш і па-сапраўднаму народнай стала менавіта „Калыханка" („Доўгі дзень"), музыку да якой напісаў стваральнік славутага некалі яшчэ за савецкім часам ансамблю „Верасы" — Васіль Раінчык. Прызнаюся, што адразу быў перакананы, што сам яшчэ з дзяцінства засынаў пад „збеглі зайкі ўсе ў лясы, змоўклі птушак галасы", але потым са здзіўленнем выявіў для сябе, што песні нават менш трыццаці гадоў. Гэта пацвярджае толькі адно — арганічнасць гэтага простага знешне твора, які кранае не толькі дзяцей, але і дарослых. Як нараджаюцца такія песні, не ведае, напэўна, ніхто. У нейкі рэдкі момант кампазітар „ушчапляе" ноты на словы, якія становяцца песняй, набываюць новае, зусім ужо іншае жыццё. Дакладней спярша нараджаецца мелодыя ў душы, якая была ад пачатку закладзена ў таямнічым кодзе паэзіі, а пасля ўжо гэта афармляецца праз нотны стан, аранжыруецца і ўрэшце выходзіць у грамадскасць. Не хочацца змяншаць таленту кампазітара, але першаснае ўсё ж слова, а кампазітар толькі раскрывае слухачу гэты таямнічы код.

Беларусь скрозь час багатая на паэтаў: ад Багушэвіча і Багдановіча праз Купалу з Коласам да Бураўкіна і Барадуліна. Народ рэдка належна ацэньвае сваіх літаратараў, на жаль, ігнаруюць выдатных беларускіх творцаў і розныя „нобелеўскія камітэты". Так і не атрымаў заслужанага прызнання геніяльны пісьменнік сусветнай значнасці Васіль Быкаў, вартыя „нобеля" і Рыгор Барадулін ці Генадзь Бураўкін.

Больш дзесяці гадоў Генадзь Бураўкін узначальваў беларускае тэлебачанне, па-сутнасці ён

разам з аднадумцамі-паплечнікамі ствараў яго, выпрацоўваў адметную нацыянальную канцэпцыю. У наш час гэтая руплівая праца амаль знішчана, татальная русіфікацыя зрабіла беларускае тэлебачанне безаблічным, другасным, няўклюдна скалькаваным з маскоўскага. Колькі год таму і звыклая „Калыханка” была заменена на „больш сучасную” у выкананні ідэалагічна „правільнай” і адданай усім целам дзяржаўнаму курсу спявачкі. Аднак новы твор не прыжыўся, многія патрабавалі вярнуць ранейшую калыханку. І дзіўная рэч — кіраўніцтва тэлерадыёаб’яднання прыслухалася да гледачоў і вярнула ў этэр звыклую дзіцячую песеньку Раінчыка-Бураўкіна.

На нашым студэнцкім курсе была любімая песня (у свой час першым яе выканаўцам быў ансамбль „Сябры”), якую мы часта спявалі пад гітару. Але прызнаюся, што толькі нядаўна я даведаўся, што яе словы стварыў таксама Генадзь Бураўкін, прычым напісаў іх у той год, калі нарадзілася бальшыня маіх аднакурснікаў.

„Мы ідзём па сцяжынках, на якія не вернемся.
Мы ідзём па дзіцячых здзічэлых лясах.
Павуцінка — уверсе. Павуцінка — у верасе.
Павуцінка — у тваіх і ў маіх валасах...

А нашы дзеці слухаюць і засынаюць пад бураўкінскую „Калыханку”.


svoboda.org

# Царква ў Мураванцы

Ёсць асаблівыя мясціны, адзнакі і помнікі з якіх прачынаецца і пачынаецца інтарэс да краязнаўства. Для мяне асабіста такім пунктам адліку стала царква ў Мураванцы. Памятаю, як свой першы, досыць кампіляцыйны артыкул, які быў надрукаваны ў шчучынскай раённай газеце „Дзянніца" (можа тады яна звалася яшчэ „Савецкая вёска"?) прысвяціў менавіта гэтаму храму. І сапраўды, як можна было не захапіцца — у нейкай невялічкай вёсачцы такі ўнікальны шэдэўр архітэктуры еўрапейскай значнасці!

Трэба зазначыць, што ў многіх крыніцах, гэтую царкву часта называюць Маламажэйкаўскай. На такую памылку слушна звяртаў увагу яшчэ Уладзімір Караткевіч, які, здаецца, ведаў усё пра сярэднявечную і пазнейшую гісторыю Беларусі. Насамрэч царква адвеку стаіць менавіта ў Мураванцы, а шукаючы яе, можна памыліцца і сапраўды трапіць у Малое Мажэйкава, дзе захаваліся рэшткі старой сядзібы роду Ромераў.

Мураванкаўская царква Раства Багародзіцы — гэта ў ліку трох іншых храмаў (яшчэ святыні ў Сынковічах і Супраслі) бажніца абарончага тыпу. Збудаваная яна была ў шаснаццатым стагоддзі паміж 1516-ым і 1542-ім гадамі. Фундатарам выступіў віленскі падканюшы Шымко Мацкевіч Шкленскі. Пазней шчодрыя ахвяраванні на храм складалі іншыя заможныя асобы — Сапегі, Завішы, Юндзіловічы. Так што на пачатак сямнаццатага стагоддзя гэтая царква была адной з сама багатых у нашым Вялікім Княстве.

У час вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй царква была пашкоджана, а праз некалькі гадоў адноўлена. Яшчэ больш яна пацярпела ў іншы ліхі перыяд — у баявыя падзеі Паўночнай вайны. Гістарычныя крыніцы дакладна зафіксавалі, што храм абстраляла войска шведскага караля Карла XII. Сцены царкоўнай цытадэлі былі моцна пашкоджаны. У паўразбураным стане храм стаяў ажно да дзевятнаццатага стагоддзя. А ў 1822-ым і 1871-72 гадах царква зазнала значную, можна сказаць „празмерную" перабудову. Так частка байніц была разбураная ці замураваная, раскіданыя лесвіцы алтарных вежаў, пабудаваны прытвор, звонку на сценах з'явілася тынкоўка.

Крыніцы захоўваюць і надзвычай трагічную гісторыю дачыненняў мясцовага пана

Казіміра Кастравіцкага і святара Пятра Афанасевіча. Апошні перацярпеў ад свайго былога сябра страшныя пакуты і здзекі, забойства блізкіх, што ўрэшце прывяло і яго да смерці. А ўсё з-за таго, што Кастравіцкі звар'яцеў у пошуках золата, прага нажывы засляпіла яму і розум і чалавечнасць. Ці было яно насамрэч, гэтае золата, няведама дагэтуль.

У дваццатыя гады мінулага стагоддзя „за польскім часам" царква была прыстасаваная пад касцёл. Пры саветах храм быў занядбаны. А ўжо ў гарбачоўскую перабудову святыня была справядліва вернутая праваслаўным і прыдбала сучасны выгляд. У адрозненне ад сынковіцкай царквы, мураванкаўская выглядае не такой непрыступнай цвердзю, але архітэктурна яна больш вытанчаная і захапляе сваёй высакароднасцю, надзвычай арыгінальнымі формамі, гарманічным спалучэннем чырвоных сценаў і белых паясоў і нішаў.

Царква ў Мураванцы знаходзіцца непадалёк ад ажыўленай шашы Гародня-Менск. Паблізу гэтай магістральнай артэрыі не так багата цікавых і адметных мясцін. І вельмі прыкра за тых, што рэгулярна на хуткасці праносяцца па гэтай трасе і шкадуюць паўгадзіны на тое, каб крыху збочыць і пабачыць сапраўдную рукатворную прыгажосць, пакінутую ў спадчыну нашымі таленавітымі продкамі-майстрамі.





# Аўгустоўскі канал

З школьных падручнікаў геаграфіі яшчэ савецкага часу мы добра ведалі пра два штучныя водныя шляхі — Суэцкі і Панамскі каналы. Прынамсі ведалі пра час іх капання і пра кантынентальнае знаходжанне. Пра сваё ж, куды больш блізкае ў кожным сэнсе — прыкладам канал Агінскага ў Слоніме ці Аўгустоўскі канал нам не казалі ні слова. Нібы нічога гэтага не было зусім. А між тым Аўгустоўскі канал, пра які пойдзе гутарка, відаць, не мае аналагаў у еўрапейскай гідратэхнічнай гісторыі.

Штучны водны шлях, які злучыў басейны рэкаў Нёман і Вісла быў пабудаваны ў 1824-33 гадах пад кіраўніцтвам розных інжынераў. Капальнай і мuроўнай працы папярэднічалі дзве грунтоўныя даследчыя экспедыцыі пад кіраваннем Ігната Прандзінскага і Аляксандра Віртымбергскага. Цэнтральнай жа асобай быў падпалкоўнік Карл Рэес, які меў адмысловую адукацыю. Адкрыццё каналу адбылося ў 1839 годзе. Каб зразумець цікавае памкненне ідэолагаў гэтага праекту безумоўна патрэбна зазірнуць у кантэкст усяго дзевятнаццатага стагоддзя. Расійская імперыя пад час кіравання цара Аляксандра I вяла мытную вайну з Прусіяй і ёй патрэбны быў зручны абыход прускіх зямель. Да пабудовы прывяла найперш гаспадарчая мэтнасць — з басейну Віслы можна было такім чынам перавозіць грузы ў Балтыйскае мора.

Агульная даўжыня каналу ажно 102 кіламетры (для параўнання Панамскі мае працягласць 82 км), з іх на тэрыторыю Беларусі прыпадае 22. Сярэдняя глыбіня 1,8 метра, зразумела, што ёсць ўчасткі глыбейшыя, а ёсць і досыць плыткія. Тэрытарыяльна Аўгустоўскі канал ахоплівае сучасны Гарадзенскі раён і землі Сувальшчыны. Назва каналу пайшла ад павятовага цэнтру Аўгустаў, з возера Сервы паблізу яго бярэ пачатак гэты водны транзіт. Асноўным „пасярэднікам" паміж дзвюма вялікімі рэкамі, апяянымі ў беларускай і польскай літаратурах, выступае рэчка Бебжа. Акрамя яе ў водным праекце задзейнічаная Чорная Ганча, розныя азёры і сажалкі, пратокі паміж імі. На Гарадзеншчыне Аўгустоўскі канал працякае паміж вёскамі Чарток і Нямнова. Усяго на канале 18 шлюзаў, з якіх толькі 4 на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

У наш час канал з каралеўскім імем страціў сваё гаспадарчае і транспартнае значанне і стаў вылучна турыстычным аб'ектам. Дакладней, такім ён толькі становіцца.

Доўгі час у дваццатым стагоддзі водны шлях быў у занядбаным стане. Польская дзяржава намнога хутчэй зразумела перспектыву гістарычна-прыроднага аб'екту і стала выкарыстоўваць яго напоўніцу. У наваколлях Аўгустоўскага каналу паўсталі шматлікія асяродкі адпачынку, найперш і галоўным чынам агратурыстычныя гаспадаркі, якія хутка заваявалі значную папулярнасць. З беларускага боку землі вакол Аўгустоўскага каналу працяглы час былі недаступныя шырокаму колу і „каланізаваліся" наменклатурай, якая рыхтавала свае інтарэсы. Па дарозе на Сапоцкін быў выстаўлены нават адпаведны пост памежнікаў, уезд быў строга па пропусках. Так што аднойчы нашу краязнаўча-вандроўную групу затрымалі як парушальнікаў „зоны", не пусцілі і нават спрабавалі аштрафаваць. Давялося даводзіць свае правы праз скаргі і ўрэшце справа была зачынена. Аднак, знаёміцца з Аўгустоўскім каналам і яго наваколлямі мы паехалі ўжо з польскага боку. Цяпер памежную зону ў нас ужо знялі, на канал возяць школьныя і іншыя экскурсіі. Аднак гаварыць пра паўнавартаснае развіццё шляху пакуль рана, ранейшага „Свята мора" на шлюзе Дамброўка яшчэ няма.
Аўгустоўскі канал зноў злучыў Віслу і Нёман. Але вярнуць Беларусь у еўрапейскую прастору ён пакуль не ў змозе.



# Завоссе Міцкевіча

Вялікіх паэтаў нараджаюць не толькі маці, іх нараджае сама зямля, навакольная прырода і вышэйшая задума Творцы гэтага свету. Каб так падумаць, дастаткова пабываць у такіх мясцінах як Вязынка Янкі Купалы ці Завоссе Адама Міцкевіча. У мясціну дзяцінства знакамітага філамата, вялікага ліцьвіна, класіка польскай літаратуры давялося мне патрапіць у верасні 2011 году, пераменлівым асеннім надвор'ем — дробным дождджыкам уперамешку з сонцам.

Адроджаная сядзіба ў Завоссі зараз у Баранавіцкім раёне, досыць далёка ад цэнтральных турыстычных шляхоў. Да яе вядзе дастаткова добрая асфальтоўка з амаль бязлюднымі мясцінамі навокал. Доўгі час вяліся спрэчкі, дзе ўсё ж нарадзіўся Адам Міцкевіч — яшчэ сучаснікі паэта называлі хто Наваградак, хто вёску Асавец, фігуравалі ажно некалькі Завоссяў. Урэшце з дапамогай археалагічных раскопак шуканае месца ўдалося ўстанавіць. Яно цалкам супадае з апісаннямі наваколляў, якія знаходзім у баладзе „Тукай". Менавіта з Завосся закаханы Адам ляцеў на спатканні да сваёй Марылі Верашчакі ў Плужыны. У наваколлі можна заўважыць Калдычаўскае возера і абрысы колішняй Жарновай гары, якая пазней была ў значнай ступені зрэзана.

Зараз сядзіба ў Завоссі мае досыць прывабны выгляд. Шляхецкі маёнтак і экспазіцыя ствараліся найперш паводле апісанняў у „Пану Тадэвушу". Першакрыніцамі сталі таксама малюнкі, пакінутыя нам Напалеонам Ордам і Эдвардам Паўловічам. Так што фальварак і нават значная частка інтэр'еру маюць праўдзівы гістарычны змест. Комплекс складаюць уласна сядзібны дом пад чаротавым дахам, побач свіронак, крыху далей абора, гумно, калодзеж-журавель, у глыбіні двара ля возера лазня. Знаўцы цвердзяць, што ў часы Міцкевіча лазні на гэтай зямлі ставілі. А вось на тэрыторыі Польшчы іх не было.

Дырэктар музея-сядзібы Анатоль Еўмяннькоў рупліва дбае пра гэты куточак, разам з памочнікамі клапаціцца пра рамонт, высаджвае прыгожыя клумбы з кветкамі. Але грошай катастрафічна бракуе — каб належна зберагаць і шырыць такі ўнікальны куточак патрэбныя куды большыя сродкі. Тым больш, што пад комплекс адведзена ажно 16 гектараў зямлі, патрэбна развіваць інфраструктуру, стварыць тут гатэльчык, кавярню, зрабіць зручны мар-

шрутны даезд (зараз рэйсавы аўтобус не даходзіць да Завосся ажно 5 кіламетраў).

Цяжка паверыць, што Міцкевіч не пісаў зусім па-беларуску. Ягоны сябар Ян Чачот пісаў, а Адам зусім не пісаў? Гэта, канешне, зусім не доказ, нават ускосны. Галоўныя доказы — беларускамоўныя рукапісы, калі яны былі, напэўна незваротна знішчаны. Пра гэта ёсць розныя гісторыі.

Неяк яшчэ ў савецкі час, адзін з высокіх функцыянераў Гарадзеншчыны (прозвішча ў даным разе рэч неістотная), прымаючы гасцей з Польшчы, выдаў банкетны перл: „Для вас, палякаў, Міцкевіч — тое сама, што для нас беларусаў — Пушкін!”. Такое вось разуменне культурнае спадчыны. Але ў савецкі час імя Міцкевіча хоць бы вярнулася пасля доўгіх гадоў забароны. Сапраўдныя ж уваходзіны Міцкевіча ў нашу культуру яшчэ не адбыліся, хоць факт таго, што сядзіба ў Завоссі ёсць філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры абнадзейвае. У Завоссе зараз прыязджаюць не толькі турысты, але і вясельныя картэжы — маладыя хочуць сфатаграфавацца ў маляўнічым куточку, дзе некалі нарадзіўся славуты паэт. „Маленства край! Ты з намі да скanання — святы, як першае каханне”.

Сядзіба у Завоссі абсаджана дрэўцамі, сланечнікамі, буяюць асеннія кветкі, а на возеры ўзлятаюць вялікія чаплі...



# Вежа Гедыміна

Беларуская Вільня мае багата архітэктурных сымбаляў, апяяных нашымі паэтамі і даследаваных нашымі гісторыкамі. Адным з сама старажытных помнікаў ёсць вежа Гедыміна ў гонар заснавальніка старажытнай крывіцкай сталіцы. Вежа сваёй „біяграфіяй" непарушна звязана з гісторыяй віленскіх Верхняга і Ніжняга замкаў. Уласна збудаванне стаіць на Замкавай гары, прыродным узвышшы Вільні. Яно знаходзіцца на вышыні амаль 50 метраў ад падэшвы гары. Гэтая гара называецца таксама Гедымінавай, натуральна ў гонар таго князя, які заснаваў горад і зрабіў яго сталіцай Вялікага Княства Літоўскага. Паводле археалагічных даследзінаў устаноўлена, што на гары Гедыміна абарончыя збудаванні былі яшчэ ў першым тысячагоддзі, а з 13-га стагоддзя тут ужо былі знойдзены рэшткі значчных драўляных сценаў. У праекцыі вежа — гэта васьмігераннік, які складаецца з трох паверхаў і мае вышыню 20 метраў. Побач стаяць руіны сценаў старадаўняга замку. Абодва замкі моцна перацярпелі пад час нападу крыжакоў. Адбудоўваў віленскую цвердзь ужо ўнук Гедыміна — Вітаўт. Вежа Гедыміна — гэта ацалелая частка Верхняга замку, які ніколі не быў жылым, а служыў арсеналам. У час кіравання Аляксандра Ягелончыка тут месцілася людвісарня, ў сутарэннях была турма. А вось Жыгімонт Аўгуст аддаў гэтае памяшканне пад бібліятэку.

Амаль дваццаць пяць гадоў таму, яшчэ за савецкім часам, наша студэнцкая кампанія прыязджала сюды, шукаючы сляды беларускасці. На вяршыні вежы Гедыміна мы ўздымалі бел-чырвона-белы сцяг, сярод хатняга архіву дзесьці захоўваюцца досыць невыразныя чорна-белыя фотаздымкі. Прыгадваецца, што тады якраз быў моцны туман, які тут не часты, ды і фатаграфічная тэхніка была зусім слабая. Зараз над вежай Гедыміна стала лунае сцяг іншай дзяржавы. А знізу, непадалёк катэдральнага сабору стаіць помнік самому князю. Скульптурна ён зусім не ўражвае, уражвае другое — як іншыя могуць з чужога зрабіць сваё. А мы не можам роднае пакінуць сваім.

З вежы Гедыміна адкрываюцца прасторы навакольнай старой Вільні і яе прыгарадаў, рэчышча Вяльлі. Падобныя панарамы ёсць у многіх еўрапейскіх гарадах, але віленская панарама для нас асаблівая. Цяпер у вежы Гедыміна размешчана істотна абноўленая пасля савецкага часу

экспазіцыя Нацыянальнага музея Летувы, яна адлюстроўвае гісторыю старога гораду. Узняцца на гэтае высокае месца можна па доўгіх спіральных сходах наўкола — гэтая дарожка была зроблена яшчэ ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя. Не так даўно уведзена ў дзеянне і пад'ёмная тэхнічная канструкцыя — фунікулёр. Па ім могуць падымацца людзі сталага веку і гультаі.

А непадалёк вежы ёсць месца, якое не пазначана аніякім памятным знакам. Зрэдку, можа раз у год, прыходзяць сюды беларусы каб запаліць знічкі. Паводле апошняй версіі менавіта тут, пасля павешання на лукішскім пляцы, было ў вапнавай яме знішчана цела Кастуся Каліноўскага. Акупанты зрабілі ўсё, каб ніхто не ведаў нават месца апошняга спачыну правадыра нацыянальна-вызвольнага чыну і яго паплечнікаў. Яшчэ ў 1921 годзе на мяркуемай магіле быў пастаўлены вялікі драўляны крыж і мармуровая шыльда з імёнамі. У 1940-ым, пасля таго, як Вільня была перададзеная Летуве, крыж быў спалены, а шыльда знікла. Але праўду не задушыш пятлёй, не знішчыш яе ні вапнай, ні агнём.

Усё патаемнае рана ці позна становіцца ведамым. Усё вяртаецца на свае рэйкі. Кажуць, што нават тыя рэйкі, якія вялі на Віленшчыну ад станцыі Парэчча і якія разабралі паўночныя суседзі, неўзабаве будуць адноўлены.



# „Мужыцкая праўда”

Кастусь Каліноўскі пакінуў пасля сябе не толькі гераічны і трагічны вызвольны чын, не толькі паўстанцкі рэй які быў прыкладам наступным пакаленням змагароў за незалежнасць. Ён пакінуў таксама літаратурна-гістарычны запавет, у якім устанавіў прычыны гаротнай долі беларускага народу і выразна сцвердзіў прароцтва ажно на 150 гадоў: „...Народзе, ...тагды толька зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе” („Лісты з пад шыбеніцы”). Ключавымі тут ёсць словы „над табой”. Бо не „з табой”, не „на тваёй зямлі”, а менавіта „над табой”, іншымі словамі, калі беларускай зямлёй перастане кіраваць імперская дзяржава з Усходу.

Сваю газету Каліноўскі назваў „Мужыцкая праўда”, у тагачасным разуменні гэта значыла „Сялянская праўда”, а паколькі беларуская нацыя на той момант была пераважна вясковая, то „мужыцкая” па-сутнасці было сінонімам слова „беларуская”. Пасля Каліноўскага было шмат выданняў з словам „праўда”, але ў іх не было ні шчырасці, ні праўды. „Мужыцкая праўда” выдавалася нелегальна ў 1862-1863 гадах. Усяго выйшла 7 нумароў гэтай газеты-улёткі. Да выдання акрамя Каліноўскага чынна прычыніўся нараджэнец Жалудка Валеры Урублеўскі, у Вялікай Бераставіцы дзеіў Фелікс Ражанскі, якому дапамагаў Ігнат Казлоўскі. Выдавалася яна па ўсім вынікае менавіта на Гарадзеншчыне, толькі апошні нумар верагодна выйшаў у Вільні. Усе выпускі пачыналіся традыцыйным зваротам „Дзецюкі!”, які, на жаль, ужо не сустрэнеш у сучасных беларусаў. Мова „Мужыцкай праўды” увогуле надзвычай адметная, насычаная эпітэтамі, метафарамі, народнымі выслоўямі.

Тэма Каліноўскага і яго ідэалогіі надзвычай далікатная для беларусаў Беласточчыны, якія ў сваёй пераважнай бальшыні не шануюць земляка, многія не лічаць яго нават беларусам. Аднак праўда такая, што пераважная частка баявых дзеянняў у час паўстання 1863 году была на тэрыторыі сучаснай Беларусі, а таксама на яе этнічных тэрыторыях. Называць палякам аднаго з галоўных ідэолагаў паўстання Кастуся Каліноўскага проста недарэчна. У „Мужыцкай праўдзе” ён яскрава выступае супраць польскага панскага прыгнёту і палітычнай залежнасці ад Польшчы: „такой бесталковай галаве, як Варшава, ня можна даверыць долю Беларусі”.

Не мела паўстанне і антыправаслаўнага характару, як мяркуюць многія „даследнікі”.

Праваслаўных паўстанцаў, асабліва на Магілёўшчыне, было даволі шмат. Прыкладам, з 56 студэнтаў і навучэнцаў, якіх выключылі з Горы-Горацкіх земляробчага інстытуту і землямернай вучэльні за ўдзел у паўстанні, 27 чалавек былі праваслаўнага вызнання. Напэўна, працэнт каталікоў-паўстанцаў быў большым, але ж адсотак каталікоў на беларускіх землях тады быў большым увогуле, чым ёсць сёння. Каб зразумець светагляд Каліноўскага, трэба зазірнуць у кантэкст эпохі. Пасля кароткай канфесійнай адлігі Паўла I і пэўнага лібералізму Аляксандра I, цараванне Мікалая I было часам жорсткага рэлігійнага ціску. Ліквідацыя ўніяцкай царквы суправаджалася забаронай беларускай мовы, знішчэннем шматлікіх культурных каштоўнасцяў, спальваннем літургічнай і тэалагічнай літаратуры. Расейскія праваслаўныя цэрквы сталі асяродкамі палітычнай прапаганды імперскай палітыкі Масквы. Кастусь жа ў час вучобы меў магчымасць вывучаць унікальныя дакументальныя матэрыялы, якія паказвалі сутнасць гістарычных дачыненняў Расеі і Рэчы Паспалітай. Адсюль і зыходзіў светагляд правадыра паўстанцаў.

І хто не пагодзіцца з выслоўем „Яські-гаспадара з-пад Вільні": „Бог стварыў чалавека, каб ён карыставаў з вольнасці справядлівай...".






Навагра́дак-дзед

Наваградак — велічная сталіца Вялікага Княства Літоўскага, унікальны горад на ўзвышшы, сама высокай мясціне Гарадзеншчыны. Для беларуса ён — нібы родны дзед, мудры і павучальны. У Наваградак немажліва не закахацца, трапіўшы туды аднойчы, хочацца прыязджаць яшчэ і яшчэ. Ён прыгожы ў кожную пару году — і ў пранізлівы студзеньскі сівер, калі снегу на старых завулках па пояс і ў яснае лета, калі з Замкавай гары вока зачароўваюць далягляды. Знішчыць амаль тысячагадовы ліцьвінскі дух не ўдалося нават за савецкі час. Наваградак ня страціў свой шарм і па-ранейшаму вабіць падарожніка.

Горад быў заснаваны на мяжы X-XI стагоддзяў (першы ўспамін у крыніцах — 1044 год), пазней стаў калыскай ВКЛ. У горадзе праходзілі дзяржаўныя соймы, паседжанні Галоўнага літоўскага Трыбуналу — найвышэйшага суду краіны, афіцыйныя сустрэчы князёў і каралёў. У розныя часы быў розным палітычны статус і роля Наваградку ў дзяржаве, але праз стагоддзі ён зберагаў сваю адметнасць. Пра былую веліч Наваградку нагадваюць руіны замку 13-га стагоддзя, які пасля каранацыі Міндоўга ў 1252 годзе стаў рэзідэнцыяй вялікіх князёў. Замак некалі меў ажно 7 вежаў, палац, сваю царкву. Цытадэль была моцна разбураная ў час „патопу" і ў Паўночную вайну. Зберагліся толькі рэшткі дзвюх вежаў. На дарозе, што вядзе на гару, знак-герб Наваградку на камяні. Перыядычна на замчышчы ідуць раскопкі.

Непадалёк узвышаецца гара Міндоўга. Паводле падання там пахаваны заснаваннік дзяржавы Міндоўг. Яшчэ ў пачатку 20 ст. на гары былі хрысціянскія могілкі. У 1993-ым годзе ля гары Міндоўга быў пастаўлены помны знак. Паміж узвышшамі стаіць Фарны касцёл, ён пабудаваны на месцы храма 15 стагоддзя, які заснаваў Вялікі князь Вітаўт. У 1422-ым у гэтым храме быў шлюб караля і князя Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. У пазнейшым храме быў ахрышчаны Адам Міцкевіч. У капліцы касцёлу змяшчаецца саркафаг з парэштткамі 11-ці сясцёр-назаратанак, расстраляных гітлераўцамі ў 1943-ым.

Паблізу замкавай гары курган Адама Міцкевіча, насыпаны ў 1924-31 гг., вышыня да 17 метраў, у кургане зямля прывезеная з краінаў, дзе жыў вялікі паэт. У 1998-ым тут усталяваны помны знак. Бліжэй да цэнтру помнік Міцкевічу аўтарства Валер'яна Янушкевіча.

Барыса-Глебская царква (1517-19), пабудаваная на месцы храма 12 ст., доугі час была катэдрай праваслаўных, а калі належала Базыльянскаму ордэну, уніяцкіх мітрапалітаў. У 19-пач. 20 ст. у ёй зберагалася цудатворная ікона Маці Божай Навагрaдскай. Іншы помнік мураванага дойлідства — касцёл Святога Міхала Арханёла, пабудаваны як касцёл дамініканскага кляштару на месцы драўлянага касцёлу, фундаванага ў 1624 годзе. Крыштапам Хадкевічам. Храм перабудоўваўся пасля пажараў. Пры кляштары з канца 18 стагоддзя да 1830-ых дзеіла славутая дамініканская школа.

Цяперашні Мікалаеўскі сабор быў пабудаваны як касцёл пры кляштары францішканаў. У 1846-ым ён стаў праваслаўным храмам, пасля аднаўлення ў 1991 годзе Навагрaдскай епархіі ёсць сабрнай царквою. Ёсць у сенняшнім Навагрaдку і мячэт, які з 1997-га году зноў стаў дзеіць.

У апошні прыезд у Навагрaдак, адчулася, што ў горадзе няма жыцця, няма развіцця. Знішчаны грамадскі асяродак „Камяніца", у славутым горадзе няма нават кнігарні, амаль няма кавярняў, а ў мясцовым бары „Рым" выразна пераважае алкаголь. Амаль няма і турыстаў. Горад слаўны сваёй даўнінай, але не сучасным. Навагрaдку не стае маладосці, катастрафічна бракуе імпульсу да новага.



Эліза Ажэшка асаблівае імя ў гісторыі Гародні і ўсяго прынёманскага рэгіёну. Няшмат у нашым нацыянальным пантэоне асобаў, з якіх аднačасна могуць браць прыклад і тутэйшыя палякі і мясцовыя беларусы. І не таму, што нашы ўзаемныя гістарычныя стасункі досыць складаныя. А таму, што пісьменніца Ажэшкава была менавіта ўзорам прынцыповасці, годнасці, а таксама сцвярджальніцай рэгіянальнага патрыятызму, прыналежнасці да зямлі, якой варта і трэба ганарыцца.

Адна з цэнтральных вуліцаў Гародні носіць імя менавіта Элізы Ажэшкі, на ёй стаіць прыгожы дамок пад нумарам 17. Ён пабудаваны ў 1976-ым годзе з пераносам углыб як копія драўлянага дому, у якім жыла пісьменніца, пераехаўшы сюды і выйшаўшы замуж за Станіслава Нагорскага. Менавіта тут быў напісаны зборнік навелаў „Gloria victis", многія іншыя творы. Стаўленне жыхароў гораду да Ажэшкі найлепш характарызуе наступны факт: калі яна цяжка хварэла, людзі выслалі брукаванку паблізу яе дому саломай, каб не грымелі пад вокнамі колы. А правесці Ажэшку ў апошні шлях прыйшлі тысячы людзей. У 60-ыя гады дваццатага стагоддзя ў будынку месцілася і гуртавалася аддзяленне саюзу беларускіх пісьменнікаў, якое ўзначальваў Аляксей Карпюк. У доміку паўсталі музейныя пакоі і размясцілася бібліятэка замежнай літаратуры. Памятаю, як наш універсітэцкі выкладнік гісторыі культуры Барыс Клейн у адным з пакояў выконваў на фартэпіяна для нас творы розных кампазітараў.

Нібы здзек сённяшняй улады над памяццю пісьменніцы назвы крамаў і кавярняў на вуліцы яе імені: „Москва", Московский", „Родная сторона". Ведама, што Ажэшка цягам свайго жыцця слова не вымавіла публічна па-расейску, а размаўляла па-польску, па-французску і па-беларуску. Праз сто гадоў нашчадкі „мураўёвых" помсцяць ёй за гэта.

Галоўнае ж месца ўшанавання Элізы Ажэшкі — вёска Мількаўшчына, дзе была сядзіба роду Паўлоўскіх і дзе нарадзілася будучая пісьменніца. Менавіта тут у мясцовай школе колішні дырэктар Уладзімір Трахімчык і настаўніца Тацяна Савянкова стварылі музейную экспазіцыю. А на ускрайку Мількаўшчыны, дзе колішні фальварак Паўлоўскіх, дзе нарадзілася Эліза Ажэшка, расла і куды яна вярнулася пасля паразы паўстання 1863 году, пастаўлены крыж, помны камень, буслянка. Хату выкупіў прадпрымальнік-тураператар, але

далей справа пакуль не пайшла. З Мількаўшчыны шлях Ажэшкі вядзе ў Залесна, дзе пахаваныя бацька, сястра пісьменніцы і іншыя яе сваякі. А далей дарога ў маю родную Каменку. У раннім дзяцінстве, гуляючы вакол мясцовага касцёлу, я не ведаў, што на гэтай тэрыторыі некалі быў іншы храм, у якім і была ахрышчана дзяўчынка Эліза. На яго месцы зараз помнік з адпаведным напісам.

Што засталося над Нёманам з часу Пані Элізы, з натуры яе творчасці? Плынь і шум ракі паблізу крыжа Яна і Цэцыліі ў Багатырэвічах, рэшткі падмурку старога лецішча ў Мінявічах, колішні палац Ромераў у Луне і пахаванне на тамтэйшых могілках роду Камінскіх. Урэшце знакамітыя гербарыі Ажэшкі, якая грунтоўна займалася батанікай. Што засталося з часу на зломе стагоддзяў, у якім жыла пісьменніца? Варта пашукаць... У гэтым пошуку можна запаліць знічку на магіле Ажэшкі, што на старых гарадзенскіх каталіцкіх могілках, пакласці кветкі да помніку ля Гараднічанкі, паслухаць спеў птушак у Румлёўскім парку, прайсці пад шатамі кляновых прысадаў і напіцца вады з студні-жураўля ў Мількаўшчыне, укленчыць у каменскім храме, праехацца возам праз прыбярэжныя вёскі Мастоўшчыны, урэшце спусціцца стромым берагам да Нёману і паплыць чаўном...



# Фальварак Якушоўка

Першы раз на месца былой сядзібы роду Каліноўскіх, што ў Свіслацкім раёне, мне давялося патрапіць у 1987-ым годзе, калі сюды прыехала сапраўдная археалагічная экспедыцыя пад кіраўніцтвам Міхася Ткачова. Наш універсітэцкі выкладчык адкрываў для нас, студэнтаў, сапраўдную Беларусь і вазіў у розныя цікавыя мясціны: Трокі, Ваўкавыск, Мсціслаў... Але раскопкі на ўскрайку пушчы з пошукам слядоў Каліноўскіх сталі асабліва цікавай старонкай. Мы расчышчалі падмуркі былога дому, даследавалі тэрыторыю фальварку, імкнучыся ўявіць як усё выглядала больш ста гадоў таму. Здаецца найбольшым вынікам раскопак на папялішчы сталася знаходка пячаткі паўстанцаў. Ткачоў павёз яе ў Мінск, але больш пра яе нічога няведама. Ні то яна дзесьці ў музейным сховішчы, ні то не было ніякай пячаткі ўвогуле, а наш настаўнік прыдумаў для нас прыгожую легенду. Але кожны з нас быў пераkананы, што бачыў гэты ўнікальны прадмет.

У Якушоўку Сымон Каліноўскі пераехаў з Мастаўлянаў, што на Беласточчыне. Здарылася гэта ў 1849-ым годзе, тады ж шматдзетны бацька, які быў энергічным і прадпрымальным чалавекам, перавёз сюды невялікую ткацкую фабрыку, на якой выраблялiся абрусы, сурвэткі, іншыя дробныя рэчы. Першая жонка Сымона Каліноўскага Вераніка Рыбінская памерла рана, маленькаму Кастусю было тады толькі пяць гадоў. У Якушоўку сям’я пераехала ўжо з іншай гаспадыняй — Ізабэлай Лазарэвіч. Агулам у Сымона Каліноўскага было ажно 17 дзяцей. Малазямельная шляхта жыла небагата, а дзяцей трэба было навучаць. Віктар і Кастусь Каліноўскія вучыліся ў Свіслацкай гімназіі, старэйшы брат пазней адукоўваўся ў Гародні і Маскве. А Кастусь пасля вучэльні тры гады жыў у Якушоўцы, дзе дапамагаў бацьку па гаспадарцы. Пазней абодва браты перабраліся ў Пецярбург. Віктара Каліноўскага ёсць падставы лічаць галоўным ідэолагам вызвольнага паўстання. Аднак, да пачатку збройнага чыну таленавіты малады архівіст не дажыў. Памёр ён ад сухотаў менавіта ў Якушоўцы, а пахаваны ў Свіслачы на старых могілках. Крыж-помнік і надмагілле там, дзякуючы сучасным адраджэнцам, рэстаўраваныя і дагледаюцца.

Праз гады ў Якушоўцы няма адбудаванай сядзібы Каліноўскіх з музеем. Але ёсць некалькі помных знакаў. Яшчэ ў савецкі час пасля тых раскопак быў пастаўлены

камень з адпаведнай шыльдай. У сярэдзіне дзевяностых гадоў усталяваны адмысловы шасціканцовы крыж з мастацкай металічнай аздобай. Менавіта тады закладалася традыцыя Дня памяці паўстанцаў 1863 году — найбольш буйная штогадовая грамадская акцыя на Гарадзеншчыне. Мясцовыя свіслацкія энтузіясты-краязнаўцы паводле гістарычных крыніцаў стварылі малюнкі, якія паказваюць як выглядала сядзіба пры жыцці Каліноўскіх. Не так даўно ўжо ўлады за еўразвязаўскія сродкі паставілі і інфармацыйную шыльду паміж укопанымі слупамі. Але разумення, што яны азначылі, у іх відавочна няма, бо табліца выканана па-ангельску і... расейску. Тэкст паведамляе што тут „остались останки здания”. Што тут скажаш — у каго „останки здания” — у таго і „остатки сознания”. Сама плошча невялікай вёсачкі Якушоўка зараз абсурдна залічана ў памежную тэрыторыю, відаць таму, што паблізу пушча — прыроднае багацце. Але кожную восень напярэдадні Дзядоў сюды прыязджаюць беларусы з розных мясцовасцяў, каб прайсціся старой алеяй па апалым лісці, агледзець стары падмурак, праспяваць разам ля крыжа „Магутны Божа” і ўшанаваць памяць Каліноўскіх.



У лютым 2010 году, калі Украіна ў час прэзідэнцкіх, яшчэ дэмакратычных, выбараў абірала свой шлях назад да савецкага мінулага, давялося патрапіць мне ў горад Астрог над рэчкай Гарынь, што на Валыні. Месца гэтае славутае ў нашай супольнай з паўднёвымі суседзямі сярэднявечнай гісторыі старадаўнім замкам і адпаведна назве князям Астрожскім. Род гэты пакінуў свой след і ў Вялікай Бераставіцы. У надзвычай цікавым астрожскім музеі можна ўбачыць і выяву Яна Караля Хадкевіча. У сённяшняй Бераставіцы няма вуліцы гэтага выдатнага чалавека, але з ім звязаны надзвычай цікавыя старонкі гісторыі беларускага мястэчка. Хадкевічам Бераставіца належала з 16-га стагоддзя і менавіта пры іх зазнала развіццё.

Каля 1615 году па фундацыі Гераніма Хадкевіча быў пабудаваны касцёл Візітацыі Дзевы Марыі. У 1741-ым ужо пры Юрыю Мнішаку адбылася перабудова. Пад руінамі касцёлу крыпта з дзевяці злучаных памяшканняў. У касцёле было пахаванае сэрца знакамітага палкаводца, вялікага гетмана Яна Караля Хадкевіча. У час вайны Рэчы Паспалітай з Швецыяй славуты ваяр стаяў на чале войска, якое перамагло скандынаваў у бітве пад Кірхгольмам (непадалёк Рыгі) у 1605 годзе. Гэта была не проста перамога: Хадкевіч з 4-тысячным войскам ушчэнт разбіў 14-тысячную шведскую армію. Далей быў не менш славуты ваярскі шлях „правадыра крылатых вершнікаў" — ажно да перамогі над туркамі ў бітве пад Хацінам (непадалёк Чарнаўцоў, цяпер Украіна) у 1621-ым. Адтуль Хадкевіч ужо не вярнуўся, памёршы ад цяжкой хваробы.

Спярша найверагодней паводле волі маладой удавы, другой жонкі Яна Караля — Ганны Алаізы (з роду Астрожскіх) гетмана пахавалі ў Астрозе. Аднак, яго сэрца ў адмысловым саркафагу было прывезена ў Бераставіцу і змешчана на вечны спачын у тады яшчэ драўляным касцёле. Да якога часу рэліквія была ў сцяне ці крыпце храма, які пазней быў праваслаўнай царквой, — няведама. Ёсць меркаванне, што ў канцы 19-га — пачатку 20 стагоддзя ўрна з сэрцам гетмана была вывезена ў больш бяспечнае месца, а прычыніліся да гэтага тагачасныя ўладаннікі Бераставіцы графы Касакоўскія — далёкія сваякі і спадчыннікі роду Хадкевічаў. Касакоўскія старанна і дбайна захоўвалі маёмасць продкаў — у прыватнасці каваны куфар вялікага гетмана і сямейны архіў з дакумантамі.

Верагодна, што яны захоўвалі саркафаг у сваім палацы, а пасля перавезлі ў свой маёнтак Вайткушкі пад Коўнам, дзе ў графа Касакоўскага былі куды лепшыя дачыненні з усходняй адміністрацыяй. Даследнік старадаўніх палацаў Раман Афтаназы дае апісанне гэтага маёнтку. След саркафагу губляецца ў час першай сусветнай вайны, калі каштоўнасці з Вайткушкаў былі вывезены на ўсход у Расею. А, магчыма, сэрца Хадкевіча і надалей у нетрах бераставіцкага касцёлу.

Яшчэ адна загадка бераставіцкага касцёлу — гэта абраз працы знакамітага мастака Францішка Смуглевіча. У храме ён захоўваўся ў 1797-1807 гадах, а потым знік. У бераставіцкім палацы Касакоўскіх было шмат багаццяў. У савецкі час на свет выплыла таямнічая гісторыя пра мясцовы скарб. У час візіту дэлегацыі ПНР у 60-ыя гады, калі толькі наладжвалася культурная памежная супраца, паблізу мясцовых ставоў, па дарозе на Чваракі, якія некалі былі часткай маёнтку, жыхары пасля адной ночы заўважылі вялікую яму, дзе відавочна нешта было раней захавана. Нібыта побач знайшоўся і сярэбраны чарпак. Пайшлі чуткі пра скарб, праўда пра яго не разгаданая дагэтуль. Але ўся наша гісторыя — і вялікая і малая — адна суцэльная таямніца.



# Дом Багдановіча

Сёлета восень выдалася надзвычай сухая і сонечная. Хіба з дзяцінства не магу прыгадаць, каб лістапад адпавядаў сваёй старажытнай назве — на многіх дрэвах па-ранейшаму ўбранне з пажоўкла-счырванелага лісця, якое ўпарта трымаецца за сваё кароткае жыццё. Гарадзенская вуліца Першага Мая пры парку Жылібера — адна з нямногіх у горадзе, дзе яшчэ прыемна шпацыраваць — рух аўтамабіляў тут неінтэнсіўны, а абапал ходнікаў шэраг адметных будынкаў. Вось старая абшарпаная лютэранская кірха, якая ніяк не можа дачакацца сваёй рэстаўрацыі. А вось ладна адрамантаваны з фасаду і бакоў дамок колішняга, пасля першай сусветнай вайны прэзідэнта гораду Эдварда Лістоўскага. Яшчэ далей камяніца, у якой некалі жыў знакаміты хормайстар Рыгор Шырма. А паміж імі сціплы будынак, які трывала ўвайшоў у гісторыю сучаснага беларускага адраджэння. Гэта Дом-музей Максіма Багдановіча. Ведама, што славуты паэт нарадзіўся ў Мінску, а калі яму было пару месяцаў, сям'я перабралася ў горад над Нёманам. „Жыў ён тут у анёльскім веку і застаўся светлым анёлам, што крыламі сваімі затуляе ад бруду і цемры" — як трапна выславілася літаратуразнаўца Ала Петрушкевіч. Сям'я некалькі разоў пераязджала ў розныя кватэры, але заўсёды выбірала жыллё на першым паверсе драўлянага будынку. У 1965-ым годзе на згаданым доме з'явілася мемарыяльная дошка, а ў час перабудовы адчыніўся адпаведны музей.

У сярэдзіне васьмідзесятых гадоў ужо мінулага стагоддзя, у гэтым доміку, калі яго гаспадыняй, стваральніцай і першай дырэктаркай музея была паэтка Данута Бічэль-Загнетава, фармаваліся мясцовая беларуская думка і касцяк рэгіянальнага Беларускага Народнага Фронту, суполкай імя Багдановіча задумвалася і рэалізоўвалася самвыдатаўская газета „Рэанімова". Усяго выйшла дзесяць нумароў гэтай газеткі фармату А4, якая часткова рыхтавалася нават у Вільні, прывозілася адтуль і хутка разляталася ў беларускім асяродку Гародні. Паралельна ў доміку гуртавалася нефармальная арганізацыя — заходнебеларускае згуртаванне моладзі. Яшчэ пазней адзін з ініцыятыўных гарадзенскіх прадпрымальнікаў арганізоўваў тут сустрэчы мясцовай беларускай інтэлігенцыі. Вечарыны былі цікавымі, але з надыходам іншага часу зышлі на нішто. Мясцовыя ўлады, „кантралёры — злыя, хворыя, з бруку, з канторы", змянілі на пасадзе і дырэктарку Дануту

Бічэль, якая прысвяціла музею вялікую частку сваёй душы. Гісторыя з яе звальненнем была непрыгожай і нават ганебнай. Наступніцы спадарыні Дануты наўрад ці разумелі, якая спадчына ім перайшла для працы, проста выконвалі свае „прафесійныя абавязкі". Нібыта і экспазіцыя засталася ранейшай, але знікла галоўнае. Музей застаўся адлюстраваннем мінуўшчыны, гісторыі літаратурнага руху, біяграфіі паэта, але перастаў злучаць нацыянальнае адраджэнне пачатку дваццатага стагоддзя з сучаснай беларушчынай, нітаваць пераемнасць і традыцыю з сённяшнім днём як нешта жывое з жывым, вымяраць вечнае праз імгненнае і наадварот.

Сёння ў старажытнай Гародні, акрамя дома-музею Багдановіча, ёсць толькі магіла маці паэта Марыі, куды можна ўскласці кветкі. Яна па правым баку на ўваходзе старых праваслаўных могілак. І больш нічога, помнік вялікаму Максіму ў горадзе над Нёманам так і не паўстаў. Улада не любіць паэтаў, бо паэты не служаць уладзе. А для нас па-ранейшаму, кажучы словамі Дануты Янаўны, „глядзіць у вочы Максім Багдановіч вачамі зоркі Венеры".



# Шэдэўр у Ішкалдзі

У Беларусі багата старых храмаў розных канфесій, якія смела можна залічаць да сапраўдных перлінаў агульнаеўрапейскай архітэктуры. Адным з такіх шэдэўраў можа ганарыцца і простая вёска Ішкалдзь, што ў цяперашнім Баранавіцкім раёне. Сэнс назвы гэтага мястэчка праз стагоддзі разгадаць надзвычай цяжка, бальшыня тапанімічных слоўнікаў яе проста абмінае. А між тым першую згадку пра Ішкалдзь (мясцовыя насельнікі вымаўляюць яе яшчэ з дадатковым галосным „а" — Ішкаладзь) можна знайсці ў знакамітай „Хроніцы Быхаўца". Там яе назва напісана як „Існолд". Баранавіцкія краязнаўцы выказваюць версію, што гэта вытворнае ад нямецкіх слоў „Eis" (лёд) і „kalt" (халодны). Гіпотэза прыгожая, але падаецца ўсё ж малаверагоднай. Тут навукоўцам сапраўды яшчэ ёсць над чым паламаць галаву.

У розныя часы Ішкалдзь належала знакамітым родам — Неміровічам, Ільінічам, Радзівілам, Вітгенштайнам. З 1579 году паселішча стала ўжо мястэчкам, у ім было 82 дамы і дзве карчмы. Але галоўным будынкам Ішкалдзі з пятнаццатага стагоддзя ёсць Траецкі касцёл. Гатычны храм — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Ён відаць здалёк і ўзвышаецца над наваколлем. Наблізіўшыся, можна ўбачыць велічныя муры з ладнымі контрфорсамі і вузкімі вокнамі (прычым з фасаду і апсіды іх толькі па адным), якія больш нагадваюць байніцы. Сапраўдны твор гатычнага дойлідства паўстаў у 1472 годзе, фундаваны ён быў Мікалаем Неміровічам. Пэўны час храм служыў арыянскім зборам.

Калісьці замалёўку касцёлу пакінуў знакаміты Напалеон Орда, з яго часу храм амаль не змяніўся. Няма толькі дзвюх цыбулепадобных купалкоў з дзевятнаццатага стагоддзя, якія парушалі пачатковую гармонію формаў. Храм у розныя вякі дзеіў і служыў розным канфесіям ажно да 1960-ых гадоў. Ажно саветам наманулася зачыніць касцёл і пераўтварыць яго ў зернясховішча. Камуністычныя вандалы сярод белага дня, калі насельніцтва працавала пераважна на палетках, прыехалі да касцёлу, зламалі замок і сталі выносіць з храма хрысціянскае начынне. А насупраць была якраз школа, дык адна з настаўніц, заўважыўшы дзікунства, паслала вучня ў поле, каб той паведаміў пра такія дзеянні вяскоўцам. Нехта пачаў біць у рэйку нібы на пажары. Людзі паспелі прыбегчы яшчэ да ад'езду грузавіка. Вернікі клаліся пад колы машыны, іншыя

— залазілі ў кузаў, падралі нават вопратку старшыні сельсавету, адабралі назад большую частку касцельнай маёмасці. Прысутныя міліцыянты тады адступілі, але пазней касцёл усё ж зачынілі, улады наклалі на дзверы пламбаваны замок. Аднак, на гэтым лакальная вайна не скончылася. Мясцовыя вернікі ламалі замкі і маліліся, хоць і без ксяндза. „Вайна замкоў" ішла яшчэ доўга. Тая ж драматычная прыгода з грузавіком адлюстраваная зараз у адным з вітражоў касцёлу. Захоўвае гісторыя Траецкага касцёлу і прозвішча святара Вінцэнта Латарэвіча. У 1919-ым годзе яго схапілі бальшавікі і па-садысцку забілі ў мястэчку Мір, кінуўшы цела ў калодзеж. Пад страхам смерці ішкальдскія вернікі прывезлі цела пробашча назад і пахавалі пад касцёлам.

Ішкалдзь цікавая яшчэ тым, што яна захавала сваю старажытную планіроўку. Даўняя частка забудовы знаходзіцца далей ад касцёлу, новыя ж дамы, заселеныя пераважна не карэннымі жыхарамі, а рознымі прышлымі і чужароднымі насельнікамі. А зусім нядаўна сюды як госці прыязджалі і былыя ўладаннікі Ішкалдзі і суседняй Паланэчкі — нашчадкі Радзівілаў. Прыязджалі проста так — пабачыць старое, уявіць мінулае...



# „Наша Швайцарыя"

Геаграфічна і гістарычна Астравеччына — гэта частка былога Віленскага краю, сёння — поўнач Гарадзенскай вобласці. Крылатае выслоўе „Астравец — свету канец" нарадзілася напэўна ў савецкія часы, калі студэнты не хацелі ехаць з гораду над Нёманам у найбольш аддалены і „адсталы" раён вобласці, дзе сярэдняя шчыльнасць насельніцтва на квадратны кіламетар складае менш 20 чалавек. Астравеччына — гэта сапраўды канец урбанізаванага і шматлюднага ладу жыцця, гэта боскі куточак цудоўнай непаўторнай прыроды, дзе лясы займаюць палову тэрыторыі. Нездарма нараджэнец гэтых мясцін, ведамы даследнік нашай культуры і мінуўшчыны Адам Мальдзіс назваў гэтую зямлю „беларускай Швайцарыяй". Зразумець гэта могуць толькі тыя, хто пабываў у дзівосным краі, зведаў яго хараство, перажыў дакрананне да тамтэйшага нерушу. А каму выпала ў маладосці перажыць тут палкае каханне, ніколі ў жыцці не забудзе ноч на беразе Альхоўскага вадасховішча ці дзённую прахалоду рэчкі Страча...

Большая частка Астравецкай зямлі ляжыць у межах Нарачана-Вялейскай нізіны, поўдзень — на Ашмянскім узвышшы. Сарачанскія азёры — гэта цікава расцягнутая самастойная водная сям'я ў басейне Вяльлі. Яна ўлучае ў сябе цэлы тузін азёраў рознай глыбіні і велічыні. Некаторыя з іх, такія як Туравейскае ці Тумскае маюць надзвычай вабныя, а іншыя, як Каймін ці Гульбеза, нават экзатычныя для нашых шыротаў назвы. Ваколіцы гэтых пасляледавіковых утварэнняў надзвычай маляўнічыя і падаюцца ідэальным месцам для адпачынку.

На тэрыторыі Астравеччыны і россып старажытных адметных храмаў і культавых збудаванняў: у Гервятах, Міхалішках, Варнянах, Вароне, Быстрыцы, Вялікіх Свіранках, Гудагаі, Клюшчанах, Кемялішках, самым Астраўцы. Кожны з іх заслугоўвае асобнай гутаркі. У найноўшы час адраджаюцца хрысціянскія святыні і асяродкі, пратаптаныя сцежкі да жыватворных цудадзейных крыніцаў у Быстрыцы і Дубку. „Ўсе атруты, усе пакуты з сэрца людзкага, бы путы, зьніме дзіўная вадзіца" — як пісала наша паэтка Натальля Арсеньнева. На Астравецкай зямлі ў пачатку дваццатага стагоддзя вырастала беларускамоўнае каталіцтва — тут нарадзіліся Казімір Сваяк і Андрэй Зязюля, працавалі Ян Курчэўскі і Вінцэнт Гадлеўскі, якія спалучалі душпастырскую і асветніцкую дзейнасць.

Тое багацце, якое іншая еўрапейская дзяржава скарыстала б ашчадна і рацыянальна, пераўтварыўшы тэрыторыю раёну ў турыстычную зону, распрацаваўшы і азначыўшы зялёныя маршруты, не ацэнена належна. У эпоху татальнага шукання людзьмі экалагічна чыста мясцінаў Астравеччына магла б стаць надзвычай папулярнай курортнай зонай для тых замежнікаў і суайчыннікаў, якія шукаюць спакою і чысціні. Аднак, улады не прыдумалі нічога лепшага, як выбраць тут месца для пабудовы атамнай электрастанцыі. Прычым гэтая пляцоўка пад Варнянамі — акурат на месцы так званага Гудагайскага разлому, дзе ў самым канцы 1908-га году адбыўся землятрус моцай 6-7 балаў па шкале Рыхтара. Ніхто так не нашкодзіць людзям, як дзяржава, якая не любіць і не шануе свайго...

У адной з нядаўніх падарожжаў з сябрамі мы спыніліся ў цікавым месцы на Страчы, якраз на сумежжы Астравеччыны з Мядзельшчынай. Там ёсць цікавая ні то грэбля, ні то стары, амаль разбураны млын, пераўтвораны ў адну з войнаў у абарончы дот. На каменна-бетонных рэштках можна ўбачыць выяву сярпа і молата, выбітых раней, а таксама сучасны напіс „Жыве Беларусь!". У нашым жыцці гэты сімвалізм пераплецены, а прадказаць, што чакае нашу зямлю, ніхто не можа.



# Асяродкі Цёткі

Мінае ўсяго нейкіх сто ці сто пяцьдзесят гадоў і некаторыя мясціны знікаюць з твару зямлі назаўсёды і незваротна. Асабліва калі па зямлі гэтай пракочваюцца шматлікія войны і разбуральная дзейнасць уладароў над тэрыторыяй і людзьмі. Так здарылася і з родавым маёнткам беларускай паэткі Цёткі, народжанай Алаізы Пашкевічанкі. Дзе быў некалі фальварак пад пяшчотнай назвай ні то Пешчын, ні то Пясчына сёння не ведае ніхто. Была гэтая мясціна на тэрыторыі сённяшняга Шчучынскага ці Гарадзенскага раёнаў і вызначыць яе магла б толькі адмысловая археалагічная экспедыцыя, але ніхто пакуль не наважваецца яе правесці — ці звестак зусім няма, ці зацікаўлення.

Цётка стала першай беларускай паэткай новага стагоддзя, яна была ў цэнтры тых асяродкаў, якія рыхтавалі хвалю нацыянальнага абуджэння і адраджэння, была адной з пачынальніц многіх арганізацый. Алаіза абрала такі псеўданім хутчэй усяго таму, што нашай пакутнай зямлі, сапраўднай сіраціне, востра бракавала „цеплыні" і „пяшчоты", якую можна было б атрымаць менавіта ад роднай цёткі. Што датычыць яе іншых, пераважна мужчынскіх псеўданімаў (Мацей Крапіўка, Гаўрыла з Полацку, Тымчасовы...), то гэта ва ўмовах праследу і сачэння рабілася, канешне, з мэтай канспірацыі.

Вобраз Цёткі прыйшоў мне да галавы на львоўскім чыгуначным вакзале, дзе на вялікім экране круціўся рэтра-кліп да юбілею мясцовай жалезнай дарогі. У горад прыбывае цягнік і на пероне сустракаюцца двое закаханых маладых людзей. Так магла чакаць, сустракаць кагосьці і незамужняя яшчэ Алаіза, якая прыехала ў сталіцу Галіцыі (у гэтым цудоўным горадзе пакінулі сляды розныя беларусы, ёсць нават вуліцы Францішка Скарыны і Янкі Купалы) з Вільні, ратуючыся ад праследу. Што мы ведаем пра яе асабістае жыццё — зусім мала... У Львове Цётка паступіла на філасофскі факультэт мясцовага ўніверсітэту, тое ж было і ў Кракаве. Здзіўляе яе памкненне да навукі, якое можна параўнаць з яе прагай да вольнасці роднага краю. Што датычыць творчасці, то часцяком Цётку просталінейна разглядалі як вылучна рэвалюцыянерку, бунтарку і аўтарку пракламацый-адозваў. Узгадаем хоць бы славуты „Хрэст на свабоду". Але ў яе вершах таксама надзвычай многа іншых фарбаў і кветак. Невыпадкова верш „Лета", дзе і нарцыса і вяргіня, і лілея і пралеска, стаў у наш час папулярнаю песняю пра дзяўчыну Касю.

Шляхі Цёткі пралягалі праз Вільню і Пецярбург, Кракаў і Львоў, Мінск і Закапаны, Фінляндыю і Швецыю. І ўсюды, дзе толькі было магчыма, яна была ў эпіцэнтры беларускіх асяродкаў, чынна ўплываючы на іх актыўнасць. Ахвярнасць Цёткі ўражвае, церпячы матэрыяльныя нястачы, яна аддае ўсе свае сілы працы, дапамозе іншым. Яна прыкладае шмат высілкаў для арганізацыі беларускіх школ і настаўніцкіх курсаў у Вільні. Разуменне значнасці беларускай адукацыі натхняе яе на стварэнне для новага пакалення „Лемантара", „Гасцінца для малых дзяцей", „Першага чытання для дзетак беларусаў". Яна дапамагае ў стварэнні прытулкаў, як сястра міласэрнасці даглядае хворых у тыфозным бараку. У 1916-ым годзе памёр бацька, і Алаіза едзе на пахаванне. У наваколлі якраз лютавала эпідэмія. Алаіза, якая раней пакутавала на сухоты, застаецца дапамагаць хворым. Гэта было ўжо фатальна...

Месца апошняга спачыну Цёткі ведама дакладна, хоць розныя крыніцы падаюць альбо вёску Шастакоўцы альбо Стары Двор — гутарка ідзе пра адно. Пры дарозе з Старога Двара да Астрыны невялічкі вясковы мемарыял, аздоблены сціпла, але адпаведна жыццю руплівай дачкі гэтай старонкі.



# Ружанскія руіны

Праязджаючы апошні раз машынай праз Ружаны, папрасіў калегу збочыць з асноўнай трасы, каб паглядзець на руіны мясцовага палацу, колішняй знакамітай рэзідэнцыі славутага роду Сапегаў. З здзіўленнем мы ўбачылі, што нядаўняе запусценне змяняецца адбудовай і рэстаўрацыяй былой велічы. У памяці заставалася карцінка дзесяцігадовай даўніны, калі на тэрыторыі комплекснага палацавага ансамблю было пуста і там пасвіліся авечкі мясцовых насельнікаў. Цяпер жа адбыліся кардынальныя зрухі — нядаўняя ўязная брама, якая рассыпалася ад вятроў і дажджоў, адбудавана ўжо цалкам, а на яе фасадзе з'явіўся складаны сапегаўскі геральдычны знак, на якім знайшлося належнае месца і гербу „Ліс" і нашай „Пагоні". Калі справа пойдзе так і далей, то можна будзе гаварыць пра істотнае адраджэнне архітэктурнай раскошы. Галоўнае — зберагчы старыя фрагменты, захаваць баланс паміж даўнінай і сучаснасцю.

Сапегі займелі Ружану (так пачаткова называлася мясціна) у сваё валоданне ў самым канцы XVI стагоддзя. Заснавальнікам рэзідэнцыі на высокім марэнным пагорку быў сам канцлер Леў Сапега. Пры ім палацавы комплекс зазнаў першы росквіт, тут нарадзіўся яго першы сын Крыштап Мікалай. Гістарычных звестак пра першы ансамбль няшмат. Палац быў месцам сустрэчаў, каралеўскіх прыёмаў. Тут была бібліятэка на 3 тысячы тамоў, збор партрэтаў і карцін. На схіле гадоў Леў Сапега прымаў тут караля Уладзіслава — манарх і яго прыдворныя атрымалі шчодрыя падарункі. Пілі з старажытнага кубку „Іван", які змяшчаў цэлы гарнец (гэтая тагачасная мера вадкасці складала амаль 4 літры) віна.

Пры сыну Льва Сапегі Казіміру разгарнулася ўсё мястэчка, якое мела ўжо каменную забудову, новы рынкавы пляц, 9 вуліцаў, назвы якіх сведчылі пра кірунак выезду. Другая палова XVII стагоддзя прынесла мясцовасці рабаванні і разбурэнні ад войскаў канфедэратаў і шведаў. Потым выбухнула Паўночная вайна. Толькі праз пяцьдзесят гадоў адбыўся рэнесанс ружанскага палацу. Звязаны ён найперш з імем знакамітага дойліда Яна Самуэля Бекера, саксонца з паходжання, які доўга тварыў і жыў тут да скону свайго мецэната і патрона — канцлера ВКЛ Аляксандра Сапегі. Акрамя пераробкі і перабудовы палацавага комплексу, Бекер спраектаваў тут Петрапаўлаўскі кляштар, капліцу Святога Казіміра на могілках, карчму „Пад зоркай", інтэр'ер Траецкага касцёлу.

У 1829-ым годзе Ружаны перайшлі да Яўстаха Сапегі, які не застаўся ў баку ад надышоўшага вызвольнага паўстання, пасля паразы якога быў змушаны эміграваць, адрынуўшы прапанову цемрашала — расейскага цара Мікалая І прысягнуць яму на вернасць. Ружанскі маёнтак быў канфіскаваны і разрабаваны. Частка каштоўнасцяў, дарэчы, трапіла праз Гародню ў Беласток.

Наступныя ўладальнікі ружанскай рэзідэнцыі — Піносы — разгарнулі ў палацавым комплексе мануфактурную вытворчасць, дбаючы найперш пра матэрыяльную выгоду. Аднак, ткацкая прадукцыя не знайшла попыту і славутая ружанская фабрыка спакваля пераўтварылася ў звычайную прадзільню сукна. Неўзабаве былі страчаны адметныя парк і звярынец. Апісанне Ружанаў гэтага часу дае ў сваіх „Успамінах...” Леан Патоцкі.

У 1933-ым годзе высілкамі міністра замежных спраў Польшчы Яўстаха Сапегі-унука ружанскі комплекс быў вернуты ягонаму роду. Адбудову спыніла другая сусветная вайна, у час якой паўторна згарэлі палац і тэатральная афіцына.

„Руіны перажылі стагоддзі і будуць стаяць яшчэ... Руіны мінулае да нас набліжаюць, чалавек нас у яго пераносіць.” — пісаў Леан Патоцкі...



# Жырандоля і паэтава доля

Беларускае слова заўсёды дорага абыходзілася ягоным носьбітам. Сялянскі паэт-каваль Паўлюк Багрым напісаў толькі адзін верш і адразу патрапіў у рэкруты на дваццаць пяць гадоў. Вярнуўшыся ўжо састарэлым, вершаў ён больш магчыма не пісаў, альбо пісаў, але нікому не паказваў. Ёсць версія, што ў вёсцы жыў дзядзька, які доўга захоўваў цэлы сшытак паэта. Паводле падання страціўся ён да вялікай прыкрасці і пайшоў дымам надзвычай недарэчна — старонкі скручвалі ў цыгаркі і курылі. Нашчадкам дайшоў толькі той першы вершаваны твор — „Зайграй, зайграй, хлопча малы", а таксама жырандоля, якую Багрым выкаваў для мясцовага касцёлу. Вёску Крошын сучаснага Баранавіцкага раёну вядомай у беларускіх колах пазнейшых пакаленняў зрабіў менавіта ён — Паўлюк Багрым. Рэгіянальны краязнавец і філосаф Міхась Бернат, які жыве паблізу Баранавічаў, даводзіць, што правільна вымаўляць назву гэтай мясцовасці трэба з націскам на другі склад — а менавіта як Крашын. З гэтага лагічна вынікае, што паходзіць у такім разе гэты тапонім не ад якіх-небудзь дробных „крошак", а ад старaславянскага слова „краса", што можа сведчыць пра прыгажосць наваколля сярод якога было заснавана паселішча.

Верш Багрыма — гэта кароткі аповяд пра гаротную долю беларуса на роднай зямлі, пра цяжкі лёс пад чужынскім прыгнётам. Верш з'явіўся на свет у выніку канкрэтнай гістарычнай падзеі. У пачатку дзявятнаццатага стагоддзя мясцовы святар Мацей Магнушэўскі адчыніў пры касцёле школку, у якой дзеці навучаліся пісьменнасці. Там спазнаў юны Паўлюк пісьменства і магчыма беларускае слова. А ў 1822-ім годзе мястэчкам завалодаў сквапны шляхціц Станіслаў Юрага, якому неўзабаве закарцела перавесці ўсю дробную шляхту ў сяляне з мэтай, каб яны плацілі паншчыну. Вольныя насельнікі Крашына выбухнулі бунтам, які давялося заспакойваць ажно губернатару. Пратэст жорстка задушылі. Менавіта тады і напісаў 15-гадовы хлопец сваю „пракламацыю", у якой былі і такія радкі: „Мне пастушком век ня быці, А ў маскалях трудна жыці...". Каланіяльная маскоўская адміністрацыя цемрашальскага цара Мікалая I магла заплюшчыць вочы на прагнасць і сваволю мясцовага землеўладальніка, але не магла прапусціць крамольнае слова на тутэйшай гаворцы. Вырак быў бязлітасны — 25 гадоў чужынскага войска, назаўжды загубленае юнацтва, страчаная маладосць.

Крашын знаходзіцца на правым беразе рэчкі Шчара побач з аўтастрадай Берасце-Мінск. З часу, калі ён быў валоданнем вялікага князя, Радзівілаў, Валовічаў, нічога не засталося, старых забудоваў няма. Праехаўшы мост праз шырокую сажалку, трапляем да мясцовага касцёлу, якому няма і ста гадоў. За храмам магіла першага беларускага паэта. Двойчы помнік нішчылі вандалы, квапячыся на медныя элементы. Зараз на месцы вечнага спачыну паэта і майстра скульптурная кампазіцыя досыць авангардных формаў з танных матэрыялаў. А з боку храма стаіць камень з напісам па-лацінску і па-беларуску „Жыццё кароткае. Радзіма вечная". У касцёле захоўваецца і легендарная люстра-жырандоля, якую выкаваў Паўлюк Багрым. Ён быў вылучны майстар і пакінуў землякам нямала выдатных рэчаў. Засталася толькі жырандоля і магчыма фрагменты агароджы, якія зберагаюцца ў мясцовым школьным музеі.

Паўлюк Багрым — першы беларускі паэт, які апярэдзіў іншых амаль на паўстагоддзя, ужо пасля яго прыйшлі Багушэвіч, Купала і Цётка, якія пісалі ў падобным жанры. Паэт, які ўвайшоў у беларускую культуру словам і жалезам.



# Палацы на Зяльвянцы

Землі колішняга ваўкавыскага павету заўсёды былі досыць урадлівымі, таму на гэтай тэрыторыі заможныя людзі будавалі сабе багатыя сядзібы і нават сапраўдныя палацы. Гутарка тут пойдзе пра два сядзібныя комплексы, якія збольшага зберагліся да нашага часу — палацы ў Падароску і Красках, назвы якіх гавораць самы па сабе.

Мясцовасць Падароск пры дарозе, якая вядзе з Ваўкавыску да Ружанаў, ведама па гістарычных крыніцах з пачатку 16-га стагоддзя як уласнасць Мацея Клочкі, пазней належала Дольскім, Вішнявецкім, Грабоўскім. Фальварак у Падароску ведамы з другой паловы васямнаццатага стагоддзя. Належаў ад пачатку ён роду Чачотаў, якія мелі герб „Астоя". Ад Чачотаў праз Пухальскіх Падароск перайшоў да роду Бохвіцаў. Маёнткам значны час валодаў Раман Бохвіц, сын ведамага філосафа, нараджэнца мястэчка Мір, Фларыяна Бохвіца. Бохвіц з мэтай перабудовы запрасіў з Вільні архітэктара Лубу, які і стварыў той комплекс, што ў асноўных рысах захаваўся да сёння. Лёс Рамана Ота Бохвіца быў надзвычай трагічны — ён памёр пасля арышту саветамі ў 1939-ым, хутчэй усяго закатаваны энкавэдыстамі. Значны час у сядзібе месцілася кантора мясцовага саўгасу, зараз жа яна нікога не цікавіць і пастунова разбураецца.

Сядзіба стаіць на беразе рэчкі Зяльвянкі. Дом з мезанінам, збудаваны ў эклектычным стылі з элементамі класіцызму, досыць абшарпаны, без дзвярэй і вокнаў, на першым паверсе яны забітыя дошкамі. Захаваліся таксама гаспадарчыя пабудовы, адметная ўязная брама з чырвонай цэглы, комплекс абкружаны мурам, які пашкоджаны ў многіх месцах, але збольшага цэлы. З-за дому вачам адкрываецца маляўнічая панарама ўсяго мястэчка з царквой і касцёлам.

Непадалёк ад Падароску Краскі. Маёнтак у Красках у першай палове дзявятнаццатага стагоддзя належаў Булгарынам, а пазней перайшоў да роду Сегеняў, якія валодалі ім да 1939-га году. Першаснай была драўляная забудова 1839-га году, у 1905-ым быў узведзены мураваны двухпавярховы палац. Палац гэты мае дзве вежы (адна цыліндрычнай, а іншая — квадратнай формы) і выглядае на сапраўдны неагатычны замак. Асаблівую загадкавасць і прыгажосць пабудовам надае вялізны парк, агульная плошча парку зараз каля 3 гектараў, а раней разам з былой тэ-

рыторыяй маёнтку ён займаў больш 50 га. У парку расце шмат экзотаў, рэдкіх пародаў дрэваў, некалі, у дарэвалюцыйны час іх сюды прывёз Зыгмунт Сегень. Але з часам парк здзічэў. Памятаю, як першы раз трапіў у Краскі, быў зачараваны мясцовай прыродай — таўшчэзнымі дрэвамі, кладачкай праз плыткую і прыгожую вузкую рэчачку Зяльвянку, якая працякае побач.

Пасля другой сусветнай вайны ў палацы месціліся шпіталь для хворых на сухоты, лячэбна-працоўны санаторый для алкаголікаў, пазней будынкі пуставалі. А з нядаўняга часу трапіць на тэрыторыю парку і сядзібнага ансамблю досыць праблематычна. У сядзібы з'явіўся новы ўладальнік — яе купіў расейскі прадпрымальнік усяго за 100 тысяч даляраў. Гэта ці не першы выпадак прыватызацыі гістарычнага помніка. Тэрыторыя зараз ахоўваецца і далёка не кожны зможа сюды патрапіць. Мясцовыя людзі адгукаюцца пра новага гаспадара станоўча, некаторыя атрымалі нават працу. Ці зможа расейскі бізнесовец, радзіма якога за 3 тысячы кіламетраў ад Беларусі, адбудаваць былую сядзібу — пакажа бліжэйшы час. Сённяшняй жа дзяржаве мусіць быць сорамна: яна будуе даражэзныя лёдавыя палацы, але ёй мала справы да палацаў гістарычна-архітэктурнай спадчыны.



# Жалудоцкі транзіт

Маім другім мястэчкам у жыцці стаў Жалудок — транзітны пункт па дарозе ў кірунку Бяліцы Лідскага раёну, куды мы ездзілі разам з бабуляй да цёткі. Пазней, ужо юнаком, даводзілася праязджаць той жа трасай на ровары. У тыя часы абмінуць Жалудок было немагчыма. Зараз жа зроблена аб'язная асфальтоўка, але вельмі добра, што захаваўся кавалак старой брукаванкі. Дарогі да і з Жалудка досыць цікавыя — у бок Ражанкі каля Лапатоў можна ўбачыць сучасны геадэзічны знак на месцы пункту знакамітай Дугі Струве. У іншы бок на сумежжы Шчучынскага і Лідскага раёнаў пры дарозе можна паглядзець сціплую, але досыць старадаўнюю царкву з званіцаю. Адносіцца яна ні то да Агароднікаў, ні то да Дзікушак, але ад абедзвюх вёсак досыць аддалена. З дзяцінства памятаю гэты храм без даху, у наш час царква адноўлена і дзеіць. Яшчэ ў адзін бок Жалудок заканчваецца прылеглай вёскай з рамантычнай назвай Фарны Канец.

Жалудок мае досыць багатую гісторыю. Ён ведамы з другой паловы 15 стагоддзя як вялікакняскае ўладанне, у 16-17 ст. належаў Лацкім, Сапегам, Францкевічам, у 18 — 1-й чвэрці 19 ст. ўласнасць Тызэнгаўзаў, з 1830-ых уладаньне Урускіх, з пачатку 20 ст. Святаполк-Чацьвярцінскіх. А ў лютым-сакавіку 1706 году тут была галоўная штабная кватэра шведскага караля Карла XII — ішла жорсткая Паўночная вайна, для якой беларуская зямля была палігонам. Заваёўнікі часта праходзілі праз мясціну — ведамы гістарычны факт як у 1506-ым годзе ў час рабаўніцкага нападу татары спалілі мясцовы касцёл. У першую сусветную вайну тут гаспадарылі кайзераўцы, не абміналі Жалудок і пазнейшыя прыхадні. У другую сусветную гітлераўскія карнікі расстралялі тут ажно 2 тысячы чалавек. У савецкі час на тэрыторыі колішняй сядзібы князёў Чацвярцінскіх была размешчана вайсковая частка, прычым досыць сакрэтная. Частка і „абмежаваны кантынгент" вайскоўцаў даўно выехалі, а аб'ект ахоўваецца дагэтуль.

Сядзіба князёў Святаполк-Чацвярцінскіх, якую праектаваў архітэктар Уладзіслаў Марконі, закладалася ў 1907-08 гадах. Комплекс спалучаў палац, млын, флігель, кузьню, іншыя гаспадарчыя пабудовы. Апошні ўладальнік сядзібы — Людвік Чацвярцінскі — загінуў ў Асвенціме ў 1941-ым.

Мястэчка багатае на славутыя імёны. У родавай крыпце касцёлу пахаваны Антон Тызенгаўз, дзяржаўны дзеяч, знакаміты гарадзенскі староста. Тут нарадзіўся не менш знакаміты прадстаўнік гэтага роду Канстанцін Тызенгаўз, асветнік, прыродазнавец, арнітолаг. У яго гонар не так даўно прадаўжальнікі яго справы ўсталявалі на сцяне касцёлу Ушэсця (яго ў дзявятнаццатым стагоддзі праектаваў ведамы архітэктар Карл Падчашынскі) памятную дошку. Жалудок таксама радзіма Валерыя Урублеўскага, аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 году, пазней генерала Парыжскай Камуны, пахаванага ў сталіцы Францыі.

Жалудок мае нават свой сцяг — жоўта-зялёная харугва з быком у верхняй частцы і падковай у ніжняй. Сучасная гаспадарка мясцовасці можа пахваліцца буйным жывёлагадоўчым комплексам. А яшчэ тут у цэнтры ёсць парк каменных скульптураў — у самым цэнтры мястэчка пару год таму прайшоў плённы пленэр каменячосаў, якія падарылі свае творы жыхарам. У глыбіні „парку камянёў" стаіць праваслаўная царква. Яна ўзнікла на аснове колішняга драўлянага будынку бальніцы і была вельмі арыгінальнай, а цяпер абкладзена цэглай і накрытая чырвонай дахоўкай. Нядаўна на адной з вуліц паўстала шыкоўная аграсядзіба. Жалудок жыве сваім жыццём.



Здаецца няма ў гісторыі іншых народаў такога храналагічнага перыяду, які быў бы сфармуляваны назвай друкаванага выдання. У беларусаў ёсць такі часавы адрэзак, які ўвайшоў ў гісторыю нацыі як „нашаніўскі”. Так сталася, што пачатак дваццатага стагоддзя, на які прыпалі фармаванне беларускай свядомасці, праявы нацыянальнага руху ў розных формах, атрымаў найменне гэтай легендарнай газеты.

Выдавалася „Наша Ніва” у беларускай старажытнай сталіцы Вільні з лістапада 1906 году амаль да восені 1915-га. Яе выхад спыніў толькі прыход фронту першай сусветнай вайны. „Наша Ніва”, як і яе папярэдніца „Наша доля”, была органам нелегальнай арганізацыі, першай беларускай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

„Нашаніўская” пара была часам гістарычнага злому і вялікіх надзей. Прыблізна як дзевяностыя гады таго ж стагоддзя, куды больш прыбліжаныя да нашых дзён. За час выдавання газеты рэдакцыя змяніла нямала адрасоў. Амаль ўсе гэтыя будынкі захаваліся да нашага часу. Некалькі з іх размешчаны на былой вуліцы Завальнай (сучасная Pylimo). Адзін з такіх будынкаў — даўні палац графаў Тышкевічаў. Моцна выступаючы балкон гэтага будынку падпіраюць фігуры двух атлантаў — таму сучаснікі называлі яго „дом пад балванамі”. Ходзячы па вулках старой Вільні, якая захавала аўтэнтычнасць, стараешся ўявіць яе насельнікаў сто гадоў таму, канкрэтных асобаў нашай мінуўшчыны. Колькі цікавых дакумантальных, ды і мастацкіх стужак, можна было зняць на гэтай архітэктурнай „натуры”!

Аснову рэдакцыйнага ядра складалі браты Луцкевічы і Аляксандар Уласаў, які ўжо з пятага нумару быў пазначаны як выдавец. Лёс кожнага з іх быў трагічным. Іван Луцкевіч памёр заўчасна ў Закапанэ, яго родны брат Антон і Уласаў згінулі ў савецкіх канцлягерах... Папрацавалі ў „Нашай Ніве” і Якуб Колас, і Янка Купала, і Вацлаў Ластоўскі, і Цётка, і Вацлаў Іваноўскі, і многія іншыя, знакамітыя ўжо пасля смерці беларускія творцы і дзеячы. Працавалі ўсе пераліччаныя, як правіла, на энтузіязме, апантаныя беларускай ідэяй, шчаслівыя магчымасцю рабіць справу, у якую верылі. У некаторых месцах рэдакцыя газеты рабілася куды шырэйшым асяродкам, суседнічала з выдавецтвамі і кнігарнямі. Некаторыя з „айцоў”

газеты і жылі ў гэтых памяшканнях. Жылі беднавата, харчаваліся надзвычай проста, але знаходзілі сілы і час на каханне, сяброўства з выпіўкай, дасціпныя жарты. Пра нашаніўскую пару захаваліся некаторыя ўспаміны сучаснікаў і самых выдаўцоў, якія перадаюць тую атмасферу. Выданне „Нашай Нівы", яе вострая крытыка ў адрас дзяржавы, былі не даспадобы тагачасным уладам. Рэдакцыя мусіла некалькі разоў плаціць штрафы, а Уласаў ў 1910-ым годзе быў нават зняволены ў турму.

У наш час, у 1992-ым годзе, пачало выходзіць факсімільнае выданне „першай беларускай газэты з рысункамі". Такім чынам легенда беларускага перыядычнага друку стала даступнай не толькі архівістам. Змест той, гістарычнай „Нашай Нівы", кожны нумар якой выдаваўся на васьмі старонках у не менш легендарнай друкарні Марціна Кухты, у многім здаецца досыць наіўным, мова дзіўнай і момантамі недарэчнай. Але колькі ў ёй шчырасці і мэтнасці. Невыпадкова яна была, кажучы сучаснай мовай, такой інтэрактыўнай, мела за ўвесь час выхаду больш трох тысяч сталых і аднаразовых карэспандэнтаў, столькі водгукаў, шмат падпісчыкаў з розных куткоў Беларусі. „Наша Ніва" задала старт айчыннай журналістыцы і дагэтуль застаецца шляхаводнай зоркай на небасхіле беларушчыны.



Цэна асобнаго нумэру 5 кап.

Год V. Вільня 21 Кастрычніка (Октября) 1910 г. № 43.

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА З РЫСУНКАМІ

**Выходзіць што тыдзень рускімі і лацінскімі літэрамі.**

Адрэс рэдакціі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вуліца, д. № 20.**

## „Гусьляр". Я. Купалы.

*Петербург 1910 года, выданьне А. Грыневіча.*

Ешчэ так недаўно здавалося, што ўсё у нас памерло, што німа у нашаго народа ні думак, ні песень, а калі спатыкаліся мы с чужымі і яны нас пыталі: „хто Вы? дзе у Вас слово друкаванае?"—мы, веручы у творчасць, у жывую сілу народа, адказывалі: „Пачэкайце! Ўсё сабіраецца, ўсё жыве у будучым".—Бо пеяла наша вёска песьні даўные, песьні слаўнай мінуўшчыны, толькі пеяла у душы: голасу не было чутно далей, як у свaей „парафіі", і—здавалося—„што прыход, то і поп".—Але чуткая душа нашых выбранцоў прыслухівалася да тэй нямой песьні, да таго гоману нашых лесоў і зямліцы-маці, дабірала сабе форму і вылілася у песьні—голасна! Песьні тые пачалі пэрэліваць на паперу—адны з меншым, другіе з большым талентам і пачуцьцем свайго роднаго; песьняры зрадніліся з духам, жаданьнямі і псыхікай нашаго народа—маўчліваго, перанёсшаго многа-многа гора. Да тых апошніх належыць Янка Купала.

Пануе у творах Янкі Купалы фантазія, адмыкае ў ім вялікае багацтво форм, напаўняе яго думы, і ліецца песьня гусьляра. Багацтво настраеньнёў прабіваецца ў кожным яго творы. У кароткім вершы маем колькі абразоў, гармонійна зліваючыхся ў адзін, каторы малюе пуцеводную думку. Ці кінецца Купала ў даўнейшы мыт, ці загляне ў даўны курган, што віднеецца на нашай бацькоўшчыне, ці ўдарыць у сумную заімглёную цяперышыну,—з усяго дабудзе тон родны, дабудзе той асобны беларускі матыв. Думае наш песьняр аб «ціхіх мальбішчах айчызны» і ім нясе «сваю ношу».—І верыць, што пакуль думка а праўдзе «ня ўздзе-

660 НАША НІВА. № 43

не плесьні-сівізны», «моц сваю сьвету пакажэм» і шмат зробім, станем як поўнапраўны народ, аж «здзіўляцца старцы і дзеці, што значыць вельмі хацеці»! І «хаця Зьніч праўды затух», «жальбоў слухае толькі шум бараны, на іх мукі глядзяць толькі зоры», ўсё-ж у песьні Купалы вырываецца вызоў: «Адгукніся, душа, на іх стогн векавы! Задрыжыце даліны і горы»!

Вельмі кахае песьняр нашы горы, даліны, рэчкі курганы: ў іх ён складае свае найвялікшые думкі, яны служаць яму тэмай творчасьці. Хоць і сумная наша цяперышчына, хоць народ наш ідзе абмацкам, ня знаючы хто ён і якое пекнае назначэньне яго ў паходзе чэлавецтва,—Купала за наш народ кажэ:

«Шлях залаты працярэбім,
Зорна ўзнясёмся ў высоты
Вышэй непраўды, неславы,
Вышэй пакутных балотаў».

Пазнаў жыцьцё наш песьняр і ведае, што нішто на сьвеце само не даецца, усяго трэба «вельмі хацеці» і нераз трэба крыжэм сьлед значыць... Але ў жыцьці ёсьць песьня, ёсьць думка, ёсьць ідэя і вера, і яна стаіць на варце, яна нас вядзе да тых краёў, што ў сьне бачым, родніць нас, ускалыхівае пакрытае плесьню-сівізнай народнае сумленьне і творыць легенды, як „Песьня казка„.

«Княжна чуе ўсе гэтые словы,
Бедака бярэ мужам сабе».

У пекнай і індывідуальнай форме напісан верш Купалы «Замковая гара».Форма яго—кароткая, выразная, добра апрацаваная і ў цэласьці зліваецца ў тую думку, каторая нераз варушылася ў нашай галаве, калі мы бачылі гэту даўную славу нашых князёўволодароў; але гэту думку, так нам блізкую, толькі Купала патрапіў выліць у думку песьню.

Але не без радасці трэба прыкмеціць, што Купала ўсё развіваецца, што пазбываецца ўсіх чужых налётоў выробляе беларускі мотыв, так адменны ад мотыву братніх народоў. Калі ў першым выданьні вершоў Купалы (*«Жалейка»*) спатыкаемо багато пэрэкладоў і думак чужых, выказаных толькі беларускім вершэм, то ў «Гусьлярэ» ўжо іх менш... Паводлуг маей думкі, вершы Купалы «Кат» (мотыў узяты з Сенкевіча), «Смутна, мне, Божэ» (Словацкі), «І вецер, і сокал і я» (Горкій)—гэтые вершы трацяць на сіле, бо, калі параўняць з орыгіналамі, то выйдуць бедна. У ўласных, самобытных творах Купала ня мае роўных сабе, але я ешчэ не збіраюся вельмі здольнаму нашаму песьняру ўжо сягоньня сыпаць кургана высокаго». Веру, што далейшай самабытнай творчай працай Янка Купала займе у нас адно с першых мейсц і заслужыць на добры спамін; любоў нашаго песьняра да роднай старонкі—гэто агонь жыцьця, пры каторым начынае цьмы крылы папаляць і нас за народ жывы палічаць. З шчыраго сэрца скажу толькі адно «Працуй і сей, Я. Купала—будзе ўсход, узыйдуць зёрны, сеяные шчодрай і шчырай рукой!»

# Камянецкая Вежа

Неяк адна з выкладчыцаў сур'ёзнай навучальнай установы ў час лекцыі „загнула", што назва Камянецкай вежы пайшла ад Белавежскай пушчы. Анекдатычная недарэчнасць вынікла, відаць, з таго, што аднайменная пушча ў свеце, ды і ў самой Беларусі куды больш ведамая, чым уласна сама Белая вежа. Таму варта адмыслова выбрацца ў Камянец, каб на свае вочы пабачыць мясцовы ўнікальны помнік архітэктуры. Асабіста мне падобную ацалелую вежу ў іншых мясцовасцях Еўропы знаходзіць не даводзілася, хоць 700-800 гадоў таму іх было досыць шмат. Гэтае збудаванне мае рэдкае і рамантычнае найменне „данжон" — так у сярэднявечным замку называлі галоўную вартавую вежу, у якой часам размяшчаліся і жылыя пакоі ўладальніка.

Сам Камянец паводле Іпацеўскага летапісу быў заснаваны валынскім князем Уладзімірам Васількавічам у 1276 годзе. Тады ж на левым беразе рэчкі Лясная і быў закладзены Камянецкі стоўп, які мусіў умацаваць паўночныя межы Берасцейскай зямлі. Пабудова ў месцы, дзе вяліся магутныя зубры і іншыя дзікія звяры, карэнным чынам змяніла наваколле. Старажытны летапіс захоўвае і імя дойліда — вежу і ўсё абарончае паселішча будаваў тагачасны майстар Алекса. Вежа складзена спосабам так званай вендскай муроўкі (чаргаванне ў цаглінах двух лажкоў іаднаго тычка), якая прыйшла на нашы землі з далёкай Ламбардыі. Як выявілі даследзіны археолагаў вежа была абкружана кальцавым валам і выразна ўзвышалася над драўлянымі ўмацаваннямі. Валы былі з трох бакоў, з чацвёртага ж натуральнай абаронай служыла паўнаводная тады рака. Да нашых дзён засталася толькі сама вежа, якая складаецца з 5 ярусаў і сягае ўверх на 30 метраў. Таўшчэзныя сцены даюць яскравае ўяўленне, што для сярэднявечных ваяроў яна была непрыступнай цвердзю. Прынамсі, у гістарычных крыніцах няма звестак пра тое, што Камянецкая вежа была калі-небудзь заваяваная штурмам. За яе сценамі можна было перасядзець працяглы час, тым больш, што ў самой вежы верагодна была студня — наўкола і зараз багата крыніцаў.

З цягам стагоддзяў Камянецкая вежа страціла сваю функцыянальнасць і да дзявятнаццатага стагоддзя прыйшла ў заняпад, мясцовыя насельнікі спрабавалі нават расцягнуць яе на цэглу. Сітуацыю ўратаваў мясцовы святар Леў Паеўскі, які звярнуўся да ўладаў з прашэннем аб

адбудове помніка. Урэшце ў 1903-05 гадах была праведзена рэстаўрацыя. А ў савецкі час на вежы нейкі час вісеў лозунг „Слава КПСС", які пазней кануў у нябыт. У 1957-ым годзе савецкае начальства прыдумала пафарбаваць вежу ў белы колер. І толькі ў наш суверэнны час помніку была вернутая аўтэнтычнасць, для чаго давялося задзейнічаць нават альпіністаў.

Назва Камянецкай вежы сваім коранем супадае з назвай усёй дзяржавы, таму яна даўно стала ўстойлівым адметным сімвалам нашай краіны. Парадаксальна аднак, што ўласна белай яна ніколі не была, насуперак распаўсюджанаму меркаванню, паводле якога ў сярэднявеччы вежу бялілі. Насамрэч бяліліся толькі нішы верхняга ярусу. Паэты прысвяцілі знакамітаму помніку архітэктуры нямала твораў, а Алег Лойка ў аднайменнай паэме нават атаясамліваў гісторыю вежы з лёсам усёй нацыі. Камянецкая вежа стала ўстойлівым брэндам Берасцейшчыны — ёсць адпаведны абласны фэст, выпускаецца „Белавежскае піва". Сёння ў Камянецкай вежы размешчана музейная экспазіцыя. Летам 2011-га году тут прайшло рэгіянальнае свята сярэднявечнай культуры і традыцый. Некалі людзі стваралі помнікі. Цяпер гэтыя помнікі адраджаюць гісторыю.

Фота Магдалены Сівэк



Мала хто з беларусаў бываў у мясцовасці Замаслава і нават ведае пра знакаміты мясцовы палац. Вёска, якая цяпер называецца Жамыслаўль ляжыць удалечыні ад асноўных турыстычных і транзітных шляхоў, размешчана яна на ўскрайку сучаснага Івейскага раёну на сумежжы з Летувой. Даехаць сюды можна дзвюма рознымі і аднолькава кепскімі аўтадарогамі — праз Суботнікі альбо Трабы. У адну з сяброўскіх краязнаўчых вандровак мы дабіраліся туды дажджом кепскай трабскай гравійкай.

Пра тое, што цяперашні Жамыслаўль правільна па-беларуску называць як „Замаслава" мне расказаў Зянон Пазьняк, які паходзіць з суседніх Суботнікаў. Прынамсі так яго называлі старэйшыя людзі, але з цягам часу адбылася змена. А яшчэ раней мясцовасць увогуле называлася іначай — Кандрацішкі.

Замаслава размешчана ўздоўж рэчкі Гаўя і практычна зліваецца з іншай вёсачкай — Шаркуці. Пакручастай стужкай Гаўя дзеліць Замаслава на дзве часткі. Пры пабудове ў 1953-ым годзе гідраэлектрастанцыі ўтварылася маляўнічае возера. На беразе яго і стаіць знакаміты некалі палац Умястоўскіх, збудаваны каля 130 гадоў таму па ўзоры варшаўскіх Лазенак. Маршалак Якуб Умястоўскі стаў уладаннікам маёнтку ў 1805-ым годзе, ён перанёс сюды з Клявіцы сваю рэзідэнцыю. Далейшае развіццё маёнтак зазнаў пры яго малодшым сыне — Казіміру. Гэты Умястоўскі быў сапраўдным гаспадаром, да ўсяго эстэтам і чалавекам шырокіх інтарэсаў — акрамя сядзібы была збудавана аранжарэя і вялікія стайні і валоўні, толькі выязных коней гадавалася паўсотні. Скупляў маршалак і навакольныя землі і фальваркі. Пасля яго раптоўнай смерці ў 1863-ім годзе гаспадарыць стала жонка Юзэфа. Пры ёй драўляны палац быў разабраны, а на яго месцы паўстаў мураваны. Тады ж збудавана капліца па дарозе на Суботнікі, шмат увагі графіня надавала парку і пасадцы дрэў пры дарогах. Пасля таго як яна памерла ў Вільні маёнтак пераняў яе сын Уладзіслаў — апошні з дынастыі Умястоўскіх. Гэта быў чалавек шырокага культурнага дыяпазону, ён шмат вандраваў па Еўропе, прыкладам сябраваў з славутымі французскімі пісьменнікамі — бацькам і сынам Дзюма. Не дзіва, што Уладзіслаў працягваў укараняць у сваёй рэзідэнцыі еўрапейскія навацыі, пры ім было завершана будаванне палацу, багата і густоўна аформ-

лены інтэр’еры. З’явілася і новая ліпавая алея, гэтыя прысады збераглісяі да нашых дзён і цешаць вока сваімі зялёнымі шатамі. Рэзідэнцыя на беразе разгалінаванай Гаўі была такой прыгожай, што сучаснікі называлі яе замаслаўскай Венецыяй, сюды прыязджала шмат замежнікаў. Іх вабіла не толькі прырода, але і багатая бібліятэка, мажлівасць рознага адпачынку. Так у парку былі зроблены пляцоўкі для тэнісу і кракету. Пры сядзібе дзеіла і эфектыўная рознабаковая гаспадарка, якую вялі лепшыя аграномы Еўропы.

XX стагоддзе прынесла гэтаму чароўнаму куточку сапраўдныя бедствы. Замаслаўскі палац быў разрабаваны кайзераўцамі ў першую сусветную вайну, далей было не лепей. Прыйшла парцэляцыя былых буйных маёнткаў і апошняя гаспадыня Яніна Умястоўская стварыла з сваіх уладанняў фундацыю і аддала яе на асветніцкія мэты Віленскаму ўніверсітэту. Потым прыйшла яшчэ адна вайна. У савецкі час перад палацам пастаўлены помнік савецкаму салдату ў выглядзе сапраўднага монстра. Сам сядзібны комплекс спакваля разбураўся.

Апошнім часам на тэрыторыі сядзібы і вакол яе пачаліся падрыхтоўчыя працы да аднаўлення. І магчыма Замаслава яшчэ адродзіць сваю былую славу.



# Сонечны Нясвіж

У дзевяностыя гады, якія паталагічныя прыхільнікі пачварнага Савецкага саюзу ўпарта працягваюць называць „ліхімі", мне досыць часта з сябрамі альбо экскурсіямі даводзілася бываць у Нясвіжы — адным з сама старажытных і славутых беларускіх гарадоў. У сённяшнім адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзеле ён прыналежыць да Мінскай вобласці. Што асабліва ўражвала — у кожны прыезд у розную пару году тут было заўсёды сонечна, у адрозненне ад недалёкага сталічнага Мінску, дзе цэлы час ішоў дождж. Нясвіж — Горад Сонца — для беларусаў адкрывала незабыўная мясцовая краязнаўца Клаўдзія Шышыгіна-Патоцкая: як праз свае кніжкі, так і асабіста. Здавалася, што прадстаўніца знакамітага графскага роду не пакідала мясцовага некалі радзівілаўскага замку — яе заўсёды можна было стрэць на ўваходзе ў комплекс, паслухаць, купіць чарговую тоненькую, але такую змястоўную кніжачку пра нясвіжскія таямніцы і легенды. Здаецца, што ўсё напісанае пра Нясвіж пасля спадарыні Клаўдзіі — толькі другаснае.

Першы з помнікаў архітэктуры славутага сярэднявечнага гораду, пра які я даведаўся, была Слуцкая брама — так называлася аднайменная песня рок-гурта „Бонда", які выступаў з канцэртам у далёкім ужо 1986-ым годзе ў нашай вайсковай частцы. „Слуцкая брама — непарушны мур, Слуцкая брама — сведка авантур". Гэта быў час поўны надзеяў і нацыянальнага абуджэння. Кампазіцыя іншага легендарнага гурта „Уліс" — „Цягнік на Нясвіж" — таксама адкрывала дарогу да гісторыі Беларусі. Рэч у тым, што да Нясвіжу няма чыгункі, але ж „рушыць цягнік на Нясвіж, ідзе дадому...". „На жывую" Слуцкая брама таксама не расчаравала. Такіх збудаванняў у Нясвіжы ў канцы 16-га стагоддзя было ажно чатыры, адпаведна выездам з гораду. У 18-ым стагоддзі цытадэльная брама была перароблена ў барокавым стылі. На першым яе паверсе было памяшканне для варты, на другім размяшчалася капліца.

Нясвіж з першага прыезду захапіў сваім архітэктурным багаццем. Тут і агромністы радзівілаўскі палацава-замкавы ансамбль, які заслугоўвае асобнай дэталёвай гаворкі. І колішні езуіцкі фарны касцёл (які фантастычны там роспіс столі і сценаў!), пабудаваны геніяльным творцам Янам-Марыем Бернардоні па ўзоры рымскага храма Іль-Джэзу. І гарадская ратуша 16-га стагоддзя, найстаражытнейшая з тых,

што ацалелі на беларускай зямлі. І кляштар бенедыктынак, у комплексе якога вылучаецца вежа-званіца — адзін з яркіх сымбаляў горада. І друкарня, дзе былі выданыя знакамітыя творы на старабеларускай мове — „Катэхізіс" і „Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам". І Дом рамесніка — узор старадаўняга гарадскога жылля, і пазнейшыя цікавыя забудовы. У адным Нясвіжы можна вывучаць архітэктурную эпоху стылю барока. А яшчэ тут ёсць помнік Сымону Буднаму, друкару і мысляру, загадкавай асобе дагэтуль: адны лічаць яго ерэтыком-бязбожнікам, іншыя адваротна — чалавекам, які раней іншых з свайго часу спазнаў ісціну хрысціянскага вучэння.

Пасля смерці Шышыгінай-Патоцкай у 2005-ым годзе, мне доўга не даводзілася больш прыязджаць у Нясвіж. Гэта былі гады татальнай „рэканструкцыі", навукоўцы з трывогай білі ў званы, што рэстаўрацыя пагражае аўтэнтычнасці радзівілаўскага замкавага комплексу. У славутай рэзідэнцыі былых магнатаў, якая была некалі гонарам усёй краіны, зараз новыя „гаспадары". І цяпер няведама, ці ўсё гэтак жа як раней наш Нясвіж сустракае сваіх гасцей сонцам...



# Загадка манастыра

У нашай краіне багата яскравых легендаў, пераплеценых з рэальнымі гістарычнымі падзеямі, што дайшлі да нашых дзён і не даюць спакою ні мясцовым жыхарам, ні даследнікам мінуўшчыны. Чорная дама Нясвіжскага замку, чароўнае возера Сьвіцязь, прывіды Крэўскага замку і Гальшанскага кляштару. Кожны, хто пачынае даследаваць гэтыя з'явы, ці нават проста вандраваць па гістарычных мясцінах, наведваць месцы, ахутаныя таямнічасцю, рана ці позна сутыкнецца з пэўнымі анамаліямі і загадкамі, якія ня проста вытлумачыць і асэнсаваць. Калі сутыкаемся з легендамі, заўсёды цяжка вызначыць, дзе рэальнасць, а дзе факты. Старыя руіны, старажытныя муры, нетры азёраў і балот неахвотна раскрываюць свае таямніцы. Толькі яны сведкі старажытных падзей сівой даўніны, толькі яны памятаюць тое, што адбывалася на гэтай, з аднаго боку шматпакутнай, а з іншага боку такой шчодрай, багатай на таленты, асобы і прыгоды зямлі. Шмат скарбаў і багацьцяў, як матэрыяльных, так і духоўных, страчана праз смугу стагоддзяў незваротна. Шмат з іх застаецца вакол нас нязведанымі і неацэненымі. Часта ў самых простых рэчах, прыродных ці архітэктурных помніках прыхаваныя цікавыя факты, адметныя падзеі, унікальныя з'явы.

У свой час мне давялося папрацаваць у музеі гісторыі рэлігіі, які тады месціўся ў старадаўнім гарадзенскім кляштары. Многія гарадзенцы ведаюць пра тое, што ў ім жыла Белая дама. Легенду гэтую апісаў пісьменнік Аляксей Карпюк, які якраз быў першым дырэктарам музею, у сваім творы, які так і называецца „Белая дама". Некаторыя з маіх калегаў сапраўды бачылі гэты прывід. Асабіста мне не пашанцавала, ці наадварот пашчасціла. Аднак адчуванне нейкай загадкавай аўры, заўсёднай прысутнасці звышнатуральнага там сапраўды было, асабліва, калі даводзілася аднаму ісці па доўгім калідоры кляштарнага памяшкання. Не пакідала адчуванне, што нехта, невідочны, увесь час за табой назірае і сочыць. А аднойчы збялелы сябра, навуковы супрацоўнік, прыбег з кляштарнага корпусу і расказаў, што ў той момант, калі ён зачыніў дзверы, няведамая сіла з адваротнага боку павярнула дзвярную ручку ўверх-уніз. І ўсе яму абсалютна паверылі.

На месцы сучаснага манастыра Раства Багародзіцы у глыбокай старажытнасці стаяла Прачысценская царква. Яе выявілі археолагі ў пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага ста-

годдзя, крыху пазней былі створаныя адмысловыя калодзежы для агляду старажытных падмуркаў. Калі пасля музею ў будынак прыйшоў манастыр, неўзабаве гэтыя шурфы былі ліквідаваныя — магчыма яны супярэчылі нейкім канонам.

Першы кляштар базыяльянак на гэтай тэрыторыі быў драўляным, яго знішчыў пажар. Пазней у 1726-1751 гадах паводле праекту італійскага архітэктара Іосіфа Фантаны быў узведзены новы, ужо мураваны, кляштар. У 1860-ыя комплекс перайшоў да праваслаўнай канфесіі, тады ж была прыбудаваная царква Святога Сергія Раданежскага. У савецкі бязбожны час на сценах храма віселі матацыклы — тут была адпаведная школа. Ужо калі засяліўся музей, у ім размясцілі мадэль спадарожніка зямлі, які мусіў дэманстраваць вяршэнства атэістычнага мыслення. Пазней нехта разумнейшы схамянуўся і вялікую жалезіну перанеслі пад кінатэатр „Космас", у цяперашні час яе ўжо няма.

У апошнія гады дзейнасці тут музея гэта быў сапраўдны экуменічны асяродак і месца правядзення канцэртаў класічнай музыкі. Сёння ў будынку кляштара праваслаўны жаночы манастыр, а ці засталася там Белая дама, няведама.



Ваўкавыск некалі павятовы, а зараз раённы цэнтр на Гарадзеншчыне, найбольш старажытны горад Беларускага Панёмання знакаміты найперш сваімі археалагічнымі помнікамі. Іх тут налічваецца ажно тры — Замчышча, Муравельнік і Шведская гара. Навукоўцы маюць усе падставы меркаваць, што тут мог бы паўстаць археалагічны музей пад адкрытым небам. Але каб заглыбіцца ў гісторыю, у Ваўкавыску трэба ўзняцца ў гару.

Існуе прынамсі некалькі версій паходжання адметнай назвы Ваўкавыск. Адна з іх была адлюстраваная як народнае паданне яшчэ ў 1881 годзе — у адным з выпускаў часопіса „Віленскі веснік". Нібыта паселішча атрымала назву ад двух імёнаў — Волака і Вісека — верхаводнікаў мясцовых рабаўнікоў, якія рабілі сваю чорную справу яшчэ ў восьмым стагоддзі. Але на кожную сілу заўсёды знойдзецца іншая. Нібыта ў 738 годзе нехта Ваціслаў Завейка забіў Волака і Вісека і на месцы іх прыстанку пабудаваў 10 хацінаў, тым самым паклаўшы пачатак забудове новага гораду. У памяць пра гэтыя падзеі пасяленне і было названае „Волака-Выск". Гэтую версію падтрымліваў і святар Булгакоўскі, які выдаў у 1914 годзе „Гістарычны нарыс Ваўкавыску".

Паводле іншай версіі горад атрымаў сваю назву ад ракі Ваўкавыя, якая працякае праз места і ўпадае ў раку Рось — левы прыток Нёману. Рака ж атрымала такую назву таму, што некалі яна цякла праз непралазны лясны зараснік, дзе вадзілася шмат ваўкоў. Ну а як воўк, то безумоўна вые! На карысць гэтай версіі тое, што пазней, калі горад ужо атрымаў пячатку, то на ёй была выбітая воўчая галава. Трэцяя версія выводзіць паходжанне назвы з таго, што некалі горад ляжаў на старажытным волакавым шляху. Яшчэ адна гіпотэза звязвае назву з старажытным народам волахаў, які здаўна займаўся жывёлагадоўляй і жыў далекавата — у паўднёвым Прыкарпацці. Аднак, частка волахаў у 10 ст. перасялілася разам з дрыгавічамі і валынцамі ў рэгіён Панёмання. Сёння на ўскрайку цэнтральнага пляцу Ваўкавыску насупраць універмагу ўсталяваны прыгожы помнік ваўку, які безумоўна робіць гораду адметнасць. Ваўкавыскі воўк куды большы за славутую легендарную рымскую ваўчыцу. Зрэшты, як і належыць сапраўднаму беларускаму ваўку.

У даўняй гісторыі Ваўкавыск ведамы тым, што ў 13-ым стагоддзі ён быў аб'ектам змагання паміж літоўскімі і галіцка-валынскімі князямі, якое скончылася на карысць першых у 14 ст. 16 сакавіка 1410 году горад быў захоплены вялікім магістрам Тэўтонскага ордэну Фрыдрыхам фон Валенродам. Крыху пазней ваўкавыская харугва ў складзе войска ВКЛ адпомсціла за гэта на Грунвальдскім полі.

Іншы яскравы перыяд у гісторыі Ваўкавыску прыпаў на вайну 1812 году, калі ён быў захоплены корпусам генерала Рэнье, а пасля штурму расейскімі войскамі быў амаль цалком спалены. У сядзібным доме забудовы пачатку 19 стагоддзя, які яшчэ называецца домікам Баграціёна, у 1935-ым быў створаны краязнаўчы музей. У другую сусветную вайну яго разрабавалі, а ў 1948-ым годзе аднавілі. У савецкі час цэнтр гораду выглядаў блякла, але калі тут праводзіліся Дажынкі, фарбаў пабольшала, змяніўся і цэнтр, значную частку якога займае адзін з сама вялікіх у Еўропе пляцаў.

З вышыні Шведскай гары, дзе ўсталяваны адмысловы геадэзічны знак, добра відаць усё наваколле, як панарама старой часткі з новым праваслаўным саборам і старым касцёлам, так і шэрыя змрочныя карпусы мясцовай калоніі для зняволеных. Перад імі невялікае возера, у якім з вышыні нібыта адлюстроўваецца ўся даўніна старажытнага паселішча.



Сцяг і знак

Пра наш бел-чырвона-белы сцяг за апошнія дваццаць гадоў напісана так шмат, што кожны нарыс на гэтую тэму рызыкуе стаць альбо другасным і кампіляцыйным, альбо проста нецікавым. Аднак, у кантэксце як агульнанацыянальных скарбаў, так і асабіста дарагіх рэчаў абмінуць гэты сымбаль аніяк нельга. Проста здзіўляешся які шлях ведання і стаўлення да нацыянальнай сімволікі прайшлі мы, беларусы, за апошнія трыццаць гадоў! Яшчэ ў пачатку васьмідзесятых гадоў, у час сацыялістычнага „застою" мы нічога не ведалі пра нашы адвечныя колеры, сапраўдны сцяг і герб „Пагоня" былі ў сведамасці толькі некаторых навукоўцаў ды старых змагароў за незалежнасць. Потым з надыходам перабудовы прыйшла і шырокая хваля асветніцтва датычна беларускай сімволікі, карані якой сягаюць у часы індаеўрапейскага адзінства. Бел-чырвона-белы сцяг перацярпеў яшчэ нападкі розных савецкіх ідэолагаў і „ветэранаў", якія вінавацілі носьбітаў сымбалю ў фашызме і нацыяналізме, але гэта была сапраўды толькі шума на магутнай, здавалася незваротнай, хвалі Адраджэння, праўды пра гістарычную геральдыку і вексілалогію.

І ўрэшце прыйшоў ён, сапраўдны Беларускі дзень — 19 верасня 1991 году Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову пра змену назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджана „Пагоня", Дзяржаўным сцягам — бел-чырвона-белы сцяг. Пад ім былі закладзены асноўныя падмуркі дзяржаўнасці, здабытыя першыя суверэнныя спартовыя заваёвы (згадаем хоць бы зімовую алімпіяду ў нарвежскім Лілехамэры), угрунтаваны сапраўдны патрыятызм. Мы можам ганарыцца тым фактам, што падпісанне белавежскіх пагадненняў у Віскулях пра канец існавання савецкай імперыі зла адбылося менавіта на нашай зямлі і пад нашым сцягам.

Ну а потым усё раптоўна павярнулася назад. Сцяг забаранілі, яго носьбітаў сталі караць вялізнымі штрафамі, арыштоўваць, збіваць. Ізноў, як сказаў паэт, „кроў лягла чырвонай паласой" праз рэчаіснасць.

Бел-чырвона-белы сцяг — гэта знак і шлях Хрыста, сымбаль Хрыстовае пакуты за чалавецтва. На адной з ведамых карцінаў Альбрэхта Альтдорфэра, датаванай шаснаццатым стагоддзем, уваскрэслы Збаўца трымае ў руцэ белую харугву з чырвонай паласой пасярэдзіне. Аналагічныя мастацкія

палотны, але ўжо іншых майстроў пэндзля, давялося пабачыць мне ў Будапешце — у Нацыянальным венгерскім музеі. Нездарма сімволіка такога колеравага спалучэння ёсць і на адзенні вышэйшага праваслаўнага святарства. Ніхто, праўда, з гэтых сучасных герархаў не заступіўся аніводнага разу за тых, каго білі да крыві на пляцах Менску толькі за тое, што яны трымалі такі ж трыкалор у руках. Але хай яны самы думаюць пра тое, каму і чаму служаць пад гэтымі святымі колерамі...

Нягледзячы на цемрашальства, якое пануе зараз у краіне, Беларусы ўжо ведаюць сапраўдныя колеры сваіх святыняў. Наш выпакутаваны стагоддзямі сцяг не можа замяніць ніякі недарэчны „заход над балотам", ніякая псеўдасымболіка з каласамі ці сярпамі. Таму раз-пораз у розных гарадах і мясцовасцях узнікаюць свае „Міроны", якія вывешваюць гэты знак у розных высокіх месцах. Пакуль будзе жывы хоць адзін беларус, наш сцяг будзе лунаць і вызначаць сапраўдны шлях нацыі.

Мой асабісты сцяг пабываў на ўгодках Грунвальду і на рымскім полі Тор Вегата, на магіле Ларысы Геніюш у Зельве і ў вольналюбівай Сьвіслачы, на менскім стадыёне „Дынама" і каля гарадзенскай Каложы. Нават калі ён забаронены, ён заўсёды з намі.



Моўчадзь ці Моўчадка — гэта левы прыток Нёману, які бярэ пачатак на тэрыторыі Баранавіцкага раёну і працягваецца ў Дзятлаўскім, працякаючы пераважна па Наваградскім узвышшы. Агульная яе працягласць амаль 100 кіламетраў. Каб спазнаць характар ракі патрэбна па ёй праплыць. Маё знаёмства з рэчкай Моўчадзю, у прахалоднай вадзе якой было так прыемна купацца, пачалося яшчэ з студэнцкіх гадоў. Але толькі ўлетку 2011-га ўдалося выбрацца на першае воднае падарожжа па ёй.

Узначаліў сяброўскую трохдзённую экспедыцыю „наш Тур Хеердал" — Валерый Петрыкевіч, спрактыкаваны падарожнік, які ў свой час прайшоў у водных паходах рознага роўню складанасці тэрыторыю ўсяго былога Савецкага саюзу — ад Далёкага Усходу да Таджыкістану, ад Карэліі да Карпатаў. З дасведчаным Міхалычам у адной байдарцы нават пачатковец пачуваецца ўпэўнена. Галоўнае ў такім падарожжы — гэта не толькі цікавыя краявіды, але і сяброўская атмасфера, а з гэтым у нашым квартэце было проста файна. Да таго ж шчырыя сустрэчы ў час прывалаў і месцаў начлегу з мясцовымі краязнаўцамі, якія сталіся магчымымі дзякуючы мабільнай сувязі — усё ж і прадметы сучаснай цывілізацыі могуць быць карыснымі ў такіх вандроўках.

Стартавалі мы каля вёсак Агароднікі і Крамяніца ў мясціне, дзе стаіць будынак старога, проста агромністага млына. Дарэчы, у энцыклапедычным даведніку „Блакітны скарб Беларусі" прыгожы фотаздымак гэтага млыну памылкова падаецца як месца ля вёскі Дварэц. А мне адразу прыгадаўся прыватны млын-музей у адным з нямецкіх гарадоў. Агародніцкі шматроўневы млын мог бы стацца сапраўдным музейным аб'ектам, але зараз ён у занядбаным стане з разбураным дахам, на якім знайшлі сабе прытулак буслы.* Ля Дварца таксама ёсць рэшткі старога млына, але гэта зусім іншая гісторыя. За адбудову дварэцкага помніка доўга змагаўся былы дырэктар мясцовай школы Аркадзь Сокал. Мы сядзелі разам на беразе ракі, адкуль былі бачны царква і касцёл, і размаўлялі пра гісторыю мясцовасці. Калісьці тут ішло змешванне балцкага і славянскага этнасу, паблізу былі крэйдавыя шахты, падобныя на славутыя краснасельскія. Цікава, што ў Дварцы (раней мясцовасць называлася ў множным ліку) распаўсюджаныя прозвішчы Каралі і Цары — так што ўсё адпаведна. Мясцо-

вы муравана-драўляны млын, які належаў роду Пратасевічаў, быў адным з першых на Гарадзеншчыне і выконваў ажно 4 аперацыі. Была мясцовая дынастыя млынароў па прозвішчы Кветка. Ёсць легенда пра тое, што менавіта ў дварэцкім млыне была схованка ведамага арганізатара вызвольнага паўстання Міхала Валовіча. Ранейшыя дырэктар і старшыня калгасу дбалі пра помнік, быў адноўлены нават дах, але знайшлася зладзейская рука, якая падпаліла будынак. Пасля знішчальнага пажару больш да яго нікому справы няма.

Бліжэй да Наваельні рэчышча і берагі Моўчадзі істотна мяняюцца. Берагі з гадамі зарастаюць, раней на іх было куды людней, так што зручнае месца для высадкі і стаянкі знайсці ўжо не так проста. Урэшце, перададолеўшы водныя заторы, якія ўтвораны паваленымі дрэвамі і карчамі, выплываем на шырокую паверхню Навасёлкаўскага вадасховішча. Тут вялікая прастора для арнітолагаў і аматараў расліннасці. Пад самай Наваельняй стаіць гідраэлектрастанцыя і, каб прадоўжыць падарожжа, байдаркі патрэбна перацягваць праз дарогу з мостам волакам. Апошні наш начлег быў пад Баравікамі, куды любяць прыязджаць адпачываць людзі сем'ямі. Ізноў хочацца выправіцца ў далейшую вандроўку па Моўчадзі...

*У 2013-ым годзе млын у Агародніках быў па-варварску зруйнаваны мясцовай уладай



Смаргонь як Гасконь

Смаргонскі край займае асаблівае месца ў ментальным шэрагу мясцовасцяў Беларусі. Менавіта тут было моладзевае антысавецкае падполле, якое дзеіла пасля апошняй вайны. Вучнёўскі антыкамуністычны рух быў разгромлены, а яго ўдзельнікі ў 1950-ым атрымалі вялікія турэмныя тэрміны. Балазе праз пару гадоў пасля гэтага сканаў крывавы крамлёўскі правадыр і засуджаныя патрыёты былі амніставаныя і вярнуліся ў родныя мясціны. Яшчэ праз сорак гадоў саветызаваныя беларусы выбіралі сабе новага „бацьку", але на тых, адзіных у гісторыі краіны сапраўдных выбарах, насельнікі Смаргоншчыны прагаласавалі пераважна за прадстаўніка нацыянальнай апазіцыі — Зянона Пазьняка. Пачатак дзевяностых — слаўны час для нашага Адраджэння. Беларушчына на Смаргоншчыне стала расці як грыбы пасля дажджу, настолькі яна тут арганічная.

Падобна кніжнаму герою Аляксандра Дзюма, гасконцу з паходжання, мясцовы жыхар можа сказаць: „Мне не патрэбныя акадэміі, кожны смаргонец з дзяцінства акадэмік". Насамрэч сённяшнія смаргонскія „д'Артаньяны" выпраўляюцца не ў Парыж, а ў Маскву на будаўнічыя заробкі. Гэта следства росквіту экономікі „рынкавага сацыялізму". Але Францыя трывала ўвайшла ў гісторыю мясцовага гораду. Менавіта ў Смаргоні спыняўся Напалеон Банапарт, тут ён перадаў камандаванне сваім войскам маршалу Мюрату. А яшчэ на Смаргоншчыне дагэтуль шукаюць так званую „карэту Напалеона", па адной з версій менавіта ў мясцовых балотах ці азёрах быў затоплены ўнікальны скарб з каштоўнасцямі.

Што ж датычыць адукацыйных установаў, то з 17 стагоддзя уладальнікамі мясцовасці магнатамі Радзівіламі тут была заснаваная „Смаргонская акадэмія" — жартоўная назва промыслу лавіць і дрэсіраваць мядзведзяў, адна з школаў беларускіх скамарохаў. Мядзведзь зазвычай асацыюецца з Расеяй, ёсць ён гербам старадаўняй Жмудзі і сучаснай нямецкай сталіцы Берліну, але ў Смаргоні ці Смаргонях (назва раней ужывалася ў множным ліку) ён таксама сімвалічны. „Былі, можна сказаць, радзімай мядзведзяў!" — як сказаў бы іншы кіна-літаратурны герой. Цяпер жа іх па ўсёй Беларусі засталося не больш сотні. У даўнія часы ў мясцовай „акадэміі" мядзведзяў навучалі цыганы. Гэта была досыць жорсткая дрэсіроўка — жывёлін садзілі ў адмысловую клетку, металічнае дно якіх моцна награ-

валася — так мядзведзі вучыліся танчыць пад музыку бубна і ражка. Гэтыя „артысты" разам з дрэсіроўнікамі амаль кожнай вясной выпраўляліся на сапраўдныя гастролі па ўсёй Еўропе, а вярталіся дахаты з заробкаў толькі ўвосень. Гісторыя „Смаргонскай акадэміі" вывучана не надта добра, цяжка сказаць дакладна нават калі яна спыніла сваё існаванне. Ведама, што размяшчалася яна на так званых Французскіх горках. Адкуль сюды прывозілі мядзведзяў — напэўна з Налібоцкай і Рудніцкай пушчаў. Некалі заходнікі думалі, што ў Беларусі вядуцца і белыя мядзведзі. Не ведаю як яны, а вось рэстаран „Белы конь" у Смаргоні сапраўды быў.

А яшчэ Смаргоні слаўныя сваім кальвінскім зборам, старадаўняй паперняй, вырабам абаранкаў, промысел якіх быў наладжаны тут гадоў чатырыста таму. Зусім нядаўна акурат да Дня беларускага пісьменства ў горадзе паўстаў помнік Францішку Багушэвічу. Каталік і пясняр Мацей Бурачок, прысланіўшыся да каменю і падпёршы рукой падбароддзе, глыбакадумна пазірае на новы прыгожы праваслаўны сабор. Горад істотна змяніў аблічча, але захоўвае беларускую мову, нават у гратэскавым выглядзе цэнтральнага пляцу з усталяваным дэвізам: „Ініцыятыва, адказнасць, патрабавальнасць да сябе — закон нашага жыцця".



# Шчучынскія піяры

Шчучын — на першы пагляд адзін з звычайных беларускіх раённых цэнтраў. У савецкі час ён вельмі моцна русіфікаваўся, прычынай таму быў вялікі аэрадром і адпаведна лётная армейская частка, дзе служылі людзі „перекати-поле". У Шчучыне быў забудаваны цэлы вайсковы гарадок. Гэта быў нібы асобны горад у горадзе. А вось некалі Шчучын быў слаўны сваёй навучальнай установай, якая існавала пры мясцовай місіі ордэну піяраў. Бальшыня сённяшніх насельнікаў райцэнтру, напэўна, і не ведае пра такую адметную старонку сваёй мясцовасці. Назву гораду, дарэчы, яшчэ ў маім дзяцінстве людзі старога веку вымаўлялі як „Шчуцін". Новыя пакаленні так ужо не кажуць.

Слова „піяр" зараз трывала ўкаранілася ў лексікон як прыстаўка да азначэння медыйных тэхналогій і мае на сёння пераважна негатыўнае значанне. Што ж датычыць каталіцкага манаскага ордэну піяраў, то ён, як ведама, быў заснаваны гішпанскім святаром Хасэ дэ Каласанцам. Гэтым місіянерам былі ўведзены новыя прынцыпы выхавання моладзі, паводле якіх школа мусіла клапаціцца пра маральнасць вучняў. На беларускія землі закон піяраў прыйшоў у сямідзесятых гадах 17-га стагоддзя, калі тут ужо быў забаронены ордэн езуітаў. У прынцыпе сваёй сістэмы адукацыі піяры шмат пераймалі менавіта ад езуітаў. Калегіюм піяраў працаваў у Шчучыне з 1718-га году, за час сваёй дзейнасці ён зазнаў некалькі рэфармаванняў, пакуль не быў зачынены ў 1832-ім.

Асяродак быў фундаваны ў 1726 полацкім войскім Глябіцкім-Юзафовічам. Мясцовы калегіум адносіўся да Літоўскай правінцыі ордэну і быў адным з сама значных. Некаторы час тут быў навіцыят, дзе выкладалі нават усходнія мовы. Касцёл Святой Тарэзы першай паловы дзявятнаццатага стагоддзя, які ўпрыгожвае горад і сёння, быў пабудаваны па фундацыі князя Ксаверы Друцкага-Любецкага якраз пры кляштары піяраў. Менавіта тут вучыўся знакаміты Ігнат Дамэйка, які пазней стане сапраўдным нацыянальным героі Чылі. Выкладала і навучалася тут нямала іншых выдатных асобаў — Мацей Догель, Казімір Нарбут, Ануфры Петрашкевіч, Анёл Доўгірд. Асобна варта згадаць таксама прозвішча асветніка-дабрачынца Якава Фалькоўскага, які нарадзіўся на Беластоцкай зямлі. Ён пэўны час быў рэктарам Шчучынскай піярскай школы і менавіта ён стаў заснавальнікам навучання глуханямых дзяцей мове жэстаў.

Пры піярах горад мог пахваліцца сваім батанічным садам, заклаў які ксёндз Станіслаў Юндзіл. У мясцовым дэндрарыі, пад які быў адведзены адмысловы зямельны надзел, вырошчвалася больш 500 відаў раслін. Сучаснікі адзначалі, што шчучынскі батанічны сад быў нават лепшым за Гарадзенскі. Стварылі піяры і кляштарную бібліятэку, дзе былі таксама разнастайныя матэматычныя і фізічныя прылады. Гонарам шчучынцаў была і прэзентабельная аптэка, збудаваная ў стылі барока. Мясцовыя краязнаўцы выявілі, што ў ёй прадавалася ажно 821 найменне лекавых сродкаў.

Сённяшні Шчучын не можа пахваліцца нейкімі асаблівымі дасягненнямі. Горад паблізу трасы Гродна-Мінск так і застаецца на ўзбочыне грамадскага і культурніцкага жыцця. З-за нядбайнасці мясцовых і абласных кіраўнікоў доўга аднаўляецца адметны палац другой паловы 18 стагоддзя. Некалі ён быў пабудаваны паводле праекту архітэктара дэ Фленэрса ў тым сама юндзілаўскім парку, быў уладаннем роду князёў Друцкіх-Любецкіх. Размовы пра рэстаўрацыю ідуць даўно, але справа пасоўваецца надзвычай марудна. Шчучын, як і многія іншыя беларускія гарады, нібы ў стане летаргіі.



# Байкі Крапівы

Практычна ўсе, хто заканчвае сярэднюю школу ў Беларусі, усё роўна — у горадзе ці ў вёсцы, з беларускай літаратуры запамінаюць прозвішчы галоўных нашых песняроў — Купалы і Коласа, могуць нават прадэкламаваць пару паэтычных радкоў з іх твораў. Найбольш дасведчаныя назавуць яшчэ магчыма Багдановіча і Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча і Быкава. Але найбольш цытаваным у народзе быў і застаецца Кандрат Крапіва. Ягоныя байкі даўно разышліся на крылатыя выслоўі, намнога перажылі аўтара і даўно ўспрымаюцца многімі як народныя прымаўкі. Французы маюць Ляфантэна, расейцы — Крылова, а мы — Крапіву. Такі псеўданім абраў сабе Кандрат Атраховіч яшчэ ў маладосці. У 1922-ім годзе ён напісаў з самаіроніяй: „Я ў мастацкім агародзе толькі марная трава". Але ў тым жа вершы ў канцы хітра перасцярог: „Я — пякучка-крапіва".

Да творчасці пісьменніка, які пражыў доўгае, амаль стогадовае, жыццё, пераважна пры савецкай уладзе, можна ставіцца па-рознаму. Можна, прыкладам, знайсці ў яго творах нямала сацыялістычна-вульгарнага, па-бальшавіцку атэістычнага і сканцэнтравацца менавіта на гэтым. Зараз развялося нямала крытыканаў, якія дзеля выяўлення ўласнага інтэлектуалізму, гатовыя каго хочаш з класікаў збэсціць. Тое што самы нічога не стварылі адметнага — не замінае. „Другі баран — ні „бэ" ні „мя", а любіць гучнае імя".

Кандрата Крапіву мы любім за іншае. За сялянскую простасць (але не прымітыўнасць!) стылю, за беларускае дасціпнае вострае слова, якое кшталтаваў ён, прайшоўшы няпросты жыццёвы шлях, спакваля вырастаючы з сваёй роднай вёскі Нізок на Уздзеншчыне. Вёска, дарэчы, ўнікальная, якая дала нашай літаратуры і культуры нямала выбітных асобаў. З майстроў слова варта прыгадаць хоць бы Паўлюка Труса і Лідзію Арабей.

Крапіва сталеў разам з беларускай літаратурай дваццатага стагоддзя, ён прайшоў школу „Маладняка" і „Узвышша". Ён заўсёды быў верным ідэалам сацыялістычнай рэвалюцыі, але сапраўды шчыра ў гэта верыў. Гэта не замінала яму сатырычна трапна выяўляць найгоршыя якасці, заганы чалавечай прыроды — ганарлівасць і пыху, пляткарства і зайздрасць, гультайства і падхалімства, хабарніцтва і прагавітасць. Сярод герояў баек Кандрата Крапівы амаль няма

экзатычных для нашых прыродных рэалій жывёл, затое спрэс фігуруюць мясцовыя персанажы — Баран, Вол, Авадзень, Сава, Парсюк... У героях гэтых людзі могуць пазнаць сябе, схамянуцца, вярнуць самаіронію, хоць „бывае, праўда вочы коле...". Разам з тым у творах Крапівы няма навязлівай павучальнай дыдактыкі, яны чытаюцца лёгка, на роўні адпачынку і рэлаксацыі. Пісьменнік трапна выкладае камічную сітуацыю нейкай жыццёвай з'явы, з якой вынікае лагічная развязка з класічнай байкавай канцоўкай. Пісаў Кандрат Крапіва і празаічныя творы, у якіх зноў жа яскрава выяўляўся сатырычны талент. Найбольш папулярнай стала камедыя „Хто смяецца апошнім", якую таксама расцягнулі на цытаты.

Байкі Крапівы нараджаліся з глыбіні народнага гумару, вясковай кемлівасці, перажылі дзесяцігоддзі з тым каб вярнуцца ў той сама народ, які ўжо амаль страціў і дасціпнасць, і вастрыню слова, і ўласна саму мову. Актуальныя яны і сёння, у час „дыпламаваных бараноў" і „ганарыстых парсюкоў". І не страляйце ў класіка, які сам адказаў крытыканам: „Мне часта крыкуны мільгаюць у вачах — да славы прагныя, ды вузкія ў плячах".



# Адрасы БНР

**25 Сакавіка** — надзвычай вылучная дата і асаблівая беларуская каштоўнасць. У 1918-ым годзе амаль здзейснілася мара нашчадкаў крывічоў-ліцвінаў — была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Цынікі ад гісторыі могуць іранізаваць да бясконцасці, што гэта была няўдалая спроба стварэння сваё дзяржавы, але ж мы ведаем, што каб не была дэкляравана БНР, не было б сёння і Рэспублікі Беларусь. Цягам сямідзесяці гадоў савецкай улады праўда пра БНР замоўчвалася і толькі з прыходам перабудовы беларусы атрымалі шанц вярнуць сабе знішчаную гісторыю, адрадзіць памяць пра заснавальнікаў нашай дзяржавы. Так што мы ведаем, хто змагаўся за ўсталяванне незалежнасці і хто гвалтоўна перапыніў трывалае ўсталяванне і развіццё Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Як** ведама БНР была абвешчана ў Мінску, менавіта там асноўныя адрасы падзей кароткага, але надзвычай насычанага, прамежку часу. Найбольш дзіўным падаецца факт, што бальшыня тых будынкаў ацалела, нягледзячы на знішчальныя фашыстоўскія бамбардзіроўкі ў другую сусветную і савецкі вандалізм ужо пасля вайны. У сённяшнім тэатры Янкі Купалы адбываўся Першы ўсебеларускі кангрэс. Уласна ж Трэцяя устаўная грамата БНР была абвешчана ў доме, што стаіць па вуліцы Валадарскага. Паводле сумнага сімвалізму на гэтай вуліцы размешчана турма, у якую ўжо ў суверэннай Беларусі „праваахоўнікі" часта валакуць тых, хто выходзіць на вуліцы Мінску пад бел-чырвона-белымі сцягамі на розныя грамадскія акцыі, адзначыць той жа Дзень Волі.

**Захаваўся** ў сталіцы і так званы Юбілейны дом жоўтага колеру, некалі ў ім размяшчаўся царкоўна-археалагічны музей. Менавіта тут працаваў сакратарыят БНР, месціліся іншыя яе структуры. Жыхары Мінску сёння часам называюць гэты будынак „дом на чакалядках", бо яго выява была размешчана на цукерках.

**У Гародні** з дзейнасцю Рады БНР, якая была змушана пераехаць у горад над Нёманам у студзені 1918 году, звязаныя некалькі будынкаў. Найбольш ведамы з іх — цяперашні корпус медыцынскага ўніверсітэту па вуліцы Горкага, некалі гэтае месца прымыкала да старажытнага віленскага тракту. Тут у пачатку 1919-га году была беларуская вайсковая камендатура, а пазней працавала беларуская гімна-

зія. У адну з нядаўніх вёснаў гарадзенскай грамадскасцю была спроба ўсталявання на сцяне гэтага будынка памятнай саматробнай шыльды, якая, аднак, была здзёртая і знішчана ўладай. У апошні час сам архітэктурны помнік зазнаў рэстаўрацыю.

Айцоў БНР у Беларусі сёння ўшаноўваць амаль няма дзе. Месцы іх нараджэння альбо зніклі, альбо не азначаны. Частка асобаў, прыкладам, Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Кастусь Езавітаў, Вацлаў Ластоўскі, Раман Скірмунт згінулі ці былі расстраляныя ў савецкіх канцлагерах і засценках, частка — памерла на чужой зямлі ў эміграцыі. Цэлы шэраг дзеячаў знайшлі свой апошні прытулак у сяброўскай для беларусаў Чэхіі. Так на знакамітых Альшанскіх могілках пахаваныя Васіль Захарка і Пётра Крэчаўскі. На іх давялося пабываць колькі гадоў таму ў час з'езду беларусаў з усяго свету. Гэтыя могілкі, нягледзячы на іх сумны статус, маюць нейкую аптымістычную аўру.

БНР — гэта светлы ідэал для многіх выдатных беларусаў. БНР — гэта кароткая, але яркая знічка на шляху нашай вялікай і трагічнай гісторыі. БНР — гэта мара некалькіх пакаленняў патрыётаў. Мара, якая пакуль не мае сапраўднага адрасу і, на жаль, „прапіскі" у душах бальшыні насельнікаў нашай краіны.



# Гарадзенская „Пагоня”

25 сакавіка 2012 году споўнілася 20 гадоў з дня выпуску першага нумару гарадзенскай „Пагоні”, легендарнай газеты найноўшай беларускай гісторыі, выдання, якое пакінула глыбокі след у сэрцах многіх журналістаў, уплывала на светагляд тысяч чытачоў. Ні ў гэты дзень, ні пазней, не было ўрачыстага паседжання, не было кветак і святочнага стала з сяброўскай бяседай і іншымі належнымі атрыбутамі. Не было таму, што наша „Пагоня” не дасягнула сваёй светлай мэты, а агульная сітуацыя ў краіне не дазваляе цешыцца юбілеямі і адзначаць іх так як трэба ў нармальным грамадстве. У горадзе над Нёманам ужо даўно няма аніводнай незалежнай газеты, а тым больш такой, якая кшталтуе і нясе людзям праўдзівае беларускае слова. Засталіся толькі афіцыёзныя русіфікатарскія „рупары прапаганды”. Беларускамоўныя журналісты сышлі ў нетры інтэрнэту. Што датычыць пагонеўцаў, то лёс іх склаўся па-рознаму. Нехта з „ветэранаў” дагэтуль працуе ў іншых беларускіх медыях, нехта з’ехаў за мяжу. Зміцер Кісель, надломлены знішчэннем усяго беларускага, у магіле. Мікола Маркевіч, стомлены змаганнем за права выдаваць незалежную газету, стаў працаваць у іншым кірунку. А некаторыя з тых маладых пачаткоўцаў, якія пачыналі творчы шлях у „Пагоні”, сталі ўжо ведамымі журналістамі, лаўрэатамі розных прэстыжных узнагародаў.

Што датычыць кароткага летапісу гісторыі „Пагоні”, то на пачатку яна выходзіла раз у два тыдні, з траўня 1993-га раз у тыдзень, а на піку сваёй папулярнасці з ліпеня 1997-га — нават два разы ў тыдзень. Потым пайшоў перыяд праследу і ціску, што скончылася ўрэшце судом над рэдактарам Маркевічам і тады яшчэ маладым журналістам Паўлам Мажэйкам. Газета друкавала артыкулы на палітычныя і грамадска-сацыяльныя тэмы, асвятляла гаспадарку, культурнае, канфесійнае, спартовае жыццё рэгіёну. Значная частка газетнай плошчы аддавалася гістарычнай праблематыцы, краязнаўчым допісам, мемуарам-успамінам дзеячаў беларускага руху розных часоў. Сталымі рубрыкамі былі „Грамадства”, „Палітычная сцэна”, „Сумежжа” (газета ўпершыню рэгулярна знаёміла гарадзенцаў з жыццём і дзейнасцю беларусаў Беласточчыны), „Вайна і людзі”, „Лёсы”, „Наш каляндар”. Асобнае месца займалі надзвычай папулярныя, вострыя палітычныя карыкатуры Алеся Суровага, некаторыя сюжэты прыдумвалі і журналісты. Трэба заўважыць,

што нягледзячы на выразны рэгіяналізм, „Пагоня” распаўсюджвалася па ўсёй Беларусі.

Рэдакцыя „Пагоні” месцілася па двух асноўных адрасах, якія адпавядалі двум перыядам выдання. Сталенне адбывалася ў будынку па вуліцы Дамініканскай (цяперашні дом па вуліцы Савецкая-10). Тут суседнічалі і многія іншыя беларускія арганізацыі — „Бацькаўшчына”, БНФ „Адраджэньне”, ТБМ... Потым доўгі час рэдакцыя працавала ў будынку па вуліцы Брыгідскай (Карла Маркса-11). Зараз у абодвух гэтых дамах размясціліся розныя гандлёвыя крамы, якія настварала мясцовая наменклатура. Хоць, калі адбывалася апошняе высяленне „Пагоні”, гаварылася пра аварыйны і катастрафічны стан будынку.

20 гадоў — не такі вялікі тэрмін, але здаецца прайшла цэлая эпоха. Асабліва, што датычыць тэхнічнага складніка журналісцкай працы. Зараз і самому цяжка асэнсаваць тагачасны працэс: як пераважна пісалі мы яшчэ ад рукі, нашы тэксты набірала машыністка, фатограф мусіў паспець зрабіць чорна-белыя фотаздымкі, многія матэрыялы дасылаліся ў рэдакцыю звычайнай поштай, у лепшым разе факсам. Кампутарная тэхніка толькі ўваходзіла ў шырокае карыстанне і была яшчэ досыць прымітыўнай.

Веру, што 25 гадоў „Пагоні” мы адсвяткуем у вольнай краіне...



# Пуцявіны Альбярціна

Сённяшні прыгарад Слоніма Альбярцін, які носіць мілагучную італійскую назву, у адрозненне ад сваёй метраполіі не мае слаўнай старажытнай гісторыі. Але гэта рэдкі выпадак, калі мясцовасць, утвораная фактычна па волі і жаданні аднаго чалавека, зажыла асобным жыццём і сфармавала адметную старонку гаспадарчага, рэлігійнага і культурнага рэгіянальнага развіцця, кшталтавала мясцовы патрыятызм і гонар. Трапіць у гэты куточак можна выязджаючы з Слоніма на ўскраек мостам праз рэчку Ісу.

Пачаў пераўтвараць сціплы фальварак, які знаходзіўся паблізу Вялікіх Шылавічаў, у першай палове дзевятнаццатага стагоддзя у развіты цэнтр і асяродак Альбярцін Войцэх Пуслоўскі. Існуе легенда пра тое, як пана Пуслоўскага, які вяртаўся ў сваю сядзібу праз лес, заспела ў дарозе навальніца. Фаэтон спыніўся ля вялізнага каменя і ў гэты момант ляснула маланка, якая раскалола валун на дзве часткі. Уражаны гэтым нябесным знакам Пуслоўскі загадаў размясціць на камяні крыж. Крыжа даўно няма, а вось вялізны камень можна пабачыць у лесе і сёння.

Першасная сядзіба Пуслоўскага згарэла, а новыя забудовы стваралі сыны і ўнукі уладальніка. Іх лёс ня быў просты яшчэ з-за таго, што амаль усе прадстаўнікі роду бралі ўдзел у вызвольных паўстаннях. Ведамасць Альбярцін прыдбаў пасля стварэння тут папяровай мануфактуры, прадпрыемства сталася ўдалым. З некаторымі перапынкамі альбярцінская фабрыка дапрацавала да нашых дзён. Пуслоўскія разбудоўвалі маёнтак і ўкаранялі тут тэхнічныя навінкі, развівалі гаспадарку, любілі і шанавалі наваколле. Цікава, што апошні ўладальнік мясцовасці перад нашэсцем бальшавікоў Уладзіслаў Пуслоўскі-унук размаўляў пераважна па-беларуску, паводле ўспамінаў доўгажыхароў быў чалавекам не толькі гаспадарлівым, але і спагадлівым, чуллівым да людскіх патрэбаў.

Асобная малаведамая старонка Альбярціна — гэта дзейнасць тут у 1943-44 гадах Саюза Беларускай Моладзі, які ўзгадаваў плеяду выдатных патрыётаў. У Альбярціне выхоўваліся беларускія юнакі, аналагічная школа для дзяўчат была ў сёння знакамітых Драздах пад Менскам. Сапраўдная гісторыя СБМ яшчэ толькі ствараецца.

Першы раз у Альбярцін мне пашчасціла трапіць у 1996-ым годзе, калі ў гэтай мясціне, якраз да 400-ых ўгодкаў Берасцейскай уніі, усталёўваўся крыж у гонар адпаведнай місіі, якая дзеіла тут у 1924-1942 гадах. Асвячаў памятную святыню айцец Віктар Данілаў. А некалі тут працаваў сам Антон Неманцэвіч і яшчэ шэраг выдатных асобаў хрысціянскага душпастырства ў Беларусі. Зусім нядаўна мой добры сябра, слонімскі краязнавец Сяргей Чыгрын, выдаў гістарычны нарыс пра Альбярцін, у якім адкрыў шырокаму колу нямала цікавых фактаў, асвятліў біяграфіі цэлага шэрагу выдатных асобаў, звязаных лёсам з Альбярцінам. Сярод іх, між іншым і Васіль Быкаў. Вялікі пісьменнік служыў у Слоніме ў войску пасля другой сусветнай вайны, а жыў менавіта ў Альбярціне. У сталыя гады, прыязджаючы ў раённы цэнтр, амаль заўсёды пакідаў спадарожнікаў і наведваў мясціну сваёй маладосці.

Праз Альбярцін праляглі шляхі-пуцявіны розных пакаленняў насельнікаў беларускай зямлі. З часу Пуслоўскіх у Альбярціне захаваліся палац, стайня, флігелі з паркам. Стаяць праваслаўная царква і каталіцкі касцёл, паміж імі ўніяцкі крыж. Асноўныя матэрыяльныя скарбы ў розны час былі вывезены ў Расею і Нямеччыну. Галоўны ж архіў роду Пуслоўскіх зберагаецца цяпер у Вялікабрытаніі, і ці мала якія загадкі ён яшчэ захоўвае...






# Заслаўскі след

Неяк перабіраючы старыя кніжкі сваёй бібліятэкі, агледзеў сярод іх маленькую, фактычна самвыдатаўскую брашурку „Тэзісы дакладаў на І-ых Заслаўскіх чытаннях". Прыгадалася, што прыдбаў яе ў Заслаўі ў канцы дзевяностых на чарговай канферэнцыі, якую ладзіла Беларускае навукова-гуманітарнае таварыства. Зборнічак вельмі сціпла выдрукаваны на ратапрынце, з пранумараванымі ад рукі старонкамі і надзвычай стракатай тэматыкай, сярод якой нават такія экзатычныя рэфераты як „Беларуска-індзейскія сувязі". Не ведаю, ці існуе зараз БНГТ, але сярод яго заснавальнікаў было нямала выдатных асобаў і навукоўцаў, што закладалі пачаткі суверэннай гуманітарнай навукі. Лепшага месца чым Заслаўе для тых, у нейкай ступені наіўных, канферэнцый і падабраць было нельга. Бо менавіта ў гэтай мясціне, што сёння амаль уваходзіць у рысу беларускай сталіцы, застаўся яскравы след айчыннай старажытнай гісторыі.

Яшчэ ў дзесятым стагоддзі на правым беразе ракі Сьвіслач існавала паселішча крывічоў. Паводле летапіснага падання кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч заснаваў тут горад для сваёй жонкі, гвалтоўна вывезенай з Полацку, Рагнеды і малалетняга сына Ізяслава, ад імені якога паселішча і атрымала назву. Гісторыя „крывавага вяселля" досыць падрабязна апісана нашымі навукоўцамі, а таксама літаратарамі ў мастацкіх творах. Менавіта ў Заслаўі ў 1000-ым годзе і знайшла спачын Рагнеда-Гарыслава, дачка Рагвалода, высланая з сынам з Кіева за замах на мужа — забойцу сваёй полацкай сям'і.

Па ўсёй імавернасці ў Заслаўі было ўдзельнае княства, якое пазней увайшло ў ВКЛ. У 16-ым стагоддзі былы дзядзінец быў пераўтвораны ў Заслаўскі замак. У розны час месца належала родам Глябовічаў, Сапегаў, Пшаздзецкіх. Шматлікія раскопкі ў горадзе з надзвычай багатымі знаходкамі дазволілі археолагам увесці ў навуку адмысловыя тэрміны „заслаўская кафля" і „заслаўская кераміка". Асноўнай архітэктурнай візітоўкай сённяшняга Заслаўя ёсць славуты кальвінскі збор — унікальны помнік архітэктуры, сёння Спаса-Праабражэнская праваслаўная царква. Храм, які стаіць на старажытным гарадзішчы „Вал", зазнаў змену розных канфесійных гаспадароў. На змену пратэстантам прыйшоў дамініканскі кляштар, які меў салідную па тым часе бібліятэку. Потым быў звычайны парафіяльны касцёл, потым праваслаўны храм, пазней ў гады атэізму запусценне. А ў канцы савецкага перыяду ў ім месціўся музей

народных промыслаў і рамёстваў. У цэнтры горада ёсць таксама прыгожы фарны касцёл, пабудаваны ў стылі барока.

Трыццаць гадоў таму, у найбольш вольны для нашай краіны час у Заслаўі ствараўся дзяржаўны гісторыка-культурны аднайменны запаведнік. Паўставаў ён натуральна, таму што мала дзе можна знайсці столькі археалагічных помнікаў, яскравых слядоў сівой даўніны. Зараз комплекс займае агульную плошчу 113 гектараў старажытнай часткі гораду, улучае цэлы шэраг археалагічных і музейных аб'ектаў. Найбольш цікавыя з іх млын, кузня, экспазіцыя габеленаў і дываноў „Мара пра Заслаўе", дзіцячы музей міфалогіі і лесу. Асобна варта згадаць калекцыю музычных інструментаў, якая налічвае каля 200 адзінак. У той згаданы вышэй прыезд у горад пашчасціла ўпершыню пачуць выдатны фальклорны гурт „Ліцьвіны" з каларытным кіраўніком Уладзімірам Бярберавым.

Знакамітае Заслаўе і сваім вадасховішчам, якое называюць яшчэ Мінскім морам альбо Ганалесам, вакол гэтага штучнага вадаёму шмат аздараўляльных дзіцячых асяродкаў. Словам, слаўная гістарычная мясцовасць, дзе варта пабываць.



# Вязынка Купалы

„Янка Купала песню зямля ўзгадавала, Янка Купала, выспела — песняю стала". Словы гэтай песні на верш Уладзіміра Някляева найлепш адпавядаюць той мясціне, дзе нарадзіўся вялікі пясняр беларускага слова. Даўно адзначана, што некалькі першых пакаленняў беларускіх паэтаў выраслі і ўзгадаваліся ў маленькіх мясцовасцях. Зазвычай даследнікі поруч з гэтым з нейкай ледзь прыхаванай сарамлівасцю адзначаюць — што ж тут скажаш, ведама сялянская нацыя, мова ад сахі ды сярпа. Але рэч тут, як мне падаецца, зусім у іншым — а менавіта ў ранейшым суладдзі чалавека з прыродай, у гарманічнасці слова і наваколля, жыватворных крыніцах малых радзімаў-вытокаў. Не будзем забывацца і пра тое, што пераважная бальшыня нашых пачынальнікаў — Чачот, Марцінкевіч, Багушэвіч, Цётка, той жа Купала — людзі шляхецкага паходжання. Сучасныя творцы ж у бальшыні нараджаюцца ўжо ў горадзе, іх першыя вершы растуць на асфальце і ў бензінавым смогу. Дзе яны сёння могуць убачыць ранішні туман, золак над рэчкай, удыхнуць пах скошанай травы, захапіцца васількамі ў жыце?

У фальварак Вязынка сям'я Луцэвічаў прыехала ўвесну 1881 году, ўзяўшы яго ў арэнду ў Станіслава Замбржыцкага. Бацька будучага паэта Дамінік быў чалавекам працавітым і руплівым. Разам з жонкай, што мела рэдкае імя Бянігна, яны пасяліліся ў простай вясковай хаце. Сын Янка нарадзіўся праз год і пару месяцаў якраз у дні летняга сонцастаяння. Псеўданім быў вызначаны звыш купальскай ноччу, калі паэт з'явіўся на свет.

Наконт паходжання назвы Вязынка існуе некалькі версій. Нібыта раней мясцовая рака была досыць паўнаводнай і па ёй сплаўлялі лес, а перад тым вязалі плыты. Іншае сцверджанне даводзіць, што рака і далей мясціна сталі так звацца ад таго, што тут было і расце дагэтуль шмат вязаў. У наваколлі ўвогуле багата зеляніны і разнастайных дрэваў.

Даехаць да Вязынкі найпрасцей прыгараднай мінскай чыгункай, не забыўшыся выйсці на аднайменнай станцыі. Калі ж вы наважыліся дабрацца ў родавае гняздо паэта на машыне, дарога будзе больш прыемнай. Гэта адзін з найстарэйшых у Беларусі шляхоў — Старавіленскі тракт, які доўгай стужкай вядзе на паўночны захад. Па дарозе варта спыніцца ля паселішча Мясота (радзіма філамата і прыро-

дазнаўца Тамаша Зана). Вандруючы гадоў дзесяць таму з сябрамі-краязнаўцамі, мы так і зрабілі. Пры дарозе ўсталяваны два камяні з шыльдамі яшчэ савецкіх часоў, на адной з іх пералічаны прозвішчы больш двух дзесяткаў літаратараў і дзеячаў культуры, на другой — радкі з верша Купалы. Амшэлыя камяні на гэтым шляху — асаблівыя адзнакі. Ёсць яны і „над ціхай Вязынкай-ракой" на сядзібе Луцэвічаў, дзе таксама невялікі помнік-бюст паэта. Першы музей паўстаў тут яшчэ ў пасляваенным 1948-ым годзе. А ў красавіку 1992-га, калі беларускае Адраджэнне дыхала на поўныя грудзі, урад да 90-ых угодкаў з дня нараджэння песняра пастанавіў утварыць тут мемарыяльны запаведнік, які займае абшар ажно 21 гактар. Яго ядро складае адрэстаўраваная хата, якая ацалела праз час і ў якой размешчана экспазіцыя.

Непадалёк аднаўленай хаты-музею надзвычай маляўнічая сажалка, да якой схілілася кустоўе вярбы і дрэвы, некаторыя састарэлыя ажно галінамі ў ваду. Баюся, што цяпер іх ужо прыбралі, бо ў нас надзвычай спяшаюць „парадкаваць" тэрыторыю. Але спадзяюся, што ў Вязынцы, якая дала Беларусі такі талент, дагэтуль жыве паэзія.



За савецкі час мястэчка Радунь страціла сваё адміністрацыйнае значанне. Адміністрацыйны цэнтр раёну перамясціўся ў Воранава, якое ня можа пахваліцца ні адметнымі помнікамі архітэктуры, ні шэрагам выдатных асобаў, ні яркімі падзеямі сівой даўніны. Іншая рэч — радуньская старонка, якая не пралягае на асноўных турыстычных шляхах, але зберагае ў летапісе слаўныя падзеі і адзнакі. У нас часта жартуюць так: ваўкавыскія габрэі стварылі Ізраілю войска, валожынскія — далі палітыкаў, а радуньскія — стварылі культуру і асвету. І ў гэтым сцверджанні значная доля праўды. Але дзеля гістарычнай праўды скажам, што Радунь была цікавай і да шырокага рассялення ў ёй „народу абранага".

Першая згадка ў летапісе пра гэтую мясцовасць была зафіксаваная ў дакуманце пад гучнай назвай „Манумэнта Германіка", які датаваны ажно 1217 годам і звязаны з нашэсцем крыжакоў. Наступная гістарычная звестка — гэта падзяляльны акт паміж каралём Ягайлам і вялікім князем Скіргайлам 1387 году, калі Радунь была цэнтрам воласці. У 14-17 ст. непадалёк ужо стаяў Радуньскі замак як вялікакняскае ўладанне. Менавіта тут быў падпісаны шлюб Барбары Радзівіл і Станіслава Гаштольда. У 1679 годзе Радунь атрымала магдэбургскае права, якое было пацверджана прывілеямі каралёў Рэчы Паспалітай Яна ІІІ Сабескага і Аўгуста ІІІ. У другой палове 18 стагоддзя Радунь была прыватным уладаннем і належала Юзафу Тышкевічу. 23 чэрвеня 1792 году атрымала герб з выявай на сярэбраным полі чырвонага рака.

Галоўным архітэктурным помнікам Радуні сёння ёсць Касцёл Маці Божай Ружанцовай, пабудаваны Антонам Бейкам паводле праекту Яна Бароўскага. Першы драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1556, а сучасны ўжо за „польскім часам" з вялікіх часаных камянёў. Цікава, што стаіць гэты вялізны храм, які вельмі цяжка цалкам ахапіць аб'ектывам фотаапарата, не ў цэнтры мястэчка.
З беларускіх рупліўцаў, якіх дала мясціна, варта згадаць Пятра Бітэля, нараджэнца Радуні, пісьменніка, перакладніка, настаўніка, які прайшоў цяжкі жыццёвы шлях, зазнаў сталінскія рэпрэсіі, а пасля выхаду на волю стаў праваслаўным святаром. Адсюль паходзіць і акадэмік, ведамы навуковец Юрый Бандажэўскі, які за праўду пра згубныя наступствы чарнобыльскай радыяцыі, пацярпеў ужо ад цяперашняй улады.

Захавалася ў Радуні старая габрэйская забудова, у тым ліку сінагога і будынак ешыботу, у якім выкладаў знаўца Талмуду і Галахі Новага часу рабін Ізраіл Меір Каган, які быў ведамы таксама пад прозвішчам Хафец Хаім. Гэта найбольш ведамае імя з шматлікіх прадстаўнікоў габрэйскай нацыі, што засялялі Радунь, зараз яму стаіць там помнік. Мястэчка мела сусветную ведамасць, калі ў ім дзеіла талмудыстычная духоўная акадэмія, у якую прыязджала вучыцца моладзь і з далёкага замежжа. На мясцовых могілках усталявана адметная кампазіцыя: на высокіх слупах зорка Давіда. А вось непадалёк Радуні месца пахавання паўстанцаў 1863 году дагэтуль не адзначана помнікам.

Ад ранейшых шматлікіх крамак і гандлёвых радоў застаўся толькі ўспамін, хоць у цэнтры Радуні і зараз можна патрапіць на мясцовы дробны гандаль, які зберагае пэўны рэгіянальны каларыт. Яшчэ адной візітоўкай слаўнага некалі мястэчка служыць краязнаўчы музей, створаны найперш высілкамі мясцовага руплівца старасветчыны Івана Фясенкі. Аднак, турыстаў у мястэчку пакуль няшмат. Патэнцыял Радуні пакуль спіць, як дрэмле ўся краіна, што не можа пакуль адрозніць сваю спадчыну ад чужынскага.



Перш чым напісаць пра Гусоўскага і ягоную „Песню...", пастанавіў сабе абавязкова прачытаць значны кавалак гэтай паэмы ў арыгінале. Мы, сучасныя гуманітарыі, лаціны, на жаль, ня ведаем, але чытаць на гістафаку некалі навучыліся — дзякуй светлай памяці выкладчыцы Нікалаевай, якая, прымаючы ў нас першакурснікаў залік перад адыходам у савецкае войска, настойліва раіла прыхапіць з сабой туды антычныя афарызмы для паўтарэння. Праўда, крыху пазней выявілася, што ў войску дамінуе зусім іншая мова і іншыя „крылатыя" выразы, наўрад ці дапушчальныя ў літаратурнай мове. Але праз два гады, вярнуўшыся ў ўніверсітэт, Цыцэрона мы ўсё ж чыталі і нават спрабавалі нешта перакладаць. Ды вернемся, як гаворыцца, да нашых зуброў.

Сярэднявечны твор Міколы Гусоўскага на лацінскай мове яскрава сведчыць пра прыналежнасць Беларусі да еўрапейскай супольнасці. Гэтая паэма праходзілася ў беларускай школе яшчэ за савецкім часе. Слоўца „праходзілася" тут якраз дарэчы — што называецца прайшлі і не заўважылі. Тым больш, твор, як не круці, усё ж дарослы і сур'ёзны. Зрэшты, наўрад ці школьныя праграмы, якія ствараюцца сур'ёзнымі дзядзькамі і цёткамі, здольныя ўвогуле прышчапіць дзецям нешта сутнаснае. Даўняй мэтай Гусоўскага было адкрыць кантыненту няведамы ім загадкавы край. З сярэднявечча, аднак, у гэтым сэнсе змянілася няшмат. Еўрапейцы, па-ранейшаму мала ведаюць пра Беларусь, а беларусы — пра сваю сярэднявечную гісторыю.

Пра аўтара знакамітага твора вядома нямнога. Нават дакладнае месца нараджэння гуманіста Гусоўскага, які жыў на зломе пятнаццатага і шаснаццатага стагоддзяў, устанавіць даследнікам не ўдалося. Нібыта ён паходзіў з мясцовасці Уса (Усава), што даўно згубілася праз вякі на мапе цэнтральнай Беларусі. З назвы гэтай уласна і паходзіць прозвішча, якое на тытуле „Песні..." пазначана як „Hvssoviani" Паводле сярэднявечнай пісьмовай крыніцы Гусоўкі меў духоўны сан, жыў пераважна ў Польшчы і працаваў на розных канцылярскіх пасадах. Пабываўшы ў Рыме на баі быкоў і пабачыўшы відовішча, ён задаўся мэтай апісаць паляванне на зубра на роднай зямлі. Задума была бліскуча здзейснена вобразным і яркім словам, насычаным метафарамі і трапнымі эпітэтамі.

У вобразе зубра як аднаго з асноўных сімвалаў нашай зямлі, Гусоўскі выявіў і ўсю Бацькаўшчыну. Уся паэма, поўная назва якой гучыць як „Песня пра постаць, дзікі нораў зубра і паляванне на яго”, прасякнутая патрыятызмам і спасылкамі на гісторыю Вялікага княства Літоўскага. Аўтар піша, што „свет даўніны вывучаў я па кнігах славянскіх”, падкрэсліваючы грэцкую традыцыю на старабеларускіх землях. Гусоўскі акцэнтуецца на згубнасці братазабойчых войнаў, асабліва перад агульнай пагрозай турэцкай навалы — „Бог барані, калі нас перамогуць прышэльцы”. Ён заклікае да яднання хрысціянскія народы Еўропы, падкрэсліваючы значнасць свайго краю: „Мы на пярэднім краі хрысціянства заставай”. Гусоўскі крытыкуе міжусобныя звады і заганныя парадкі, пагардліва стаўленне ўладароў да простага люду, які пакуль не спазнаў спагады і асветы: „Мы — шчэ натоўп, грамада непісьменная, цемра”. У канцы ж паэмы вершаваны склад аўтара набывае выразную форму малітвы да Багародзіцы і гучыць асабліва кранальна.

Прайшло цэлых шэсцьсот гадоў, а характарыстыка Гусоўскага чалавечых парадкаў на зямлі дагэтуль актуальная: „Свет вар’яцее, і ўсе міратворцы на словах — гэта ваўкі пад ягнячым руном красамоўства”. Сапраўдныя паэты заўсёды былі прарокамі...



Зазірнуў неяк у адзін з хатніх фотаальбомаў і ўгледзеў там здымак дзесяцігадовай даўніны. Ля лідскага помніка Францішку Скарыну група ўдзельнікаў навукова-краязнаўчай канферэнцыі. З горкай прыкрасцю заўважыў, што з васьмі асобаў на здымку трох ужо няма сярод нас: гісторыка-архівіста Віталя Скалабана, смаргонскага краязнаўца Віктара Шоця, сціплага школьнага настаўніка Віктара Ненартовіча, майго аднакурсніка. Як хутка сыходзяць у іншы свет нашы аднадумцы...

Лідчына заўсёды была надзвычай прыцягальнай для гісторыкаў і краязнаўцаў, нездарма на той згаданай канферэнцыі сабралася так шмат удзельнікаў. Было мноства планаў, ідэй, памкненняў. З таго часу ў Прынёманні ўцякло шмат вады, нешта ўдалося зрабіць, нешта згубілася і забылася. Прайшлі чарговыя „эпахальныя" дажынкі, якія істотна змянілі аблічча Ліды. Але, думаецца, сутнасць гэтага гораду, які прэтэндуе на славу „мясцовага Полацка", не змянілася. Лідчына — гэта рэгіён асаблівай ментальнасці, асаблівага гонару і лакальнага патрыятызму. Некалі гэта быў Віленскі край і яшчэ ў маім дзяцінстве людзі старэйшага веку расказвалі як яны хадзілі пешшу ў тагачасную сталіцу. Цяпер Лідскі раён адміністрацыйна прыналежаць да Гарадзеншчыны, але з той жа Ліды людзі больш цягнуцца ў сталічны Мінск, дзе большыя магчымасці. А ўвогуле лідскія людзі, як той казаў, самы сабе шляхта. Дарэчы, што датычыць старадаўняй шляхты, то тут варта прыгадаць, што ў час „патопу" каля мястэчка Бяліца апалчэнне Лідскага павету дала сапраўдны бой 30-тысячнаму маскоўскаму войску. У гонар той бітвы 1659 году ў верасні 2002 году грамадскасцю ў ваколіцах Бяліцы быў пастаўлены і асвечаны вялікі крыж і адпаведная мемарыяльная пліта. Аднак неўзабаве гэты помнік быў знішчаны ўладай, якая панічна баіцца гістарычнай праўды. У другую сусветную вайну на Лідчыне была вельмі актыўнай Беларуская самапомач — яшчэ адна старонка, якая замоўчваецца альбо вульгарызуецца афіцыйнай ідэалогіяй.

Галоўнай гістарычнай візітоўкай самой Ліды ёсць старажытны замак. Ён забудоўваўся ў нізіне ля балоцістых рэчак Лідзея і Каменка па даручэнні самога вялікага князя Гедыміна і ўваходзіў у лінію супраць крыжацкай абароны. Замак неаднаразова цярпеў ад нападаў разнастайных нападнікаў: французскіх і ангельскіх рыцараў,

атрадаў смаленскага князя Юрыя Святаславіча, войска князя Свідрыгайлы, загонаў крымскіх татар, маскоўскай акупацыі, шведскага нашэсця ў час Паўночнай вайны. Апошняя бітва тут адбылася ў час касцюшкаўскага вызвольнага паўстання. Пасля гэтага замак доўга стаяў у руінах і разбураўся, а адбудову ён зазнаў толькі ў наш час. Праўда гора-рэстаўратары нечага не ўлічылі і адна з сценаў неўзабаве часткова абрынулася. Памылка была выпраўлена і зараз замак прымае наведнікаў. А сама Ліда — адзін з цэнтраў беларускіх рыцарскіх клубаў.

## Нягледзячы

на страшныя разбурэнні ў час апошняй вайны, у Лідзе ацалелі яшчэ дзве архітэктурныя перліны. Гэта Крыжаўзвіжанскі (Фарны) касцёл, што побач з замкам. Ён на месцы першага каталіцкага храма ў горадзе, а створаны паводле праекту славутага архітэктара Ёгана Глаўбіца. Іншы вялікі храм — былы касцёл піяраў, якому спрыяў расійскі імператар Павал I, які прыязджаў сюды і начаваў з сынамі ў калегіуме. Кляштар быў зачынены ў 1832 годзе, касцёл гарэў. А потым быў перароблены ў праваслаўны храм. Пры саветах тут быў атэістычны планетарый, а з сярэдзіны 1990-ых — гэта гарадскі праваслаўны сабор.

А яшчэ „лідская шляхта” дамагаецца ўсталявання ў горадзе помніка Гедыміну...



# Станькава графа Чапскага

У вёску Станькава сучаснага Дзяржынскага раёна, які яшчэ называюць Койданаўскім, давялося мне патрапіць па грамадскіх справах улетку 2009 году. Планаваўся моладзевы міжнародны валанцёрскі летнік і мы шукалі месца для яго правядзення. Галоўнай мэтай гэтага летніка была пабудова забаўляльнай пляцоўкі ў адным з дзіцячых дамоў. Ідэя чыстая аж да крыштальнасці, але паколькі праект быў складзены недзяржаўнымі арганізацыямі, гарадзенскія чыноўнікі ад дабрачыннай прапановы адмовіліся (як раней казалі —„у советских собственная гордость"). У пошуках падыходнага месца мы і выправіліся ў іншы рэгіён і ўрэшце выбар паў на дзіцячы інтэрнат, што размешчаны на тэрыторыі колішняй сядзібы роду Чапскіх у Станькаве. Адміністрацыя ўстановы вельмі зацікавілася прапановай летніку і знаёміла нас з пабудовамі і асаблівасцямі тэрыторыі. У адным з навучальных класаў запомнілася галерэя дзіцячых малюнкаў пад агульным тытулам„Наше творчество", у цэнтры якой размяшчаўся партрэт„усенароднаабранага".

Вёска Станькава, альбо Станькаў размешчана на рацэ Рапуса зусім недалёка ад Койданава, да знакамітай чыгуначнай станцыі, якая ў васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя была ўслаўлена рок-гуртом„Бонда" — 8 кіламетраў. Але дабірацца да Станькава прасцей аўтамабілем непасрэдна з Мінску, альбо з гарадзенскай шашы, якая вядзе да сталіцы, у кожным разе можна і заблукаць.

Станькаў досыць старажытнае мястэчка Міншчыны, першы ўспамін пра яго, як пра валоданне Дарагастайскіх датуецца 1407-ым годам. Пазней мясціна была ва ўласнасці Радзівілаў, а з 1772-га году яна перайшла да роду Чапскіх. Росквіт Станькава прыпаў на час гаспадарання графа Эмэрыка Чапскага, нараджэнца гэтай мясціны, знакамітага калекцыянера і дзяржаўнага дзеяча. Ён атрымаў добрую адукацыю, скончыўшы спярша Віленскую гімназію, а пасля Маскоўскі ўніверсітэт. Займаў у Расейскай імперыі досыць высокія пасады, а значыць някепска і зарабляў. У сваім маёнтку ён жыў у 1879-94 гадах, заснаваў тут музей з вялікімі калекцыямі нумізматыкі, іканаграфіі, мастацкіх карцін, гравюраў. Толькі бібліятэка налічвала каля 20 тысяч тамоў, сярод якіх былі вельмі ўнікальныя выданні. У канцы 19-га стагоддзя значная частка збораў і багаццяў была перавезена ў Кракаў. У гэтым жа горадзе, на Ракавіцкіх могілках, знайшоў апошні спачын і сам граф.

На тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу ў Станькаве палац не збярогся. Як ён выглядаў можна ўбачыць на малюнку Напалеона Орды. Захавалася збудаванне арыгінальнай архітэктурнай канструкцыі — гэта так званы „Скарбчык". Можна ўбачыць таксама рэшткі брамы, старую альтанку, царкву.

А яшчэ Станькава — гэта радзіма піянера-героя Марата Казея, імя якога добра было ведама кожнаму навучэнцу беларускай савецкай школы. Казей, апынуўшыся ў атачэнні фашыстаў, падарваў сябе гранатай, знішчыўшы і некалькі немцаў. Раней гэта ўспрымалася як геройства, зараз — як вялікая трагедыя і амаральнасць савецкай партызанкі — як можна 14-гадовых падлеткаў выпраўляць на вайсковыя аперацыі! Зараз у Станькаве адпаведны мемарыял, імя Казея носіць і мясцовая школа.

Будаваць дзіцячую пляцоўку на тэрыторыі Станькаўскага інтэрнату чыноўнікі так і не дазволілі, ад ідэі давялося адмовіцца. І вельмі шкода, што станькаўскія дзеці не атрымалі цікавы пляц забаваў. Пры Чапскім такога напэўна не здарылася б...



# Косаўскі палац

У Францыі ёсць Парыж і Брэст, і ў Беларусі ёсць аднайменныя вёска і горад. У Еўропе ёсць цэлы край Косава і ў Беларусі мясцовасць у Івацэвіцкім раёне з такой назвай, знакамітая тым, што паблізу яе жыў Тадэвуш Касьцюшка, дзе зараз створаны сядзібна-музейны комплекс. Наша Косава, у адрозненне ад еўрапейскага — зусім не гарачая кропка, а спакойная мясціна. Уласна беларускае Косава знакамітае сваім палацам Пуслоўскіх, які называюць таксама замкам, зважаючы на яго архітэктурныя асаблівасці. Гадоў дзесяць таму мы прыязджалі ў гэтую мясціну з беластоцкімі сябрамі і лазілі па руінах у густым кустоўі, закінутых і засмечаных сутарэннях, а наўкола былі папялішчы ад вогнішчаў. З таго часу сітуацыя выправілася ў лепшы бок, Косаўскі старадаўні замак зараз у цэнтры ўвагі дзяржаўных структураў.

Калі быць дакладным геаграфічна, то Косаўскі палац стаіць не у мястэчку, а на ўзлеску, непадалёк ад той сама касьцюшкаўскай сядзібы ў Мерачоўшчыне. З тэрыторыі адроджанага фальварку на тэрасавым узвышшы зараз віднеюцца пабеленыя сцены гэтага палацу з вежачкамі.

Замак-палац быў пабудаваны графам Казімірам і яго сынам Вандалінам Пуслоўскімі ў Мерачоўшчыне ў 1838 годзе. Тады тут быў сапраўды прыгожы паркавы краявід. Архітэктар з Варшавы Францішак Яшчалд замяніў распаўсюджаны на той час ансамблевы класіцызм матывамі гатычнай старажытнасці. Некаторыя навукоўцы звяртаюць увагу на падабенства Косаўскага палаца з замкам Гогенцолернаў у Камянцы-Зембавецкім, што ў Сілезіі. Інтэр'еры палацу ў стылі сярэднявечнай готыкі выканалі архітэктар Уладзіслаў Марконі і дэкаратар Аляксандр Жмурка. У самым палацы былі дзесяткі памяшканняў, асаблівым шыкам служыла зала, у якой падлога была з таўшчэзнага шкла, знізу пад якім размяшчаўся вялізны акварыум з дзівоснымі прадстаўнікамі воднага свету. Існавала і традыцыйная для нашых земляў легенда пра падземны ход — нібыта ён меў працягласць ажно 25 кіламетраў і злучаў замак з Ружанскім сапегаўскім палацам.

Пуслоўскія невыпадкова «прывязваліся» да родавага гнязда Касцюшкі — кіраўнік паўстання 1794 году быў блізкі яму духова — гэта пакрэслівае той факт, што Пуслоўскія бралі ўдзел ва ўсіх вызвольных чынах ад расійскай імперыі. Пасля паразы апошняга з іх у 1864

годзе палац быў канфіскаваны і перайшоў да тагачаснай маскоўскай алігархіі — ім валодалі купец Аляксандраў, потым князі Трубяцкія і Альдэнбургскія.

Моцна пацярпеў палац у час першай сусветнай вайны, аднак потым была здзейснена рэстаўрацыя і ў ім засядала адміністрацыя староства Косаўскага павету. Да прыходу бальшавікоў у 1939-ым годзе ў некаторых залах былі цэлыя печы і каміны. Да пачатку другой сусветнай вайны ў будынку размяшчаліся чырвонаармейцы. Калі прыйшлі нямецкія фашысты, яны стваралі тут гета. А яшчэ пазней ужо пусты палац быў падпалены савецкімі партызанамі. Гэты безсэнсоўны акт знішчэння доўгі час прыпісвалі гітлераўцам. Пасля вайны савецкая адміністрацыя хацела прыстасаваць збудаванне пад дзіцячы дом, але на гэта забракла сродкаў. Так палац і стаяў у занядбанні да нядаўняга часу.

Зараз дзікае кустоўе і хмызняк наўкола ўнікальнага гістарычнага аб’екту павысякалі, аднаўляюцца кроквы і дах. У перспектыве тут павінен паўстаць гатэльна-турыстычны комплекс. Калі краіну не захлыне чарговы фінансавы абвал, праз гадоў пяць можна асцярожна спадзявацца на адраджэнне былога архітэктурнага хараства.


Фота Магдалены Сівэк

# Івейскія крыніцы

Івейская зямля багатая пераважна і найперш лясамі, а не крыніцамі. Але назваць гэты нарыс захацелася менавіта так і з розных прычынаў. Сучасны Івейскі раён размешчаны на Лідскай раўніне і Нёманскай нізіне, яго тэрыторыя — транзітны шлях з Гарадзеншчыны ў сталіцу краіны. Прыкладна на сярэдзіне досыць нуднай шашы дарогу перасякае нешырокая і вельмі лагодная рэчка Гаўя (правільны націск у назве на другім складзе). У яе прахалодзе вельмі прыемна змыць дарожныя пыл і стому — простая чалавечая радасць, якую людзі перажываюць не так і часта. Спуск да ракі каля трасы ля вёскі Залейкі вядзе паўз агратурыстычную сядзібу „У пана Яна" — месца адметнае і цікавае.

Раённы цэнтр Іўе — гэта рэгіянальная сталіца шматкультурнасці, вытокаў ідэнтычнасці некалькіх нацыянальнасцяў. Адной з галоўных візітовак гораду ёсць татарская драўляная мячэць. Беларуская неафіцыйная сталіца татараў здавён славіцца сваім агародніцтвам.

Галоўны скульптурны помнік Іўя — вялікая статуя Хрыста каля касцёлу на манер знакамітай фігуры ў далёкім бразільскім Рыо-дэ-Жанэйра. Сам храм стаіць на месцы колішняга кляштара бернардынцаў. Побач з касцёлам магіла беларускамоўнага каталіцкага святара Ільдафонса Бобіча (ён жа Пётра Просты), які працаваў тут апошнія чатырнаццаць год жыцця і знайшоў тут свой спачын.

Як сцвярджаюць летапісы мястэчка Іўе было заснавана ў канцы 14-га — пачатку 15 стагоддзя. Наконт назвы існуе некалькі версій. Сама простая, што яна паходзіць ад славянскай назвы — „іва" — вярба. У 16-ым стагоддзі тут быў збудаваны замак, створаны па волі княгіні Евы — жонкі вялікага князя Гедыміна. Гэта быў адзін з асветных цэнтраў беларускага сярэднявечча. Тут была закладзена арыянская акадэмія, якой апекаваўся буйны магнат Ян Кішка. Яе рэктарам быў выдатны асветнік Ян Ліцыні Намыслоўскі. Цікава, што гэтую школу наведвалі не толькі пратэстанты, але і дзеці з праваслаўных і каталіцкіх сем'яў. Наўрад ці такое было магчыма ў той час у Заходняй Еўропе.

Татары тут з'явіліся яшчэ ў час Вітаўта, зараз яны жывуць у мікрараёне Мураўшчына, па-ранейшаму славяцца вырошчваннем агуркоў і памідораў. Да вайны яны займаліся таксама гарбарствам, але цяпер гэты промысел

прыйшоў у заняпад. Мячэць была пабудавана Эльфрыдай Замойскай, пазней, у 1922-ім годзе, за грошы, якія прыслалі татары, што эмігравалі адсюль у Амерыку, быў дабудаваны мінарэт. Непадалёк мячэці старыя мусульманскія могілкі — мізар. Што датычыць іншага карэннага насельніцтва — габрэяў, то іх пасля апошняй страшнай вайны тут амаль не засталося.

Астатні раз у Іўе нас з сябрамі занесла, калі падвяло кола аўтамабіля. Пакуль рамонтнікі апонаў рабілі сваю справу, мы пашпацыравалі па вулачках мястэчку, якія спалучаюць старую габрэйскую забудову з савецкім сацрэалізмам. Тут можна пабачыць „цёплыя" дамкі і помнік савецкаму салдату на трох камянях, шматроўневы старадаўні млын, у якім размясціўся бар, і новыя дамы.

У пачатку дзевяностых у мястэчку выходзіла самвыдатаўская газета „Івейская крыніца", якую друкавала мясцовая суполка Беларускага Народнага Фронту. Ужо гадоў дзесяць, як у раёне практычна няма грамадскіх актывістаў. Мясцовы доктар-іншадумец пераехаў у абласны цэнтр, настаўнік-апазіцыянер пасля расчаравальнай выбарчай кампаніі 2001-га году, перадаў грамадскі факс мясцоваму ксяндзу і сышоў у свае справы. Івейскія крыніцы зараз не б'юць, яны дзесьці ціха струменяць, бруяцца, магчыма чакаючы свайго паўнаводнага часу...



Кладкі і масты — гэта тыя элементы, якія заўсёды звязваюць два берагі, пракладзеныя альбо праз невялічкія ручаіны альбо праз шырокія паўнаводныя рэкі. Што датычыць кладак і масткоў, то беларускі фальклор літаральна насычаны вобразамі гэтых найпрасцейшых канструктыўным рашэннем пераправаў. Успомнім хоць бы славутую народную песню з радкамі: „Кладачка тоненька, вада халодненька, а я маладзенька". Альбо жартоўны твор „Сяброў": „Перайшоў я кладку, трэба ж і другую, не змагу данесці — як не пацалую". Кладкі і масточкі ў літаратуры сапраўды авеяны таямнічасцю і асаблівай рамантычнасцю. Мне вельмі шкада сучасных гарадскіх дзяцей: яны не маюць магчымасці прабірацца праз гушчар кустоўя ля рэчак, сачыць за бабрамі і іх працай, ладзіць самастойна пераправы і кладачкі з камянёў і галінак дрэваў праз водныя перашкоды, з трымценнем і пэўным страхам праз іх перабірацца. У нашым маленстве ўсё гэта было, адклалася ў памяці асаблівай сентыментальнасцю.

Беларусь багатая на шматлікія рэкі, таму здавён тут стаяла праблема надводных камунікацый. Найбольш старажытныя драўляныя масты паўсталі вакол важных стратэгічных пунктаў — такіх як Полацк, Тураў, Пінск. З цягам часу яны ўскладняліся, пашыраліся, рабіліся больш трывалымі. Істотнае развіццё майстэрства будавання мастоў і пераправаў на нашых землях адбылося пры кіраванні караля Стэфана Баторыя, калі было шмат вайсковых паходаў. А ў канцы шаснаццатага-пачатку сямнаццатага стагоддзя ў Беларусі ўжо навучыліся будаваць масты на вякі. Тут можна згадаць знакамітую гравюру Тамаша Макоўскага, дзе выяўлены стары мост у Гародні. Гэты мост, даўжынёй больш ста метраў неаднаразова разбураўся ў войны, паводкі і крыгаломы, а пасля аднаўляўся. Зусім нядаўна прайшла чарговая рэканструкцыя, якая істотна яго пашырыла. У Гародні зараз тры масты праз Нёман, але пільна патрэбен яшчэ адзін. Ёсць у горадзе і цікавы мост, які здавён злучаў Стары і Новы замкі. Пад ім якраз „Сходы закаханых" — улюбёнае месца многіх гараджанаў. З найбольш атракцыйных і маляўнічых мастоў у нашым памежным рэгіёне мне згадваецца мост у Станьчыках на Сувальшчыне — хто там быў, мяне зразумее.

У Беларусі няма такіх мудрагелістых канструкцый як, прыкладам, у Нідэрляндах,

Кладкі і Масты

дзе можна спаткаць геніяльныя шэдэўры праектнай інжынерскай думкі. Але і ў нас ёсць мост, якім можна ганарыцца і па-сапраўднаму вабіць турыстаў. Гэта высокі падвясны мост праз Нёман у аднайменным горадзе Масты на Гарадзеншчыне. Аналагаў асабіста мне бачыць не даводзілася нідзе. Перайсці яго адважыцца нават не кожны падарожнік, хоць канструкцыя мае дастатковую трываласць. Мост прыдатны не толькі для пешаходаў, пасля яго істотнага ўмацавання і рамонту, праз яго могуць пераходзіць і людзі з роварамі і матацыкламі. А наўкола дзівосная маляўнічасць вялікай ракі і прынёманскіх берагоў. Горад Масты ўвогуле апраўдвае сваю назву, даючы нам прыклады рознага кшталту мастоў.

Апошнім часам з'явілася мода на парэнчах мастоў вешаць замкі. Сюды прыходзяць маладыя пары, каб у дзень свайго вяселля зафіксаваць моц шлюбу гэткім вось сімвалічным спосабам. Такія масты можна пабачыць у Ваўкавыску, Гародні, Полацку, іншых гарадах.

Масты пакліканы злучаць, яднаць, дапамагаць людзям. І няхай яны застаюцца надзейнымі і трывалымі!



# Дзярэчынскі тэатр

На Гарадзеншчыне апошняе дзесяцігоддзе ўлады паўсюдна з тупой настойлівасцю выцінаюць і знішчаюць дрэвы. Асабліва церпяць малыя гарады і мястэчкі, ў якіх сучасныя герастраты робяць па іх словах „як у Еўропе". Толькі ў еўрапейскіх краінах без абмеркавання з грамадскасцю ніхто і аднаго дрэва не высеча. А тут праязджаеш па нашых дарогах і мястэчках і жаху даешся. А сапраўдная Еўропа тут некалі насамрэч была. Прыкладам мястэчка Дзярэчын на Зельвеншчыне, якое Сапегі пераўтварылі ў культурна-тэатральны цэнтр.

Дзярэчын ведамы ў гістарычных крыніцах з 15-га стагоддзя. 25 чэрвеня 1660 году пад мястэчкам адбылася бітва войска Рэчы Паспалітай з маскоўцамі. У 18-ым стагоддзі канцлер ВКЛ Аляксандар Міхал Сапега перанёс сюды з Ружаны родавую рэзідэнцыю, заснаваў тут палац і вайсковую навучальную ўстанову — „Акадэмію". Так што сённяшніх навучэнцаў беларускіх вайсковых вучэльняў можна было б называць „сапегаўцы", а не „сувораўцы" у гонар чужынскага акупанта. У дзярэчынскай акрузе пры тым Сапегу развіўся выраб алкагольных напояў, займаліся таксама гадоўляй коней, разводзілі англійскіх авечак і рыбу.

Апошні ўздым Дзярэчына звязаны з імем Францішка Сапегі. Гэта быў незвычайны чалавек — багацей і авантурнік, ваяр-паўстанец і гуляка, ён быў паплечнікам Тадэвуша Касьцюшкі, сябраваў з расейскім царом Паўлам I (прымаў і паіў яго якраз у Дзярэчыне) і „настаўляў рогі" самому Напалеону Банапарту, круцячы шашні з ягонай каханкай, акторкай Жазэфінай. Ня дзіва, што ў час вайны 1812 году Францішак палічыў за лепшае быць у расійскай глыбінцы.

Пры Францішку Сапегу ў Дзярэчыне ладзіліся пышныя шыкоўныя балі, арганізоўваліся розныя забавы і розыгрышы. Пры тым магнат збіраў сапраўдныя творы мастацтва, кнігі, іншыя каштоўнасці, шмат чаго прывозіў з Парыжу. Пра дзівацтвы і шырокі размах душы уладальніка мястэчка падрабязна можна прачытаць у надзвычай цікавай кніжцы „Дзярэчынскі дыярыюш", якую напісаў нараджэнец тутэйшай зямлі Міхась Скобла, а таксама ўспамінах Леана Патоцкага. Францішак Сапега жыў сапраўды паводле шэкспіраўскага выслоўя — „Што нам жыццё — гульня!".

Дзярэчынскі тэатр быў асаблівым гонарам мясцовага ўладальніка. Магчы-

ма, на яго стварэнне Сапегу натхніла тая ж Жазэфіна. У дзярэчынскай трупе было ажно 60 чалавек, былі дзве спеўныя капэлы. Усё гэта развівалася ў антуражы шыкоўнага палаца з багатай карціннай галерэяй і бібліятэкай, вялікім садам, які называўся „малым Версалем", звярынцам, у якім быў нават вярблюд. Дзярэчын мог параўноўвацца ажно з радзівілаўскім Нясьвіжам. Па некаторых звестках, тэатр існаваў у Дзярэчыне да 1795 г., а капэла — ажно да 1820 году.

Прадстаўнікі роду Сапегаў даўно пакінулі мястэчка. Праўда, у 1997-ым годзе сюды наведваўся князь Яўстах Севярын Сапега, адзін з апошніх прадстаўнікоў роду, які жыў ажно ў Кеніі. У мясцовым касцёле Ушэсця была ўсталяваная мемарыяльная дошка.

Дзярэчынскія скарбы былі разрабаваныя і вывезеныя пераважна ў Расею. З'ехалі адсюль і ўсе габрэі, якія доўга фармавалі рэгіянальную культуру. Сёння ў Дзярэчыне ціха, не шумяць нават дрэвы вакол цікавай архітэктурна (квадратнай у плане) царквы. Іх усе знішчылі. Нядаўна быў чарговы скандал — мясцовыя ўлады пілавалі дрэвы на габрэйскіх могілках, якія падалі і ламалі помнікі. Слава Дзярэчына, які магнат-вандроўнік Францішак Сапега цаніў на роўні Парыжу, засталася ў далёкай гісторыі і кніжках.



# Дзятлаўская рэзідэнцыя

Дзятлаўская зямля — некалі тэрыторыя рассялення плямён яцвягаў, адно з улюбёных месцаў археолагаў. Колькасць курганаў, гарадзішчаў, могільнікаў, старажытных стаянак і селішчаў на адзінку плошчы тут надзвычай вялікая. Сам раённы цэнтр Дзятлава ўзнік на скрыжаванні шляхоў, што вялі да старажытных гарадоў — Слоніма, Наваградку, Ліды. Версій паходжання гэтай назвы, якая мела больш дзесятка розных варыянтаў, шмат. Пэўна можна толькі сцвярджаць, што каларытная птушка дзяцел ня мае да назвы паселішча ніякага дачынення. Асноўная гіпотэза паходжання тапоніма — назва перайшла ад возера „Зьято". Як згадвае Іпацеўскі летапіс каля яго адбылася сутычка паміж літоўскім і галіцкім войскамі.

Вялікі князь літоўскі Аляксандар у 1498-ым годзе падарыў Дзятлава гетману Канстанціну Астрожскаму. Менавіта славуты ў нашым мінулым ваяр і заснаваў тут сваю рэзідэнцыю. Астрожскі заклаў тут першую праваслаўную царкву, яго род валодаў Дзятлавам больш ста гадоў, пасля чаго яно перайшло да Сапегаў, а пазней да Радзівілаў.

Асноўнай архітэктурнай візітоўкай гораду ёсць касцёл Ушэсця Дзевы Марыі. пабудаваны ён быў у сярэдзіне сямнаццатага стагоддзя паводле фундацыі Льва Сапегі на месцы драўлянага храма. Пасля пажару 1743-га году храм перабудаваны паводле праекту А. Асікевіча. На гэты раз вялікае ахвяраванне склаў Мікалай Фаўстын Радзівіл, адзін з выбітных прадстаўнікоў славутага магнацкага роду. Ён нарадзіўся менавіта ў Дзятлаве, вызначыўся як вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага княства. Гэты Радзівіл спрыяў развіццю мястэчка, ствараючы будучыню і для сваіх дзяцей, якіх у яго было ажно 14. Бальшыня з сыноў таксама пакінулі прыкметны след у гісторыі.

Калі ў наш край прыйшлі расейцы, ім не давала спакою велічнасць дзятлаўскага каталіцкага касцёлу. Быў нават складзены грандыёзны праект пабудовы праваслаўнага сабору, але далей чарцяжоў справа не пайшла. Больш ста гадоў духоўныя патрэбы праваслаўных вернікаў задавальняе сціплая Спаса-Праабражэнская царква. Але ўжо ў нашы дні побач паўстаў прыгожы вялікі сабор з серабрыстымі купаламі. Гадоў тры таму пашчасціла быць на ўрачыстым усталяванні на гэтых купалах пазалочаных крыжоў. Храм пакуль не дзеіць, ідуць рамонтныя работы, але неўзабаве ў ім пачнуцца набажэнствы.

Палац Радзівілаў у Дзятлаве сёння на рэканструкцыі. Сюды пасля адбудовы мусіць перабрацца мясцовы краязнаўчы музей (яго асноўным стваральнікам быў Міхаіл Петрыкевіч), частку будынку напэўна аддадуць пад гатэль. З іншых адметных помнікаў у горадзе можна прыгадаць бюст славутаму сыну дзятлаўскай зямлі Ігнату Дварчаніну. Яго ўсталявалі ў цэнтры непадалёк касцёлу ў 1989 годзе, калі ўжо адкрылася шмат праўды пра злачынствы савецка-сталінскай сістэмы.

Пралягалі праз Дзятлава шляхі і славутых філаматаў — Ігната Дамейкі і Адама Міцкевіча. Гэтаму зусім простае тлумачэнне — у ваколіцах Дзятлава (кіламетар-паўтара ад гораду) да сёння захаваўся будынак сядзібы ў Жыбартоўшчыне. Тут прайшлі многія дзіцячыя і маладыя дні будучага нацыянальнага героя Чылі Ігната Дамейкі, а пазней у гэтым фальварку жыў Лявон Дамейка, яго пляменнік, удзельнік паўстання 1863 году.

Апошнімі гадамі ў Дзятлаве адбываецца рэканструкцыя гістарычнага цэнтру. Напэўна яна мае свае плюсы і мінусы. Колішняй рэзідэнцыі знакамітых магнацкіх родаў яшчэ належыць адрадзіць, знайсці, раскрыць свае адметныя рысы, якія прывабяць турыстаў і падарожнікаў.



# Паэма „Новая зямля”

У пераліку беларускай літаратурнай класікі паэма Якуба коласа „Новая зямля” займае асаблівае месца. Нездарма яе часцяком называюць энцыклапедыяй сялянскага жыцця. Для многіх пакаленняў беларусаў свая зямля стагоддзямі была знакам незалежнасці, заможнасці, увогуле сімвалам жыцця. Свая зямля-карміцелька дазваляла выжыць у складаных гістарычных калізіях, адолець навалы і нягоды. Беларусы не ваяўнічая нацыя, яны, змучаныя чужымі войнамі, у канцы дзевятнаццатага стагоддзя марылі толькі пра сваю зямлю як астравок свайго маленькага шчасця. Па-сутнасці імкненне да сваёй зямлі — гэта прыхаванае прагненне вольнасці.

Глыбока сімвалічна, што задума „Новай зямлі” узнікла ў паэта ў час, калі ён сядзеў у мінскім астрозе, там жа былі напісаны і першыя раздзелы. Відаць, у час зняволення творца ўспамінае і ўспрымае ўсё больш абвострана і пранікнёна. Пісалася паэма з 1911 па 1923 год — ажно дванаццаць гадоў. Паэт рупліва працаваў над кожным радком, дапісваў, папраўляў. У восьмым томе апошняга выдання збору твораў класіка ўсе гэтыя варыянты пададзены. Фактычна кожны раздзел паэмы можна разглядаць і як асобны твор. „Новая зямля” на рэдкасць аўтабіяграфічная паэма, Колас практычна не мяняў прозвішчы прататыпаў і не хаваў, што гэта фактычна частка рэальнага жыцця, мастацкае адлюстраванне рэчаіснасці яго дзяцінства. Таму даюцца такія дакладныя апісанні асобных мясцовасцяў, дэталёва выведзены персанажы і іх характары. Але фактычна дзядзька Якуб ішоў у сваім творы ад асабістага і прыватнага да агульнанацыянальнага. У савецкі час сутнасць і змест паэмы не раз падвяргаліся вульгарнай крытыцы — Коласа вінавацілі ў дробнабуржуазнай ідэалогіі, апалагетыцы ўласніцкай псіхалогіі. Усё гэта крытыканства пазней схлынула, зляцела, зышло на нішто. Застаўся толькі выдатны лірыка-эпічны твор, перакладзены на мовы суседніх народаў, друкаваны рэкорднымі для нашай беларускай літаратуры накладамі, увасоблены нават у аднайменнай оперы.

У пачатку дваццаць першага стагоддзя наўрад ці паэма „Новая зямля” будзе кранальнай для пакалення, якое не вылазіць з інтэрнэту, навакольны свет спазнае пераважна праз фотаздымкі ў „фэйсбуку”, а адказы на пытанні шукае ў „гуглу”. Беларуская нацыя перастала быць пе-

раважна сялянскай, змянілася. А да зямлі ўжо не цягнецца і з-за таго, што страчана пачуццё ўласнасці, бо ўжо даўно — „всё вокруг колхозное, всё вокруг моё”. Ужо маё пакаленне куды больш цікавілі футбольныя палі, чым землеробчыя палеткі. Канешне, уводзіць заканадаўча прыватную ўласнасць на зямлю патрэбна. Але разумнікам з утульных кабінетаў, якія задумваюць рэформы, трэба выразна ўсведамляць, што сёння браць зямлю ва ўласнасць амаль ніхто не хоча, людзі ўцякаюць з вёсак. І пакуль не ўсвядомяць усю згубнасць урбанізаванага жыцця, назад да зямлі не памкнуцца.

„Новая зямля”— твор каштоўны для нас сваёй цэласнасцю, адлюстраваннем рысаў нацыянальнага характару, чытаецца паэма — нібы бруіцца крынічка. Метафарычнае апісанне прыроды, беларуская дасціпнасць, жыццёвыя праблемы — усё гэта надзвычай трапна, захапляльна, кранальна. І кожны, хто з дзяцінства рос і гадаваўся ў вёсцы сярод прыроды, чытаючы першыя радкі паэмы, што сталі класікай: „Мой родны кут, як ты мне мілы!..”, з настальгіяй успамінае сваю мясцовасць і час, куды ўжо ніколі не вярнуцца.



# Каштоўныя літары

Даўно і многімі адзначана і даказана — што родная мова для чалавека — гэта не проста спосаб камунікацыі і паразумення, але найперш светаглядная каштоўнасць, духоўны скарб, вялікі Боскі дар. Напачатку было слова, але кожнае слова складаецца з асобных літар. У розных мовах ёсць свае ўнікальныя адметныя значкі і сімвалы, якія надаюць ім асаблівы каларыт, адметнае гучанне, непаўторнасць. Прыкладам нямецкая лігатура „Я”, якая чытаецца як падвойнае „s”. Дзякуючы таму, што слова „Straße” пішацца менавіта з гэтай літарай і вісіць на ўсіх шыльдах з назвамі вуліц, яно трывала ўвайшло не толькі ў германскую культуру, але і ў візуальнае ўспрыманне тамтэйшай рэчаіснасці іншаземцамі. Нібыта немцы ўжо хацелі ад гэтай лігатуры зусім адмовіцца, але ні то ў час схамянуліся, ні то спалохаліся замены на „ss”.

Для беларускай мовы асабліва дарагія дзве літары. Па-першае, „рэпрэсаваны” пры бальшавіках мяккі знак — „ь”. Ён ёсць не толькі ў нашым алфавіце, але і ў шэрагу іншых славянскіх моваў. Паходзіць мяккі знак ад старажытнай кірыліцкай літары, якая называлася „ер”. Функцыянальна ён служыць для змякчальнасці і падзяляльнасці.

Бальшавікі ад пачатку ў парыве свайго дзікунскага „інтэрнацыяналізму” імкнуліся да знішчэння адметнасцяў розных народаў, „стирания граней”. Нацыянальныя мовы былі адным з аб’ектаў знішчэння. З гэтай мэтай і была ў трыццатых гадах праведзена рэформа правапісу, беларускай мова мусіла набліжацца да „великого и могучего”. З таго часу і пайшоў правапісны падзел на „тарашкевіцу” і „наркамаўку”. Расейскія саветы нішчылі і сваю мову, пра лексіку тут ужо і не кажу, нават калечылі асобныя літары. Прыкладам літара „ё”. Кропачкі гэтыя нібыта нязручна было ў старых друкаваных машынах набіраць, ну а потым так і засталося. Сучасныя расейцы зразумелі важнасць такой страты і ў нейкім горадзе сваёй глыбінкі нават помнік літары „Ё” паставілі. Але заганная традыцыя пісаць „е” замест „ё” так і засталася, ды перакінулася і ў нашу мову. Часам гэтая страта дзьвюх кропачак даводзіць да недарэчнасцяў. Прыходзіш у якую-небудзь дзяржаўную ўстанову, ідзеш па калідоры і натыкаешся на дзверы з шыльдачкай „Прыемная”. І ўжо не разумееш куды трапіў — у дзяржаўную канцылярыю ці дом зусім іншага характару. З назвамі мясцовасцяў таксама казусы. Замест „Азёраў” на шыльдах можна ўбачыць

„Азеры". Вось і думай — беларусы тут жывуць ці азербайджанцы!?

Выкараненне ж мяккага знаку ў беларускай мове прывяло да страты мяккасці і мілагучнасці, штучнага набліжэння да расейскай мовы. Паэт Сяргей Сокалаў-Воюш напісаў нават адмысловую паэму, якая так і называецца „Ь".

Іншая каштоўная літара ў беларускай мове — гэта „у нескладовае" — „ў", якую часта памылкова па аналогіі з расейскай мовай называюць „у кароткае". Тут мы можам пахваліцца адмысловым помнікам — у калысцы беларускай дзяржаўнасці, слаўным горадзе Полацку гэтая літара ўганаравана ў скульптурнай кампазіцыі. У старабеларускай пісьменнасці дваццаць другая літара нашага алфавіту, якая ўтворана спалучэннем звычайнага „у" з дыякрытычным значком зверху, не ўжывалася. Нібыта прапанавана яна была ў 1870-ым годзе маскоўскім філолагам і фалькларыстам Пятром Бяссонавым. Па-сутнасці ў нашай мове гэтая літара перадае гук, які адпавядае ў ангельскай мове зычнаму „w". Прыжылася „ў" трывала ў нашаніўскі перыяд, а зараз настолькі арганічная, што без яе ніяк не абысціся. Зараз яна яшчэ і брэнд, а ў Мінску галерэя пад назвай „Ў" стала асяродкам нацыянальнага адраджэння. Беражыце нашы літары!



# Вандроўка па Луне

Мястэчка Луна, што на Мастоўшчыне, багатае на мясцовыя паданні і легенды. У афіцыйнай версіі гэтая вёска, якая зараз пераўтворана ў „агрогородок", называецца Лунна. Аднак, мясцовыя краязнаўцы, найперш Алесь Белакоз, слушна даводзяць, што назву трэба вымаўляць і пісаць праз адно „н", а пайшла яна ад слова, што азначае нізкую забалочаную мясцовасць.

Неяк з вялікай групай беларускіх настаўнікаў і краязнаўцаў наведвалі мы ў Польшчы мясцовасці Заходнепаморскага ваяводства. Там зараз надзвычай папулярнымі сярод турыстаў сталі так званыя тэматычныя вёскі — „Вёска лабірынтаў", „Вёска хобітаў", створаная паводле вядомага літаратурнага твору, і іншыя. Тады ж падумалася, што такія вясковыя асяродкі магчыма стварыць і у нашых мясцовасцях. А настаўнік з Луны, цяпер ужо пенсіянер, наш добры старэйшы сябар Лявон Карповіч, рэзонна падумаўшы, што адклад не йдзе ў лад, здзейсніў такую распрацоўку і нават апрабаваў яе ў практыцы. Вандроўка па „Нёманскіх легендах" у Луне і яго ваколіцах можа захапіць кожнага. Лявон жа, які мае багатыя веды і па-сапраўднаму юнацкі энтузіязм, папулярызуе ў розны спосаб сваё мястэчка дзе толькі можа. Так што Луну цяпер ведаюць як па ўсёй Беларусі, так і за яе межамі — у Польшчы, Амерыцы, Ізраілі...

Пачынаецца вандроўка па Луне ад мясцовага касцёлу Святой Ганны. Закладзены ён быў яшчэ каралевай Бонай Сфорцай. Сцвярджаюць, што менавіта яна прывезла на беларускую зямлю відэлец, якім мы зараз карыстаемся штодня. Каля касцельнай агароджы ляжыць камень з чырвонага граніту, які закладала сама каралева ў падмурак першага храма. Паводле мясцовай легенды да гэтага каменю мусяць ісці маладыя, якія пастанавілі пабрацца шлюбам без згоды сваіх бацькоў. Яны просяць у Боны Сфорцы каб тая не помсціла ім, як некалі сваёй нявестцы Барбары Радзівіл.

Наступны прыпынак на мясцовых могілках. Тут магіла „рыцара з дыяментавай душой" Яна Каменскага. Уладаннік суседняй вёскі Мінявічы Ян Каменскі, паўстанец 1863 году, цывільны начальнік Луненскай акругі, стаў прататыпам літаратурнага героя Элізы Ажэшкі Андрэя Корчыньскага. Каменскі за ўдзел у паўстанні быў асуджаны на смерць, якую замянілі пажыццёвай катаргай у Сібіры. Там ён

не загінуў, і нават атрымаў мянушку „кіргізскі кароль" за абарону нацыянальных меншасцяў. А пасля амністыі вярнуўся ў Луну, дзе пражыў яшчэ 8 гадоў.

Наступная станцыя маршруту — гэта месца над рэчкай, дзе некалі стаяў стары млынок. Тут было даўняе рэчышча Нёману, якое той пакінуў. Пра гэта таксама ёсць адмысловая легенда. Была ў гісторыі Луны і надзвычай трагічная старонка. Здавён тут жылі габрэі, паводле пісьмовых крыніцаў ажно з 1606 году. Пра даўнюю іх прысутнасць тут сведчыць кіркут — старыя габрэйскія могілкі. А ў 1941-ым годзе ў час страшнай вайны сюды прыйшлі гітлераўцы. У Луне было створана гета, а ў лістападзе 1942-га усіх іх сабралі і транзітам праз Калбасіно, што пад Гародняй, вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер смерці. У памяць пра загінуўшых вяскоўцаў мясцовыя грамадска-палітычныя актывісты ў наш час, калі старшынёй сельсавету была жонка Лявона Карповіча Валянціна Мікалаеўна, устанавілі ў цэнтры мястэчка памятны знак. Тады ж, у пару дэмакратычнай адлігі, некалькі вуліцаў паселішча атрымалі нацыянальныя назвы.

Працяг вандроўкі далей ідзе ўздоўж берагу Нёмана, дзе падарожніка чакае яшчэ некалькі цікавых легендаў і атракцый. Луна вартае таго, каб яго наведаць і раскрыць таямніцы гэтага мястэчка.



Амаль кожны дзень мне даводзіцца праходзіць праз стары каралеўскі парк — месца, якое ў горадзе над Нёманам называецца Станіслававa. Тут была адна з рэзідэнцый апошняга манарха Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Некалі тут заканчваўся горад. Цяпер тэрыторыя старога парку, ледзь не адзінага, яшчэ ацалелага ў Гародні, і шэраг сядзібных будынкаў, належаць мясцоваму аграрнаму ўніверсітэту, які ў народзе па-ранейшаму называюць „сельхоз". Дзесьці тут побач мусіла быць вуліца імя італійскага архітэктара Джузэпэ Сака, але яе няма. Ёсць касманаўткі Церашковай, ёсць чужога натураліста Ціміразева, а Сака няма. І мала хто з жыхароў увогуле ведае гэтае імя каралеўскага дойліда. А менавіта ён праектаваў Станіслававa і шэраг іншых выдатных ансамбляў. У Станіслававе кароль бавіў час звычайна зімой, асабліва часта наведваў яе ў апошнія гады свайго гарадзенскага перыяду. Пасля яго выезду ў Санкт-Пецярбург рэзідэнцыя была канфіскавана ў расейскую казну. З 19-га стагоддзя і ажно да прыходу бальшавікоў у 1939-ым сядзібай валодалі Друцкія-Любецкія. Пасля другой сусветнай вайны будынак сядзібы быў перароблены, над бакавымі крыламі надбудаваны другі паверх. Як выглядала рэзідэнцыя раней можна ўбачыць на малюнку Напалеона Орды. З аздобы даўніх часоў на эркеры фасаду захавалася манаграма SAR — „Stanislav August Rex". Парк, дзе расце некалькі вельмі старых ліп, досыць спакойны і ціхі, праз дарогу яго працягам ёсць сучасны дэндрарый.

Другая рэзідэнцыя Панятоўскага ў занёманскай частцы Гародні — Аўгустава ці Аўгустовак. Зараз гэта сучасная вуліца Рэпіна. Сядзіба забудоўвалася ў 1770-ыя гады. Зафіксаваны сімвалічны факт, што якраз у час апошняга Сойму Рэчы Паспалітай у 1793-ім годзе ведамыя астраномы Марцін Пачобут-Адляніцкі і Ян Снядэцкі назіралі з тэрыторыі Аўгустоўка сонечнае зацьменне. Будынак самога палацу не захаваўся (яго выгляд можна ўбачыць на старой нямецкай паштоўцы), ён быў спалены ў час першай сусветнай вайны. Маёнтак займаў досыць вялікую тэрыторыю — разам з лугам, лесам і фальваркамі каля 12 га. Пасля прыходу сюды расейскай імперыі сядзібай валодаў старажытны ірляндска-нарманскі род О'Браен дэ Лясы — першым яго з'яўнікам тут быў генерал Маўрыкій дэ Лясы. А вось з апошняй прадстаўніцай роду мне давялося пазнаёміцца асабіста. 16-гадовая Нэлі О'Браен дэ Лясы

паспела выехаць з Гародні разам з маці перад самым прыходам бальшавікоў. Пазней яна выйшла замуж за немца і пераехала на стала ў Аргентыну. Там яна здабыла шырокую ведамасць як мастачка. У сярэдзіне дзевяностых гадоў спадарыня Нэлі разам з мужам наведала горад свайго дзяцінства і прывезла выставу твораў. Яе акварэлі з выявай берагоў па той бок Атлантычнага акіяну запомніліся нашым аматарам жывапісу. Дзякуючы Нэлі О'Браен і неабыякавым людзям была адрэстаўраваная фамільная каплічка на вуліцы Рэпіна, якая некалі служыла таксама пахавальняй і дзе знайшоў апошні спачын яшчэ перад вайной бацька мастачкі. Пры саветах капліца была паўразбурана і служыла нейкім складам, дзе стаялі бочкі з палівам. Палацу ў Аўгустоўку зараз няма, захаваўся толькі аднаўлены будынак карчмы на старым падмурку — там размешчаны клуб дзіцячай творчасці.

Ёсць у Гародні на ўскрайку яшчэ адна былая рэзідэнцыя караля — Панямонь ці Панямунь. Ад былога летняга палацу захаваўся толькі фрагмент кутняй вежы і старая капліца, тэрыторыя належыць райаграпрамтэхніцы.
Былыя рэзідэнцыі апошняга караля ёсць сімвалам заняпаду старой эпохі, яны напамінак, што ўсё на гэтым свеце мінае.



Чым было таварыства філаматаў насамрэч дагэтуль ня могуць дагэтуль разабрацца нават гісторыкі. Адны лічаць яго адгалінаваннем адной з масонскіх ложаў, іншыя — ледзь не рэвалюцыйным аб'яднаннем, трэція — проста і адпаведна дэкларацыі згуртаваннем творчых, апантаных прагай да навукі, маладых людзей. Магчыма ўсё гэта перапляталася і напэўна было неаднародным. Тайныя таварыствы, якія гуртавалі вольналюбцаў, сталі ўтварацца на тэрыторыі Беларусі пасля вайны 1812 году. Тайнае патрыятычнае таварыства філаматаў у Віленскім універсітэце дзеіла з 1917-га па 1923 год. Яго асноўнымі лідарамі на пачатку былі Юзаф Яжоўскі, Тамаш Зан, Адам Міцкевіч, Ануфры Петрашкевіч, Францішак Малеўскі, Ян Чачот. Што ні імя — то яркая творчая асоба. За галоўную мэту ставілася рознабаковая дзейнасць на карысць Айчыны, прыярытэт надаваўся авалоданню рознабаковымі ведамі, вывучэнню замежных моваў. А генеральны курс браўся на асвету народу і вызваленне яго з пад прыгону. Неўзабаве ўзніклі і розныя адгалінаванні, сама вядомымі з якіх былі „Саюз сяброў", „Прамяністыя" і філарэты — „аматары дабрачыннасці". Месцамі збору падпольнікаў былі не толькі віленскія патаемныя адрасы. Збіраліся яны і ў малых мясцовасцях. Прыкладам сярод канспіратыўных месцаў былі ваколіцы вёскі Карчова, дзе ляжаў вялікі камень, каля якога збіраліся сябры. З таго часу гэты валун так і называецца „Камень філарэтаў".

Бальшыня філаматаў паходзілі родам з Заходняй Беларусі, таму невыпадковым быў і іх інтарэс да беларускага фальклору, які яны рупліва збіралі. Асаблівая роля тут належыць Яну Чачоту, фальклорныя вобразы выкарыстоўвалі і іншыя, паколькі з філаматаў ледзь не кожны быў паэтам.

Віленскія філаматы мелі сваіх паралельных аднадумцаў і паслядоўнікаў. Прыкладам у канцы 1819-га ці пачатку 1820-га была створана тайная арганізацыя ў Сьвіслачы — таксама Таварыства аматараў навук, яе старшынём быў — Дыяніс Шлаеўскі, сакратаром — Вашчыловіч, ведама, што ў суполку ўваходзілі 15 чалавек. Ідэйным натхняльнікам гэтага згуртавання быў Віктар Гельтман, публіцыст, пазней удзельнік паўстання 1830 году.

Таварыства філаматаў было раскрытае расійскімі ўладамі пасля недарэч-

насці. Пачаліся масавыя арышты. Такія лідары як Антон Адынец, Ігнат Дамейка, Міцкевіч, Петрашкевіч, Аляксандар Ходзька, Чачот былі арыштаваныя і высланыя ў глыбіню расійскай імперыі, Зан увогуле засуджаны да зняволення ў равеліне. Усяго было рэпрасавана 20 чалавек, яшчэ 80 арыштаваных пасля допытаў выпусцілі пад сталы нагляд паліцыі. Пасля ссылак філаматы разляцеліся па ўсім свеце, бальшыня з іх стала выдатнымі навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі, літаратарамі. Таварыства філаматаў стваралася „не на хвілю, не дзеля мімалётнай забавы, а на ўсё жыццё". У іх статуце падкрэслівалася, што якая б каго не напаткала доля, куды б не закінуў лёс, яны застаюцца сябрамі Таварыства назаўсёды. Выгнаннікі з радзімы выконвалі гэтую студэнцкую клятву да сваіх апошніх дзён. Асветніцкае зерне, кінутае філаматамі на віленскую глебу, прарасло пазней — у нашаніўскі перыяд яно ўвасобілася ў сапраўднае нацыянальнае адраджэнне.

У наш час была спроба інтэлігенцыі адрадзіць асветніцкі філамацкі рух. Здаецца, яна не вельмі ўдалася — цяперашняя моладзь не вельмі імкнецца да шырання светагляду, а сучасныя камунікацыі дазваляюць здабываць веды іншым шляхам. Філаматы ж засталіся ў гісторыі яркім прыкладам студэнцкага братэрства.



# Музей Луцкевіча

На віленскіх могілках Росы сярод пантэона розных беларускіх дзеячаў ёсць адно асаблівае пахаванне. Гэта сімвалічная магіла братоў Луцкевічаў — асобаў, якія ў пачатку дваццатага стагоддзя заклалі падмуркі нацыянальнага адраджэння, былі апосталамі беларускага руху ў той перыяд, які ўвайшоў у гісторыю як „нашаніўскі”. Абодва браты пайшлі з жыцця далёка ад Бацькаўшчыны. Іван Луцкевіч памёр пасля хваробы на сухоты ў Закапанэ, Антон Луцкевіч згінуў у савецкім канцлагеры ў Казахстане. У 1991-ым годзе адбылося сімвалічнае перапахаванне на Росах, пастаўлены сціплы помнік. Больш Луцкевічам ніякага ўшанавання нідзе няма: сучасная афіцыйная Беларусь не дбае пра нацыянальных герояў, а беларусы Вільні не ў змозе здзейсніць гэта матэрыяльна. Пра першы беларускі паўнавартасны музей, які стварылі ў нашай старадаўняй сталіцы Луцкевічы, нагадвае толькі будынак у Базыльянскіх мурах.

Калекцыі якія былі сабраныя Іванам Луцкевічам, грунтаваліся не на пустым месцы. Збіраць экспанаты навуковец пачаў яшчэ ў канцы 19-га стагоддзя, ужо тады ў яго былі асобнікі скарынаўскай Бібліі і Статута Вялікага Княства Літоўскага на старабеларускай мове, калекцыя слуцкіх паясоў, выпускі „Мужыцкай праўды” Кастуся Каліноўскага. Ідэалагічным падмуркам стаў віленскі музей старажытнасцяў Тышкевічаў.

Пачаткам стварэння ўласна музея лічаць 1921 год, менавіта тады калекцыі і зборы, якія некаторы час размяшчаліся ў памяшканнях газеты „Наша ніва”, былі перавезены ў будынак пры базыльянскім кляштары ў самым сэрцы гораду. Яшчэ перад смерцю Іван Луцкевіч завяшчаў каштоўнасці створанаму ім у 1918-ым годзе Беларускаму навуковаму таварыству. Экспанаты былі размешчаны ў пяці пакоях, па суседству працавала Беларуская гімназія. Узначальваў музей Антон Луцкевіч, яго руплівцамі былі таксама Мар’ян Пецюкевіч, Янка Шутовіч, Уладас Дрэма. Само таварыства фактычна было знішчана бальшавіцкай уладай, яго сябры зазналі рэпрэсіі, але музей пераждаў сваіх апекуноў. Яго дзейнасць у міжваенны перыяд была вялікай асветніцкай справай, якая фармавала цэлае пакаленне беларусаў, людзей, што ведаюць сваю багатую мінуўшчыну. Гэты асяродак з багатай на той час бібліятэкай і архівам спрыяў і стварэнню айчыннай акадэмічнай навукі.

Канчатковамузей імя Луцкевіча быў зліквідаваны саветамі ў 1945-ым годзе. Скончылася жахлівая вайна, але для беларусаў пачыналася чарговая хваля русіфікацыі і знішчэння нацыянальных каштоўнасцяў — нязменная палітыка Масквы, якая цягнецца ўжо стагоддзямі. Большая частка нашага першага яскрава нацыянальнага музея, у тым ліку рукапісныя кнігі і старадрукі, калекцыі слуцкіх паясоў, іншыя ўнікальныя і дарагія экспанаты, засталася ў Літоўскай рэспубліцы. Амаль увесь архіў дакументаў трапіў у Акадэмічную бібліятэку новастворанай паўночнай рэспублікі. Невялікая частка збораў трапіла ў савецкую Беларусь, дзе яна знаходзяцца зараз — ведаюць хіба толькі адмыслоўцы.

Мне давялося сустракацца і размаўляць з сотнямі музейшчыкаў розных гарадоў і мясцовасцяў. Сярод іх былі вельмі розныя людзі — апантаныя энтузіясты і абыякавыя „научныя сотрудники", шчырыя беларускія адраджэнцы і выразныя праваднікі чужога. Праца музейшчыка па вялікім рахунку заўсёды была няўдзячнай, у гісторыі застаюцца адзінкавыя прозвішчы збіральнікаў старасветчыны. У іх пераліку імя Івана Луцкевіча стаіць адным з першых.



З развалам Савецкага саюзу беларусы пераважна набылі — акрамя гістарычнага шанцу на паўнавартасную дзяржаўнасць, гэта выявілася ў розных канкрэтных рэчах, найперш у тым, што людзі атрымалі свабоду. У тым ліку свабоду перамяшчэння праз межы. Але адзін кірунак усё ж амаль зачыніўся. Гэта тэрыторыя сённяшняй Літвы, куды патрапіць праз памежны шлагбаўм стала ўжо не так проста. Для многіх насельнікаў Гарадзеншчыны гэта сапраўдная страта. Дарога ў Друзгенікі ці Варэну была для іх у час СССР сапраўднай „дарогай жыцця" — сюды ехалі па сама смачныя прадукты харчавання — каўбасу, сыр, хлеб, халву і цукеркі, а таксама па чыстае паветра і адпачынак. Друзгенікі і Паланга былі ўлюбёнымі курортнымі месцамі беларусаў. Невыпадкова тут нават паўсталі адпаведныя санаторыі. А ўжо ў суверэнны для Летувы час пачалося сапраўднае развіццё турыстычнай інфраструктуры. Найбольш папулярным для гасцей у Друзгеніках сёння ёсць сучасны аквапарк, адзін з найбуйнейшых у Еўропе. Пабудаваныя і вельмі дарагія гатэлі, але ім суседнічаюць і сціплыя, дастаткова ўтульныя дамкі, дзе можна пераначаваць за невялікую плату.

Па-летувіску гарадок называецца Друскінінкай — назва цяжкая для нашага вымаўлення, таму ўсе беларусы і палякі па-ранейшаму называюць мястэчка Друскенікі альбо Друзгенікі. Тапонім тлумачыцца паходжаннем ад балцкага слова „druska", што азначае „соль". Мясцовыя крыніцы сапраўды надзвычай салёныя, а лекавыя якасці гэтай вады былі заўважаны яшчэ ў канцы сямнаццатага стагоддзя, калі набыў ведамасць знахар Пранас Суруціс. Першая згадка пра Друзгенікі была знойдзена ў славутай Літоўскай метрыцы — яна датуецца 1563 годам. А статус курорта мястэчка атрымала ў 1793 годзе, калі асабістым лекарам караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага былі эксперыментальна пацверджаны гаючыя ўласцівасці мясцовых мінеральных водаў. Ацанілі іх і расейцы, як следства — у 1837-ым годзе цар Мікалай I абвесціў Друзгенікі горадам.

Друзгенікі — сталіца дзіўнага краю Дзукія, мястэчка альбо горад, у якім асаблівы спакой, цішыня і суладдзе. Яны надзвычай кансерватыўныя і не мяняюцца з гадамі, захоўваючы старыя драўляныя дамкі, у якіх месцяцца шматлікія гатэльчыкі і кавярні. Здаецца, што з часу

Пілсудскага, які вельмі тут любіў бываць і перажыў тут каханне, амаль нічога не змянілася. Ціхі нетаропкі аўтавакзал, люстраны спакой маляўнічага возера, шматлікія драўляныя і каменныя скульптуры. І чыстае паветра, якога няма нідзе больш у свеце. Праз мястэчка цячэ рэчка Ратніча ці Ротніча, на ўскрайку Друзгенікаў аднайменная вёска, дзе на мясцовых кладах магіла нашага фальклрыста Яна Чачота. У мястэчку царква, касцёл і дом-музей мастака Мікалаюса Чурлёніса.

Ад Гародні да Друзгенікаў усяго каля 40 кіламетраў, але гэтая дарога рэйсавым аўтобусам расцягваецца да дзвюх, а часам і трох гадзін. Здаецца, што па Нёмане хутчэй можна даплыць, але пакуль такая камунікацыя не практыкуецца. А ехаць на сваім аўтамабілі — гэта заўсёды латарэя: можна праскочыць хутка, а можна прастаяць у чарзе паўдня. Праз лес фактычна мяжы няма і збіраючы грыбы, можна выпадкова зайсці на тэрыторыю ўжо іншай дзяржавы. Навошта толькі прыдуманыя гэтыя межы — для сапраўдных бандытаў яны не перашкода, а вось нармальным людзям сур'ёзна замінаюць.

Людзі прыязджаюць у Друзгенікі каб адпачыць ад шуму вялікіх гарадоў, паправіць здароўе, задумацца пра існасць нашага быцця...



# Незвычайная Нача

Ёсць вёскі, якія ляжаць удалечыні ад турыстычных маршрутаў і малавядомыя нават гісторыкам. Відаць у кожнай мясціны свой лёс і для кожнага паселішча ёсць свая вышэйшая задума. Адны ўвогуле знікаюць з твару зямлі, іншыя ў працэсе ўрбанізацыі зрастаюцца з сабе падобнымі і пераўтвараюцца ў гарады, трэція нібы законсерваваныя ў часе і амаль не мяняюцца стагоддзямі. Ёсць гарады, у біяграфіі якіх мала адметнага, а ёсць невялікія мястэчкі, якія даюць краіне цэлы шэраг выдатных асобаў. Менавіта з такіх мясцовасць Нача ў Вараноўскім раёне на сучаснай Гарадзеншчыне.

Нядаўна ад краязнаўца Андрэя Аляхновіча даведаўся, што ў Крупскім раёне Мінскай вобласці таксама ёсць вёска Нача з цікавай лакальнай гісторыяй. Паходжанне гэтага тапоніма „не хочуць" тлумачыць навукоўцы, старанна абмінаючы. Існуе версія, што назва пайшла ад балцкага слова „nasus", што азначае „урадлівасць", іншыя ж гіпотэзы ўвогуле недарэчныя.

Размешчана мястэчка Нача на паўночным захадзе Беларусі пры самай мяжы з сучаснай Літвой, шлях да яго ляжыць праз больш вядомую Радунь. У гэты куточак патрапіць зараз зусім ня проста. З дарогамі то ўсё ў парадку, але паводле задумы стваральнікаў „зоны" мясцовасць апынулася ў ліку памежных тэрыторый, куды можна трапіць толькі маючы адмысловы дазвол. Тут можна прыгадаць нядаўнюю гісторыю з мясцовым навукоўцам, які быў аштрафаваны за спробу патрапіць у Начу, куды ён раней вольна прыязджаў дзесяткі разоў.

Паселішча Нача ўпершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца пад 1517 годам, але паводле археалагічных даследзінаў нараджэнца гэтай зямлі Вандаліна Шукевіча першыя людзі тут з'явіліся ажно чатыры тысячы гадоў таму. У пачатку шаснаццатага стагоддзя Нача была родавай уласнасцю Венсала Станьковіча і Марціна Радзівілавіча. Яны прадалі яе гаспадарскаму баярыну Радуньскага павету Шымку Міктавічу. Пазней маёнтак стаў уласнасцю Януша і Марыі Касцевічаў. Пасля смерці мужа Марыя заснавала тут парафію і пабудавала касцёл. Пасля 1559 года Нача належала магнатам Кішкам і Радзівілам. З 1631 году была заселена татарамі, нашчадкі якіх і дагэтуль жывуць у суседняй вёсцы Някрашунцы. У 1690 годзе маёнтак стаў уласнасцю лідскага архітэктара Людвіка Доўгірда.

З Начай цесна пераплецены род Нарбутаў, родавы маёнтак якіх быў непадалёк у мясцовасці Шаўры. Менавіта каля нацкага касцёлу пахаваны Тодар Нарбут — постаць знакавая для свайго часу, заснавальнік на нашых землях гістарычнай навукі і краязнаўства, асоба агульнанацыянальнай значнасці. Тут жа знайшоў свой апошні спачын выдатны натураліст Станіслаў Юндзіл. А ў 80-ыя гады ўжо мінулага стагоддзя непадалёк касцельнай агароджы быў пастаўлены помнік паўстанцам 1863 году. У гэтым збройным чыне быў сфармаваны вялікі мясцовы паўстанцкі атрад, якім верхаводзіў легендарны Людвік Нарбут. З помнікаў архітэктуры акрамя стагадовага мураванага касцёлу варта згадаць яшчэ больш старую плябанію, а таксама колішні будынак драўлянай карчмы 19-га стагоддзя, які зараз служыць жылым домам. У будынку школы краязнаўчы музей, да стварэння якога чынна прычыніўся мясцовы настаўнік гісторыі і паэт Уладзімір Руль. На ўскрайку мястэчка, бліжэй да лесу родавая каплічка-пахавальня Шукевічаў, дзе пахаваны згаданы вышэй навуковец, пачынальнік айчыннай археалогіі. Калі мы з сябрамі прыязджалі туды першы раз, яна была яшчэ паўразбураная. Зараз ужо рэстаўраваная.
Мае мястэчка і свой беларускамоўны сайт — добры прыклад для іншых. У Начы заўсёды жылі і жывуць таленавітыя людзі.



Для насельнікаў Гарадзеншчыны найбольш блізкімі і зразумелымі ёсць сумежная Бельская, Гайнаўская ці Сакольская землі. Па абодва бакі нямала сваяцкіх сувязяў і падабенства, беларуская вясковая і местачковая культура. Таксама суседская Сувальшчына ёсць куды больш загадкавай і таямнічай. Гісторыя гэтай зямлі мае багата старажытных загадак і гістарычных перапляценняў. Некалі на гэтых землях жыло магутнае племя яцвягаў. Этнагенез тут быў настолькі складаны, што нават сама дасведчаныя навукоўцы не могуць прадставіць больш-менш пераканаўчую карціну змешвання і паходжання мясцовых насельнікаў. Сувальшчына і сёння досыць стракатая як у нацыянальным, так і ў канфесійным плане. Тут можна сустрэць сама розных прадстаўнікоў хрысціянскай рэлігіі, у тым ліку і старавераў. Гэтую зямлю няма важкіх падставаў залічаць у беларускія скарбы, але яна захавала столькі традыцый, уласцівых некалі і нашым землям, што ёсць для нас прыкладам захавання гістарычнай спадчыны, узорам аховы і шанавання падоранай Богам прыроды. А кожнаму асобнаму чалавеку належыць увесь свет, калі ён любіць вандраваць, шануе сваё і з павагай ставіцца да суседняга.

Сувальшчына надзвычай багатая сваімі прыроднымі скарбамі, раслiннай і ландшафтнай разнастайнасцю, а таксама рэгіянальнымі культурнымі асаблівасцямі. Асабіста мне пашчасціла правесці ў гэтым рэгіёне разам з сябрамі некалькі падарожных сезонаў. Навакольныя мясціны і населеныя пункты найлепей спазнаваць вандруючы на ровары і байдарцы. Каб наведаць і паглядзець усё цікавае патрэбна шмат часу. Аднак, можна распрацаваць адмысловы маршрут, які дазволіць убачыць прынамсі найбольшыя адметнасці. Сувальшчыну можна параўноўваць з беларускай Астравеччынай, але яна адрозніваецца ў лепшы бок у плане развітасці і разгалінаванасці турыстычнай інфраструктуры. Адных аграсядзібаў у гэтым рэгіёне налічваецца ўжо соткі, больш, чым ва ўсёй Беларусі.

Найбольш гістарычным цэнтрам рэгіёну ёсць Аўгустаў, горад, у атачэнні цудоўных азёраў Распуда, Белае, Нэцка. Тут жа працякае знакаміты Аўгустоўскі канал, шлюзы якога прапускаюць штодзень соткі турыстаў. У самым горадзе знакамітая рэстарацыя „Альбатрос", дзе нарадзілася папулярная польская песня, багата розных дзі-

цячых пляцовак і утульных кавярняў. У летні сезон тут адбываецца асабліва шмат розных імпрэзаў.

Унікальным архітэктурным ансамблем ёсць камедульскі кляштар у Віграх, збудаваны пасярод дзівоснай акваторыі аднайменнага возера. Некалі тут спыняўся папа Ян Павал Другі, пра што сведчаць адмысловыя музейныя пакоі кляштарнага гатэлю. Адмысловы санктуарый створаны ў Студзенічнай, дзе прыпыняўся пантыфік. Асаблівым горадам ёсць Сэйны, асноўнай візітоўкай якіх ёсць Белая сінагога, сёння мультыкультурны асяродак, дзе праходзяць выставы і канцэрты. Вандруючы па Сувальшчыне, абавязкова трэба наведаць „мясцовую Фудзіяму" — так званую Цісовую гару, якая мае вышыню 256 метраў над роўнем мора. З яе адкрываецца маляўнічы далягляд на рэчку Шэшупу і навакольныя азёры. Уразяць падарожніка і Станьчыкі, дзе можна пабачыць нядзейсны зараз высачэзны чыгуначны мост, да вайны па ім хадзілі цягнікі.

Рачкі і Філіпаў, Штабін і Краснаруда, Бакалажава і Рутка-Тартак, Бержнікі і Пуньск — усюды вы сустрэнеце цікавыя помнікі, адметнасці і зычлівых мясцовых жыхароў. Сувальшчына абуджае найлепшыя пачуцці і праз мясцовае адкрывае для кожнага часам забытае сваё.


Фота Вольгі Ахрук

# Дбайныя Жодзішкі

Мястэчка Жодзішкі ляжыць на поўначы сучаснай Гарадзеншчыны ў межах цяперашняга Смаргонскага раёну. Месца забудаванае на высокім, досыць маляўнічым беразе ракі Вялля, дастаткова аддаленае ад раённага цэнтру і паблізу біялагічнага заказніка Дубатоўскае. Некалі Жодзішкі былі адным з цэнтрам місіі ордэну езуітаў, зараз мясцовы калгас лічыцца адным з перадавых у рэгіёне. Бываць у Жодзішках мне даводзілася чатыры ці пяць разоў, але гэтага дастаткова, каб заўважыць адрозны „характар" мястэчка.

Неяк з сябрамі краязнаўцамі мы шукалі ў ваколіцах колішнюю сядзібу публіцыста і ўдзельніка вызвольнага руху Юльяна Бакшанскага, гераічна загінуўшага ў паўстанні 1863 году. Месца яго пахавання вядомае — мястэчка Плябань Маладэчанскага раёну. А вось ад былога родавага фальварку Тупальшчына, што непадалёк Жодзішак, не засталося нават падмуркаў. Месца гэтае цяпер загаранае і толькі па некаторых прыкметах і рэштках раскіданай цэглы можна было вызначыць пляц, дзе некалі была сядзіба. Расчараванне наша, аднак, сцішылася, калі ў той жа вандроўнай экспедыцыі ўдалося на хутары Плавушка знайсці хату сям'і Цікотаў. У гэтай мясціне нарадзіўся беларускі рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, генерал ордэну марыянаў Андрэй Цікота. Згінуў ён у савецкім канцлагеры ў 1952-ым годзе пры да канца невысветленых абставінах. Натуральна ўзнікла жаданне паставіць у Жодзішках у яго гонар крыж. З дапамогай спадчыннікаў хаты ўдалося адшукаць і належнае месца — на мясцовых могілках знайшлася магіла брата Цікоты — Фелікса, які таксама быў актывістам беларускага руху. У 2003-ім годзе высілкамі грэка-каталіцкай супольнасці памятны крыж Андрэю Цікоту быў пастаўлены і асвечаны. У Жодзішках з'явіўся яшчэ адзін помнік.

Першая дакументальная згадка пра Жодзішкі датычыць 1511 году, калі тут быў старадаўні замак і паселішча. Цягам 16-17 стагоддзяў яны належалі розным родам: Падбейпецічам, Забярэзінскім, Осцікавічам, Кішкам, Комарам, Мінкевічам. Шырокую ведамасць Жодзішкі пачалі набываць пасля таго, як тут быў заснаваны кальвінскі збор. У пачатку 19 стагоддзя ён быў перабудаваны ў касцёл і застаецца ім дагэтуль. У гэтым Троіцкім храме ёсць размалёўкі, якія выканаў беларускі мастак Пётра Сергіевіч.

Іншым знакавым мясцовым помнікам архітэктуры ў Жодзішках ёсць будынак былога езуіцкага калегіума. Заснаваны тут ён быў у 1757-66 гадах у маёнтку Мінкевічаў паводле праекту знакамітага архітэктара Тамаша Жаброўскага. З канца 18 стагоддзя, калі місія паслядоўнікаў Лаёлы ўжо тут не працавала, калегіум быў пераўтвораны ў палац. У розны час сядзіба належала Патоцкім, Ласкарысам, Мілашэўскім. З асобаў варта прыгадаць Ігната Жабу, тэолага, які быў тут рэктарам калегіума і выкладаў багаслоўскія навукі. Многа пазней у мясцовым касцёле амаль год (з жніўня 1924-га да чэрвеня 1925-га) служыў Вінцэнт Гадлеўскі, адзін з ідэолагаў беларускага Адраджэння. А будынак былога езуіцкага кляштару ўжо многія гады прыстасаваны пад псіхіятрычны шпіталь.

А яшчэ ў Жодзішках захаваліся будынкі старога воднага млына і бровара. Пра гісторыю мястэчка можа надзвычай цікава расказаць Алег Мізула, тамтэйшы краязнавец, бард і уладальнік аграсядзібы. Мясцовыя насельнікі заўсёды былі дбайнымі гаспадарамі, адчуваецца гэта нават і зараз, праз дзесяцігоддзі савецкага ладу. Ідзеш і бачыш акуратныя панадворкі, запрэжаныя дагледжаныя коні і побач з імі дастаткова добрыя аўтамашыны. Адчуваецца, што ў гэтай частцы гістарычнага Віленскага краю людзі яшчэ не развучыліся працаваць, рупіцца пра свой дабрабыт. І марыць пра лепшае...



# Слаўны Слонім

Слонім — адзін з найбольш вялікіх і старажытных гарадоў сучаснай Гарадзеншчыны, які па праве можа прэтэндаваць на статус гістарычнага цэнтру. З гэтым горадам звязана вялікая колькасць выдатных постацяў агульнанацыянальнай значнасці: тут жылі і працавалі канцлер ВКЛ Леў Сапега і магнат Міхал Казімір Агінскі, музеязнавец Восіп Стаброўскі і ідэолаг беларускага хрысціянскага руху Адам Станкевіч, паэтка Наталля Арсеньнева і лідар антыбальшавіцкага супраціву Уладзімір Ксяневіч, грамадска-рэлігійны дзеяч Лукаш Дзекуць-Малей і беларускі асветнік Гальяш Леўчык. Праўда помнікаў гэтым выдатным людзям сёння ў Слоніме вы не знойдзеце. Найбольш блізкім да ўшанавання „у камяні і граніце" быў фундатар слонімскіх палацаў і храмаў Леў Сапега. Пра ўсталяванне яму манументу па Слоніме ходзіць сапраўдны анекдот. У наш час з'явіўся праект помніка канцлеру з сабакам. Грамадскасць стала актыўна збіраць грошы і дамагацца такога помніка, аднак, сродкаў хапіла толькі на Сапегу, а на сабаку забракла. Так помнік і не паўстаў. Затое ў Слоніме ёсць вуліца з рэдкай для нашай рэчаіснасці „Оперная" — у гонар даўняга тэатру, які тут дзеіў. Ёсць тэатр у Слоніме і цяпер, што вялікая рэдкасць для раённых цэнтраў.

Цяперашнія слонімскія адміністратары не надта багатыя на фантазію — таму ў горадзе ажно некалькі ўстановаў носяць імя „Шчара" — рэстаран, гатэль... Але гэта зразумець можна — мясцовыя жыхары надзвычай любяць рэчку, на якой уласна і паўстаў горад. Гэтая водная артэрыя проста культавая ў Слоніме. Яна стала часткай знакамітага некалі канала, выкапанага паводле задумы Міхала Казіміра Агінскага, які вярнуўся сюды пасля эміграцыі і кардынальна рэфармаваў гаспадарку, развіў культуру гораду. Пры яго кіраванні Слонім вобразна называлі „Афінамі Палесся". Канешне, гэта было ў значнай ступені перабольшваннем, але тым, хто па-сапраўднаму любіць гэты горад, так не здаецца. Мясцовыя краязнаўцы, у шэрагу якіх першы Сяргей Чыгрын, могуць пра слаўнае мінулае гораду, пра мясцовых выхадцаў расказваць гадзінамі. І давесці што заўгодна — прыкладам, што Слонім — гэта радзіма сланоў. А калі сур'ёзна, то вакол назвы горада было зламана нямала дзідаў. Ажно да 14 ст. яна ў пісьмовых крыніцах фігуравала як Услонім, Вслонім, Васлонім. Выводзілі назву ад польскіх словаў sloma (салома) ці sloni-

na (сала), спасылаючыся на саламяныя стрэхі старых будынкаў ці шырокі гандаль салам. Гэтыя гіпотэзы падаюцца „прыцягнутымі за вушы". Больш праўдападобныя наступныя версіі. Васіль Мялешка сцвярджае, што гэта балцкая назва і паходзіць ад „slenis", „slenumas" — нізіна, нізінны. А краязнавец Васіль Супрун яшчэ ў 1960-ым годзе выказаў думку, што назва „Услонім" паходзіць ад слова „услон", „услона" — заслона, пэўнае ўмацаванне, якое засланяе. У старажытнасці рака Шчара была важнай воднай магістраллю, якая злучала Палессе з Панямоннем. Праз валоданне і пэўны кантроль над гэтым шляхам можна было не толькі мець сувязь з вялікай тэрыторыяй, але і ўплываць на яе жыхароў. Верагодна, што з мэтай калектыўнай абароны тут, абапал рэчышча Шчары былі збудаваныя два ўмацаваныя гарадзішчы, сляды якіх былі зафіксаваныя побач з сучасным пляцам Сапегі і на месцы былога палацавага комплексу Агінскага. Магчыма, гэта і быў той „услон", пад ахову якога цягнуліся ўсё новыя жыхары наваколля.

І гэта толькі пра назву. Архітэктурная ж і культурная спадчына гораду заслугоўваюць асобных падрабязных выданняў, якія некалі з'явяцца і раскажуць нам у дэталях пра слаўны Слонім.



# Ашмянская якасць

Ашмяншчына — гэта частка колішняй гістарычнай Віленшчыны, знітаванасць гэтага краю з старадаўняй беларускай сталіцай адчуваецца дагэтуль. У савецкі час многія ехалі адсюль на працу ў Вільню, а пасля развалу СССР засталіся там назаўсёды. На Ашмяншчыне жывуць людзі з адрозным менталітэтам, сваім гонарам і традыцыяй перабольшваць значнасць тых ці іншых лакальных падзеяў. Ашмянцы вельмі добрыя расказчыкі, таму невыпадкова адна незалежная сучасная газета перахрысціла папулярную некалі анекдатычную рубрыку „Армянскае радыё” на „Ашмянскае радыё”.

Назву раённага цэнтру Ашмяны мясцовыя людзі да гэтай пары вымаўляюць у адзіночным ліку жаночага роду — Ашмяна. Тапонім відавочна балцкага паходжання, разгадаць значанне якога пакуль не ўдаецца. Мясцовасць пра якую ідзе гаворка знаходзіцца на Ашмянскім узвышшы і ёсць адной з сама высокіх у Беларусі над роўнем мора. Клімат тут крыху халаднейшы, а пладовыя культуры выспяваюць пазней чым у іншых навакольных рэгіёнах.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах Ашмяна згадваецца пад 1341 годам як замак вялікіх князёў ВКЛ, які ў 1384-85 гадах адбіў напад крыжакоў. Статус гораду Ашмяне надаў вялікі князь Вітаўт, а магдэбургскае права яна атрымала ў пачатку 16-га стагоддзя. У 1432 годзе пад Ашмяной адбылася вялікая бітва паміж войскам вялікага князя Свідрыгайлы і супольнымі сіламі старадубскага князя Жыгімонта Кейстутавіча і князя Сямёна Гальшанскага — у гэтай жахлівай сечы палягло каля 14 тысяч ваяроў, а ў выніку Свідрыгайла быў змушаны адысці. У пачатку 16-га стагоддзя горад перанесены на іншае месца (Новая Ашмяна), старажытная частка (Старая Ашмяна) у 1505 годзе была адданая францішканцам. Неўзабаве Ашмяна стала цэнтрам аднаго з буйнейшых паветаў ВКЛ. У 1717 годзе ў павеце жыло каля 85 тысяч жыхароў.

Дзвесце гадоў таму, у вайну 1812 году, горад быў заняты напалеонаўскімі войскамі. А ў красавіку 1831-га тут адбылася значная падзея — выступ паўстанцаў на чале з Юзафам Зянковічам і Парфірам Важынскім. За падтрымку паўстання Ашмяна была разбурана расейскімі войскамі пад камандай палкоўніка Вяршуліна.

Ядро сучаснага гораду складае цэнтральны пляц, дзе ў адпаведнасці з старымі айчыннымі традыцыямі суседнічаюць храмы дзвюх асноўных канфесій — праваслаўная царква і каталіцкі касцёл. А праз пару дамоў па цэнтральнай вуліцы, крыху ў глыбіні, стаіць вялікая драўляная сінагога 19-га стагоддзя, архітэктурных аналагаў якой мне бачыць не даводзілася нідзе. Характэрна, што сярод мясцовага насельніцтва ва ўсе часы тут не было сур'ёзных міжрэлігійных канфліктаў.

Праваслаўная царква пры саветах была амаль разбурана, у такім жа гаротным стане быў і мясцовы касцёл у мурах якога знаходзіліся вытворчыя і адміністрацыйныя памяшканні віленскага заводу радыёпрыладаў. Ваёўны атэізм і русіфікацыя ў гэтым рэгіёне былі асабліва моцнымі. Але час усё і ўсіх рана ці позна размяшчае па сваіх месцах. Сёння ашмянскія храмы якасна адрэстаўраваныя і дзеюць. А нядаўна з пляцу перад выканкамам нібыта прыбралі помнік правадыру сусветнага пралетарыяту, што яшчэ раней стаяў у абласным цэнтры.

Візітоўкай сённяшняй Ашмяны ёсць найперш мясцовы мясакамбінат, які дзякуючы якасці і смаку сваёй прадукцыі выйшаў у краіне хіба на першае месца. Нездарма ў дольнай частцы старога герба змешчана выява чырвонага цяляці. Статус гораду звязаны зараз з трасай Мінск-Вільня і мытнай „дарогай жыцця". А вось свайго радыё ў Ашмяне, на жаль, няма. Не той час пакуль...



Лёс мясцовасці з такой прасветленай назвай не можа быць простым. Бадай ні пра аніводны архітэктурны помнік, як пра свяцкі палац, не пісалі ў Беларусі так шмат апошнія гады. Але існая сёння ў Беларусі ўлада, далёкая ад сапраўднай культуры. Яе прыярытэт — прага хуткай нажывы і сучасныя лёдавыя палацы. Апошнія, зрэшты, зусім нерэнтабельныя, але ў гэтай дзяржаве галоўнае — навязлівая ідэя, няхай і ўвогуле абсурдная, а не сэнсавае напаўненне справы.

Палацава-паркавы ансамбль паблізу вёскі Свяцк, што ў Гарадзенскім раёне ў кірунку Сапоцкіна, ў васямнаццатым стагоддзі належаў роду Валовічаў. Пабудаваны ён быў паводле праекту знакамітага на нашых землях італійскага архітэктара Джузэпэ дэ Сака. Выканаўцамі былі найлепшыя майстры з Вільні, Гародні, Варшавы. Рэалізацыю праекту пачаў гарадзенскі маршалак Юзаф Валовіч, а скончыў ягоны сын Антон, які таксама займаў значныя дзяржаўныя пасады. У канцы дзевятнаццатага стагоддзя маёнтак быў прададзены яўрэйскім купцам, а пазней ён быў распарцаляваны. Былое уладанне распалася на пяць частак з рознымі назвамі. У адной з іх — Свяцку-Горным — працавала патачная мануфактура, якая выробляла вінаградны цукар і іншыя блізкія прадукты.

Пасля першай сусветнай вайны палац выкупіў Дэпартамент здароўя польскага ўраду з намерам стварыць у ім лякарню для наркаманаў. Тут ад згубнай залежнасці лячылася гарадзенская мастацкая багема. Паміж войнамі архітэктурны ансамбль быў рэстаўраваны. Грошы на адбудову „выбіваў" гісторык Юзаф Ядкоўскі. Пазней тут месціўся вайсковы шпіталь. А ў савецкі час у палацавым комплексе размясціўся санаторый для хворых на сухоты. Двухпавярховы палац (першы паверх — калідорны, другі — анфіладны) залічаецца да эклектычных аб'ектаў, спалучаючы ў сабе рысы барока і класіцызму. Колішнія шыкоўныя інтэр'еры фактычна страчаны. Не захаваліся і размалёўкі славутых мастакоў свайго часу Францішка Смуглевіча і Тамаша Манькоўскага.

З цягам часу галоўны будынак палацу стаў разбурацца. У 2005-ым годзе медыцынскі рэабілітацыйны цэнтр выехаў і сядзіба доўгі час пуставала. Пасля яе раённы аддзел адукацыі перадаў задарма акцыянернаму таварыству „Азёрны", за якія заслугі — ніхто не ведае, магчыма іншых ахвотных інвестараў проста не знайшлося.

Вакол свяцкага палаца размешчаны парк агульнай плошчай каля 12 гактараў, ставы і розныя пабудовы. Сярод іх вылучаецца неагатычная капліца-пахавальня. Наўкола размешчаны і вялікія камяні. Сюды ў Свяцк, за 12 кіламетраў ад Гародні, вельмі любяць прыязджаць вясельныя картэжы. Праўда адзін час гэта стала праблемным — новы ўласнік імкнуўся ўсталяваць свае парадкі. Можа ў гэтым і была пэўная рацыя — узімку пад сценамі палацу было досыць небяспечна, бо падалі ледзяшы. Размоў пра адбудову і рэканструкцыю было столькі, што хапіла б на некалькі аб'ектаў, але справа ўвесь час тармазілася. А гісторыкі і экскурсаводы білі трывогу: першыя з-за катастрафічнага стану будынку, другія баяліся, што свяцкі палац стане недасягальным, а ён жа ёсць асноўнай атракцыяй на шляху да Аўгустоўскага каналу. Зараз жа, здаецца, уласнік з аднаго боку і наведнікі, турысты з іншага, знаходзяць нейкія кампрамісы.

У адбудаваным у перспектыве комплексе нібыта размесціцца новы санаторый, на гэты раз элітарны, а значыць вельмі дарагі. Але бліжэйшая будучыня Свяцку ўяўляецца досыць цьмяна.


Фота Віктара Парфёненкі

Белавежская пушча ёсць адным з найбольш устойлівых сімвалаў і брэндаў усёй Беларусі за мяжой. Гэты дзівосны абшар прыроды, аднак, дагэтуль ёсць неспазнаны самымі насельнікамі краіны. Прычынаў тут некалькі. Па-першае, Рэспубліка Беларусь — не „клачок зямлі", як часцяком кажуць дзяржаўныя невукі, а даволі вялікая па тэрыторыі краіна. Ажно трынаццатая па велічыні плошчы ў Еўропе! Таму жыхары, прыкладам паўночнай Віцебшчыны слаба арыентуюцца ў рэаліях Палесся, магілёўскія насельнікі кепска разумеюць менталітэт, скажам, жыхароў колішняга Ашмянскага павету. Ну і канешне наадварот. Людзі, якія жывуць пры пушчы, ці амаль у ёй, маюць свой характар, больш лагодны і філасофскі, зазвычай яны нешматслоўныя і грунтоўныя. Такімі іх зрабіў лес, які відавочна ўплывае на свядомасць.

Частка Белавежскай пушчы, якая ўваходзіць у тэрыторыю сённяшняй Беларусі, складае ажно 87,5 тысяч гектараў. Гэта вялізная прастора і на ёй непатрэбна ствараць асаблівых атракцыяў, каб не парушыць натуры. Аднак некаторыя рэчы, якія прывабяць турыста, развіваць безумоўна трэба. Прыкладам такія, як забаўляльная чыгунка на тэрыторыі па другі бок мяжы — на Падляшшы. Здаецца, аналагаў ёй няма нідзе, а адпачынак яна дае фантастычны. Развіты тут і роварныя сцежкі. Мне ўвогуле, дзякуючы беластоцкім сябрам, больш давodзілася знаёміцца з Белавежскай пушчай на тэрыторыі сучаснай Польшчы. У памяць урэзалася дзівосная гісторыя-паданне, расказаная праваднікам, пра таўшчэзнае дрэва, дакрануўшыся да якога, можна захварэць „непрыстойнай" хваробай. Адзін з нашых спадарожнікаў, чалавек творчага складу, наважыўся праверыць гэта на сабе. І што вы думаеце — легенда абсалютна пацвердзілася.

Беларуская пушча — адна з найстарэйшых лясных прастораў усяго кантыненту. Першыя абмежаванні на паляванне тут былі ўведзены яшчэ ў трынаццатым стагоддзі, з 1541-га тут пачалі ахоўваць зубра, а з 1640 году была забаронена высечка лесу. У дрымучых зарасніках тут любілі паляваць расейскія цары і савецкія генеральныя сакратары. Але і тады пушчу ў цэлым берaглі. Бяда прыйшла не так даўно, калі запаведныя лясы пачалі вынішчаць, а каштоўнае дрэва адпраўляць на экспарт. Эколагі пачалі біць у званы, але апошнім часам пра маштабы вырэзвання дрэваў

і пра сапраўдны стан рэчаў мы ведаем мала. На тэрыторыі Беларусі пушча стала менш даступнай для звычайнага чалавека ў апошнія дваццаць гадоў. Сюды не так проста патрапіць з-за так званай памежнай зоны. А ўжо пра тое, каб зладзіць нейкую экспедыцыю і мовы няма. Можна, праўда, заблукаць, збіраючы грыбы на тэрыторыі, скажам, Свіслацкага раёну. І тады цябе будуць доўга шукаць, а пасля напэўна ўваляць яшчэ штраф. Сучасныя ўлады стварылі ў пушчы рэзідэнцыю Дзеда Мароза, у якую рэгулярна наведваюцца школьныя аўтобусныя экскурсіі. Толькі ўсё гэта нейкае чужароднае, штучнае і зусім не беларускае.

Надзіва пра Белавежскую пушчу складзена не так багата песняў, хоць вершаваных твораў пра яе процьма. Папулярным хітом усяго Савецкага саюзу быў твор „Песняроў", праўда ў арыгінале ён быў па-расейску. Верш Мікалая Дабранравава пераклала наша Наталля Арсеньнева і песня стала яшчэ больш мілагучнай. Аднак, апошнім часам яе можна пачуць досыць рэдка.

Сапраўдная вандроўка па Белавежскай пушчы з начлегам у дзікай прыродзе, так каб „выжыць кожнай цаной", застаецца маёй даўняй марай. Толькі, канешне. каб не аднаму, а з сябрамі...



# Валеўская жамчужына

Ёсць храмы, якія ўражваюць сваёй велічнасцю і манументальнасцю, ёсць такія — якія прываблiваюць пышнасцю формаў і багаццем аздобы. А ёсць такія, прыгажосць якіх цяжка апісаць з дапамогай архітэктурных тэрмінаў і слоўных эпітэтаў — настолькі яны арганічныя і натуральныя ў навакольным асяроддзі. З ліку іх царква ў Валеўцы на старадаўняй Наваградскай зямлі. Гэта адзін з найбольш старых драўляных храмаў на беларускай зямлі, каштоўная перліна архітэктурнай спадчыны. Стаіць царква па левым баку на шляху, што вядзе на чароўнае возера Свіцязь, аддаленая ад жылой забудовы. Царква пры самай дарозе, на пагорку, а перад ёй растуць дзве бярозы, падымацца трэба па стромых прыступках.

Летапісных звестак і гістарычных крыніцаў пра заснаванне паселішча Валеўка не захавалася. Як мясцовасць на рацэ Нёўда яна згадваецца ва ўспамінах Фёдара Еўлашоўскага пад 1602 годам. Храм быў пабудаваны ў 1685 годзе з дрэва як Троіцкі касцёл кляштару дамініканцаў, што быў заснаваны паводле фундацыі берасцейскага ваяводы Стэфана Курча. Першапачаткова ён меў рысы стылю барока. У 1832 годзе кляштар быў скасаваны, а яшчэ праз пяць гадоў храм стаў праваслаўнай Петрапаўлаўскай царквой. Мястэчкам тады валодалі Незабытоўскія. Апошняя перабудова адбылася ў 1870-ых гадах, з таго часу царква істотна не мяняла свайго аблічча. Толькі ў трыццатыя гады дваццатага стагоддзя да яе была далучана трох'ярусная званіца. Перыядычна царква мяняе колеры, відаць, сучасныя фарбы насуперак навязлівым рэкламам, зусім нетрывалыя. У храме зараз знаходзіцца некалькі старадаўніх ікон, а двух'ярусны іканастас аздоблены разьбой з пазалотай. Уладзімір Караткевіч пісаў, што тут былі іконы працы вядомага расейскага мастака Віктара Васняцова.

Паблізу сучаснай Валеўкі ажно да другой сусветнай вайны была сядзіба з назвай Чамброў. Гэтым фальваркам у дзявятнаццатым стагоддзі валодала сям'я Узлоўскіх, Анэля Узлоўская стала хроснай маці Адама Міцкевіча. Знакаміты літаратурны маёнтак Сапліцова з „Пана Тадэвуша" аўтарства славутага паэта — у рэчаіснасці якраз колішні Чамброў. Да нашага часу захавалася фамільная капліца, якую пабудавалі апошнія ўладаннікі сядзібы Карповічы.

У наваколлі Валеўкі археолагі знайшлі некалькі помнікаў даўніны — курганны могільнік, стаянку. А сама каштоўным

ёсць гарадзішча ранняга жалезнага веку X-VI вякоў да нашай эры. Называецца яно гара Радагошча. Гэта месца на значным узвышэнні, з якога вока радуюць маляўнічыя далягляды. На Радагошчы, якая ўжо ўключана ў турыстычныя маршруты, было галоўнае паганскае капішча старажытнай Літвы. Калі ўздымаешся на гэтае свяцілішча Перуна, разумееш, што больш адпаведнага месца капішчу знайсці было нельга. На гары стаяць таўшчэзныя старыя дрэвы, якія адлюстроўваюцца ў возеры знізу.

Валеўцы пашанцавала на рупліўцаў сівой даўніны. Краязнаўчы музей, які быў тут заснаваны ў 1955-ым годзе, ствараў настаўнік Міхаіл Петрыкевіч. Пасля яго эстафету падхапіў краязнавец Уладзімір Урбановіч, які жыў тут і працаваў да самай смерці. Непадалёк царквы мясцовыя могілкі, дзе ён пахаваны — на магіле помнік з беларускамоўным напісам. Родам з Валеўкі і шэраг іншых цікавых асобаў. Дадам, што сюды часта прыязджалі многія беларускія пісьменнікі і рупліўцы роднага слова — Якуб Колас, Уладзімір Калеснік, Фёдар Янкоўскі, Уладзімір Караткевіч, Янка Брыль... Наваколлі тут сапраўды надзвычай паэтычныя.



# Брэсцкая крэпасць

На тэрыторыю Брэсцкай крэпасці ўпершыню я трапіў яшчэ школьнікам. Вучнёўскія школьныя экскурсіі сюды былі найбольш распаўсюджаныя ў той час. Канкураваць з мясцовай цытадэллю ў гэтым сэнсе мог хіба толькі хатыньскі мемарыял. Героіка „вялікай айчыннай" вайны была асноўнай у ідэалагічным выхаванні таго часу. Пра старажытную гісторыю Берасця гаварылі ці мала, ці нічога. З таго часу ў памяць урэзаліся стэла-штык, велічэзны манумент, што ўслаўляе савецкага салдата, больш сціплая кампазіцыя „Смага" і пасечаная снарадамі і кулямі Холмская (насамрэч Хэлмская) брама. Згаданы манумент „Мужнасць", дарэчы, скульптар ляпіў з маскоўскага помніка паэту Маякоўскаму. Галоўны ж уваход у комплекс аформлены ў выглядзе ламанай пяціканцовай зоркі. На фотаздымках, дзе стаяць чэргі, гэтая прапускная брама нібы паглынае дзесяткі людзей у сваё чэрава.

Многа пазней стала ведама, што пад манументамі і пліткай савецкага часу хаваецца шматвяковая гісторыя старажытнага Берасця, што на тэрыторыі і побач сённяшняга комплексу быў дзесятак храмаў і кляштараў розных канфесій. Тут адбылося багата значных падзей, прыкладам падпісанне ў Белым палацы (былым базыльянскім храме) ганебнага акту Брэсцкага міру ў 1918 годзе.

А ў 1996-ым годзе давялося мне быць на святкаванні 400-ых угодкаў царкоўнай Уніі. Памятны знак у яе гонар так і не паўстаў, удзельнікі ўрачыстасці абмежаваліся тады выкладзеным на зямлі крыжам са знічак.

На месцы і вакол крэпасці перыядычна ідуць раскопкі. Адным з цэнтральным аб'ектаў ёсць музей старажытнага Берасця, накрыты шкляным купалам. У апошні прыезд у горад над Бугам мне пашчасціла трапіць на тэрыторыю цытадэлі і даўняга гораду ў суправаджэнні даследніцы мясцовай архітэктуры Ірынай Лаўроўскай. Спадарыня Ірына правяла мяне на комплекс зусім іншым уваходам — праз Паўночную браму і адкрыла шмат таямніцаў старажытнага гораду, якога ўжо даўно няма. Асноўныя руйнаванні Берасце зазнала пасля лістападаўскага паўстання 1830 году, гэта быў надзвычай чорны час для ўсёй Беларусі. Пасля знішчэння шэрагу архітэктурных помнікаў стала будавацца абарончая цвердзь. Пацярпеў горад і ў другую сусветную, але значная частка старых камяніцаў была знішчана і пасля вайны. Зараз вока і душу наведнікаў цешыць адбудава-

ная царква. Адноўлена яна ў адпаведнасці з гістарычнай праўдай і падаецца вельмі „жывой". За апошні час адбыліся і іншыя знешнія змены, прычым некаторыя не ў лепшы бок. Так Холмская брама (раней яна называлася Шпітальная) зазнала нейкае дзіўнае абнаўленне, зараз яна мае нейкую „далмацінскую" афарбоўку. Удалося пашпацыраваць і за гэтай брамай, за чырвоным мурам можна ўбачыць абрысы старажытнага замчышча, занядбаныя руіны даўняга кляштару, а таксама суток Мухаўца з Заходнім Бугам і навакольныя маляўнічыя краявіды. А перад Цярэспальскай брамай плануецца аднавіць колішні мост. З'явілася і некалькі дробных помнікаў і шыльдаў, але пра іх пісаць ня хочацца, бо знакі памяці ў гонар, прыкладам, энкавэдыстаў, зноў накідваюць нам, беларусам, фальшывую гісторыю, укараняюць чужынскія міфы.

Брэсцкая крэпасць сёння ёсць такім аб'ектам, які розным чынам шануецца рознымі палітычна-грамадскімі плынямі — адны знаходзяць тут савецкі гераізм другой сусветнай вайны, іншыя шукаюць слядоў больш старажытнага часу. Галоўнае зараз неяк мірна спалучыць гэты парадокс і вярнуць у сведамасць страчаную спадчыну.



# Пінск-франт

Пінск сярод балота нібы франт паміж галоты. Унікальны горад, паблізу сутоку трох рэк — Піны, Прыпяці і Ясельды, нібы нейкі востраў заходняга свету. Упершыню сюды трапіць мне давялося пятнаццаць гадоў таму, але тады ацаніць належна вартасці Пінску не ўдалося. Таму ехаў у горад над Пінаю восенню 2012-га мэтна і з жаданнем паглядзець усё яшчэ раз і шырэй. Чаканні спраўдзіліся. А сустрэча з мясцовым жыхаром, пісьменнікам, чалавекам разнастайных цікавасцяў, Паўлам Ляхновічам падарыла цудоўнага суразмоўцу, які адкрыў нямала сакрэтаў гэтай мясцовасці.

Некалі ў Пінску любілі будаваць усё сама вялікае: найбольш вялікі езуіцкі калегіум, найбольшы касцёл, найбольшая сінагога. У савецкі час гэтая звычка захавалася — у горадзе паставілі сама вялікі помнік правадыру сусветнага пралетарыяту. Стаіць гэты скульптурны монстр і зараз, мясцовыя дасціпнікі выявілі пад крысом у Леніна нейкі дзіўны адростак — магчыма майстар ляпіць быў якраз у творчым запоі і забыўся прыбраць лішнюю частку матэрыялу. На гэтай жа цэнтральнай плошчы сапраўдны шэдэўр архітэктурнай думкі — калегіум езуітаў сямнаццатага стагоддзя. Пра яго будзе асобная гаворка. Побач стаяў яшчэ велічэзны касцёл Святога Станіслава, але яго знішчылі вандалы-саветы ў 1953-ім годзе. Непадалёк калегіума па адной восевай лініі яшчэ адзін выдатны ўзор мураванага дойлідства — францішканскі кляштар. Тут зараз міжепархіяльная духоўная семінарыя імя Тамаша Аквінскага. У гэтых мурах працавала нямала выдатных тэолагаў і герархаў. Сярод іх — Казімір Свёнтак, адзіны каталіцкі кардынал у гісторыі Беларусі. У яго памяць названая маленькая перпендыкулярная асноўнай лініі вулічка, якая вядзе да ракі. Ідучы далей, убачым былы палац Матэуша Бутрымовіча, кажуць, што на яго кутні камень залатую манету закладаў кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Зараз у будынку месціцца палац шлюбаў. Далей можна пералічыць яшчэ з дзесятак выдатных архітэктурных помнікаў багатай забудовы гораду.

Упершыню Пінск згадваецца ў пісьмовых крыніцах пад 1097 годам, у славутай „Аповесці мінулых часоў". Ад часу Тураўскага княства да Рэспублікі Беларусь шмат вады ўцякло праз раку, што дала імя гораду. Але заўсёды Пінск быў адметным цэнтрам, дзе жыло багата яркіх асобаў, адбываліся гучныя падзеі.

Цікава, што Пінск ёсць адным з нямногіх гарадоў кантыненту, забудова якога знаходзіцца толькі на адным беразе ракі. Па другім баку Піны доўгія стагоддзі было сапраўднае балота, зараз, пасля меліярацыйных работаў забалочанасць зменшылася, панізіўся і ровень вады ў рацэ, але будавацца па той бок воднай артэрыі няма сэнсу. За Пінай сапраўдная паляўнічая-рыбалавецкая зона, праўда, зараз яе адсунулі ад гораду ажно на шэсць кіламетраў.

Вядома што Пінск значны час сваёй гісторыі быў па-сутнасці палескай габрэйскай сталіцай. Мясцовыя габрэйскія навучальныя ўстановы выпусцілі ў свет нямала адукаваных прадстаўнікоў „абранага народу". Найбольш ведамы сярод іх — першы прэзідэнт Ізраілю Хаім Вейцман. На будынку колішняй гімназіі, дзе ён вучыўся, ўсталявана адпаведная памятная шыльда. У цэнтры шмат розных крамак, у тым ліку прыватных. Запомнілася адна з просценькай, але такой мілагучнай беларускай назвай — „Нашы боты". Куды даводзілася заходзіць — уразіла досыць высокая, як для айчынных рэалій, культура абслугоўвання.

Пінск вылучаўся ў даўняй гісторыі, вылучаецца зараз і, будзем спадзявацца, захавае свой характар.



# Манастыр у Супраслі

Не думаю што магу адкрыць штосьці новае пра знакаміты Супрасльскі манастыр жыхарам Падляшша, таму напэўна гэты нарыс адрасаваны найперш насельнікам па іншы бок мяжы, якім ня варта забывацца, што цэлы шэраг беларускіх гістарычных скарбаў знаходзіцца зараз па-за тэрыторыяй сучаснай Рэспублікі Беларусь. У іх пераліку Супрасльская царква абарончага тыпу на адным з першых месцаў. Супрасль ляжыць на шляху з Беластоку ў Крынкі, але рэдкі беларускі аўтобус з шыльдачкай на шыбе „турыстычны" адхіліцца ад звыклага шляху да „ашанаў" і „тэскаў" і заедзе ў гэтае цікавае мястэчка. Людзі выберуцца хутчэй у Парыж ці Мілан, але не хочуць ведаць пра тое, што знаходзіцца побач. Прызнаюся, што я таксама не быў у Супраслі гадоў пятнаццаць, таму выпраўляўся туды практычна „з чыстага ліста". Найперш выявілася, што даехаць туды досыць проста — крыху больш за паўгадзіны язды з самага цэнтру Беластоку звычайным гарадскім аўтобусам. Дзень маёй невялікай вандроўкі прыпаў якраз на свята Пакрову Найсвяцейшай Багародзіцы. Але чаканні, што ў супрасльскі асяродак з'едзецца шмат вернікаў, не спраўдзіліся, увогуле ў мястэчку было няшмат людзей, што спрыяла ціхаму шпацыру і роздуму над лёсам гэтай зямлі.

У Супраслі акрамя знакамітага храма ў цэнтры можна пабачыць два мураваныя касцёлы, ратушу, драўляны будынак „Народнага дому", які быў збудаваны ў 1934-ым годзе як культурны асяродак, а таксама „Тэатр Вершалін", шэраг іншых цікавых дамкоў. У некаторых месцах можна яшчэ прайсціся старой бруканкай.

Уласна Дабравешчанская царква-цвердзь была змуравана ў 1503-10 гадах на беразе невялікай рэчкі на тэрыторыі Блудаўскай пушчы паводле фундацыі маршалка ВКЛ Аляксандра Хадкевіча. Паводле падання на месцы, якое некалі называлася Сухі Груд, затрымаўся крыж, які манахі з недалёкага Гарадку, слаўнага зараз сваім беларускім рок-фэстам, пусцілі па рацэ. Такой праявай было вызначана месца пабудовы. Зараз пра гэтую летапісную падзею сведчаць адпаведны камень з шыльдай і крыж, якія ўсталяваныя на узгорыстым беразе Супраслі. Неўзабаве пры царкве быў заснаваны праваслаўны манастыр. Асвячаў яго смаленскі архіепіскап Іосіф Солтан. У 17-ым стагоддзі манастыр стаў базыльянскім. А знакаміты ён не толькі сваёй архітэктурнай каштоўнасцю

і абарончымі функцыямі, але і ўнікальнымі фрэскамі перыяду старажытнага праваслаўя. Паводле адной з версій выканаўцам размалёвак быў серб Нектарый, паводле іншай — гарадзенскія майстры. Частка з кірылічных фрэсак размешчана ў мясцовым „Музеі іконаў". Музей абразоў тут сапраўды ўнікальны. Адно мяне здзівіла, што ўсе іконы на экспазіцыі падпісаныя як расійскія — няўжо сярод іх няма мясцовых, беларускіх? Запытаўся пра гэта ў музейных супрацоўнікаў, але ўцямнага адказу так і не атрымаў.

У 1944-ым годзе пры адступленні фашысты ўзарвалі сабор, засталіся толькі фрагменты сцен і слупоў. Храм доўга аднаўляўся. Увесь манастыр у наш час зазнаў істотную адбудову, шмат грошай на рэстаўрацыю і развіццё турыстычнай інфраструктуры Супрасль атрымала з еўразвязаўскіх праграмаў. Будаўнічыя працы па парадкаванні манастырскага двара працягваюцца і зараз.

Калі злучыць супрасльскі храм умоўнымі лініямі разам з яго сёстрамі на Гарадзеншчыне — цэрквамі ў Мураванцы і Сынковічах, то на мапе атрымаецца досыць цікавы трохвугольнік з двума амаль роўналеглымі бакамі. Манастыр у Супраслі — найбольш заходняя беларуская праваслаўная святыня, якая злучае нашу старажытную гісторыю.



# Пінскі калегіум

Гаворачы пра слаўную сталіцу беларускага Палесся Пінск (хоць магчыма на гэты неафіцыйны тытул прэтэндуюць і іншыя гарады) асобную гутарку трэба весці пра мясцовы калегіум піяраў — архітэктурны помнік з багатай гісторыяй, які ёсць асноўнай візітоўкай гораду праз некалькі стагоддзяў. Па якой дарозе не ідзеш праз цэнтр гораду — па вуліцы Леніна (раней яна называлася Вялікая Спаская), ці па іншай, ногі нібы самы па сабе вядуць да галоўнага пляцу пры якім і стаіць гэты шэдэўр мураванага дойлідства.

Пінскія езуіцкія калегіум і касцёл былі пабудаваныя як цэласны ансамбль у сярэдзіне сямнаццатага стагоддзя з цэглы. З'яўленне тут езуітаў зусім невыпадковае, гэты ордэн заўсёды імкнуўся стварыць свае асяродкі ў вялікіх гарадах і значных мястэчках. Першасная рэзідэнцыя ў Пінску размяшчалася ў доме, які пабудаваў стольнік Мікалай Ельскі. Хуткаму росту езуітаў тут спрыяў пінскі староста Станіслаў Альбрэхт Радзівіл, сапраўдны магнат-багацей. З 1638-га году тут размяшчалася філасофска-тэалагічная школа. Крыху пазней адчынілася музычная бурса, а ў 1694-ым годзе — аптэка. Увесь гэты час стала дзеіў тэатр, ужо ў васямнаццатым стагоддзі была заснавана бібліятэка і шпіталь для бедных. Вельмі пацярпеў калегіум ад казакоў-рабаўнікоў Багдана Хмяльніцкага ў час вайны 1648-1654 гг.

Комплекс не заўсёды належаў рыма-каталікам. У адпаведнасці са зменай дзяржаўнай улады цэлы час мянялася і канфесійная палітыка. Праз трынаццаць гадоў пасля закрыцця калегіуму ў 1773-ым годзе, касцёл стаў кафедральным саборам Пінска-Тураўскай уніяцкай епархіі, а з 1800-га году перайшоў да праваслаўнага Пінскага Богазьяўленскага манастыра. Неўзабаве сюды з Лядаў была перамешчана духоўная вучэльня. Толькі больш чым праз сто гадоў — у 1919-ым касцёл быў вернуты езуітам, а з 1923-га зноў запрацаваў калегіум. Пасля прыходу бальшавікоў у 1939-ым яго, зразумела, зачынілі.

У 1956-ым годзе магутны велічэзны касцёл Святога Станіслава быў злачынна знішчаны савецкай уладай. Разбурыць калегіум, на шчасце, не пасмелі. Г-падобны ў плане трохпавярховы будынак і надалей стаіць даўжэйшай часткай перпендыкулярна рацэ Піна, да яе звернуты паўднёвы фасад. З гэтага боку можна пабачыць на

аднапавярховай прыбудоўцы шыльду „Рэстаран у Аляксандра" — установа адпачынку, што праўда, ужо даўно не працуе. Побач у яшчэ адным дамку размясцілася крамка для паляўнічых і рыбаловаў. А насупраць калегіуму — сіне-белы будынак рачнога вакзалу, такіх у Беларусі мне бачыць не даводзілася. Надзвычай файны від на агромністы калегіум з мясцовага мосту. Тут жа, непадалёк, усталявана стэла, якая адлюстроўвае дату „нараджэння" гораду над Пінай. А з боку цэнтру каля калегіуму невялікі сквер — з аднаго боку пераважаюць лісцёвыя і туі, з іншага — елачкі.

У найноўшы час будынак зазнаў рэстаўрацыю. У калегіуме зараз размешчаны мясцовы краязнаўчы музей Беларускага Палесся з досыць вялікай карціннай галерэяй, а таксама харэаграфічная школа. Паблізу ўваходу пастаўлены помнік-трактар. Цікавы „экземпляр" тэхнічнай думкі маркі ХТЗ, які калгаснікі называлі „Капітанам", безумоўна, мог бы прысутнічаць у горадзе, але відавочна ў іншым месцы.

Пінскі езуіцкі калегіум — адзін з выдатнейшых архітэктурных помнікаў эпохі барока — сведка многіх гістарычных падзей, які сёння радуе вока мясцовых жыхароў і турыстаў. І будзем спадзявацца перажыве яшчэ нямала стагоддзяў.



Многія з сённяшніх беларускіх дзеячаў фармаваліся пад непасрэдным уплывам твораў Уладзіміра Караткевіча. Можа выкажу крамольную для артадаксальнага хрысціянства думку, але чытаючы нашага вялікага пісьменніка, не пакідае адчуванне, што ён асабіста жыў у тую ці іншую эпоху, быў наўпрост удзельнікам і сведкам далёкіх падзей markнага часу — ад ранняга сярэднявечча да дзевятнаццатага стагоддзя. Бо прачытаўшы нават сама грунтоўныя дакументы, вывучыўшы ўсё, што напрацавалі да цябе гісторыкі і этнографы, нельга ведаць падрабязныя дэталі даўно мінулага, для гэтага замала проста фантазіі і летуценняў, замала сама багатага ўяўлення. Гэта трэба проста ведаць — дар дадзены звыш альбо неверагодная генетычная памяць. Караткевіч — гэта наша ўсё, зямля пад белымі крыламі адарыла свой народ сапраўдным геніем. Такім, які літаратурна ўзараў глебу няпомнасці, засеяў яе жыватворным словам, ды так, што ўзышлі буйныя каласы нашага адраджэння. Канешне, былі і іншыя сейбіты і руплійцы беларускага, але Уладзімір Караткевіч першы ў гэтым шэрагу. Паставіць пад сумнеў яго асобу як з'яву ня толькі нашай літаратуры, але ўсяго беларускага космасу, не пасмее, не наважыцца ніхто.

У кожнага з нас свае любімыя творы Караткевіча, іх можа быць некалькі, а нехта ня здолее вылучыць з шэрагу аповесцяў і раманаў лепшыя. Караткевіч адзін з нямногіх беларускіх пісьменнікаў, які папулярны і на расейскай мове — яшчэ ў васьмідзесятыя гады шматлікія чытачы адкрывалі для сябе „Дзікае паляванне караля Стаха" менавіта ў перакладзе. Да слова, ня так даўно ў Расеі была выдадзена і „Хрыстос прызямліўся ў Гародні", але ў вельмі няўдалым перакладчыцкім варыянце. Беларусу ж, канешне, Караткевіч куды больш можа адкрыць у арыгінале — на роднай мове. Уладзімір Сямёнавіч вяртаў цэламу пакаленню ня толькі старадаўнюю гісторыю і генетычную памяць, але і ўсю пяшчоту, мілагучнасць, звонкасць, глыбіню беларускага слова. Здаецца, што ён быў знаўцам усяго — прасачыце хоць бы беларускія назвы разнастайных кветак у яго творах. Уражвае і рознабаковасць яго пісьменніцкага дару — празаік, паэт, эсэіст, драматург, сцэнарыст... Як паэт, падаецца, Уладзімір Караткевіч не ацэнены належна да сёння.

Ніхто не пісаў так, як ён і пра каханне. „Ладдзя роспачы" у гэтым сэнсе галоўны шэдэўр. Хоць твор ня

толькі пра каханне і можа быць ня столькі пра яго — колькі пра ўвогуле сэнс нашага жыцця на гэтай грэшнай зямлі. Караткевіч ня быў святым у жыцці, але ён быў носьбітам святой ідэі — ідэі нацыянальнага Адраджэння, ідэі духовасці і шанавання чалавечай асобы. Сучаснікі прыгадваюць у сваіх успамінах як Караткевіч любіў жыццё ў розных праявах, як ён умеў яму радавацца, як ён бачыў тое, што іншыя зусім не заўважалі. Гэта адчуваецца і праз усю ягоную глыбінную творчасць.

Караткевіч вельмі любіў розныя асобныя гарады і мясцовасці нашай краіны. Гэта ён „прызямліў" у горадзе над Нёманам Хрыста, раскрыў багацці Мсціслава, Полацку, іншых месцаў. Беларусь вельмі шмат запазычыла класіку сваёй літаратуры. Ёсць помнік на яго радзіме, ёсць некалькі вуліцаў яго імя. Яшчэ ў савецкі час было створана некалькі кінастужак паводле яго твораў, перыядычна выходзяць кнігі ў розных варыянтах, але гэтага абсалютна мала, нікчэмна мала, мізэрна мала...



# Багатыя Гервяты

Мястэчка Гервяты размешчана на самай поўначы Гарадзенскай вобласці, сёння гэта частка Астравецкага раёну, сумежжа з Літоўскай рэспублікай. Гэта адна з нешматлікіх вёсак, дзе кампактна анклавам пражываюць нашчадкі колішніх жмудзінаў, падобна як у Пуньску на Сувальшчыне. Таму па-іншаму, вёску называюць „Гервячай". Галоўная славутасць гэтай мясціны — высачэзны нэагатычны касцёл-прыгажун. Яго называюць „беларускі Нотр-Дам", а прылеглую тэрыторыю — то „маленькай Швайцарыяй", то „Эдэмскімі садамі". Можа невыпадкова непадалёк ёсць і вёска з рэальнай назвай Палесціна.

Вышыня галоўнага шпіля храма сягае да 61 метра, гэта адна з найбольш высокіх культавых пабудоў не толькі нашай краіны, але і ўсяго еўрарэгіёну. Але тое, што можна ўбачыць вакол касцёлу, таксама па-сапраўднаму ўразіць кожнага падарожніка. Такую прыгажосць, як мясцовы парк з скульптурамі апосталаў, маюць толькі найбольш багатыя гарады кантыненту — Рым, Вена...

Наконт паходжання назвы мясцовасці няма адзінай версіі, гіпотэзы ж змешваюць балцкія значэнні сугучных словаў з славянскімі і нават фіна-вугорскімі. Першая пісьмовая згадка пра Гервяты датуецца 1434 годам. У 1526-ым годзе віленскі біскуп Ян заснаваў тут першы драўляны касцёл. Мураваны Свята-Троіцкі касцёл, які ёсць зараз, забудоўваўся на стыку дзевятнаццатага і дваццатага стагоддзяў коштам князя Альшэўскага. Матэрыял на пабудову бралі з мясцовай цагельні, якая прадукавала надзвычай трывалую цэглу. Вапну здабывалі з бліжняй ракі, а ў рошчыну паводле апаведаў мясцовых жыхароў дадавалі яйкі. І толькі дахоўку нібыта прывозілі з Нямеччыны.

Яшчэ адзін адметны помнік Гервятаў — гэта вадзяны млын дзевятнаццатага стагоддзя, які стаіць на беразе ракі Лошы. Ён быў пабудаваны па характэрнай для Нямеччыны і досыць рэдкай для Беларусі тэхналогіі фахверку. Пры такой пабудове каркас будынку пакідаецца бачным. Ён замуроўваецца, а фасад пры тым падзяляецца на панэлі featureнай формы. Падобны млын некалі дзеіў таксама ў мястэчку Жодзішкі, а выкарыстоўваліся яны для выпрацоўкі электраэнергіі. Пэўны час у гервяцкім млыне месцілася медыцынская ўстанова, зараз там зроблена кавярня.

Гервяты — выдатны прыклад местачковага экуменізму і нацыянальнай згоды. На касцёле можна пабачыць абвесткі па-беларуску, а імша праходзіць пераважна па-літоўску, часам па-польску. У побытавай мове, як і ўсюды на вёсках, пераважае трасянка. З асобаў мінулага Гервятаў варта згадаць беларускага каталіцкага святара Станіслава Хадыку, які быў вязнем савецкіх канцлагераў, а пазней жыў тут ажно да сваёй смерці.

А яшчэ Гервяты ведамыя сваім мясаперапрацоўчым комплексам, тамтэйшыя кансервы з ялавічыны да нядаўняга часу былі сама смачныя ва ўсёй краіне, толькі зараз іх можна знайсці ўсё радзей, магчыма адбылася нейкая пераарыентацыя паставак.

У пачатку аднаўлення беларускага суверэнітэту — у 1990-ыя гады — Гервяты зазналі сапраўднае абуджэнне і адраджэнне, тут адбываліся культурніцкія сустрэчы, праводзіліся канферэнцыі. Зараз перспектыва мястэчка, дзе пражывае каля паўтысячы жыхароў, досыць туманная. Усяго ў васьмі кіламетрах адсюль — паблізу Варнянаў — пачынае будавацца непрадказальная па сваіх наступнасцях атамная станцыя. Багатая на архітэктурныя помнікі і прыродныя мясціны зямля разам з людзьмі становяцца закладнікамі палітычна-эканамічных пражэктаў.



Сённяшнія рэкламныя слупы і газеты ў Беларусі стракацяць шматлікімі запрашэннямі на курсы ўсходніх — арабскіх і індыйскіх, лацінаамерыканскіх і іншых экзатычных танцаў. Мода на чужое паводле прынцыпу „абы не сваё" даўно ўкаранілася на нашай постсавецкай прасторы. Грамадская супольнасць атрымала доступ да заходняга і ўсходняга, але не хоча адраджаць сваё і трымацца каранёў. Таму і свае нацыянальныя танцы намнога менш папулярныя чужынскіх. Гутарка тут натуральна не пра тое, каб зачыняцца на ўвесь свет, аднак пра тое, што нельга грэбаваць сваім. А ў нас атрымліваецца, што алкагольны пладова-ягадны напой „Крыжачок" куды больш вядомы і прыймальны, чым аднайменны танец.

З народнымі танцамі асабіста мне давялося непасрэдна сутыкнуцца на першым курсе ўніверсітэту. Якраз быў абвешчаны конкурс мастацкай самадзейнасці паміж факультэтамі. Лагічна, што гонар гістарычнага факультэту выпаў бараніць нам, першакурснікам. З ліку якіх дэканам быў выбраны наш квартэт хлопцаў, якія яшчэ не служылі ў войску. Астатнія былі старэйшымі і пазбеглі „добраахвотнага удзелу". Пад кіраўніцтвам выкладчыцы народных танцаў разам з дзяўчатамі за пару тыдняў мы мусілі развучыць і выканаць на сцэне не абы што — а „Лявоніху". Хто не ведае — кампазіцыйна гэты танец грунтуецца на нескладаных рухах, якія выконваюцца ў хуткім тэмпе. Сама „Лявоніха" выконваецца на мелодыю аднайменнай народнай песні, якая пачынаецца са слоў „А Лявоніху Лявон палюбіў...". У розны час пастаноўку танца ўзбагачалі розныя беларускія харэографы.

Падрыхтоўка да выступу праходзіла спакойна, калі не лічыць беспадстаўнай рэўнасці з боку жаніха маёй партнёркі па танцы. Нашы нешматлікія рэпетыцыі далі свой плён — станчылі мы на конкурсе, як на аматараў, досыць прыстойна. Прызоў, праўда, не далі, але хіба іх і не было зусім тады. Затое вуснай пахвальбы „удастоіліся". Больш ніколі публічна танчыць не даводзілася — дэбют нашай студэнцкай чацвёркі так і застаўся адзіным нашым выступам. Дзіўна, але нават зараз, больш чым праз чвэрць стагоддзя магу паўтарыць тыя простыя рухі і прытупы гэтай „Лявоніхі". Напэўна яна сапраўды гарманічная для рытму беларускага сэрца і стану душы. А дэкан, які ангажаваў нас у тую

прыгоду, міжволі, а можа і насуперак ёй падштурхнуў нас да беларускасці.

Сапраўднае і прафесійнае выкананне народных танцаў на сцэне давялося пабачыць на канцэрце знакамітых „Харошкаў" яшчэ ў час Савецкага саюзу. Іх праграма была надзвычай феерычнай. Гэты калектыў быў адной з візітовак тагачаснай Беларусі і адзін з нямногіх даваў сапраўднае ўяўленне пра беларускую музычную і танцавальную культуру. Здаецца, ён існуе і зараз. У дзевяностыя гады ўжо мінулага стагоддзя цікавыя народныя танцавальныя калектывы шырока паўставалі і ў горадзе над Нёманам — варта прыгадаць хоць бы „Гарадніцу" ці „Белыя росы".

Некалі яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі віцебскі публіцыст Ігнат Манькоўскі напісаў: „Беларускія народныя танцы зусім не падобныя на польскія і мала нагадваюць рускія скокі. У іх рухі вельмі моцныя і хуткія...". Будзь мая воля, увёў бы навучанне народным танцам у цяперашніх школах. „Лявоніха" і „Полька", „Крыжачок" і „Бульба" — гэта тыя народныя скарбы, якія расцярушваюцца ў свеце глабалізацыі і губляння сваіх сапраўдных каранёў. Яны, гэтыя танцы, сапраўды арыгінальныя і ўнікальныя, зберагаюць наш генетычны код.


http://www.ab-ba.com.pl

# Помнікі за кратамі

Некаторыя архітэктурныя каштоўнасці Беларусі можна вобразна назваць „помнікі за кратамі". За гады панавання розных таталітарных рэжымаў на шматпакутнай нашай зямлі такіх будынкаў, створаных пачаткова дойлідамі для людской радасці ці абароны, было пераўтворана ў жахлівыя астрогі, турмы і катавальні нямала. Пералік такіх архітэктурных комплексаў будзе досыць вялікім. Варта згадаць хоць бы кляштар у Бярозе, дзе некалі існаваў асяродак ордэну картэзіянцаў ці картузаў, як казалі на нашых землях. Яшчэ ў 1920-ыя гады тут быў створаны канцэнтрацыйны лагер для палітычных зняволеных. Гэта было страшнае месца, пакуты ў якім перацярпелі многія беларускія дзеячы. Такія як Янка Шутовіч, Юльян Саковіч, Язэп Найдзюк. Тут быў зняволены і Раман Шухевіч, герой украінскага народу.

У былым базыльянскім кляштары ў Беразьвеччы (цяпер гэтая мясціна фактычна частка раённага цэнтру Глыбокае), перад другой сусветнай вайной была турма НКВД і адбываліся расстрэлы, а потым быў фашыстоўскі канцлагер. Пасля так званага „вызвалення" свабоды не наступіла — там зноў зрабілі турму, афіцыйна вядомую як глыбоцкая калонія ą13 асаблівага рэжыму. Умовы ўтрымання там лічыцца самымі жорсткімі з усіх беларускіх турмаў. Тут сядзеў і лідар „Маладога фронту" Зміцер Дашкевіч.

У наш час пенітацыярная сістэма сапраўды прадаўжае сумныя „традыцыі" ранейшых карных рэжымаў. Яскравы прыклад таму гарадзенская турма ў самым цэнтры гораду, якая надалей размешчана ў былым езуіцкім кляштары. Некалі тут сядзелі беларускія літаратары і дзеячы Піліп Пестрак, Браніслаў Тарашкевіч, а ўжо ў наш час — бард Андрэй Мельнікаў, журналісты Павал Шарамет і Андрэй Пачобут, той жа Зміцер Дашкевіч, дагэтуль там прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч... У гэтых старажытных мурах мне давялося пабываць толькі раз і, дзякуй Богу, не ў зняволенні, а на экскурсіі. Уражанне засталося досыць змрочнае. Таўшчэзныя высокія сцены з калючым дротам наверсе і сабакамі ў двары надзейна хаваюць ад гараджанаў чалавечыя прыніжэнне і трагедыі. Ад турэмнага комплексу ўдалося ў пачатку дзевяностых гадоў „адшчыкнуць" толькі будынак першай у нашай краіне аптэкі — зараз там не толькі продаж медыкаментаў, але і адпаведны музей.

У сталіцы Мінску сумна ведама так званая „Валадарка” — турма, якая размешчана на вуліцы імя расійскага рэвалюцыянера Валадарскага. А між тым гэта колішні Пішчалаўскі замак — адзіны ў сваім родзе помнік рэтраспектыўна-замкавага стылю з элементамі іншых архітэктурных кірункаў. Тут былі зняволены інсургенты лістапада 1930-га, паўстанцы Каліноўскага і многія сённяшнія змагары за справядлівасць і праўду. Апошнія гадоў дзесяць вядуцца размовы пра перасяленне гэтай змрочнай турмы ў іншы будынак, але пакуль справа не зрушылася.

Пра яшчэ адзін сапраўдны шэдэўр архітэктурнай думкі — схаваны на поўначы Гарадзеншчыны — блізка ад мяжы з Літвой — дом-крэпасць у Гайцюнішках мы расказвалі ў асобным нарысе. Яшчэ з савецкага часу тут размешчана лякарня для людзей з псіхічнымі захворваннямі. У народзе гэтыя спецыялізаваныя ўстановы называюць „псіхушкамі”. У брэжнеўскі час такія лякарні выкарыстоўваліся ў тым ліку і для ўтаймавання іншадумцаў, дзе яны зазнавалі прымусовае „лячэнне”.

Помнікі архітэктуры, якія недаступныя сёння для культурніцкіх патрэбаў, у якіх сёння прымусова ўтрымліваюцца людзі, самы чакаюць вызвалення ад кратаў...


Фота Юліі Дарашкевіч

# „Заходнік" на ўсходзе

Беларусі пашчасціла ў пэўным сэнсе крыху больш, чым Украіне — у плане таго, што ў нас няма такой розніцы паміж заходняй і ўсходняй часткамі краіны. На тэрыторыі нашай паўднёвай суседкі зараз фактычна два народы — украінскі і савецкі і падзелены яны найперш геаграфічна. Яшчэ гадоў трыццаць таму гістарычны падзел паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю быў таксама значны, але зараз розніца амаль нівелявалася — усходні рэгіён крыху падцягнуўся, заходні ўпаў, а „саўкі" размеркаваны амаль раўнамерна. Але зараз хочацца пагаварыць пра горад на самым усходзе Беларусі, які заваёўнікам да канца не ўдавалася скарыць праз стагоддзі. Гутарка тут пра Мсціслаў — мясцовасць на самым краёчку сучаснай дзяржавы, адзін з сама ўсходніх раённых цэнтраў Беларусі.

У 1987-ым годзе ў Мсціслаў, нас, студэнтаў гістарычнага факультэту, прывёз на раскопкі наш універсітэцкі выкладчык Міхась Ткачоў. Памятаю як ехалі мы цягніком праз усю Беларусь ажно да крайняй станцыі — Ходасы. А адтуль ужо блізка Мсціслаў. Горад, які заўсёды быў далёка ад галоўных культурных цэнтраў Беларусі — Вільні, Гародні, Полацку, Нясьвіжу, уразіў якраз нейкай сваёй „заходнесцю". Невыпадкова класік нашай літаратуры Уладзімір Караткевіч, які папулярызаваў многія мясцовасці Беларусі, прысвяціў Мсціславу разгорнутае эсэ, па-сутнасці цэлую асобную літаратурна-гістарычную кніжку.

Горад на высокім беразе ракі Віхры багаты на археалагічныя помнікі — у старажытнасці людзі сяліліся на Замкавай гары, Траецкай, а таксама на Дзявочай гары, якая па-іншаму завецца „Гарадок". Невыпадкова тут так часта вяліся раскопкі, пачынаючы яшчэ з 1920-ых гадоў. Аднайменнае княства паўстала ў дванаццатым стагоддзі, калі паселішча атрымаў у валоданне сын смаленскага князя Рамана Расціславіча — Мсціслаў. Ён загінуў у страшнай бітве з манголамі на рацэ Калка. Потым быў удзел мсціслаўцаў у Грунвальдскай бітве і шмат іншых ваярскіх старонак. У разгар войнаў ВКЛ з Масковіяй Мсціслаў прыдбаў рэпутацыю няскоранага гораду. Яго жыхары змагаліся з рэдкай зацятасцю, пакуль драпежны вораг не выразаў фізічна амаль усіх і вывез апошніх 46 палонных ваяроў у Яраслаўль. Агулам у час гэтай змрочнай падзеі, якая ўвайшла ў гісторыю як „трубяцкая разня" маскоўскімі акупантамі было забіта каля 15 тысяч чалавек, жывымі засталося толькі каля 700 месцічаў. Менавіта адтуль пайш-

ло выслоўе „мсціслаўскія недасекі". Магчыма з такіх паходзіў і наш настаўнік Ткачоў, які нарадзіўся менавіта ў Мсціславе.

Мсціслаў дагэтуль недаацэнены ў нашай гісторыі, а некалі ён быў адным з асяродкаў старадаўняй пісьменнасці. Менавіта адсюль паходзіў памочнік першадрукара ў Масковіі Івана Фёдарава — Пётр Мсціславец — абодва былі з нашых зямель і яшчэ няведама хто каго вучыў кніжнай справе. Славіўся горад і сваімі шматлікімі рамеснікамі, многія з якіх былі сапраўднымі майстрамі сваёй справы. Да нас дайшло імя Сцяпана Палубеса — генія вырабу кафлі, майстра маёлікавых рэльефаў, які прынёс каляровы стыль у Маскву.

Нашы раскопкі чвэрць стагоддзя таму ішлі каля мясцовага кармеліцкага касцёлу Успення. У ім захаваліся ўнікальныя фрэскі сямнаццатага стагоддзя. Мсціслаў меў некалі цэлы архітэктурны ансамбль — так на плане 1773 года ў цэнтры было 6 мураваных цэркваў, 4 каталіцкія кляштары і драўляная ўніяцкая царква.

Пра Мсціслаў зараз пішуць мала і рэдка. Але кожны, хто хоць раз пабываў у гэтым горадзе, ведае пра „заходні" характар гэтага ўсходняга ўскрайку Беларусі.

Фота Яўгеніі Алефірэнкі



# Будслаўскі фэст

Зімой асабліва хочацца цяпла і сонца. Неяк з першымі маразамі прыгадаўся мне летні традыцыйны фэст у Будславе. Беларусь — шматканфесійная краіна, нават „абрэзаная" з усіх бакоў і страціўшая процьму сваіх каштоўнасцяў сваёй этнічнай тэрыторыі, якія апынуліся за мяжой, мае і зараз яшчэ нямала святыняў. Найбольш змрочным было дваццатае стагоддзе і асоба „бацькі народаў" — пачварнага Сталіна. Апроч забірання ў беларусаў зямель, камуністычны рэжым знішчыў і мноства рэлігійных асяродкаў і храмаў. Была такая спроба і ў Будславе — цікавым мястэчку на Мядзельшчыне, што ў сучаснай Мінскай вобласці. Гістарычна гэта Ашмянскі павет Віленшчыны. У час другой сусветнай вайны лінія фронту тройчы праходзіла праз Будслаў, але мясцовы храм і цудатворная ікона ацалелі. У 1941-ым годзе, 1 ліпеня, пасля наступлення немцаў на ваенным фронце саветы перад сваім адыходам хацелі ўзарваць бернардынскі касцёл, але вернікі сталі бараніць святыню і ўрэшце ўратавалі. У 1992-ым годзе 2 ліпеня была закладзена традыцыя штогадовага паломніцкага фэсту.

Можна сказаць, што Будслаў — гэта сапраўдная сталіца беларускамоўнага каталіцтва. Можна сказаць, што Будслаў — гэта беларуская Чанстахова. Раз у год сюды імкнуцца пілігрымы з усёй краіны і нават з-за мяжы. Уражанне ад колькасці людзей надзвычайнае. Цягам амаль двух дзён адбываюцца набажэнствы ў розных абрадах, выконваюцца разнастайныя рэлігійныя спевы, прадаюцца адметныя сувеніры. Кубак з адпаведнай выявай адзін з сама любімых сярод майго хатняга посуду. Але найбольш яскравыя ўспаміны застаюцца ад начной імшы, калі тысячы людзей са znічкамі стаяць наўкола касцёлу і спяваюць — спяваюць па-беларуску і што важна, амаль усе прысутныя. Бадай, нідзе ў іншым месцы Беларусі немагчыма пачуць такога і зафіксаваць падобны колькасны ўздзел.

Будслаўскі бернардынскі касцёл — гэта велічнае архітэктурнае збудаванне, якое не мела аналагаў на тэрыторый былой Рэчы Паспалітай. Гісторыя ўсёй мясціны пачынаецца з пачатку 16-га стагоддзя, калі княжыў Казімір Ягелончык. Менавіта ён даў тут землі віленскім манахам-бернардынцам. Бернардынцы любілі размяшчаць свае асяродкі ў далінах і невыпадкова выбралі мясцовасць непадалёк рэчкі Сэрвач. Тады ж быў пастаўлены першы будан, уласна ад якога і пайшла назва паселішча. Паводле падання

спярша мястэчка мела назву Слаўная Буда. У 1588 годзе (якраз год выдання трэцяга Статуту ВКЛ) тут здарыўся цуд. Пасля ранішняй малітвы людзям у небе з'явілася дзівоснае святло з воблака і Дзева Марыя з дзіцяткам на руках у атачэнні анёлаў. Прысутныя пачулі голас, які абяцаў заступніцтва Маці Божай. Пасля гэтага пачаў будавацца мураваны храм, дзе змешчана цудатворная ікона, якую прывёз сюды з Рыму ваявода Ян Пац. Многа пазней пры кляштары была адчынена музычная школа. У 1767-ым у мястэчку заклалі першы камень новай мураванай базылікі. Праз стагоддзі тут захоўваўся цудатворны абраз, які ў наш час быў каранаваны.

А ЯШЧЭ Будслаў даў Беларусі шэраг слаўных гістарычных імён. Тут нарадзіліся легендарная акторка Паўліна Мядзёлка, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, дзеяч эміграцыі, старшыня Рады БНР. З нашых сучаснікаў варта згадаць паэта Славаміра Адамовіча, які ведамы сваім талентам і нонканфармізмам. Мясцовыя людзі праўдападобна дагэтуль захоўваюць тыя рысы, якія мы звыклі называць заходнебеларускім менталітэтам. Так што, нягледзячы на канфесійную прыналежнасць, раю ўсім патрыётам Бацькаўшчыны наведаць пры магчымасці Будслаўскі фэст.


фота - Міхась Кулеш

Калі ў 2007-ым годзе выйшаў у свет мой „Беларускі каляндар-даведнік на кожны дзень", я прасіў усіх дасылаць свае папраўкі, заўвагі і дапаўненні. Што датычыла персаналій, то ажно некалькі чалавек звярнула мне ўвагу на тое, што ў даведніку прапушчана асоба Уладзіміра Мулявіна, заснавальніка і кіраўніка легендарнага ансамблю „Песняры". Мушу прызнацца, што брак гэтага прозвішча ў календары быў невыпадковым. Апошнія гады свайго жыцця знакаміты музыка актыўна выкарыстоўваўся дзяржаўнай прапагандай у сваіх інтарэсах, што непазбежна кідала на яго цень. Адбор людзей — справа заўсёды суб'ектыўная і зараз, праз час, мушу прызнаць празмерным свой максімалізм, аддаўшы гэтым нарысам належную даніну таленавітаму песняру і яго калектыву.

Сённяшняя беларуская музычная культура надзвычай багатая на здольных творцаў. Сучасныя барды і рок-каманды, якіх, на жаль, не пускаюць да шырокай публікі, пералапацілі амаль усю беларускую паэтычную класіку, стварылі процьму адметных песень і кампазіцый. Але ўсё пачыналася з легендарных „Песняроў". Менавіта яны ўзнялі айчынных паэтаў — Багдановіча, Коласа, Купалу — на небывалую раней высь. Магчыма ня ўсе ведаюць, што пачаткова ансамбль называўся „Лявоны", „Песнярамі" ён стаў звацца з 1970-га году. У сямідзесятыя гады ў грамадзянаў пачалі з'яўляцца першыя магнітафоны, так званыя „бабіннікі". Быў такі груваскі апарат і ў нашай сям'і, пераключаць тумблеры таго магнітафона „Саната" было надзвычай цяжка. Мой старэйшы брат запісваў з тэлевізара песні і мы іх слухалі. З таго часу найбольш адклаліся ў памяці менавіта „Песняры": „Вераніка", „Шэпчуцца явар з калінаю", „Александрына" трывала ўваходзілі ў маю дзіцячую свядомасць яшчэ да вывучэння класікаў беларускай літаратуры у школьнай праграме. Асабліва мы захапляліся тады голасам Леаніда Барткевіча. Многа пазней, пасля вяртання з ЗША, ён выступаў у гродзенскім палацы „Юнацтва" у канцэрце разам з Данчыкам і Сержуком Сокалавым-Воюшам — гэта быў знакавы канцэрт у горадзе над Нёманам.

У 1976-ым годзе „Песняры" зрабілі турнэ ў Амерыку, неверагодная з'ява па тых часах. Пра гэта тады пісалі савецкія газеты, яны называлі вакал беларускага ансамблю адным з найлепшых у свеце і гэта было ледзь не адзінай праўдай у гэтых друкаваных выданнях Добра

адклаліся ў памяці выразкі з „Камсамольскай праўды" з невыразнымі фотаздымкамі — такая тады была нікчэмная паліграфія. Але „Песняры" разам з Белавежскай пушчай былі адметнай візітоўкай нашай Беларусі, з'явай сапраўднага гонару.

Уладзімір Мулявін быў выразным лідарам ансамблю, але ня варта забывацца і на іншых — Анатоль Кашапараў, Леанід Барткевіч, Уладзіслаў Місевіч, Валерый Дайнека, Аляксандар Дзямешка — усё гэта былі „зоркі" першай велічыні. Пазней „Песняры" разваліліся, утварылася некалькі калектываў з аналагічнай ці вельмі падобнай назвай, але аніводны з іх так і не здолеў стварыць нешта на тым, ранейшым роўні.

Уладзімір Мулявін пакінуў гэты свет заўчасна, трапіўшы ў аўтамабільную катастрофу, праз некалькі месяцаў ён памёр. Чалавек, які прыехаў у Беларусь з іншай культурнай прасторы, здолеў арганічна ўспрыняць нашы духовыя здабыткі і развіць іх да шэдэўраў музычна-песеннай культуры. На сталічных Усходніх могілках ён пахаваны побач з Васілём Быкавым. А „Песняры" сталі гісторыяй і легендай айчыннай музыкі, пакінуўшы пасля сябе мноства адметных твораў, сцвердзіўшы беларушчыну на вышэйшым культурным роўні.



# Парк у Больцініках

Калі вы будзеце ехаць праз памежны пераходу Беняконі, што ў Вараноўскім раёне, там заўсёды вялікая чарга грузавых аўтамабіляў, якія стаяць яшчэ перад мястэчкам. Гэта шлях які вядзе ў Салечнікі (цяпер Шальчынінкай). Там, у Салечніках, дарэчы ёсьць прыгожы паўнавартасны помнік Кастусю Каліноўскаму, пастаўлены беларускай грамадой. Але сёння прапаную скіравацца не праз мяжу, а ўздоўж. Калі ў цэнтры Беняконяў павярнуць налева трапім у Больцінікі. Вымаўляюць назву гэтага паселішча зараз па-рознаму — Бальценікі, Больцінікі, Больценікі. Слоўнік населеных пунктаў Рапановіча падае назву з націскам на першы склад і праз „і". Упершыню пра Больцінікі я прачытаў амаль чвэрць стагоддзя ў кніжцы гарадзенскага гісторыка і літаратуразнаўца Барыса Клейна. Здаецца менавіта гэты дасьледнік і наш універсітэцкі выкладнік вярнуў у культуру мясцовасць пра якую мы гаворым зараз. Клейн ездзіў мясцінамі Адама Міцкевіча і Ігната Дамейкі і натрапіў на іх сьляды таксама у Больцініках.

Стары парк у Больцініках вакол палацу, які займае плошчу больш 8 гектараў, уражвае нават зараз. Тут яшчэ растуць даволі рэдкія экзоты, сярод якіх коркавае дрэва, кіпарысы, грэцкі гарэх, лістоўніца Кемпфера. Найбольш звыклых для нас ліпаў і клёнаў. Усяго ж тут расце больш 60 відаў дрэваў. У цэнтры ансамблю сядзібны дом, зараз у ім вядуцца пэўныя рэстаўрацыйныя працы. Уражвае архітэктурная адметнасьць галоўнага будынку з чырвонай цэглы з калонамі. Двухпавярховы дом з аранжэрэяй пабудаваны ў стылі неаготыкі ў пачатку 20 стагоддзя. Дом пабудаваны на месцы старой аднапавярховай сядзібы. Парк закладаў сын графа Путкамера і марылі Верашчакі Станіслаў Путкамер. Наўкола разнастайныя гаспадарчыя пабудовы. Сярод іх вылучаецца белы вялікі будынак, верагодна былая стайня. За домам нізіна, дзе метраў за 50 стаіць альтанка.

Не так далёка ад сядзібы так званы званы Гаёк Марылі, па дарозе мост праз досыць вялікую сажалку з савецкай яшчэ бляхай на парэнчы моста, у якой дзірамі выбіты напіс „В пруду ловля рыбы запрещена". Гэтую сажалку называюць яшчэ „Морам Марылі". Наўкола прыгожыя краявіды ў пойме ракі Балацянкі. Пры дарозе на ўскрайку гайка ляжыць вялікі камень на якім шыльда, дзе напісана „Помнік прыроды Рэспублікі Беларусь". У глыбіні невялікага ляска расчышчанае

месца, дзе ляжыць той самы камень, каля якога сустракаліся Міцкевіч з Верашчакай. На камені высечаны знак крыжа. Раней камень быў абнесены ланцугамі на невысокіх слупках, зараз гэтай агароджы няма. Гаёк з усіх бакоў абступаюць калгасная палеткі.

Апошнія сустрэчы Міцкевіча з сваёй каханай былі якраз тут у Боліцініках, калі Верашчака была ўжо замужам за графам Путкамерам. Рэч у тым, што Марыля Верашчака звярталася да Міцкевіча з просьбай, калі ён вернецца на радзіму ўжо пасьля яе сьмерці, каб выбіў на магільным камені крыж. Міцкевіч памёр раней сваёй каханай, Крыж выбіў нехта іншы. Барыс Клейн піша, што сын Міцківеча Уладзіслаў сустракаўся з Марыяй Верашчакай-Путкамер у Вільні. У Больцінікі ж прыязджаў Ігнат Дамейка.

Сама Марыя Верашчака пахавана ў Беняконях. Тут каля мясцовага касьцёла захаваліся старыя прысады. А непадалёк самога храма — каля агароджы — магіла той самай Марылі Верашчакі-Путкамер. На надмагіллі напіс: Марыя з Верашчакаў, графіня Путкамер. Яна памерла 28 снежня 1863 г. якраз у год вызвольнага паўстаньня. Такія сляды даўняй гісторыі...



# Дом-замак у Гайцюнішках

На поўначы Гарадзеншчыны блізка ад мяжы з Летувой, ад пункту памежнага пропуску ў Беняконях схаваны сапраўдны шэдэўр архітэктурнай думкі. Гэта дом-крэпасць у Гайцюнішках (правільны націск у назве на трэцім складзе). У шматлікіх краязнаўчых вандроўках па вобласці нейкім чынам доўга не даводзілася трапіць у гэтую мясціну. Накіроўваючыся ўрэшце сяброўскай кампаніяй ў Гайцюнішкі мэтна, мы не былі ўпэўненыя, што нам пашчасціць трапіць да аб’екта цікавасці. Рэч у тым, што яшчэ з савецкага часу ў ім размешчана лякарня для людзей з псіхічнымі захворваннямі. Урэшце трапіць на „рэжымны” аб’ект нам удалося, праўда для гэтаму папярэднічала перапісванне пашпартных даных на ўваходзе.

Гайцюнішкі — гэта вёска на рацэ з пяшчотнай назвай Войшалка пры сутоку яе з больш паўнаводнай Жыжмай. Першая пісьмовая згадка пра паселішча датуецца 1512 годам. Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформай 1565 году паселішча ўвайшло ў склад Лідскага павету Віленскага ваяводства. Паводле інвентару таго часу маёнтак Гайцюнішкі належаў Рымшам і складаўся з сядзібы, якая ўключала тры жылыя дамы, стайні, гароды і гаспадарчыя пабудовы.

У пачатку сямнаццатага стагоддзя мясцовасць перайшла ў валоданне флямандскага архітэктара Пятра Нонхарта. Невядома ці каралеўскі фартыфікатар купіў яго, ці атрымаў як падарунак за нейкія заслугі, але дом у Гайцюнішках забудоўваўся ў менавіта Нонхартам. Ён быў праектантам цэлага шэрагу абарончых умацаванняў у ВКЛ таго часу. А дом у Гайцюнішках можна лічыць найстарэйшым жылым памяшканнем на тэрыторыі Беларусі, што захавалася да сённяшняга дня. Забудоўваўся ён у 1611-12 гадах. Крыху пазней быў пабудаваны і пратэстанцкі храм, што пераўтварыўся ў капліцу-пахавальню.

Гайцюнішкі былі асабістай рэзідэнцыяй Нонхарта, а дапамагаў яму будавацца яго зямляк інжынер ван Дадэн. Так званы „замачак” пацярпеў у Паўночную вайну, тады ў сядзібнай фартэцыі вытрымалі аблогу шведы, якіх атакавала войска караля Аўгуста Моцнага. Пазней асабліва прыкметных падзей тут не адбывалася. У час першай сусветнай вайны вёску занялі нямецкія кайзераўскія войскі, тады загінулі архіў і бібліятэка, што месціліся ў доме-фартэцыі. Але ў цэлым дом захаваўся да сёння амаль у нязменным

выглядзе. Даследнікі архітэктуры зазначаюць, што стылёвыя аналагі „замачку" у Гайцюнішках можна знайсці толькі на радзіме яго стваральнікаў у Фляндрыі.

Сядзіба пасля Нонхарта перайшла навагрудскаму ваяводу Юрыю Храптовічу. Ад яго — мастаку Шрэтару, які ўпрыгожыў сцены пакояў роспісам. Пазней сядзібай валодалі зноў Рымшы, а потым Путкамеры і фон дэр Остэн-Сакены. А пасля другой сусветнай вайны сюды прыйшлі „трактарысты" і заснавалі школу механізатараў. Ад знішчэння гістарычны помнік ускосным чынам уратавала абласная лякарня, якая пераехала сюды ў шасцідзесятых гадах.

Ужо ў наш час статус лякарні быў зменены на агульнакраёвы. У галоўным доме з таўшчэзнымі паўтараметровымі сценамі зараз месціцца адміністрацыйны корпус і частка палатаў. Непадалёк стаіць яшчэ адзін корпус, абнесены калючым дротам, а па перыметры скрозь размешчаны аўтаматчыкі. Кажуць, што тут утрымліваюцца псіхічна хворыя, якія ў стане афекту здзейснілі вельмі цяжкія злачынствы.

Застаецца чакаць, што прыйдзе той час калі прыхаваны выдатны помнік архітэктуры будзе служыць культуры і прымаць шматлікіх турыстаў.



# Руплівыя Жупраны

Яшчэ ў канцы васьмідзесятых гадоў ужо мінулага стагоддзя ў Беларусі была выпушчана серыя вялікіх плакатаў з фотавыявамі адметных помнікаў айчыннай архітэктуры. Сярод іх асабліва чамусьці запомніўся постар на якім быў Жупранскі касцёл з чырвонай цэглы. Пазней не раз даводзілася праязджаць праз гэтае мястэчка і кожны спын там прыносіў нейкую маленькую радасць. Жупраны, якія ляжаць на стыку сённяшніх Ашмянскага і Смургонскага раёнаў, сталі тым беларускім мястэчкам, адкуль пачалося ўшанаванне аднаго з заснавальнікаў нашай літаратуры — незабыўнага Мацея Бурачка — пісьменніка Францішка Багушэвіча. Ён знайшоў тут свой апошні спачын і Багушэвічам у мястэчку прасякнутае ўсё. У самым цэнтры вас сустракае помнік сялянскаму адвакату і паэту — гэта адна з найбольш удалых працаў скульптара Заіра Азгура. Яшчэ 22 сакавіка 1970 году ў мясцовай школе адкрыўся музей Францішка Багушэвіча, дзе былі сабраныя каля 300 экспанатаў, датычных жыцця паэта.

Самы Жупраны ведамы з пачатку 15 стагоддзя як цэнтар воласці, што належала вялікаму князю Вітаўту, які ў 1407-ым годзе падарыў мястэчка віленскаму ваяводу Войцэху Монвіду. Назва Жупраны цягам стагоддзяў перацярпела істотную трансфармацыю. Яе паходжанне ведамы навуковец Вадзім Жучкевіч тлумачыў у значанні асновы тараторыць, варкаваць. Верагодна паводле назвы-мянушкі. З такой трактоўкай тапоніма пагадзіцца вельмі цяжка, асабліва, калі згадаць, што яшчэ ў XIX ст. у Ашмянскім павеце была добра ведамая Зубранская Пушча. Вельмі праўдападобна, што ў гэтай пушчы, на адлегласці ў 14 вёрст ад Ашмяны па дарозе з Вільні на Менск, на беразе рэчкі Ашмянкі і раскінулася гасціннае пасяленне пад назвай Зубраны. А факт пераходу З (Z) у Ж (Ż) застаўся незаўважанай з'явай.

Амаль трыста гадоў — з пачатку 16 стагоддзя да пачатку 19-га Жупранамі валодалі Радзівілы, змянілася ажно 9 уладаннікаў з гэтага роду. У мясцовай пушчы вельмі любіў паляваць эпатажны Караль Радзівіл — Пане Каханку. З 1811 мястэчка было уладаннем Чапскіх. Страшны пажар у Жупраны, калі згарэла фактычна ўсё паселішча, прынесла французска-расейская вайна пры адступленні напалеонаўскіх войскаў. Тыя жахі зімы 1812-га падрабязна апісаныя ў мемуарах французскага генерала і пісьменніка Філіпа-Поля дэ Сегура.

Праз Жупраны праходзіў стары віленскі паштовы тракт і таму мястэчка заўсёды было ў эпіцэнтры падзей. Акрамя дакументальна зафіксаваных гістарычных падзей мясцовасць мае цэлы шэраг легендаў і паданняў.

Першы касцёл тут быў заснаваны каля 1550, у кан. 16 ст. ён стаў кальвінскім зборам. Цяперашні Петрапаўлаўскі касцёл (1854-75), вакол якога зараз растуць прыгожыя елачкі, пабудаваны па фундацыі графа Адама Чапскага. У касцёле ўсталявана мемарыяльная дошка Францішку Багушэвічу на польскай мове. Усе астатнія надпісы тут па-беларуску. Зусім нядаўна помнік на магіле паэта і яго блізкіх зазнаў рэстаўрацыю. З'явіўся яшчэ адзін новы помнічак, які сведчыць пра тое, што на гэтых могілках пахаваны таксама бацька, брат, жонка і сын Багушэвіча.

Адметным будынкам ёсць і плябанія канца XIX-пач. XX стагоддзяў. У 1925-32 пробашчам тут служыў Павал Пякарскі, беларускі каталіцкі святар які быў кіраўніком Ашмянскага дэканату.

Вельмі шмат для папулярызацыі Жупранаў зрабіў няўрымслівы краязнавец Уладзімір Содаль. Гэта ён прасачыў літаральна кожны крок нашага Багушэвіча па гэтай зямлі. Гэта з яго падачы Жупраны рупліва захоўваюць памяць пра вялікага суайчынніка.



Мала прыкметная вёска Ішчална, ці як яе яшчэ называюць Ішчолна, ляжыць на тэрыторыі сучаснага Шчучынскага раёну зусім непадалёк асноўнай дарожнай артэрыі Гарадзеншчыны, што вядзе да Менску. Ад цэнтральнай трасы да мясцовасці чатыры кіламетры кепскай гравійнай шашы. Але куды цікавей ехаць сюды зусім іншай дарогай — праз Жалудок і іншыя вёсачкі. Прыблізна праз гэтыя шляхі пралягалі сцежкі паўстанцаў 1863 году, імёны многіх з якіх звязаны менавіта з гэтай навакольнай тэрыторыяй. А яшчэ раней, у час касьцюшкоўскага чыну, у ваколіцах дзеіў атрад паўстанцаў пад камандай Хлявінскага. На ўскрайку вёскі ў першай палове дваццатага стагоддзя была вапнавая фабрыка.

Назва вёскі паходзіць ад невялікай ракі Ішчальнянка. Што азначаў гэты гідронім — сказаць цяжка. Першы пісьмовы ўспамін пра Ішчалну датуецца 1515 годам, калі падкаморы надворны, староста эйшышкаўскі Андрэй Давойнавіч заснаваў тут касцёл Найсвяцейшай Тройцы. У Паўночную вайну сюды прыходзілі шведы, якія паразбівалі касцельныя званы. У розны час Ішчалнай валодалі Лімонты, Вішнявецкія, Палупяты, Радзімінскія-Францкевічы, Скарбек-Важынскія. Сядзіба апошніх уладаннікаў Ласковічаў не захавалася.

Ішчална цікавая найперш тым, што тут знаходзіцца адзіны ў Беларусі дзейны сонечны гадзіннік — помнік навуковай астранамічнай думкі. Першым пра яго напісаў вядомы лідскі краязнавец Лявон Лаўрэш. Сонечныя гадзіннікі — адны з найстарэйшых у свеце астранамічных прыладаў. Вядома, што іх выкарыстоўвалі яшчэ ў старажытным Егіпце. А ў антычны час стваральнікі гэтых каменных прыладаў ужо дакладна ведалі, як іх дапасаваць да патрэбнай геаграфічнай шыраты. У нашай навуковай літаратуры інфармацыі пра сонечныя гадзіннікі да нядаўняга часу амаль не было. Вядома, што ў 1736 годзе ў Нясьвіжы, які быў цэнтрам тагачаснага культурнага жыцця, быў напісаны на лацінскай мове курс пра выраб сонечных гадзіннікаў розных канструкцыяў.

Гадзіннік у Ішчалне ўсталяваны на касцельным двары з паўднёвага боку ад храма. Сам Троіцкі касцёл, што стаіць у цэнтры вёскі, пабудаваны ў 1758 годзе ў стылі позняга барока з цэглы. Ён быў збудаваны па фундацыі Юзафа І Марыяны Валоў. Раней на гэтым месцы быў даўнейшы драўляны касцёл. Побач пазнейшая, але стылёва да-

пасаваная званіца сярэдзіны 19 стагоддзя. Каля яе на цвінтары магіла пружанскага падкаморага Грабоўскага, а таксама пахаванні павятовай шляхты. Храм атынкаваны і цешыць вока сваімі белымі лёгкімі формамі. Тэрыторыю атачаюць замшэлы мур і дрэвы. У апошні прыезд сюды мы якраз трапілі на свята, было вельмі шмат людзей з вёскі і навакольных мясцінаў.

Ішчална ў нашай гісторыі таксама вядома тым, што тут служыў ксяндзом Адам Фалькоўскі, які быў расстраляны ў Лідзе 10 чэрвеня 1863 году за чытанне вернікам паўстанцкага маніфесту. У касцёле ўсталявана шыльда ў яго памяць.

Найверагодней што гадзіннік у Ішчалне быў замоўлены яшчэ да заканчэння пабудовы храма. Выраблены ён у нашай старадаўняй сталіцы — Вільні. Сам гадзіннік — абчасаны каменны пастамент больш-менш цыліндрычнай формы, вышынёй каля метру, у дыяметры мае каля паўметра. Двума сталёвымі стрыжнямі зверху на плоскасці прымацавана медная круглая пласцінка. На жаль, стрэлка напалову зламаная. На самой пласціне пазначана прозвішча майстра — Малецкі, месца вырабу, а таксама рэгіянальная геаграфічная шырата. Гэта так званы гарызантальны сонечны гадзіннік з трохкутнай стрэлкай, верхні кут якой скіраваны на Палярную зорку. Цень ад гэтай стрэлкі падае на гарызантальны цыферблат, дзяленні якога няроўныя паміж сабой. Гадзіннік Ішчалны адмервае пад сонцам новы час...



# Лаўрышаўскі манастыр

Вёска Лаўрышава ўзнікла ў 13 ст. як паселішча вакол Лаўрышаўскага манастыра, які быў заснаваны князем Войшалкам на ўзбярэжжы Нёмана. Вядома, што ананімны сын Міндоўга ў адзін з перыядаў кардынальна памяняў сваё жыццё, прыняўшы пострыг. Манастыр неўзабаве стаў лаўрай — духоўным і летапісным цэнтрам ВКЛ. З даўняй гісторыі ведама, што для Лаўрышаўскага манастыра было напісана Евангельле, якое датуецца першай паловай 14 стагоддзя. Гэтая кніга была рэстаўраваная ў 1887 годзе і захоўваецца ў знакамітай кракаўскай бібліятэцы Чартарыйскіх. Паводле розных паданняў манастыр нібыта быў знішчаны ні то татарамі, ні то шведамі.

У наш час гістарычны манастыр пачаў адраджацца ў новым абліччы. Як і належыць сапраўднаму рэлігійнаму асяродку ён ляжыць удалечыні ад асноўных шляхоў, ахінуты прыроднай заслонай. Прызнаюся, што за чвэрць стагоддзя вандровак па Гарадзеншчыне трапіць туды першы раз мне давялося толькі пару гадоў таму. Ехаць сюды можна альбо праз Наваградак і Нягневічы, альбо праз Карэлічы і Шчорсы. Фактычна манастыр размешчаны не каля Лаўрышава, а далей — каля вёскі Гнесічы. Мінаючы вёсачку з мілагучнай назвай Лозкі, мне ўспомніўся яе нараджэнец Кастусь Рамановіч, удзельнік падпольнага Саюзу вызвалення Беларусі, вязень савецкіх канцлагераў. Маленькі такі ростам светлай памяці дзядок, але з жывымі вачамі і цвёрдай беларускай ідэяй у душы...

Едучы ў манастыр, спярша мінаеш само Лаўрышава, дзе можна пабачыць Успенскую царкву васямнаццатага стагоддзя — храм быў пабудаваны некалі як уніяцкі. З выбітных асобаў сучаснасці ў Лаўрышаве нарадзіліся мастак Кастусь Качан, паэт-самавук Мікалай Марозік, а таксама нябезвядомы „апошні спікер" Сямён Шарэцкі. Каля вёскі Гнесічы направа праз рэчку Валоўку новазбудаваны драўляны прасмолены мост. Гэта дарога да манастыра. Перад мостам над рэчкай з маляўнічымі берагамі, дзе там-сям можна пабачыць човен, усталяваны адмысловыя прыстасаванні для ламання крыгаў увесну. Нам пашэнціла сустрэць досыць прыязнага бацюшку, які ласкава правёў нас па тэрыторыі ўсяго манастырскага комплексу.

Адраджэнне манастыра пачалося ў 1993-ім годзе, калі было асвечана месца, на якім некалі стаяў старажытны храм. У 1996-ым на тэрыторыі быў пастаўлены помнік Елісею Лаўрышаўскаму,

аднаму з беларускіх Святых. Пасля гэтага пайшла імклівая разбудова асяродка на правым беразе Нёману, які ў час веснавога разліву пераўтвараецца фактычна ў востраў. Пры ўваходзе на камяні ўсталяваны кампазіцыйны металёвы крыж, далей можна пабачыць капліцу і царкву, а злева ад яе — шэраг драўляных крыжоў Ефрасінні Полацкай. Наўкола старыя сосны. Непадалёк будуецца вялікі комплекс, дзе будзе Дом міласэрнасці і гатэль для пілігрымаў. Яшчэ раней пад гатэль у Гнесічах былі прыстасаваны будынак былога вясковага клуба і бібліятэкі. Ужо зараз манастыр акрамя святарскіх, здзяйсняе і турыстычныя паслугі для наведнікаў. Сюды можна прыязджаць цэлымі сем'ямі. Таксама ўжо дабудавана купальня з пазалочанымі купаламі і прахалоднай, крыштальна чыстай вадой у сярэдзіне. Паблізу яе пясчаныя пагорыстыя землі, на невялікім узвышшы некалькі пахаванняў манахаў і святароў.

Гісторыя даўняга манастыра захоўвае шэраг таямніцаў. Да гэтага часу не выяўлены мошчы Святога Елісея. Паводле падання цудатворныя рэліквіі будуць знойдзены ў час сапраўднага адраджэння манастыра, якое будзе звязана з адраджэннем беларускай зямлі ўвогуле.



Мазыр — абсалютна ўнікальны беларускі горад, які дагэтуль застаецца малаведамым сярод насельнікаў Беларусі. Нейкія асацыяцыі ён выклікае з Навагрудкам і Смаленскам, напэўна сваімі перападамі вышынь. Галоўная адметнасць гораду над Прыпяццю — гэта яго знітаванасць з ракой. Калі Прыпяць разліваецца — проста фантастычная карціна, шырыня і размах гэтай воднай прасторы ўражвае надзвычай.

Мяркуецца, што паселішча, ад якога бярэ свой пачатак сучасны Мазыр, узнікла ў VIII стагоддзі ва ўрочышчы Кімбараўка, дзе існавала ўмацаванае гарадзішча. Пазней умацаваны горад перанеслі на Замкавую гару. Першая пісьмовая згадка пра Мазыр датуецца 1155 годам, калі ён перайшоў ад Кіеўскага да Чарнігаўскага княства. А ў XIV ст. места далучылася да Вялікага Княства Літоўскага.

З сярэдзіны 16-га стагоддзя горад карыстаўся магдэбургскім правам, атрымліваў прывілеі ад каралёў Рэчы Паспалітай. Герб месцу надаў Стэфан Баторы — „у блакітным полі чорны аднагаловы арол з срэбным шыльдам на грудзях, на шыльдзе — чырвоная лацінская літара S". Цікава, што ў гэтых дакумантах-прывілеях, акрамя гарадскіх правоў, мазырчукам надавалася права лавіць рыбу ў рацэ Туры і ў возеры, пачаўшы ад Ясеня і да ракі Тура з абодвух бакоў ракі па берагах Прыпяці.

У 16-ым стагоддзі Мазыр складаўся з трох частак — цэнтральнай з астрогам, неўмацаванага пасаду і гандлёвага пляца. У вайну Маскоўскай дзяржавы з Вялікім Княствам Літоўскім у 1534-37 гадах горад быў зруйнаваны захопнікамі. Тое ж здарылася многа пазней у час „патопу", калі пастаралася расейскае войска на чале з Валконскім.

У 1609 Мазыр пацярпеў ад вялізнага пажару. Аднак ужо ў 1613-ым коштам ахвяраванняў завяршылася аднаўленне ўмацаванняў і места было „...абнесена высокім валам з 7 вежамі, або фортамі". У 1616 староста Стравінскі заснаваў тут касцёл. У 18-ым стагоддзі Мазыр стаў адным з цэнтраў рэлігійнага жыцця — базыльянскі кляштар, Кімбараўскія цыстэрыянскія кляштары, кляштар марыявітак, нарэшце місія езуітаў.

У Мазыры былі Кіеўская, Оўруцкая, Сьвідоўская, Нагорная, Гончая і іншыя вуліцы. Тут было два замкі — Верхні (Стары), які месціўся на Замкавай гары, і Ніжні. Ля падэшвы Замкавай гары быў Рынкавы пляц, на паўночным захадзе ад яго знаходзі-

ліся ратуша, пякарня і стайня. Гандаль вёўся ў 56 крамах, якія атачалі пляц. Быў шпіталь, дзеілі 2 майстэрні для абпалу цэглы.

Станам на 1878 у Мазыры было 3 царквы (у тым ліку мураваная, гвалтоўна перароблены царскімі ўладамі з бернардынскага касцёла), касцёл і сінагога. Прамысловасць прыйшла ў Мазыр у канцы 19-га стагоддзя. У 1879 тут заснавалі тэлеграфную станцыю, а ў 1885-ым — запалкавую фабрыку „Маланка". Спрыяла гаспадарчаму развіццю і пракладанне Палескіх чыгунак (1880-я). У верасні 1913 тут адбылася I сельскагаспадарчая і прамысловая выстава.

У наш час візітоўкай гораду стаў нафтаперапрацоўчы завод. Мясцовая футбольная каманда, якая звалася спярша МВКЦ, а пасля „Славія", была нейкі час нават лідарам айчыннага футболу. Аднак ўсё змяняецца і вось мазырцы ўжо аўтсайдары вышэйшага дывізіёну. Слаўны Мазыр сваімі вяслярскімі традыцыямі.

Тут нарадзіліся рэвалюцыянерка Геся Гельфман і ведамая акторка Ірына Мазуркевіч. З помнікаў адзначым мемарыяльны знак ахвярам Чарнобыля.

Адпачываць сёння ў Мазыры можна ў мясцовым парку, культавым месцам ёсць кавярня пры ім непадалёк цэнтру „Тры пескары", якая размешчана фактычна на вадзе.

Але найлепш проста прыехаць сюды і мілавацца мазырскімі перападамі і разлівам маці Прыпяці...


Фота Уладзіміра Целяпуна

Памяць пра загінуўшых продкаў, якія змагаліся за незалежнасць сваіх краінаў, ва ўсіх хрысціянскіх народаў здаўна шануецца ўсталяваннем крыжоў. У месцы памяці, якія звязаны з жыццём і дзейнасцю выбітных асобаў, прыносяць вянкі і кветкі, ставяць і запальваюць знічкі. Фактычна ва ўсіх дзяржавах у галоўныя святы і круглыя даты туды прыходзяць кіраўнікі дзяржаваў, лічачы гэта сваім святым абавязкам. У Беларусі сёння ўсё інакш. Шанаванне памяці нацыянальных герояў — гэта справа толькі грамадскіх актывістаў. Дзяржава не толькі не ўдзельнічае ў гэтым, але і ўсяляк замінае правядзенню мемарыяльных акцый. Так было, прыкладам, у мястэчку Бяліца Лідскага раёну. Тут у гонар бітвы 1659 году, калі шляхта Лідскага павету дала бой 30-тысячнаму маскоўскаму войску, 15 верасня 2002 году былі пастаўленыя і асвечаныя памятны крыж і мемарыяльная пліта. Неўзабаве яны былі знішчаны .

Найбольш памятных мясцін змагароў за вольнасць краю звязаны з паўстаннем 1863 году. 150 гадоў таму лепшыя сыны Айчыны розных нацыянальнасцяў падняліся на збройны вызвольны чын. Яны не мелі практычных шанцаў вызваліцца ад маскоўскай акупацыі, сілы былі зусім няроўныя. Але гэтыя людзі не маглі больш трываць здзекаў над сваімі традыцыямі і культурай, таптання іх адвечных каштоўнасцяў, чужынскага нахабнага панавання. Яны паўсталі і абралі сваім дэвізам „Воля альбо смерць!". Шматлікія месцы пахавання паўстанцаў невядомыя, карнікі рабілі ўсё, каб знішчыць магілы, засыпалі іх вапнай, таптали месцы пахаванняў коньмі. Так дакладнае месца пахавання Кастуся Каліноўскага невядомае дагэтуль, месца яго апошняга спачыну дзесьці ля падэшвы гары Гедыміна. Галоўны для беларусаў Крыж памяці на Лукішскім пляцы — там дзе павесілі ці расстралялі Каліноўскага, Зыгмунта Сlaunched Серакоўскага, Баляслава Калышку, Юльяна Лясноўскага, Цітуса Далеўскага, Ігната Здановіча, ксяндза Станіслава Ішору і многіх іншых. Колькі год таму ўзнікла пагроза пераносу гэтага помніка ў Вільні, але ўрэшце яго ўдалося адбараніць, Лукішскі пляц надалей застаецца мемарыяльным месцам.

У Беларусі цэнтральным пунктам ушанавання паўстанцаў ёсць Сьвіслацкі раён. У райцэнтры магіла Віктара Каліноўскага, ідэолага паўстання, які да яго не дажыў. А ў Якушоўцы крыж у памяць пра ўсіх

палеглых паўстанцаў, усталяваны ў 1997-ым годзе. Тут штогод адбываецца фэст памяці нашых палеглых змагароў. Тут штогод грамадскасць пільнуюць міліцыянты і людзі ў цывільным. Традыцыйная акцыя ў гонар палеглых адбываецца і ў Лідскім раёне — ва ўрочышчы Крыжы паміж вёскамі Мохавічы і Ольжава. У мястэчку Луна на Мастоўшчыне ёсць магіла Яна Каменскага, прататыпа героя Элізы Ажэшкі, а ў Мінявічах, дзе было лецішча пісьменніцы, у лесе сімвалічная магіла сарака загінуўшых паўстанцаў. Не так далёка адсюль і памятны камень-знак на ўскрайку лесу ля Пацавічаў. Помнік касінерам ёсць і на ваўкавыскіх гарадскіх могілках. У Вараноўскім раёне памяць пра інсургентаў 1863 году ўшанавана помнікам каля касцёлу ў Начы, там жа і магіла Тодара Нарбута — бацькі легендарнага Людвіка. Паблізу і могілкі ў родавым гняздзе Нарбутаў — Шаўрах — там пастаўлены памятны камень. Кампазіцыя з пяці драўляных крыжоў ёсць на могілках у мястэчку Азёры. На месцы лагеру і бітвы ля Святога Балота пасаджаны маладыя дубкі. А не так даўно на самым сумежжы з Летувой паўстаў мемарыяльны знак з крыжам ля вёскі Кадыш, дзе ў траўні 1863 году адбыўся пераможны бой паўстанцкага атраду з расейскімі карнікамі.

Яшчэ некалькі дзесяткаў памятных месцаў дагэтуль ніяк не адзначаны. Але і там з часам стануць крыжы ў памяць паўстанцаў. Gloria viktis!



Нясьвіжскі палацава-паркавы комплекс атрымлівае ў нашы дні новае жыццё. З поўнай падставай зараз менавіта слаўны гістарычны горад у Менскай вобласці можна лічыць галоўным турыстычным цэнтрам Беларусі. У Нясвіжы шмат адметных архітэктурных і скульптурных помнікаў. Тым, хто прыедзе сюды ўпершыню, варта пачаць знаёмства з старадаўнім горадам з гістарычнага цэнтра-ядра. Зрэшты ў Нясьвіжы ўсё блізка, усё арганічна і ўрэшце нават без турыстычнай мапы і распытвання жыхароў кожны трапіць у палацава-паркавы комплекс, да якога вядзе брама з радзівілаўскай манаграмай і доўгая выбрукаваная земляная дамба.

Палацава-паркавы ансамбль, колішняе ўладанне магнатаў Радзівілаў, сапраўды ўнікальны. У Еўропе шмат шыкоўных разнастайных палацаў і цудоўных паркаў, але наш нясьвіжскі ўсё роўна асаблівы, не падобны на аніводзін іншы ні у асноўных рысах, ні ў асобных частках. Асаблівае месца займае парк. Дзякуй Богу ён захаваны пасля нядаўніх рэстаўрацыйных працаў, якія нарабілі столькі шуму і спрэчак. У парку з часу пачатку суверэнітэту Рэспублікі Беларусь усталяваны бюсты выдатным людзям, з імёнамі якіх злучана гісторыя гораду над рэчкай Уша — князю Юрыю Нясьвіжскаму, які паводле падання загінуў у бітве з татарамі на рацэ Калка, Тамашу Макоўскаму, аўтару гравюры, на якой упершыню быў выяўлены Нясьвіж, дойліду Яну-Марыю Бернардоні, які стварыў у горадзе сапраўдны архітэктурны шэдэўр, літаратару і асветніку Уладзіславу Сыракомлю, які апісваў і ўслаўляў гэтую зямлю, Якубу Коласу, які вучыўся ў мясцовай беларускай настаўніцкай семінарыі, Мікалаю Радзівілу Сіротку, пры якім Нясьвіж зазнаў перыяд росквіту. Пры Мікалаі Сіротку быў закладзены парк Альба, заснаваны звярынец з жывёламі, якіх ніколі не бачылі ў гэтых краях. Ёсць у старым парку і шэраг іншых адметных помнічкаў. Прыкладам сабаку — паводле легенды ў час палявання той ахвярна ўратаваў ад смерці свайго гаспадара — аднаго з Радзівілаў, адцягнуўшы ад таго мядзведзя. Ці так званая студня Ундзіны — каралевы русалак. Тут многа розных утульных і чароўных куточкаў.

Нясвіжскі замак абкружаны некалькімі азёрамі-сажалкамі. З вышыні замкавых валоў, куды сёння забараняюць падымацца, і куды я не прамінуў залезці, воку адкрываюцца краявіды рэдкай прыгажосці. Цяжка

сказаць, наколькі захавалася праўдзівасць самога палацу пры адбудове, але тое, што замкавы комплекс можа зараз выканаць сапраўдную асветніцкую ролю — відавочна.

Шмат стагоддзяў жыве ў Нясьвіжы і паданне пра Чорную даму — прывід заўчасна памерлай каралевы Барбары Радзівіл, які перыядычна з'яўляецца наведнікам замку. Гэта, бадай, найбольш ведамая легенда з шматлікіх нясьвяжскіх гісторый.

Агромністыя скарбы, якія былі сабраныя Радзівіламі ў Нясьвіжскім замку, здаецца, згінулі бясследна, былі вывезены з гэтай зямлі захопнікамі розных масцяў. Самы ўладальнікі не мелі права нічога з яе ні прадаць, ні аддаць у пасаг ці заклад, ні вывезці з Нясьвіжу. Хоць пра лавеласа і авантурыста Караля Станіслава Радзівіла па мянушцы Пане Каханку і расказвалі, што ён мог прайграць у карты ўсё што заўгодна, але потым усё вяртаў назад. Найверагодней, што вялікая калекцыя золата і серабра, сярод якой былі фігуры 12 апосталаў, была вывезена ў французска-расейскую вайну 1812 году. Хоць жыве і легенда пра тое, што галоўная скарбонка была дзесьці закапана ў ваколіцах.

Нясвіж дагэтуль захоўвае багата таямніцаў. Але галоўная з іх зразумелая дакладна — нягледзячы на агромністыя матэрыяльныя страты, мы дагэтуль маем тут неверагодны духоўны скарб. Невыпадкова з 2005-га году нясьвіжскі архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў уключаны ў Сусветную спадчыну ЮНЕСКА.



# Дуга Струвэ

Ва ўсе часы існавання чалавецтва нараджаюцца людзі, якія хочуць змяніць свет. Адны прыходзяць на гэтую зямлю каб распальваць нянавісць, развязваць войны і нішчыць сабе падобных. У летапісе нашай планеты яны пакідаюць чорную славу. Іншыя скіраваны на мірную стваральную працу, асветніцтва, імкнуцца змяніць гэты недасканалы свет да лепшага. З іх можна вылучыць асаблівую катэгорыю — гэта вынаходнікі, даследнікі прыродных з’яваў нашай Зямлі, тыя, хто імкнуцца прыдумаць нешта для палягчэння жыцця чалавецтва. З ліку такіх быў і Васіль Струвэ, па нараджэнні і паходжанні немец Фрыдрых Струвэ, астраном, першы дырэктар знакамітай Пулкаўскай абсерваторыі, што была заснавана пад Пецярбургам. Знакаміты навуковец пакінуў свой след і на беларускай зямлі. Яму ўпершыню прыйшло ў галаву вызначыць градуснае вымярэнне дугі мерыдыяна на агромністай прасторы — абшары ад узбярэжжа Паўночна-Ледавітага акіяну да вусця ракі Дунай. Узніклыя ў выніку працы геадэзічныя знакі на тэрыторыі розных краінаў атрымалі назву Дугі Струвэ. Вымярэнні пачаліся ў 1816 годзе і доўжыліся амаль сорак гадоў. У выніку былі атрыманыя каштоўныя матэрыялы для вызначэння формы і памераў Зямлі. Дакладнасць таго даўняга вымярэння проста ўражвае — сучасныя тэхналогіі з дапамогай штучных спадарожнікаў выявілі зусім нязначныя адхіленні тых разлікаў, толькі на пару сантыметраў.

Сетка Дугі Струвэ складалася ажно з 265 пунктаў — гэта былі кубы памерам 2 на 2 метры, закладзеныя ў зямлю. Гэтыя пункты размяшчаліся на тэрыторыі ажно 10 сённяшніх дзяржаваў — па парадку з поўначы на поўдзень — Нарвегіі, Швецыі, Фінляндыі, Расіі, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Беларусі, Украіны і Малдовы. Агульная працягласць гэтай лініі 2820 кіламетраў. У Беларусі за апошняе дзесяцігоддзе знакі Дугі Струвэ, якая залічана ў культурную спадчыну ЮНЕСКА, сталі афармляцца і ўлучацца ў турыстычныя маршруты. У нашай краіне захаваўся 21 пункт з гэтага расцягнутага кантынентальнага аб’екту. Гэта больш, чым у якой іншай краіне. 5 з іх запісаны ў згаданы Спіс сусветнай спадчыны. Гэта адзнакі ля вёсак Чэкуцк, Лясковічы, Асаўніца на тэрыторыі Берасцейскай вобласці, а таксама Лапаты і Цюпішкі на Гарадзеншчыне. Некаторыя недалёкія спецыялісты, якія нічога не разумеюць у тапаніміцы і беларускай мове друкуюць апошнюю вёску як „Тупішкі”.

Пункт у Лапатах знаходзіцца пры самай дарозе на шашы ад чыгуначнай станцыі Ражанка ў кірунку Жалудка. Шкада, што сучасныя вандалы ад улады Шчучынскага раёну знішчылі зараз усе дрэвы абапал гэтай яшчэ нядаўна вельмі прыгожай дарогі. Месца ў Цюпішках, што непадалёк Гальшанаў адшукаць цяжэй. У адной з сяброўскіх вандровак мы выбраліся туды мэтна. Месца адшукалі не адразу, спачатку трапіўшы ў ціхую вёску з прыгожымі стрэхамі хатак. Старэнькая бабуля на наша запытанне скіравала за вёску на ўзлесак. Наваколлі тут вельмі маляўнічыя, на воданапорнай вежы, звілі гняздо буслы. На пад'ездзе да помніка на разгалінаваным драўляным ствале інфармацыйны стэнд з тэкстамі па-беларуску і ангельску. Праз метраў дваццаць на пагорку ўсталяваны гранёны абеліск з адпаведным надпісам і шарам зверху, на якім выява межаў сучаснай Беларусі. У глыбіні справа трынога над самым геадэзічным пунктам. Дзякуючы падтрымцы асветніцкага аб'яднання „Фонд імя Льва Сапегі" у Гальшанскай сярэдняй школе зараз паўстаў музей Дугі Струвэ. Знакі гэтага геадэзічнага аб'екту паступова ўваходзяць у лік турыстычных атракцый Беларусі.



# Беластоцкая „Ніва"

Напэўна патрэбна звярнуцца да гісторыкаў беларускага перыядычнага друку, каб яны далі даведку, якія беларускія газеты выходзілі больш чым паўстагоддзя. А калі казаць пра выданні за межамі цяперашняй Рэспублікі Беларусь, то беластоцкая „Ніва", якая пачала выдавацца ў далёкім 1956-ым годзе, напэўна ня будзе мець сабе роўных. Вядомая рэдакцыя і сваімі асобнымі выданнямі літаратурнага, гістарычнага, публіцыстычнага кірунку. Такіх кніжак у розныя гады выйшла каля сарака.

Рэдакцыя беластоцкай „Нівы" даўно стала для мяне цёплым беларускім асяродкам, нягледзячы на тое, што бываць там даводзіцца толькі эпізадычна і наскокамі. Зычлівая з парогу, нібы родная цётка, спадарыня Галінка, няўрымслівы і захоплены беларушчынай галоўны рэдактар Яўген Вапа, педантычны інтэлігент Віталь Луба, надзвычай працавіты кампутарнік Адам Паўлоўскі, які дасканала тэхнічна і творча апрацоўвае тэксты і фотаздымкі, заўсёды вострыя на позірк і слова Ганна Кандрацюк і Міра Лукша, вечны вандроўнік беластоцкай зямлі (Падляшша) Аляксандар Вярбіцкі — усё гэта такія розныя, але паяднаныя адной ідэяй, асобы сённяшняй „Нівы", якая, дасць Бог, праз нядоўгі час адзначыць ужо свае 60-ыя ўгодкі. А гэта ўжо век сапраўднай сталасці. Прыгадваю, як святкаваўся 50-гадовы юбілей. На ўрачыстасць тады прыехалі прадстаўнікі розных беларускіх грамадскіх і культурных асяродкаў. Прысутнічала на тым юбілеі і прэзідэнт Рады БНР Івонка Сурвіла. Памятаю, як запытаўся ў яе, ці даўно яна была ў Беластоку. Спадарыня Івонка ўсміхнулася і адказала: „Ну так, даўнавата не даводзілася тут бываць, апошні раз у 1944-ым годзе"...

Для мяне асабіста „Ніва" стала другой газетай, пасля гарадзенскай „Пагоні", у якой давялося і пашчасціла друкавацца такі працяглы час. Ва ўмовах, калі былі знішчаныя гарадзенскія незалежныя перыядычныя выданні, беластоцкая „Ніва" стала друкаванай пляцоўкай, якая дазволіла спачатку светлай памяці Зміцеру Кісялю, а потым і мне з Віктарам Сазонавым рэгулярна дзяліцца з чытачамі па абодва бакі мяжы сваім бачаннем падзей у Беларусі, а таксама прадставіць пэўныя беларускія каштоўнасці і з'явы. Калі б не „Ніва", напэўна не было б і гэтай кніжкі, якую трымае ў руках шаноўны чытач.

Пэўны час „Ніва" ішла на Беларусь праз звычайную паштовую перасылку, пакуль такую з'яву не

перапынілі пільныя ідэалагічныя цэнзары, што фільтруюць карэспандэнцыю. Здараліся за гэты час і кур'ёзныя гісторыі. Прыкладам тая, калі некалькі дзесяткаў „крамольнай" газеты забралі ў аднаго свіслацкага актывіста на мяжы, а крыху пазней выставілі гэтыя ж нумары на продаж у Вялікай Бераставіцы як канфіскаваны тавар.

„Ніва" праз дзесяцігоддзі перажывала напады розных нядобразычліўцаў. У чым яе толькі не вінавацілі: і ў апалагетыцы камуністычных ідэй, і ў сепаратызме, і нават у раскраданні фінансавых сродкаў. З-за апошняга ўжо ў наш час рэдакцыя перажыла нават судовы працэс. На знак салідарнасці тады ў Беласток таксама прыязджалі прадстаўнікі грамадска-палітычных структур з Беларусі. Знайшоўся і справядлівы мясцовы суддзя Кшыштаф Казлоўскі, які аб'ектыўна разабраў справу. Урэшце высветлілася для ўсіх, што нямэтна не было патрачана аніводнай златоўкі. „Ніва" захавала сваё добрае імя, таму што яна ва ўсе часы захоўвала роднае беларускае слова, развівала і шанавала сваё. І так хочацца, адрасуючыся да насельнікаў Падляшша беларускага паходжання, адвольна перафразаваць класіка літаратуры: „Не пакідайце ж „Нівы" нашай беластоцкай, каб ня ўмёрлі!".



# Сноўскі палац

Яго называюць малодшым братам Нясьвіжа, адзін з сама шыкоўных палацаў нашай мінуўшчыны сапраўды знаходзіцца ўсяго ў трыццаці кіламетрах ад старадаўняга культурнага цэнтра. Сядзіба, якая паўстала ў мястэчку Сноў адна з сама адметных і незвычайных на тэрыторыі Беларусі.

Назва паселішча паходзіць ад аднайменнай ракі Сноў альбо Сноўка. Некаторыя тапаністы залічаюць гэтую назву ў лік гідронімаў іранамоўнага паходжання, выводзячы яго з старажытнаіндыйскага дзеяслова „снаўці" — „цячы", „тачыцца". Адсюль праўдападобна выйшаў і дзеяслоў беларускай мовы „сноўдаць".

Сноў некалі належаў магнатам Радзівілам, ад іх перайшоў да Гарабурдаў. А ў 1639 годзе сноўскі ключ за 13 600 коп грошаў набыў Ян Геранім Рдултоўскі. Сноўскі палац забудоўваўся ў той час, калі мястэчкам ужо валодаў гэты род з цяжкавымаўляльным прозвішчам. Яну Рдултоўскаму ўдалося сканцэнтраваць у сваіх руках вялікую колькасць зямельных уладанняў. Ягоны сын Антон пачаў будаўніцтва вялікага палацу, а ўжо яго нашчадак Ян Крыштап завяршыў справу. Тады ў 1785-ым годзе тут спыняўся кароль і вялікі князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пра той побыт у Сноўскім палацы засталіся ўспаміны.

Сноўскі палац вылучаецца сваімі вялізнымі памерамі, цалкам яго можна пабачыць і добра разгледзець толькі з самалёту, даўжыня будынку складае ажно 140 метраў. У свой час тут было ажно 100 пакояў. Цэнтральная частка палаца двухпавярховая, а бакавыя крылы аднапавярховыя. На першым паверсе цэнтральнай часткі палаца былі залі, гасцявыя пакоі, кабінеты. У залях меліся нішы, дзе стаялі цудоўныя мармуровыя скульптуры, прывезеныя з Еўропы. Раскошай паводле сведчанняў сучаснікаў вылучалася толькі парадная заля, усе астатнія пакоі былі дэкараваныя досыць сціпла, але густоўна. Вакол палаца быў закладзены цудоўны парк з штучнымі вадаспадамі, міні-азёрамі, патаемнымі закуткамі і прыгожымі клумбамі.

У вайну 1812 году ў лістападзе тут адбыўся бой французскай дывізіі Яраслава Дамброўскага з расейскімі казакамі. Тады маёнткам тут валодаў Казімір Рдултоўскі, выпускнік Оксфарду, які быў жанаты на дачцэ свайго бацькі ад другога шлюбу, фактычна сваёй сястры. Гэтаму Рдултоўскаму давялося заплаціць вялізныя грошы Ватыкану за дазвол на такую жаніцьбу, якая

сталася ўрэшце шчаслівай. Казімір прымаў у сваім шыкоўным палацы Гераніма, брата імператара Напалеона Банапарта. Слава Сноўскага палацу на той час ужо перасягнула межы Навагрудскага ваяводства.

Два сыны Казіміра былі вельмі розныя: старэйшы Канстанцін скончыў навучанне ў Вільні і Сарбоне, сябраваў з Міцкевічам, перакладаў яго. Іншы — Яўстах быў гуляка і карцёжнік, растраціў значную частку маёнтку.

У 1854 годзе Сноў перайшоў да барона Густава Гартынга, галяндца з паходжання, бацька якога быў на службе ў расейскім войску. Густаў вылучаўся лаяльнасцю да спадчыны ВКЛ, ягоныя дзеці лічылі гэтую зямлю сваёй Радзімай.

У 20-я гады Гартынгі з-за цяжкага фінансавага стану з апошніх сродкаў зрабілі рамонт і прадалі палац польскаму ўраду. Яго прыстасавалі пад канцылярыю і жыллё афіцэраў. Таксама ў частцы палаца было размешчана казіно для вайскоўцаў. Калі прыйшлі бальшавікі, апошніх Гартынгаў расстралялі.

У наш час вялізны палац перайшоў на баланс сілавых КДБ. Зараз тут створаны санаторый для дзяржаўных супрацоўнікаў. Тэрыторыя палацу зачынена і трапіць туды цяпер праблемна.



# Дзяды — дарога да нацыі

Беларускае нацыянальнае Адраджэньне канца 20 стагоддзя пачыналася з Дзядоў. Шырокі грамадскі рэзананс выклікала адзначэнне гэтага спрадвечнага Дня памяці ў Менску ў 1988-ым годзе. Правакацыя камуністычных уладаў БССР не ўдалася, дзякуй Богу тады абышлося без ахвяраў. Першыя ж Дзяды ў найноўшай гісторыі праводзілі год таму па ініцыятыве Алеся Бяляцкага і Анатоля Сыса — у Менску ў купалаўскім парку ўпершыню было публічна заяўлена пра савецкі генацыд, зачытваліся прозвішчы расстраляных беларускіх літаратараў.

30 кастрычніка на прасторах былой савецкай імперыі адзначаецца Дзень памяці усіх ахвяраў рэпрэсій. У кастрычніку 1937 года ў Беларусі ішлі масавыя расстрэлы нацыянальнай інтэлігенцыі. Многа пазней, у кастрычніку 2004 года на нашай зямлі сустрэліся спецслужбы Беларусі і Расіі. Сама характэрным момантам таго спаткання стала наведванне аднойленай мемарыяльнай сядзібы Фелікса Дзяржынскага. І зноў гучалі словы пра „выдаюшчэвася дзеяцеля великай эпохи". Помнікі Дзяржынскаму, гэтаму крывавaму людажэрцу, а таксама ідэйным правадырам генацыду Леніну, Сталіну стаяць у Беларусі. Бальшыня і не хоча задумвацца, што гэтыя каменныя ідалы па шыю ў нявіннай чалавечай крыві. Нацыя, якая зусім нядаўна перажыла нямецкі фашызм і савецкі камунізм (з'явы па сутнасці і жахлівасці абсалютна аднолькавыя!), не бачыць новага карычневага рэжыму — рэжыму нянавісці і знішчэння ўсяго хрысціянскага, нацыянальнага, чалавечага. Нібы нічому не навучыла гісторыя дваццатага стагоддзя.

У кожнага свая памяць. У 1988 годзе ў газэце „Літаратура і мастацтва" быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты — дарога смерці", які літаральна скалануў нацыю. Пасля гэтага у Менску былі ўтвораныя рэспубліканскае грамадскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму „Мартыралёг Беларусі" і аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Неўзабаве прайшоў той самы згаданы мітынг-рэквіем „Дзяды", які быў гвалтоўна разагнаны сілавымі структурамі. Менавіта тады вырас сведамы арганізаваны беларускі палітычны рух, вынікам якога стала заваёва суверэнітэту. Сённяшняя ўлада аднаўляе помнікі крывавым бальшавікам. А ў Курапатах паўстаў сапраўды народны крыжовы мемарыял.

На Дзяды калі ўсе хрысціянскія дзяржавы робяць выходны, беларусам звычайна трэба ісці на працу, калі гэты дзень не супадае з суботай ці нядзеляй. Ды нашы людзі нейкім незразумелым чынам паспяваюць усё. Ужо надвячоркам першага дня лістапада на гарадскіх, местачковых і вясковых могілках пачынаюць мільгацець агеньчыкі знічак. Масавая традыцыя ўшанавання і памінання продкаў, напоўніцу адроджаная напрыканцы васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя, жыве. Жыве і будзе жыць, хоць сённяшняя дзяржава настойліва культывуе бальшавіцкі „чырвоны дзень календара" — 7 лістапада. Ад угодкаў святкавання бальшавіцкага перавароту 1917 года, які прывёў у хуткай наступнасці да безлічы паламаных лёсаў цэлых народаў і мора чалавечай крыві, на дзяржаўным роўні адмовіліся нават на радзіме сусветнай пралетарскай рэвалюцыі — у самой Расеі. Апошняй, але непазбежна, адмовіцца ад гэтай ганебнай даты і нашая краіна. Дзяды не даюць нам права забыцца пра нашу сапраўдную гісторыю і пра дзесяткі тысяч па-злачынску забітых суайчыннікаў. Дзяды — гэта дарога да нацыі.



# Тракельская пілігрымка

*Лютага гневу аж пеніўся келіх,*
*усе адпілі па глытку...*
*Пойдзем сям'ёй у святыя Тракелі*
*па сонейку, па халадку.*

Так напісала гарадзенская паэтка Данута Бічэль-Загнетава пра адпаведную пілігрымку.

Пілігрымка да цудатворнага абраза Маці Божай у Тракелях стала за апошнія дзесяцігоддзі адной з сама папулярных, калі гэтае слова тут будзе дарэчы, у Беларусі. А малапрыкметная вёсачка Тракелі, што ў Вараноўскім раёне на Гарадзеншчыне сапраўдным асяродкам, куды збіраюцца паломнікі.

Паводле архіўных звестак, першы парафіяльны касцёл у Тракелях быў закладзены ў 1500 г. віленскім ваяводам Марцінам Гаштольдам. Аднак, паводле некаторых даных, Марцін Гаштольд быў ваяводам троцкім і памёр у 1483 г., а віленскім ваяводам у згаданы час быў яго сын Альбрэхт Гаштольд. Па прычыне гэтых разыходжанняў, а таксама з-за адсутнасці іншай дакладнай даты, заснаванне касцёла трэба аднесці да першай паловы XVI ст. Першы касцёл стаяў ў паўночнай частцы вёскі. Пазней быў пабудаваны драўляны храм. У мясцовым храме здаўна захоўваецца цудатворны абраз 16 ст. „Маці Божая Тракельская". Паводле гістарычных звестак ён быў вывезены зь Вільні яшчэ ў 1595 годзе.

Святыня ў Тракелях неаднаразова нішчылася рознымі захопнікамі — у „патоп" пад час нашэсця маскоўскага войска, пазней у Паўночную вайну пад час захопу нашых зямель шведамі. Агульнымі высілкамі айцоў езуітаў і ахвярных парафіянаў у 1758 г. касцёл быў наноў адбудаваны пад тытулам Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі. Драўляны будынак святыні, які мы бачым сёння, пабудаваны Стэфанам Незабыткоўскім ў 1809 г. Грунтоўная рэстаўрацыя будынка была здзейснена ў 1866 г. адміністратарам тракельскай парафіі кс. Юзафам Сідорскім. Пазней касцёл яшчэ некалькі разоў рэстаўраваўся. Святыня набыла сучасны выгляд у 1928 г.

Тракельскі абраз — гэта абраз рымскай іканаграфіі, які згодна з легендай быў намаляваны ў канцы XVI ст. Ён здаўна славіўся шматлікімі цудамі і ёсць адным з самых высокамастацкіх спісаў Маці Божай «Снежнай» у Беларусі. Невядомы віленскі мастак стварыў

надзвычай прыгожы і высакародны вобраз Багародзіцы з Дзіцяткам. Па характары вобразаў яго можна параўнаць з абразом віленскага мастака фламандскага паходжання Пенса ў Святой Ліпцы на Варміі. Дасканаламу познерэнесансаваму жывапісу адпавядае металёвая шата з каронамі. У другой палове XVII ст. абраз Маці Божай з Дзіцяткам быў дапоўнены выявай укленчанага св. Казіміра з ружанцам у руках. У наш час у 1994 г. біскуп Аляксандр Кашкевіч пастанавіў адзначаць свята цудадзейнага абраза Маці Божай Тракельскай у першую нядзелю ліпеня як дыяцэзіяльную ўрачыстасць.

З асобаў тракельскай гісторыі можна назваць беларускага каталіцкага сьвятара Міхала Шалкевіча, які паходзіў з Сакольшчыны, а ў Тракельскім касцёле служыў з 1922 году.

У адну з апошніх вандровак мы трапілі ў Тракелях пад дождж. Але гэта не перашкодзіла агледзець падворак гэтага рэлігійнага асяродка. Драўляны храм сапраўды нейкі незвычайны. А тэрыторыя наўкола вельмі дагледжаная, сьціплая і акуратная. За касьцёлам плябанія і адмысловае збудаванне для галоўных святаў.

Князь Казімір пачынае Ружанец:

*«Поўная ласкі, вітай!»*
*Божая Маці ў святочной пашане*
*выйдзе, абніме наш край.*



# Апусцелыя сінагогі

Зусім нядаўна беларуская пошта выпусціла цэлую серыю марак, прысвечаную дзяржаўна-палітычным дзеячам Ізраілю, якія нарадзіліся на беларускай зямлі. У некаторых колах ходзіць такое выслоўе: „Пінска-валожынскія габрэі далі Ізраілю палітыкаў, ваўкавыскія — вайскоўцаў, а радуньскія стварылі асвету". Сцверджанне гэта грунтуецца не на пустым месцы, а на канкрэтных імёнах і прозвішчах, а таксама дасягненнях гэтых асобаў. Абраны народ спрадвеку на нашых землях, як і ў іншых суседзяў, называлі „жыдамі". Найменне гэтае не мела ў беларускай мове ніякага абразлівага значання. Ды і ня мае. Але паколькі на нашых землях вельмі шырока ўкаранілася расейская мова, будзем пакуль карыстацца больш паліткарэктным словам „габрэі".

Габрэі здаўна жылі на нашых землях, перасяліўшыся з Еўропы ў куды больш талерантнае ВКЛ. Яны стварылі цэлую культуру беларускіх мястэчак, мірна суіснаваўшы стагоддзямі з карэннай нацыяй. Усё перавярнула страшнае дваццатае стагоддзе — маскоўскае чарнасоценства, фашыстоўскі халакост і ўрэшце своеасаблівы Зыход — габрэі пасля другой сусветнай вайны дамагліся сваёй асобнай дзяржавы. Тыя, хто ацалеў пасля жахлівай вайны імкнуліся выехаць з тэрыторыі Беларусі, апошняя ж хваля масавай эміграцыі прыпала на час, калі разваліўся Савецкі саюз і адчыніліся межы.

Ад цэльнага і вялікага пласту габрэйскай культуры да сёння засталіся закінутыя могілкі-кіркуты, колішнія будынкі ешыботаў і хедэраў — некалі навучальных ўстановаў, апусцелыя і паўразбураныя сінагогі. Разам яны стваралі цэлую архітэктурную школу. Пералічыць і апісаць іх у адным нарысе немагчыма, таму пройдземся па некаторых будынках толькі павярхоўна.

Калі ў пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя хрысціянскія храмы пачалі актыўна адраджацца і напаўняцца, то сінагогі працягвалі пуставаць, хадзіць туды, акрамя мастацтвазнаўцаў і гісторыкаў не было каму. Некаторым з былых сінагог адносна пашанцавала — прыкладам на аснове будынку ў Ражанцы, дзе пры саветах быў забаўляльны клуб, пабудаваная зараз праваслаўная царква. Спакваля аднаўляецца найбольш вялікая мураваная сінагога ў Гародні, зараз яна пачынае дзеіць у розных формах. У Радуні захавалася старая забудова, у тым ліку сінагога і будынак ешыботу, у якім выкладаў знаўца Талмуду і Галахі Новага часу рабін Ізраіл Меір Каган.

У Ашмяне праз пару дамоў ад самага цэнтру, крыху ў глыбіні, стаіць вялікая сінагога 19-га стагоддзя, амаль квадратная па форме, архітэктурных аналагаў якой няма. У Слоніме сцены мясцовай белай сінагогі, што ля самага цэнтральнага рынку гораду, у добрым стане, будынак накрыты чырвоным трывалым дахам, але далей рэстаўрацыя храма не ідзе.

Вельмі шкада сінагогу ў мястэчку Індура, што ў Гарадзенскім раёне. Выдатны трохпавярховы будынак, які мог бы служыць музеем ці іншым культурным асяродкам, разбураецца на вачах. Руінаў сінагогі ў Крэве не стане ўжо праз пару гадоў. Будынак там ужо без вокнаў, дах страчаны, але на фасадзе яшчэ можна ўбачыць шасціканцовую зорку. Невядома які лёс чакае вялікую сінагогу ў Новым двары на Шчучыншчыне — да нядаўняга часу там месціўся гандлёвы цэнтр. Зараз у адной частцы засталася толькі невялікая крамка.

У пачатку суверэнітэту і пачатку развіцця турызму, мы, група гарадзенскіх гісторыкаў і краязнаўцаў, распрацавалі для адной з фірмаў адмысловы маршрут „Пад зоркай Давіда". Але пры той сітуацыі з візамі для жыхароў Беларусі ў Святую зямлю, а для насельнікаў Ізраілю на радзіму сваіх продкаў ён застаецца па вялікім рахунку незапатрабаваным.



# Жывая вада

У дзяцінстве нам усім чыталі казкі пра жывую ваду і цудадзейнае ратаванне. У гэта хацелася верыць як у праяву вышэйшай справядлівасці. Асабліва калі патрэбна было ўваскрасіць галоўнага героя, змагара супраць лакальнага альбо сусветнага зла. У юнацтве гэта ўжо ўспрымалася як прыгожая эфектная легенда. А многа пазней мы даведаліся пра гаючыя крыніцы і цудадзейныя прошчы, якімі насамрэч багатая беларуская зямля. Наша планета не так багатая на водныя рэсурсы, Беларусь у гэтым сэнсе не абдзелена Богам. Нездарма яе называюць краінай дзесяці тысяч азёраў. У нас досыць вялікія запасы прэснай пітной вады, шкада толькі багацце гэта дагэтуль належна не цэніцца. Больш вялікія вадаёмы сілкуюць свае воды з тысячаў маленькіх крыніцаў — як гэта стварылася — адна з загадак нашай недасканалай, у ва многім злой з-за людзей, але такой прыгожай, зважаючы на цуды прыроды, планеце.

Асаблівае месца сярод усіх крыніцаў займаюць так званыя цудатворныя. Па ўсёй Беларусі іх налічваецца ажно каля 120. Некаторыя цудадзейныя крыніцы маюць шматлікія гістарычныя пацверджанні ацаленняў і іх лекавых уласцівасцяў, ёсць культавымі месцамі, іншыя ахутаны неправеранымі легендамі. З дзяцінства мы вышуквалі крыніцы ўздоўж невялікай рэчкі ў нашай вёсцы Ракавічы, ці Раковічы, як казалі старыя людзі. Гэта на Шчучыншчыне. У час гэтых дзіцячых паходаў у спякотны дзень было так прыемна напіцца прахалоднай крынічнай вады. А многа гадоў пазней, ня ведаю ўжо адкуль, усе жыхары Раковічаў даведаліся, што крыніца непадалёк ад месца старой царквы, дзе засталіся толькі парослыя дзярнінай абрысы падмуркаў колішняга храма, ёсць жыватворнай. Цяпер там невялічкая каплічка, крынічка апынулася пад дахам, а кожны ахвотны, як мясцовы жыхар, так і падарожнік, можа набраць вады.

Адной з сама ведамых крыніцаў Беларусі ёсць жыровіцкая. Менавіта каля гэтага вытоку расла тая грушка, на якой пастушкі знайшлі цудатворны абраз. У савецкі час крыніца была занядбаная, а месца наўкола засмечана. Добра гэта памятаю, бо даводзілася сюды прыязджаць з экскурсіямі. Дзевяностыя гады прынеслі мясціне сапраўднае адраджэнне. Вакол жыровіцкай крыніцы зараз паўстаў цэлы асяродак, крыніца ўпарадкавана, непадалёк купальня, капліца, тэрыторыя агароджана, вакол узнікла нешта кшталту парку. Яш-

чэ адно аб’яўленне Абраза Маці Божай здарылася ў Ракаве, што пад Менскам. Нейкі сляпы дзядок , якому была такая праява, прамыў вочы з мясцовай крыніцы і стаў відушчым. Аналагічнае паданне звязанае з Васількавым, што па дарозе да Беластоку — мясцовая крыніца так і называецца — Святая Вада. Такія крыніцы сталіся зараз месцамі прастольных святаў і паломніцтва. „Былі крыніцы сінімі і ад крыві чырвонымі”. У час нападу ворагаў, нашы людзі часта сыходзілі ў лес, партызанілі, стваралі паўстанцкія атрады. Лясныя крыніцы часцяком ратавалі ім жыццё. Гэта цяпер чалавеку нідзе не схавацца і не выжыць за межамі газаводу і вадаводу. Ранейшыя людзі ўмелі не толькі выжываць, але і жыць з прыродай у гармоніі. З вадой былі звязаныя таксама шматлікія замовы і варажба. Гэтыя замовы часцяком рыфмаваліся і захоўваюцца ў фальклоры як самастойныя вершы. А ў беларускай песеннай культуры надзвычай багата твораў, у якіх у тым ці іншым кантэксце згадваюцца крыніцы, гэтыя маленькія цуды нашай зямлі, якія па-ранейшаму цурчаць, бруяцца і жывяць людзей.



Арганічнае суіснаванне

Беларуская культура ўвабрала ў сябе не толькі ўласна беларускае, значнай складовай яе часткай ёсць польскі і габрэйскі чыннікі. Часам у культуры асобы, з'явы і дасягненні на гэтай ніве настолькі пераплецены, знітаваны, змешаны, што адзіна разумным ёсць шанаваць гэтыя набыткі як супольныя. Мусульманства ў Беларусі не мела і не мае такога развіцця, як хрысціянскія канфесіі, ці юдаізм, але тым ня менш таксама пакінула свой яскравы след. Для нас важна, што яшчэ з сярэднявечча яно арганічна суіснавала з нашай традыцыйнай культурай, прыстасоўвала свае абрады і звычаі да мясцовых.

Іслам прыйшоў на беларускія землі разам з татарамі. У 16 стагоддзі на землях ВКЛ пражывала каля 40 тысяч татараў, а праз стагоддзе — ужо больш 100 тысяч. Такі пласт насельніцтва, якое вызнавала іслам, не мог не пакінуць свайго следу на нашай прасторы. Першыя мячэты ў ВКЛ сталі з'яўляцца ў месцах аседласці татараў, якіх прывёз яшчэ князь Вітаўт з Залатой Арды. У пачатку 17 стагоддзя іх на беларускіх землях было ўжо каля 60. Найбольш старыя ў Некрашунцах, Лукішках, Троках, Лоўчыцах.

Мячэты будаваліся пераважна мясцовымі майстрамі і з дрэва, таму яны былі тыповым узорам народнага дойлідства. Некаторыя нагадвалі касцёлы (прыкладам у Крушынянах, Міры, Клецку, Ляхавічах) альбо цэрквы (як у Слоніме, Сарака Татарах, Наваградку, Іўі). Мячэт у Асмолаве нагадваў сінагогу. А вось адзіны каменны мячэт быў збудаваны ў Менску ў 1901-ым годзе. Адно з сама буйных пасяленняў беларускіх татараў было ў вёсцы Даўбучкі каля Смаргоняў, першая згадка пра яго ў Актах ВКЛ датычыць канца 16 стагоддзя. Старадаўні мячэт адтуль перавезены ў сталіцу і закансерваваны ў музеі народнага дойлідства.

У Лоўчыцах, што пад Нагарадкам, дзейсны мячэт ёсць дагэтуль. Першы храм тут згадваецца яшчэ пад 1420-ым годам. Сёння гэта невялікі драўляны будынак. Каля мячэту старажытны мізар — татарскія могілкі, праўда, найбольш старэйшыя пахаванні з помнікамі на іх, не захаваліся. Мячэт у Лоўчыцах ёсць своесаблівым філіялам Наваградскага мячэту. Старшыня тамтэйшай мусульманскай абшчыны Алі Шэгідэвіч прыклаў шмат высілкаў для адбудовы сваёй канфесіі. Мізар у Лоўчыцах лічыцца месцам паломніцтва да магілы святога Эўліі Кунтуса, некалі про-

стага пастушка, які быў надзелены незвычайнымі здольнасцямі. Паводле адной з легендаў ён умеў нават лятаць, такім чынам зрабіўшы пералёт да Мекі, здзейсніўшы там намаз і вярнуўшыся назад. Да сёння існуе павер'е, прычым для прадстаўнікоў не толькі ісламу, але і ўсіх любых канфесій пра тое, што хто наведае магілу пастушка ў Лоўчыцах і шчыра памоліцца ля яе, можа пазбавіцца хваробаў і кепскага наслання. Да слова, на згаданых могілках пахаваны таксама генералы Мустафа Туган-Бараноўскі і Аляксандар Палтаржыцкі.

У Наваградскім мячэце рэгулярна праходзяць набажэнствы, у гэтым храме з ласкавага дазволу кіраўніка абшчыны мне даводзілася бываць. А сама вялікі мячэт у Беларусі зараз у Іўі. З новых храмах можна назваць мячэты ў Слоніме, Смілавічах, Клецку, Маладэчне, Відзах, Докшыцах.

Класічным прыкладам татарскай інтэграцыі ў беларускую культуру ёсць іхныя Кітабы — тэксты, якія тлумачаць Каран, апісанні мусульманскіх рытуалаў і асноўных абавязкаў. Аль-Кітабы — шматмоўныя рукапісы, але характэрна, што дамінуе ў іх тагачасная беларуская народна-дыялектная мова. У кітабах адлюстраваны побыт, звычаі, традыцыі татар-перасяленцаў, таму іх тэксты — каштоўны матэрыял для лінгвістаў і этнографаў.



Солы — гэта мястэчка ў глыбіні гістарычнай Віленшчыны. Ад сталіцы Беларусі да іх не так далёка — каля 150 кіламетраў, ад раённага цэнтра Смаргоні — 16, намнога далей дабірацца сюды з Гародні — каля 240 кіламетраў. Даехаць з Менску можна і цягніком, не забыўшы выйсці на аднайменнай станцыі.

Цягам доўгіх чатырох стагоддзяў тут разгортваліся разнастайныя гістарычныя падзеі, зямля гэтая зведала шмат войнаў, паселішча зазнала вялікія разбурэнні. Але мястэчка кожны раз адраджалася нібы міфічная птушка Фенікс. Першая згадка пра Солы датычыць сярэдзіны 16-га стагоддзя. Тады яны былі шляхецкай уласнасцю, належалі Манівідам. Пазней імі валодаў Мікалай Радзівіл, ваявода віленскі і канцлер ВКЛ. А яшчэ пазней Солы доўга былі ўласнасцю роду Пазьнякоў.

У адну з летніх вандровак гэтага году мы з сябрамі патрапілі пад Саламі ў моцную залеву. Дождж ліў як з вядра, але раптоўна суцішыўся, як толькі мы заехалі ў мястэчка.

Сёння ў Солах жыве каля дзвюх тысяч чалавек. Па дагледжаных дамах, платах і агародах добра відаць, што тут дбайныя і руплівыя гаспадары. У сярэдзіне 19-га стагоддзя ў Солах былі і касцёл і сінагога і разнастайныя корчмы. Дзеілі пошта, тэлеграф, станцыя Лібава-Роменскай чыгункі, створаная ў 1873-ым годзе.

У першую сусветную вайну паселішча апынулася ў самым эпіцэнтры зацятых баёў, шмат будынкаў было разбурана, у тым ліку і мясцовы касцёл. Але ўжо ў 1926-34 гадах быў пабудаваны новы храм-прыгажун. Ахвяраванні на яго будаўніцтва склалі амаль паўмільёна злотых — сума па тых часах проста вялізная. Будаўніцтва касцёлу пад тытулам Маці Божай Ружанцовай вялося паводле праекту Адама Дубановіча на месцы старога драўлянага касцёлу пад кіраўніцтвам Баніфацыя Трахневіча. А роспісы гэтага храма выконваў наш знакаміты мастак Пётра Сергіевіч. Вышыня асіметрычнага мадэрновага касцёлу ажно 35 метраў. Што датычыць мясцовай царквы, то яна была ў старажытнасці якраз на месцы цяперашняга касцёлу. Сённяшні ж праваслаўны храм збудаваны на аснове колішняй сінагогі. Падобнае можна ўбачыць яшчэ ў Ражанцы на Шчучыншчыне.

Солы сапраўды пакінулі значны след у вайсковай гісторыі. Сюды прыходзілі яшчэ шведскія войскі.

Менавіта тут у разгар першай сусветнай 4 снежня 1917-га году у звычайным вагоне было падпісана першае перамір’е паміж камандаваннем Заходняга фронту савецкай Расеі і камандаваннем кайзераўскай арміі Усходняга фронту. Мірная дамова спыніла баявыя дзеянні на 2 месяцы. А многа раней — 26 чэрвеня 1794 году тут адбылася бітва паўстанцкіх аддзелаў Якуба Ясінскага і Стафана Грабоўскага з расейскім войскам. Многія даследнікі лічаць яе найбуйнейшай бітвай у той вызвольнай вайне, якая скончылася для нас паразай. Адступілі паўстанцы з годнасцю, значна адтэрмінаваўшы сваімі дзеяннямі захоп Вільні. А 3 лютага 1863 году тут прайшоў бой паміж іншымі паўстанцамі і расейскімі карнікамі.

У наваколлях Солаў надзвычай прыгожыя лясы і багатая мясцовая рыбная гаспадарка. Але ўсяму гэтаму хараству зараз пагражае Астравецкая атамная станцыя, якая будуецца каля Варнянаў. Непадалёк жа Солаў агромністыя старыя савецкія шахты пад ядзерныя ракеты. Як бы гэтая зямля зноў не стала аб’ектам чужынскіх геапалітычных інтарэсаў.



Ён быў сапраўдным імператарам жывапісу, педантычным і скрупулёзным фіксатарам гісторыі і захавальнікам старасветчыны. Ніхто не зрабіў столькі для наступных пакаленняў па захаванні нашай архітэктурнай, культурнай спадчыны. Палацы і касцёлы, замкі і цэрквы, паркі і капліцы — усё гэта ён ілюстраваў, збярог, пакінуў нам. Пакінуў назаўсёды так, як яно выглядала ў дзевятнаццатым стагоддзі. Імя Напалеона Орды, шчодра адоранага ад Бога талентамі чалавека, за апошнія дваццаць гадоў вярнулася з нябыту. У Янаве Палескім, што на Берасцейшчыне, у 1997-ым годзе яму ўсталяваны прыгожы помнік. А ў 2007-ым нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь выпусціў памятныя сярэбраную і медна-нікелевую манеты ў гонар 200-ых угодкаў з дня нараджэння выдатнага дзеяча. Рэпрадукцыю ж аднаго з твораў мастака трымаў у руках практычна кожны беларус — выява Нясвіжскага замку Радзівілаў змешчана на другой па намінале беларускай банкноце вартасцю 100 тысяч рублёў. У некалькіх гарадах Беларусі ёсць вуліцы імя мастацкага летапісца архітэктуры. І усё ж гэтага мала ў параўнанні з той шырачэзнай працай, якую зрабіў гэты адзін чалавек. Ён намнога глыбей засвоены, асэнсаваны і шанаваны суседняй польскай культурай. Але не трэба забывацца на той факт, што зрабіўшы вельмі важкі ўнёсак у гэтую культуру, у сваім тастаманце Напалеон Орда завяшчаў пахаваць яго на радзіме — у родных Варацэвічах Пінскага павету. А некалі вучыўся ў Свіслачы, жыў два гады ў Гародні, у іншых нашых мясцінах.

Яму выпала жыць на зломе эпох, калі згасалі апошнія зарніцы ВКЛ і Рэчы Паспалітай, калі на беларускіх землях надоўга усталёўваліся зусім іншыя парадкі і звычаі. Ён не мог быць абыякавым да лёсу айчыны і яшчэ студэнтам у Вільні ўдзельнічаў у падпольнай арганізацыі, быў арыштаваны. Потым узяў актыўны ўдзел у лістападаўскім паўстанні 1831 году і быў узнагароджаны крыжам ордэну „Virtuti Militari”. Потым эміграцыя ў Парыж, жыццё сярод багемы, вандроўкі па розных краінах Еўропы і Паўночнай Афрыкі. Але як толькі ў 1856-ым годзе было абвешчана пра амністыю, Орда паспяшаўся на радзіму. Найбольш плённы перыяд творчасці прыпаў на час з 1872 году — замалёўкі на Валыні, потым ужо на іншых землях роднага Вялікага княства Літоўскага.

Свае экспедыцыі, якія цягнуліся месяцамі, Орда пачынаў ранняй вясной. Вандроўкі доўжыліся ажно

да пачатку зімовых халадоў. Ездзіў мастак зазвычай коннай брычкай, але абавязкова крытай на выпадак дрэннага надвор'я. Верныя спадарожнікі чалавека коні такім чынам былі пэўнымі суаўтарамі падарожнага творцы. Маршруты Напалеон Орда складаў і планаваў загадзя, працуючы папярэдне ў бібліятэках. І так каля 20 гадоў амаль бесперапынных пераездаў і руплівай працы. Вандруючы, Орда знаёміўся з рознымі людзьмі. Часцяком запрашаўся ў госці, дзе вёў гутаркі з гаспадарамі фальваркаў, музыцыраваў, выконваючы творы сама ведамых кампазітараў свайго часу, а таксама ўласныя сачыненні. Орда быў пазбаўлены нейкіх нацыянальных ці канфесійных комплексаў. Прыкладам, у Варацэвічах ў мясцовай царкве дагэтуль захоўваецца абраз Хрыста, адмыслова напісаны і падораны мастаком праваслаўнаму храму.

Мастацкі плён працы Напалеона Орды можна назваць сапраўдным духоўным подзвігам. Калі гартаеш альбомы з рэпрадукцыямі ягоных шматлікіх малюнкаў, тады пачынаеш разумець, наколькі гэты чалавек любіў сваю зямлю, стаўшы першым энцыклапедыстам нашай культурнай спадчыны.



Задума серыі нарысаў „Скарбы Беларусі" пра нашы нацыянальныя каштоўнасці паўстала неўзабаве пасля падзей 19 снежня 2010 году. Неяк тады „на аголеных нервах" усё адчувалася больш абвострана і выразна. Праз два каляндарныя гады прыйшла пара завяршыць цыкл гэтых артыкулаў. За два гады з'явілася і асобнае асэнсаванне той плошчы, якая была ў найноўшай гісторыі. Два гады па мерках эпохі — тэрмін мізэрны, але нават ён дазваляе зрабіць пэўныя высновы.

Гэтая Плошча была ў нашым жыцці — для адных з кроўю, для другіх — з турмой, для трэціх — з маральным надломам, для чацвёртых з пунктам адліку для эміграцыі. Для пэўных асобаў — з поўным наборам пералічанага. А для некаторых — тых, што дагэтуль у зняволенні, яна яшчэ не скончылася. Для іх гэта пытанне нават фізічнага жыцця.

У нас была гэтая Плошча. Дзе з нашага боку былі дзесяткі тысяч мірных людзей, а з іхнага — узброеная ваенная хунта. Дзе з нашага боку былі справядлівыя законныя патрабаванні, святая праўда, наша бел-чырвона-белая сімволіка, а з іхнага — садысты ў форме „касманаўтаў", правакацыі і хлусня, чорная справа задушэння свабоды. Дзе з нашага боку адкрыта былі лідары нацыі, а з іхнага — той, што заўсёды прыкрываецца імем народа, што схаваўся за мурамі і міліцэйска-вайсковымі шыхтамі. Цяпер і я думаю, што калі б не было фізічнага здушэння мірнай акцыі, то назаўтра на вуліцах было б у два разы людзей больш і магла б прыйсці натуральная змена ўлады.

Плошчу 2010 варта і трэба параўноўваць з Плошчай 2006, калі такая ж сама колькасць людзей капітулявала сама па сабе і разышлася. Плошча 2010 была брутальна разагнаная. Людзей было так шмат, што многія з нас нават не бачылі ўсёй жорсткасці таго біцця і разгону. Плошчу 2006 складалі пераважна людзі сярэдняга і сталага веку, у снежні 2010-га — на заснежаныя вуліцы і праспект беларускай сталіцы выйшлі найперш маладыя людзі, якія выразна там дамінавалі. І гэта ці не найбольшы аптымізм таго халоднага вечару, які мог стаць паваротным у вызваленні краіны ад антынацыянальнага рэжыму, але не стаў такім. Але затое стаў вызначальным пунктам адліку фармавання агульнабеларускай салідарнасці, якая стала кшталтавацца намнога хутчэй.

На ўгодкі таго жорсткага разгону інтэрнэт поўніцца сама рознымі рэфлексіямі, эмоцыямі і ацэнамі лёсаноснай

для многіх падзеі сучаснай Беларусі. Некаторыя заклікаюць хутчэй пакінуць „галашэнне Яраслаўны" і скарэй планаваць далейшую дзейнасць. Іншыя даводзяць, што падзеі „крывавай нядзелі" сталіся нашай сапраўднай маральнай перамогай. Як казаў вялікі Махатма Гандзі: „Спачатку яны цябе не заўважаюць, потым смяюцца з цябе, потым змагаюцца з табой. А пасля ты перамагаеш"...

Як па мне, то ня бачу ніякай супярэчнасці паміж рознымі рэакцыямі ўдзельнікаў плошчы, бо планаваць будучае нельга без асэнсавання таго, што было. А кожныя ўгодкі той Плошчы трэба адзначаць як дзень нашай згуртаванасці, праўды, салідарнасці.

Пра Плошчу 2010 напісаны ўжо шэраг мастацкіх і дакументальных кніг, процьма аналітычных артыкулаў. Пройдзе больш працяглы час і дата 19.12.2010 стане ў адным шэрагу з 25 Сакавіка, з 27 ліпеня, стане як вяха ў змаганні за нашу дзяржаўнасць, волю, праўду, справядлівасць, адвечнае права „Людзьмі звацца", стане асобнай гістарычнай каштоўнасцю нашай краіны. А на Плошчы імя Каліноўскага будзе стаяць Стэла Годнасці.


svoboda.org

